# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 4 (80) КАСТРЫЧНІК - СНЕЖАНЬ 2017 г.



*Ю. Куроўскі.* **Ігнат Дамейка.** *Акварэль. Каля1833 г.*

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 4 ( 80 ) КАСТРЫЧНІК - СНЕЖАНЬ 2017 г.

## У НУМАРЫ:



**На першай старонцы выкладкі цэнтральны элемент мемарыялу “Невядомым паўстанцам” паміж вёскамі Малое Ольжава і Мохавічы Лідскага раёна.**
*Здымак С. Судніка.*



Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або E-mail: naszaslowa@tut.by

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў


**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 907 ад 18.12.2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

Заснавальнік
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук.

Рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**231293, Лідскі р-н, в. Даліна**
**АДРАС САЙТА:**
**http// naszaslowa.by**

**Наклад 300 асобнікаў**
**9 друк. аркушаў**
**Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.**
**Замова № 2128.**
**Часопіс падпісаны да друку 30.12.2017 г.**
**Часопіс надрукаваны 30.06.2018 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес. - 2,47 руб.**
**індывід. 6 мес. - 4,94 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны.**

ISSN 2218-1792







# Кроніка Ліды



7 і 14 кастрычніка на Лідчыне прайшлі талокі па ўпарадкаванні мемарыялу “Крыжы” ў былой асадзе Шчытнікі паміж вёскамі Малое Ольжава і Мохавічы.



У канцы кастрычніка ў мемарыяле “Крыжы” ў былой асадзе Шчытнікі паміж вёскамі Малое Ольжава і Мохавічы ўстаноўлены памятны камень “Невядомым паўстанцам 1863 г.”



10 кастрычніка здадзены ў эксплуатацыю 60-кватэрны дзесяціпавярховы жылы дом па вуліцы Касманаўтаў.



29 кастрычніка 2017 г. на XIII з’ездзе ГА “Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны” старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ **Станіслаў Суднік** абраны намеснікам старшыні ТБМ краіны.

У лістападзе 2017 года зялёныы лабірынт з туй з’явіўся на паляне батанічнага парку "Гарні" ў Лідскім раёне. Праект лабірынта стварылі спецыялісты інстытута эксперыментальнай батанікі НАН Беларусі. За чатыры дні строга по схеме супрацоўнікі Лідскага, Бердаўскага і Жырмунскага лясніцтваў высадзілі 1415 дрэваў на тэрыторыі 25 на 37 метраў.

Пакуль алеі не вышэй за метр, але цераз некалькі гадоў заблудзіцца сярод соцень смарагдаў зможа і дарослы. Тут толькі адзін правільны выхад і мноства тупікоў.





У пачатку снежня Орэн Маці ўручаны **Галіне Карнопель**. Пятае дзіця - дачка Алена - з’явілася на свет дваццать восем гадоў таму назад, але з-за сціпласці жанчыны ўзнагарода была ўручана толькі цяпер.



PLEJADA POLSKA.

У снежні 2017 г. у Бярозаўцы Лідскага раёна знойдзена кніга з бібліятэкі вядомага беларускага археолага і даследчыка, акадэміка Кракаўскай акадэміі навук Вандаліна Шукевіча. Пра тое, што кніга належала навукоўцу, а пасля яго дачцэ Галіне, сведчаць адпаведныя імянныя пячаткі на яе старонках. Паэтычны зборнік "Plejada polska", выдадзены ў Пецярбургу ў 1857 годзе.



У Дворышчы Лідскага раёна ў снежні 2017 года турыстычная фірма Генадзя Конана ў асноўным закончыла аднаўленне старадаўняга млына з ракой, што цячэ ў склепе.

21 снежня ў Лідскім замку адбылося ўрачыстае адкрыццё вежы Вітаўта. У святочнай абстаноўцы ў яе сценах была адкрыта выставачная экспазіцыя "Гістарычныя падзеі і постаці".





БЕЛАРУСКІ
НАСТОЛЬНЫ ПЕРАКІДНЫ
КРАЯЗНАЎЧЫ
КАЛЯНДАР

НА 2018 ГОД

(на матэрыяле Гродзеншчыны)

*Складальнік Аляксей Пяткевіч*
*Рэдактар Станіслаў Суднік*

Гродна, 2017

Пад Новы год пабачыў свет чарговы выпуск беларускамоўнага Гарадзенскага абласнога краязнаўчага календара. Гэта - дзевяты выпуск .

Складальнік - Аляксей Пяткевіч.

Рэдактар - Станіслаў Суднік.

Музей сям'і створаны на базе Бердаўскага цэнтра культуры і вольнага часу. На ўрачыстым адкрыцці, якое адбылося 28 снежня, прысутнічалі прадстаўнікі райвыканкама, кіраўнікі грамадскіх арганізацый, мясцовыя жыхары.






# Юбілей калектыва аўтарскай песні творчай музычнай майстэрні "Родник"




Сёлета калектыў аўтарскай песні творчай музычнай майстэрні "Родник" г. Ліды адзначыў свой 10-гадовы юбілей. Да юбілею калектыў падышоў годна, за гэты перыяд створана больш за 70 песень, атрымана больш за 40 грамат і дыпламоў рэспубліканскага, абласнога і раённых узроўняў.

Удзельнікі калектыва самі складаюць вершы, музыку, аўтарскія песні і самі іх выконваюць, ствараюць відэа-прэзентацыі. У 2007 годзе калектыў быў створаны на базе Лідскага каледжа. Гэта не прафесійныя музыкі, іх прафесіі далёкія ад музыкі - гэта выхавальнікі, выкладчыкі, электрамеханікі, будаўнікі, юрысты і бухгалтары, дакументалісты, навучэнцы спецыяльнасцяў ППА, усе тыя якіх аб'яднала любоў і павага да добрай музыкі. Усяго ў калектыве займалася больш за 200 удзельнікаў. Самыя першыя выпускнікі "Родника" даўно скончылі Лідскі каледж. Многія з іх дагэтуль падтрымліваюць сувязь з нязменным кіраўніком Святланай Апанасаўнай Мазітавай, з цеплынёй успамінаюць творчую атмасферу калектыва.

- Сучасных дзяцей складана ўгаварыць выканаць нават гатовую патрыятычную песню. - кажа Святлана Апанасаўна. - А нам удалося не тое што пераспяваць, а стварыць свой уласны ўнікальны рэпертуар - пра нашу краіну, горад, людзей, падзеі.

Асноўны кірунак працы - стварэнне аўтарскіх сачыненых песень. Такая мудрагелістая фраза - не абмоўка. Святлана Апанасаўна тлумачыць, што гэта змушаная мера. Не раз бывала, што ўдзельнікі студыі выступалі са сваімі песнямі, а гледачы ў зале аж да канца канцэрту думалі, што гэта проста песні малавядомых аўтараў, але ніяк не артыстаў, якія перад імі на сцэне тут і цяпер. Таму даводзіцца аб'яўляць такой складанай канструкцыяй.

Праца калектыва даўно выйшла за межы каледжа. Выхаванцы студыі рэгулярна выступаюць на фэстах і конкурсах ад гарадскіх да рэспубліканскіх. Да



круглай даты музычнае аб'яднанне падышло з самавітым багажом. Адзін толькі 2017-ы год быў поўны мерапрыемстваў, адкрыццяў, вялікіх і маленькіх перамог. Маладыя аўтары асвойваюць новыя пляцоўкі, фарматы працы з публікай.

У Дзень Перамогі патрыятычныя кампазіцыі "Родника" гучалі не толькі ў горадзе, але і ў эфіры "Твайго радыё". Удзельнікі майстэрні ў жывым эфіры павіншавалі ветэранаў вайны са святам і падарылі ім свае сачыненыя аўтарскія песні.

- Мы стварылі дыск патрыятычных песень - "Табе, родная Беларусь!" да Дня Перамогі, - кажа Святлана Апанасаўна, - куды ўвайшлі 13 аўтарскіх сачыненых песень удзельнікаў калектыва, правялі прэзентацыю. Мы радыя, што мы здолелі павіншаваць ветэранаў у Дзень Вялікай Перамогі і падарыць ім сваю творчасць! Прагучалі песні аўтараў калектыва: К. Пышко "Малітва", Я. Паца "Аб Беларусі", В. Ваўковіч "Маей краіне", К. Жамойда "Беларусь, ты пераможаш усіх!" сл. М. Мельніка муз. С. Мазітавай "Пераможны дзень" і інш. Дыск запісаны ў студыі гукапісу "Твой фармат" Дзяржаўнай установы адукацыі Лідская дзіцячая школа мастацтваў.

Напачатку года студыйцы былі запрошаны на 50-годдзе літаратурнага аб'яднання "Суквецце", з якім у іх даўняе супрацоўніцтва. На юбілеі ў Лідскім гістарычна-мастацкім музеі прагучалі лепшыя песні калектыва. Шмат песень напісана на вершы паэтаў літаратурнага аб'яднання: М. Мельніка, С.Сліўко, А. Стадуба, Я. Паца. На мерапрыемстве прагучалі аўтарскія песні "Жыві, Беларусь" - сл. Алеся Стадуба, муз. Ані Мярляк, аўтарская песня Я. Паца "Светлае імя", "Дзве Ліды" - сл. С. Сліўко і муз. С. Мазітавай, "Беларусь мая" - сл. М. Мельніка, муз. С. Мазітавай. С.А. Мазітава падарыла кіраўніку аб'яднання Алесю Хітруну дыск сачыненых аўтарскіх песень калектыва.

У пярэдадзень дня вызвалення Ліды ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў (8 ліпеня) адбыўся выступ перад старэйшым пакаленнем - прамымі сведкамі падзей Вялікай Айчыннай вайны. Музыкі падрыхтавалі кранальны выступ, а таксама перадалі ў падарунак кіраўніку аб'яднання "Дзеці вайны" Анастасіі Каладяжнай дыск са сваімі аўтарскімі патрыятычнымі кампазіцыямі. На мерапрыемстве прагучалі песні пра вайну, пра Беларусь, пра нашы горад. Былі прадстаўлены відэа-прэзентацыі з гучаннем аўтарскіх песень: "Пад бялёсымі крыламі" В. Ваўковіч, "Малітва" К. Пышко, "Аб Беларусі" Я. Паца, "Пераможны дзень" - сл. М. Мельніка, муз. С. Мазітавай, "Родны край" - сл. Н. Станчык, муз. С. Мазітавай.

На пачатку верасня ў рамках імпрэзы Дня горада "Родник" прадставілў аўдыторыі літаратурна-музычную прэзентацыю свайго калектыва. Маладыя аўтары і выканаўцы праз аўтарскую песню распавялі жыхарам і гасцям горада пра прыгажосцьб Лідчыны, пра тое, як любяць свой горад удзельнікі калектыва. У гонар свята горада было, што падарыць лідзянам - аўтарскія песні і відэапрэзентацыі.

На пачатку мерапрыемства прагучала вельмі тонкая і лірычная аўтарская песня выпускніцы К. Пышко "Гедымінава ладдзя". Гледачы змаглі паслухаць і паглядзець прэзентацыю пра нашу пярліну "Гедымінавую ладдзю" і нацешыцца прыродай нашага Лідскага краю. Глыбокія словы тэксту, пранікліваая мелодыя Каці Пышко, выдатная прафесійная фанаграма, зрабілі песню незабыўнай. Жывое гучанне інструментаў упрыгожыла песню.




А як гледачы цёпла віталі аўтарскія песні маладога аўтара Вікторыі Ваўковіч:

- "Ліда мая" ў выкананні калектыва майстэрні "Родник": В. Малец, В. Пакшыс, Н. Бешцень, Д. Карповіч, В. Ліштван.

- "Маёй краіне" ў выкананні групы майстэрні "Лідзяне",

- "Пад бялёсымі крыламі" ў выкананні дуэта майстэрні "Родник" - А. Бязверхай і В. Малец.

- Многія з нас напэўна сочаць за тэлепраектамі "Голас", "Акадэмія талентаў" і бачаць, як цэлае войска спецыялістаў - прадзюсараў, харэографаў, аранжыроўшчыкаў і інш.- працуе з маладымі выканаўцамі. Пры гэтым удзельнікі шоў выконваюць хіты вядомых кампазітараў, з гатовымі аранжыроўкамі і фанаграмамі, - кажа кіраўнік майстэрні Святлана Мазітава. - Мы ж прапануўаем гледачу сваю творчасць, свае сачыненыя аўтарскія песні з гарманізацыяй, аранжыроўкай, выкананнем і запісам у студыі. Іх аўтары - не прафесіяналы, а звычайныя маладыя людзі. Аўтарская песня праходзіць нялёгкі шлях да слухача. Нават прафесійным кампазітарам цяжка стварыць добрую песню, а калі гэта ўдаецца нам - вельмі ўцешна!

Дарэчы будзе цяпер пазнаёміцца з выказваннем маёй выпускніцы гэтага года, удзельніцы майстэрні - Вікторыі Малец:

- Мне вельмі цікава і захапляльна займацца ў

творчай музычнай майстэрні "Родник". Усе ўдзельнікі пазітыўныя, жыццярадасныя і энергічныя. А, галоўнае, творчыя людзі. Але сапраўднае задавальненне атрымліваеш, калі выступаеш перад гледачамі на сцэне і дорыш ім сваю творчасць! Наш калектыў неаднаразова выступаў на конкурсах, фэстах, рознага роду канцэртах і адкрытых мерапрыемствах. Мы - лаўрэаты шматлікіх рэспубліканскіх, абласных і раённых конкурсаў.

У майстэрні я займаюся ўжо чатыры гады. І з кожным годам нараджаюцца новыя і непаўторныя песні. Творы навучэнцы ствараюць ад усяго сэрца, і калі іх чуеш можна з лёгкасцю зразумець усе пачуцці і перажыванні, якія ўклаў аўтар. Такія песні не могуць не падабацца! Яны зразумелыя і блізкія нам. Асабліва цікавыя. Нават праз гады яны будуць актуальныя і дарагія!

Ці лёгка стварыць песню і данесці яе да слухача?

Для таго, каб атрымалася песня трэба шмат працаваць. Спачатку аўтар складае тэкст да песні, але не проста рыфмаваныя радкі, а скарбонку сваіх пачуццяў, ведаў, перажыванняў. Спрабуе ўкласці сваю задумку, думку, душу. Затым складае мелодыю да песні. Мелодыя таксама вельмі важная, бо не заўсёды слухач ацэньвае песню па змесце. Пазней усё гэта трэба злучыць разам, словы і музыку, што не заўсёды атрымліваецца. Даводзіцца штосьці змяняць, выпраўляць, удасканальваць. Затым трэба правільна падабраць выканаўца. Бо на яго ўскладаецца галоўная задача данесці песню аўтара да слухача.

Я лічу - гэта далёка не простая праца, якая патрабуе павагі да ўсіх этапаў стварэння песні і да ўсіх людзей, хто гэта робіць! Кожны глядач павінен адкрыць сваё сэрца, сваю душу, суперажываць у песні. Трэба правільна пачуць і зразумець песню, тыя пачуцці, якія перадае нам аўтар і выканаўцы. Вось тады ёсць вынік!

Немагчыма ўявіць жыццё нашага калектыва без фэстаў і конкурсаў. Усе нашы аўтарскія песні адзначаны дыпломамі і граматамі на фэстах і конкурсах рознага ўзроўню.

Сертыфікат Міжнароднага фэсту "Педагагічная вясна" ў Мазырскім педагагічным універсітэце імя Шамякіна, конкурсу "Выхаванне?… Выхаванне!!!" у 2013 г. уручаны нашаму калектыву за відэа-прэзентацыі аўтарскіх песень.

Традыцыйна, мы з удзельнікамі майстэрні бяром удзел у рэспубліканскіх аглядах мастацкай самадзейнасці "Арт-вакацыі", дзе ўвесь час становімся лаўрэатамі рэспубліканскіх, і абласных конкурсаў і адзначаны граматамі і дыпломамі.

Асабліва ганарымся тым, што наш мастацкі кіраўнік, Святлана Апанасаўна, узнагароджана граматай Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь за высокае выканальніцкае майстэрства! Гэта і ёсць крытэр адзнакі творчасці калектыва і кіраўніка!

Знакавым стаў для нашага калектыва і 2011год, дзе мы занялі III месца ў рэспубліканскім конкурсе "Арт-вакацii - 2011" у намінацыі "Арт-партал", конкурсе сучаснай лічбавай творчасці, і кіраўніку нашага калектыва ўручаны дыплом лаўрэата рэспубліканскага фэсту.

Не раз нашы аўтарскія песні гучалі ў Гала - канцэртах лаўрэатаў рэспубліканскіх конкурсаў.

Дыпломам Міністэрства адукацыі мы ўзнагароджаны за аўтарскую песню "Аб Беларусі" Яўгена Паца ў 2007 г. Ганарымся тым, што аўтарскай песняй удзельніка калектыва заканчвалася заключная канцэртная праграма Гарадзенскай вобласці ў рэспубліканскім конкурсе "Арт-вакацыі" ў Менску.

У 2009 годзе мы сталі лаўрэатамі рэспубліканскага і абласнога конкурсаў "Арт-вакацыі - 2009", дзе наш калектыў узнагароджаны дыпломам III ступені Міністэрствы адукацыі Рэспублікі Беларусь - Вакальна-інструментальны ансамбль "Каледж" у намінацыі "Ансамбль эстраднай музыкі". Гэта для нас новае рашэнне, аўтарскую песню "Светлае імя" Яўгена Паца мы прадставілі ў выкананні ВІА. І новае рашэнне стала апраўданым. У выніку, аўтарская песня нашага калектыва "Светлае імя" гучала ў Гала-канцэрце Гарадзенскай вобласці рэспубліканскага фэсту "Арт-вакацыі".




Ганарымся мы тым, што і ў 2013 годзе мы зноў выступалі на заключным канцэрце творчых калектываў Гарадзенскай вобласці, дзе сталі лаўрэатамі рэспубліканскага конкурсу "Арт-вакацыі -2013", але ўжо за сучасную моладзевую песню Ігната Кеды "Выпадак" у выкананні групы майстэрні "Фортэ": Ігнат Кеда, Юрась Міхневіч, Вікторыя Малец, Жэня Сладкевіч.

Дыплом II ступені атрымала па выніках рэспубліканскага конкурсу "Арт-вакацыі - 2013" Бірукова Таццяна ў намінацыі "Аўтар-выканавец паэтычнага твора" абласнога этапу

рэспубліканскага конкурсу "Арт-вакацыі - 2013".

Дыпломам III ступені ганараваны Дзямідзік Валодзя ў намінацыі "Аўтар-выканавец вакальнага твора" абласнога этапу рэспубліканскага конкурсу "Арт-вакацыі - 2013" за аўтарскую рэп-кампазіцыю "Маме" (сл. і муз. - Дзямідзік Валодзя).

І на апошнім фэсце "Арт-вакацыя - 2015" у нас II месца лаўрэатаў конкурсу за аўтарскую песню "Маёй краіне" Вікторыі Ваўковіч" у выкананні групы "Лідзяне" майстэрні "Родник".

З удзельнікамі калектыва мы маем шмат перамог на на абласным узроўні, прадстаўляючы Лідскі раён.

Асабліва дарагім для нашага калектыва стала заваяванае званне лаўрэата на абласным конкурсе патрыятычнай песні "Песні юнацтва нашых бацькоў" у горадзе Гародні. Ім быў ганараваны Яўген Пац у намінацыі "Аўтарская песня", там непасрэдна ацэньваўся наш творчы прадукт - аўтарская песня "Аб Беларусі". У Гародні мы прадстаўлялі Лідскі раён на конкурсе, які праходзіў у абласной філармоніі. У конкурснай праграме былі прадстаўлены ўсяго 58 конкурсных нумароў, сярод іх прафесійныя, сталыя, спелыя музыкі і калектывы, навучэнцы і выпускнікі музычных вучэльняў, кансерваторый, артысты філармоніі. На конкурсе ацэньвалася сама аўтарская песня. Гэта перамога нам асабліва дарагая!

Цешыць тое, што створанае на базе майстэрні трыа "Каміка" ў складзе: Міша Кірыеўскі, Каця Пышко, Каця Палейчык бліскуча прадставіла аўтарскую песню "Малітва" Каці Пышко на абласным конкурсе патрыятычнай песні ў Гародні (2009 г.) на сцэне абласной філармоніі.

У 2012 годзе дуэт - Ксенія Смольская і Анастасія Камінская ў намінацыі "Аўтар-выканавец" занялі ганаровае I месца ў г. Гародні на абласным фэсце патрыятычнай песні. Ярка выступілі яны на Гала-канцэрце пераможцаў фэсту, на конкурсе мы прадстаўлялі Лідскі раён.

У 2014 годзе на абласным фэсце патрыятычнай песні ў г. Гародні выступіла група "Лідзяне" творчай музычнай майстэрні "Родник", дзе ёй уручаны падзячны ліст, каштоўны падарунак і статуэтка за аўтарскую песню "Маёй краіне" Вікторыі Ваўковіч.

У 2014 годзе нас упершыню запрасілі на аўтарскі абласны фэст у Зэльву. Цікава было з калектывам паспрабаваць свае сілы на новым конкурсе - абласным фэсце аўтарскай песні "Новае пакаленне". Узровень гэтага конкурсу досыць высокі. Бо тут бралі ўдзел і Каледж мастацтваў (Гародня) і Гуманітарны каледж (Гародня), гэта і прафесійныя калектывы пры ДК, прафесійныя музыкі. Гэта ўзровень абласнога конкурсу, дзе ў барацьбу ўступаюць прафесіяналы, а не аматары. Вельмі прыемна, што лаўрэатамі гэтага конкурсу сталі нашы дзеці. Дыплом III ступені атрымаў дуэт "Шанец" творчай музычнай майстэрні "Родник" - гэта П. Чарняк і В. Пакшыс у намінацыі "Аўтарскі калектыў" за аўтарскую песню "Шанец" Пашы Чарняка.

У намінацыі "Аўтары вершаў і музыкі выкананага твора" выступаў Дзіма Карповіч. Ён выканаў аўтарскую песню "Забылася ты мяне" пад уласны акампанемент на гітары. Дзіму па выніках конкурсу ўручаны грамата і каштоўны падарунак. Ганарова, што і адмысловы прыз Зэльвенскага райвыканкама ўручаны групе "Лідзяне" нашай майстэрні ў намінацыі - "Аўтарскі калектыў" за аўтарскую песню "Маёй краіне" (словы і музыка выпускніцы майстэрні Вікторыі Ваўковіч).

14.05.2016 г. у шосты раз у Зэльве праходзіў абласны фэст аўтарскай песні "Новае пакаленне". Лідскі раён прадстаўляў на фэсце калектыў аўтарскай песні Лідскага каледжа - творчая музычная майстэрня "Родник" ў складзе: Вікторыя Малец, Вераніка Пакшыс, Зміцер Карповіч, Вікторыя Ліштван, Ніна Бешчэнь. Усяго на фэсце быў 21 удзельнік. Узровень конкурсу досыць высокі. Галоўным чынам гэта прафесіяналы - выпускнікі кансерваторый, музычных вучэльняў, каледжаў. Удзельнічалі ў конкурсе прадстаўнікі



мастацкіх калектываў пры РДК, творчых аб'яднанняў і г.д. Узрост удзельнікаў да 35 гадоў. Дыпломам лаўрэата III ступені ў намінацыі "Аўтарскі калектыў" ганараваны калектыў творчай музычнай майстэрні "Родник" за аўтарскую песню выпускніцы майстэрні Вікторыі Ваўковіч "Ліда мая".

Сёлета, у 2017 г., наш калектыў на абласным фэсце аўтарскай песні "Новае пакаленне " ў намінацыі "Аўтарскі калектыў" ганараваны дыпломам за лепшае рэжысёрскае рашэнне нумара. Мы, як заўсёды, на конкурсе прадстаўлялі Лідскі раён, гэта ўдзельнікі нашай творчай музычнай майстэрні: Ніна Бешчэнь, Зміцер Карповіч, Вікторыя Ліштван, Павел Леглік. Для ўдзелу ў конкурсе была падрыхтавана лірычная кампазіцыя "Верыць і чакаць" аўтара Ніны Бешчэнь.

Мы з удзельнікамі майстэрні актыўныя ўдзельнікі і раённых фэстаў ды конкурсаў у розных фарматах.

Акрамя традыцыйных конкурсаў навучэнцы майстэрні сталі:

- дыпламантам раённага гітарнага конкурсу "Срэбная гара" - Павел Лявонаў (2008 год),

- дыпламантам раённага конкурсу "Зорны дождж" - Кацярына Пышко (2008 год).

Мы з навучэнцамі майстэрні - сталыя ўдзельнікі раённых конкурсаў патрыятычнай песні "Песні юнацтва нашых бацькоў" і сталі лаўрэатамі конкурсаў за аўтарскія песні:

- "Аб Беларусі" Я. Паца ў выкананні Аляксандры Арноўскай (І-е месца, 2008 г.);

- аўтарская песня "Малітва" Кацярыны Пышко ў выкананні трыа "Каміка" (І-е месца, 2009 г.)

Асабліва прыемна, што ў 2009 годзе наш калектыў запрасілі на фэст лепшых выканаўцаў патрыятычнай песні, які праходзіў у рамках свята юбілею нашага горада Ліды, 685-годдзя, дзе Кацярына Пышко, Аляксандра Арноўская і Святлана Апанасаўна, наш мастацкі кіраўнік калектыва былі ўзнагароджаны граматамі аддзела культуры Лідскага райвыканкама.

Аўтарская песня Кацярыны Пышко "Гедымінава ладдзя" ў вык. Кацярыны Пышко ганаравана II месцам на раённым конкурсе патрыятычнай песні "Песні юнацтва нашых бацькоў" у 2010 г. у намінацыі "Аўтарская песня".

У 2012 годзе дуэт: Ксенія Смольская і Анастасія Камінская ў намінацыі "Аўтар - выканавец" занялі I месца ў фэсце патрыятычнай песні "Песні юнацтва нашых бацькоў", а вакальна-інструментальны ансамбль майстэрні "Лідскі каледж" заняў III месца ў намінацыі "Аўтарская песня" з аўтарскай песняй Вікторыі Ваўковіч "Ліда мая".

Традыцыйна і ў 2013 годзе II месца ў раённым фэсце патрыятычнай песні "Песні юнацтва нашых бацькоў" у намінацыі "Аўтарская песня" заняў квінтэт удзельнікаў майстэрні з аўтарскай песняй "Родны край" на словы Наталлі Станчык: Надзея Станчык, Анастасія Камінская, Ксенія Смольская, Наталля Станчык, Яна Казырская.

Першае месца ў 2014 годзе на раённым фэсце патрыятычнай песні "Песні юнацтва нашых бацькоў" у г. Ліда заняла аўтарская песня Вікторыі Ваўковіч "Маёй краіне" ў выкананні групы "Лідзяне" (2014 г.).

Адмысловым прызам і граматай ганараваны дуэт майстэрні ў складзе Бязверхай Анастасіі і Малец Вікторыі "Пад бялёсымі крыламі" ў 2015 г. на раённым фэсце патрыятычнай песні.

Паспяхова выступілі выхаванцы калектыва ў адкрытым конкурсе для саюзнай моладзі "КАРАОКЕ - BATLLE", дзе Камінская Анастасія і Міхневіч Юры ўзнагароджаны граматамі за III месца ў адкрытым конкурсе для саюзнай моладзі "КАРАОКЕ - BATLLE" ў 2014 г.

Сёння можна з упэўненасцю сказаць, што такая форма арганізацыі працы з моладдзю дае станоўчыя вынікі і выклікае актыўную цікавасць у навучэнцаў. З навучэнцамі майстэрні мы праводзім адкрытыя мерапрыемствы, дзе паказваюцца новыя аўтарскія працы, - кажа кіраўнік калектыва.

**Адкрытыя мерапрыемствы калектыва**

Асабліва важным стала для нашага калектыва адкрытае мерапрыемства творчай музычнай майстэрні "Родник" - "Стыль творчай волі", дзе мы паказалі свае першыя творчыя працы, прадставілі свае спробы пяра.

Асабліва захапляльным стала адкрытае мерапрыемства "Так лёгка і прыемна проста жыць, пакуль жыццё не пакрэслена вайною", дзе ўдзельнікі калектыва паказалі свае працы на ваенную тэматыку. Прагучалі вершы і аўтарскія песні пра вайну.

У снежні 2010 года мы правялі адкрытае мерапрыемства майстэрні ў рамках рэспубліканскай акцыі "Беларусь - гэта мы!", дзе былі выкананы патрыятычныя аўтарскія песні навучэнцаў. Распрацоўка гэтага мерапрыемства была прадстаўлена на рэспубліканскай метадычнай выставе.

На мерапрыемстве "Тры гады разам складаем і спяваем" мы паказалі свае лепшыя творчыя працы, ужо адзначаныя дыпломамі і граматамі розных конкурсаў і фэстаў.

У рамках рэспубліканскай акцыі "Мы разам!" прайшла прэзентацыя дыска "Табе, родная Беларусь". Гэта зборнік патрыятычнай музыкі, прысвечаны 70-годдзю Вялікай Перамогі. Ён складаецца з аўтарскіх песняў навучэнцаў .

Прэзентацыя стала свайго роду справаздачным канцэртам майстэрні. Уцешна, што аўтарская песня знаходзіць водгук у сучаснай моладзі. Прыйшоўшыя на прэзентацыю дзеці аднагалосныя ў меркаванні, што слухаць такую музыку прынамсі цікава. Усё таму, што яна пра рэчы блізкія і зразумелыя кожнаму: пра каханне, мужнасць, абавязак.

- Гэта прэзентацыя - адно з самых запамінальных мерапрыемстваў за апошні час. Увесь канцэрт прайшоў на адным дыханні, было займальна і адначасова павучальна, - дзеліцца ўражаннямі Анкеліна Паўлюкевіч, навучэнка каледжа. - Усе кампазіцыі асабліва ўражваюць таму, што іх аўтарамі з'яўляюцца такія ж навучэнцы, як і я. Думаю, многія студэнты ка-

леджа, як і я, адчуваюць гонар за тое, што ў нашай навучальнай установе ёсць такі калектыў, дзе раскрыцца можа кожны.

Запіс дыска - каштоўны досвед для "Родника". Безумоўна, гэта новая прыступка ў развіцці майстэрні.

**Аўтарскія канцэрты выхаванцаў калектыва**

- Хочацца адзначыць - кажа Святлана Апанасаўна - самага актыўнага ўдзельніка музычнай майстэрні "Родник" - Сяргея Ясюкайця. Не маючы музычнай адукацыі, ён сам піша словы, музыку, робіць аранжыроўкі, выдатна спявае. Мы правялі яго аўтарскі канцэрт. Я магу з упэўненасцю сказаць, што ён захоплены музыкай. Займаючыся ў калектыве, ён стаў аўтарам 17 песень. Хоць гэтага магло і не быць. Вось, прыклад, як творчая адоранасць выявілася ў юнацкім узросце. Сёння ён жыве і творча працуе ў Маскве працягваючы дзейнічаць, складаць музыку.

У 2010 годзе мы правялі яшчэ адзін аўтарскі вечар маёй выхаванкі Кацярыны Пышко "Маё хобі - музыка!". Прыемна, што адмыслова да гэтай падзеі, намеснік дырэктара па выхаваўчай працы Сямашка Андрэй Мікалаевіч уручыў Каці грамату Гарадзенскага ўніверсітэта імя Янкі Купалы ў гонар 70-годдзя ўніверсітэта за актыўную творчую дзейнасць у каледжы. Каця цяпер жыве, вучыцца і творча ўдасканальваецца ў Польшчы.

**Канцэртная дзейнасць калектыва**

Традыцыйна наш калектыў актыўна выступае на ўсіх праводзімых у горадзе раённых мерапрыемствах, святах, конкурсах, фэстах, канферэнцыях, на выязных канцэртах у вайсковых частках, на прадпрыемствах горада, у школах, у каледжы. Удзельнічалі мы ў конкурснай рэспубліканскай праграме: тэлевізійны фэст "Пяю табе, мая краіна", "Песні юнацтва нашых бацькоў", традыцыйныя выступы: на ўрачыстых канцэртах райвыканкама, да 7 лістапада, на адкрыцці Года моладзі, на ўрачыстых мерапрыемствах у Дзень канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, у музычна-паэтычнай праграме да дня 8 сакавіка "Песні і вершы розных гадоў, прысвечаныя жанчынам", у музеі г. Ліды, у дзіцячым доме, на Навагодніх прадстаўленнях. Паспяхова выступалі мы на мерапрыемствах у каледжы: абласным семінары намеснікаў дырэктараў ССНУ, на абласным семінары дырэктараў ССНУ, на семінары па энергазахаванні, у канцэртных праграмах да выбараў у мясцовыя саветы, на гарадскіх патрыятычных канферэнцыях, на канцэртных мерапрыемствах да выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, на навукова-патрыятычных канферэнцыях, на закрыцці абласнога турніру "Залатая шайба", на раённым конкурсе "Лідар - старшакласнік", на "Вечары памяці, прысвечаны вываду войскаў з Афганістана", на раённай канферэнцыі моладзі, на класнай гадзіне "Дарогамі вайны", на канцэрце ў 49 дывізіі стратэгічнага прызначэння, у святочнай праграме да Дня ракетчыка, на "Брэйн-рынгу, прысвечаным Дню барацьбы са СНІДам", на канцэрце, прысвечаны 90-годдзю БРСМ, у прытулку для пажылых людзей, у РДК на юбілеі каледжа, на канцэртах да Дня студэнта, да Дня адкрытых дзвярэй, на канцэртах да Дня настаўніка, на мерапрыемствах "Міс каледжа", "Кахайце, дзяўчаты простых рамантыкаў", на ўручэнні дыпламоў выпускнікам і г.д.

Канцэртная дзейнасць падахвочвае навучэнцаў да творчасці, развівае творчае ўяўленне, выхоўвае, і фармуе эстэтычнае пачуццё, пачуццё грамадзянскасці і патрыятызму. Варта сказаць сёння пра эфектыўнасць выхаваўчай працы ў калектыве.



Удзел у конкурсах і фэстах, якія праводзяцца ў нас у горадзе і ў вобласці, актывізуе творчую дзейнасць навучэнцаў. Паднятая так высока планка конкурсных выступленняў кажа пра вялікую адказнасць усяго калектыва перад слухачамі.

- Сённяшняе жыццё немагчыма ўявіць без інтэрнэту. У кантакце на сваёй старонцы Svetlana Mazitova, а гэтак жа ў Ютубе, - кажа Святлана Апанасаўна - я змясціла ўсе складзеныя аўтарскія песні калектыва, відэа-прэзентацыі, дыпломы, граматы, фота выступленняў і публікацыі прэсы пра калектыў. І такім чынам я распавядаю ў сетцы інтэрнэт пра свой калектыў. Падпісанты - мае навучэнцы, моладзь! Створаны 12 новых відэа-прэзентацый. Гэта дае нам магчымасць падзяліцца сваім досведам працы з шырокім колаам слухачоў, выйсці далёка за рамкі каледжа, горада, вобласці, краіны.

Я працую з моладдзю больш за 39 гадоў, з калектывам аўтарскай песні - творчай музычнай майстэрні "Родник" - 10 гадоў. Працягваю супрацоўніцтва з многімі сваімі выпускнікамі, бо яны жывуць і працуюць у Лідзе, - працягвае Святлана Апанасаўна. - На дадзеным этапе рыхтуем яшчэ адзін праект. У наступным годзе плануем пацешыць лідзян яшчэ адным дыскам, працягваем ствараць новыя відэапрэзентацыі. Апроч патрыятычнай, студыйцамі напісана нямала папулярнай музыкі - песень пра каханне, вясёлых моладзевых песень. Цяпер запісваем у студыі песні нашых маладых аўтараў: Дзімы Карповіча, Ніны Бешчень. Так што, нам ёсць што паказаць гледачам, чым пацешыць лідзян!



*"Лідзяне"*

**Папулярны жанр песні**

У жанры рэп-кампазіцый найболей яркія працы паказалі: Павел Трон, Максім Лычковскі, Юрась Міса, Павел Макарэвіч, Сяргей Цімашэўскі.

- Я заўсёды адзначала дзяцей, якія працуюць у моладзевым стылі Рэп - кампазіцый, - завяршае аповед Святлана Мазітава. - Гэтая плынь вельмі падабаецца моладзі. Неаднаразова з дзецьмі мы рыхтавалі музычны матэрыял да канцэртных і конкурсных праграм, агітбрыгадам па прафілактыцы і барацьбе са СНІД-ам. У адной агітбрыгадзе мы прадставілі рэп - кампазіцыю Паўла Трона, дзе ён гаварыў пра моладзь, пра барацьбу са СНІД-ам, пра здаровы лад жыцця! Калі малады хлопец, сучаснай музычнай мовай размаўляе з моладдзю, гэта для моладзі будзе асабліва зразумела і прадуктыўна, гэта і з'яўляецца эфектыўным сродкам грамадзянска - патрыятычнага выхавання. У наступным годзе Цімашэўскі Сяргей у сваёй рэп - кампазіцыі ў сваім аўтарскім тэксце гаворыць пра шкоду цыгарэт, пра карысць заняткаў спортам, барацьбу са СНІД-ам. Прагучала напрыканцы агітбрыгады і патрыятычная аўтарская песня Каці Пышко "Ганаруся табою, Беларусь!". Мы зноў сталі пераможцамі, у нашай агітбрыгады каледжа было ганаровае І месца. Асабліва было адзначана журы пры падвядзенні вынікаў, што была прадстаўлена творчасць навучэнцаў каледжа, адгэтуль і напрошваецца выхад нашай калектыўнай творчасці на грамадзянска - патрыятычнае выхаванне моладзі нашага горада і раёна! А як шчыра і цёпла віталі гледачы нашу каманду!

Актыўна працавала ў жанры сучаснай песні выпускніца спецыяльнасці "Дакументазнаўства" Кацярына Жамойда. Каця напісала шэраг аўтарскіх моладзевых песень: "Беларусь, ты пераможаш усіх!", "Малюнак на асфальце", "Гарым", "Фіялетава мне" і г.д. Аўтарскія песні Каці часта гучалі ў выкананні прафесійнага трыа гітарыстаў на канцэртах у каледжы і ў раёне, іх моладзь заўсёды прымала гарачымі апладысментамі.

Апошні конкурс "Артвакацыі - 2015" стаў для нашага калектыва паспяховым! У нас ІІ месца на абласным этапе конкурсу. Ім ганаравана група майстэрні "Лідзяне" за аўтарскую песню маёй выхаванкі Вікторыі Ваўковіч "Маёй краіне". Спалучэнне рэп - кампазіцыі з лаканічнай мелодыяй, тэкст на беларускай мове - усё гэта дазволіла песні стаць выдатнай моладзевай музычнай кампазіцыяй, якая не раз гучала на канцэртах: юбілей каледжа ў РДК, адкрыццё Года моладзі ў РДК, прэзентацыі дыска патрыятычных песень. (Жывое выкананне квартэта дзяўчат пад жывы акампанемент: акардэона, дзвюх гітар, клавішаў - Корг).

***Аўтары:***
***Святлана Лісі,***
***Вольга Ніканенка.***

***Алесь Хітрун***

# Заполле: экскурс з мінулага ў сучаснае

***або Аб тым, чый след тут пакінуты ў гісторыі Беларусі і далёка за яе межамі***
***(Да 215 годдзя з дня нараджэння Ігната Дамейкі)***

## Частка I
## Алея напамінае пра былое Заполле, а малітоўнік - пра дзеда Юзафа

Сустрэчы з цікавымі людзьмі, з якімі пасля заводзіш гутаркі аб мінулым, пераходзяць парой у сяброўскія адносіны. Тым больш, калі суразмоўцы з'яўляюцца землякамі, суседзямі з бліжняй вёскі, якія, слова за слова, раскрываюць гістарычны шлях родных мясцін. Праз пэўны час міжволі цікавішся, як жывуць гэтыя суразмоўцы, што іх турбуе на гэты раз, што змянілася ў іхнім жыцці за апошнія гады.



*Лукуць Бярнарда Іосіфаўна*

Пра жыхарку з хутара вёскі Янцавічы Дзітвянскага сельсавета Бярнарду Іосіфаўну Лукуць "Лідская газета" расказвала ў снежні 2005 года (матэрыял "Да ўсяго і тэлефон падасць ім голас"). У той раз аўтар матэрыялу Крысціна Майская пісала пра гэтую жанчыну і яе мужа Баляслава Станіслававіча як пра юбіляраў, якія адзначалі залатое вяселле - 50 год сумеснага жыцця.

Час унёс свае карэктывы. Бярнарда Іосіфаўна ўжо пяць гадоў жыве без мужа, але не пакідаюць яе ў адзіноце дзеці - Марыя, Хрысціна і Аня, а таксама 9 унукаў і столькі ж праўнукаў.

І на гэты раз жанчына гасцінна запрасіла мяне да сябе ў хату і шчыра дадала:

- "Лідскую газету" я выпісваю даўно і як сямейную рэліквію захоўваю той нумар газеты, дзе змешчана публікацыя пра мяне і майго мужа. Ужо больш як дзевяць гадоў з тых пор прайшло, а ўспаміны аб залатым вяселлі засталіся, дзякуючы газеце…

**Першую споведзь трымала ў Слабадскім касцёле**

Нарадзілася Бярнарда Лукуць у 1929 годзе ў вёсцы Хрулі, што знаходзіцца зусім побач з Заполлем, як кажуць, рукой падаць. Бацька, Іосіф Казіміравіч, быў кавалём, а маці, Вера Іосіфаўна, хатняй гаспадыняй. У сям'і гадаваліся тры браты і яна, Бярнарда.



***Хрулёўская польскамоўная пачатковая школа (размяшчалася непадалёку ад Запольскай беларускамоўнай сярэдняй школы). Пасярэдзіне настаўніца Аляхновіч, ля яе злева Лукуць Бярнарда Іосіфаўна. Фота 1936-1937 гг., з асабістага альбома Лукуць Б.І.***



***У час першай споведзі (1937-1938 гг.): крайняя злева - Бярнарда Лукуць, сярод слабадскіх ксяндзоў Вінцэнта Лабана і Люцыяна Мрачкоўскага, якія пазней былі жорстка пакараны немцамі.***

- А дзе адукацыю атрымалі? - спытаў я.

- У Хрулях, - адказвае жанчына. - У гэтай вёсцы калісьці была польскамоўная пачатковая школа, у якой я скончыла тры класы. Добра памятаю сваю настаўніцу па прозвішчы Аляхновіч. На тры класы, ды і на ўсю школу яна спраўлялася адна.

Была і ў суседнім Заполлі школа. У яе сценах выкладанне вялося на беларускай мове. Там я скончыла чацвёрты клас. Нягледзячы на цяжкія ўмовы пражывання, мы, дзеці, знаходзілі час як на вучобу, так і на малітвы. Дзесьці ў 1937-1938 гадах, калі мне было дзевяць год, адбылася мая першая споведзь у Слабадскім касцёле. Службу ў ім праводзілі ксяндзы Вінцэнт Лабан і Люцыян Мрачкоўскі, якія ў час вайны былі расстраляны нямецкімі акупантамі.

**Калі дрэвы былі вялікімі**

У той час Заполлем кіравала пані Галена Шалевіч (Шалявіч), якую ў народзе называлі Шалевічыхай. Са слоў маёй суразмоўцы, гэтая пані любіла шпацыраваць па алеі, сярод ясеняў, клёнаў і дубоў. Ужо тады, як зазначае Бярнарда Іосіфаўна, гэтыя дрэвы былі вялікімі. Пазней большасць з іх была спілавана мясцовымі жыхарамі. А цяпер ад тых прысадаў засталася невялікая купка гэтых нямых сведкаў гісторыі.

- Пані Галена вельмі любіла прыроду, бо, адпачываючы ў алеі, яна наталялася водарам кветак і зеляніны, - працягвае Бернарда Лукуць. - Любіла прагульвацца з маленькімі сабачкамі з цікавымі мянушкамі: Вілюсь і Бася. Паціху, абапіраючыся на кіёчак, худзенькая і сівенькая пані Шалевіч шпацыравала аж пад нашу хату, у Хрулі.



*Панская алея*

Дарэчы, у паноў была свая, шляхецкая, ганарлівасць: пры сустрэчы з простымі вяскоўцамі яна працягвала сваю руку для пацалунку. Хто адмаўляўся, у таго здзіўлена пыталася: "А скон ты?" Мела яна і свой сад з наліўнымі яблыкамі. Але перад Другой сусветнай вайной Шалевіч выехала ў Польшчу, захапіўшы з сабою торбачку з запольскай зямлёй.

**Клікаў Бэрхман: "Пойдзем да мяне жонць"**

- Калісьці тут жыў і пан Бэрхман, - дзеліцца далейшымі ўспамінамі Бярнарда Іосіфаўна, - які таксама з'яўляўся кіраўніком Заполля. Ён падпарадкоўваўся пані Галене, якая давала яму пэўныя загады, а той іх выконваў. Звычайна ён аб'язджаў палеткі, аглядаў іх, сачыў за парадкам. Памятаю і яго фурмана, Лаўрэнція Каско (таксама пахаваны на мясцовых могілках у 1947 годзе. - *Аўт.*).

Пан Бэрхман быў немцам па нацыянальнасці, добрым і незласлівым. Росту ён быў невысокага, круглатвары, з кароткай сівой бародкай. Сяляне яму жалі жыта, але з той умовай, каб пасля на гэтае поле выгнаць кароў, бо пасвіць не было дзе. Але першапачаткова ён лічыў копы і толькі тады па іх колькасці прызначаў дні для пашы. Бэрхман расплачваўся за работу збожжам і нават грашыма. Калі ён звяртаўся да кабет і пытаўся: "Хто пойдзе да мяне жонць?" (жаць. - *Аўт.*) - жанчыны прад'яўлялі свае ўмовы: патрабавалі большую плату за сваю нялёгкую працу. Бывала, што і па 2 злотыя плаціў. А вось мужчын наймаў на касьбу. У той час жыццё было нялёгкім, кожны імкнуўся зарабіць сабе на хлеб. А куды было наняцца на працу, як не да пана? Соль, газа, запалкі, цукар былі вельмі дарагія, не заўсёды выпадала магчымасць іх купіць.

**Дзівам была тая "таксоўка"**

Як далей згадала суразмоўца, ужо "за немцамі" кіраваў запалянскай ваколіцай новы гаспадар - пан Шаноўскі. Ён жыў у тым жа самым доме, дзе калісьці гаспадарылі пані Шалевіч і яе наступнік Бэрхман. Цікава, што з бацькамі Бярнарды Іосіфаўны Лукуць ён быў у добрых зносінах, нават ёй, дзяўчыне-школьніцы, прапаноўваў працаваць гандляркай у магазіне. Казаў, што акажа дапамогу ў навучанні. Меў вялікі кавалак зямлі для агародніны, на якім таксама ўвіхаўся просты люд.

- Захавалася ў памяці, як на "таксоўках" везлі хаваць на рапейскія могілкі яго швагерку, - далей кажа Бярнарда Лукуць. - І мы, дзеці, як убачылі гэтыя машыны, павыбягалі са школы, каб падзівіцца. Як памятаю, дзверы ад магільнага склепа, што ад дарогі, якая пралягае побач, замуроўваў Стась Бубен з Заполля. Тут знайшлі апошняе прыстанішча і выхадцы з родаў Квяткоўскіх, Шалевічаў, Гарбатоўскіх. А яшчэ стаялі калісьці тут і два чорныя мармуровыя польскія помнікі. Як ні прыкра, ужо ў наш час знаходзіліся ахвотнікі да лёгкай нажывы, якія раскопвалі магілы і шукалі

золата ў трунах. Як памятаю, хавалі памерлых у жалезных трунах з жалезнымі вянкамі.

**Непадалёку знаходзіліся Сукурчы і Баяршчына**

З ўспамінаў кабеты мне стала вядома, што непадалёку ад Заполля размяшчаўся маёнтак Сукурчы, якім кіраваў пан Вітольд Пілецкі. Вышэй, на горцы, жыў яго парабак Дубжанскі, а яго жонка звалася Антося. У баку ад Сукурчаў жыла таксама пані, звалася Баярская. Яна кіравала фальваркам, які потым празвалі Баяршчынай. Цяпер прыкладна ў тым месцы, каля дарогі, размяшчаецца кудра.





***Па той бок дарогі размяшчалася Баяршчына (верхні здымак), а па гэты - Сукурчы (ніжні здымак). 2016 г.***

- Гэтая невялікая ростам пані трымала пчол, - далей згадвае жанчына. - За кавальскую работу, якую для яе выконваў мой дзед у кузні, аддзячвала мёдам. Добра запомнілася, як яна часта прамаўляла словы: "Маш, маш" (па-нашаму "вазьмі". - *Аўт.*).

**Ручная работа - не толькі сродак ад самоты**

- Цяпер людзі жывуць у раскошы, бо ўсяго хапае, - працягвае гутарку кабета, - толькі гультаю цяжка пастаянна, бо працаваць не хоча. Калісьці спецыяльна пашпартоў не выдавалі, каб вяскоўцы не выязджалі ў горад на работу. У вёсцы жыў чалавек па прозвішчы Кравель, які працаваў у горадзе на чыгунцы, але, каб звольніцца адтуль і займацца гаспадаркай на сваёй зямлі, яму прыйшлося туды завезці авечку. Тое, што рабілі сваімі рукамі, надоўга захоўвалася, як, напрыклад, вырабы з тканіны: ніжняя і верхняя бялізна, ручнікі і посцілкі, а таксама бурносы з сукна на зімовы час для паездкі на возе.

Быццам бы пра ўчарашні дзень, у памяці Бярнарды Іосіфаўны застаўся працэс апрацоўкі лёну. Спачатку яго ўручную сеялі, палолі, як паспяваў, затым рвалі, малацілі, укладвалі, каб адляжаўся, выцiралі, атрэпвалі, на дзве шчоткі ачэсвалі (адна - жалезная, цвікамі нагнаная, другая - круглая, у выглядзе трубкі са свіной шэрсці). Пралі, ткалі, набела выбельвалі, каб кашулю пашыць. А пасцель была такая: на ложак, які высцілаўся дошкамі, клалі кулі саломы, якую засцілалі дзяружкай. Між іншым, з такой самай дзяружкі шылі сяднік, начынка якога была такой: верх і ніз з саломы, а пасярэдзіне адходы лёну - цвёрдая кастрыца. Ложкі былі драўляныя, у іх заводзіліся клапы, якія жылі і ў сценах хаты. Падлога была з току (са збітай гліны), бо толькі багаты чалавек мог мець яе з дошак.

- А якія былі танцы ў Хрулях! - узнёсла прамаўляе жанчына. - Збіралася ў вёсцы моладзь, музыкі былі свае, мясцовыя, напрыклад, мой старэйшы брат іграў на дудцы. Весяліліся ад душы, нягледзячы на тое, што заўтра чакае нялёгкая праца ў полі. Першую зарплату, як помню, падлiковец прынёс у Хрулі, дык гэта былі першыя капейкі. Уся вёска адзначала гэты дзень, спявалі, радаваліся.




***Малітоўнік дзеда Юзафа***

- Дзед Юзаф, па лініі маці, акрамя таго, што быў кавалём, часаў воўну (для гэтага меў шаткі), - напрыканцы падзялілася са мною жанчына. - Ён і алей цiснуў (меў спецыяльнае прыстасаванне), а таксама рамантаваў гадзіннікі, пераплятаў кніжкі. Да гэтага часу ў памяць аб ім засталіся невялікая "ксёнжка" - малітоўнік са скураной вокладкай ("10 grudnia (снежня) 1930" - пазначана на ёй. - *Аўт.*), - а таксама мікалаеўскі самавар. Малітоўнікам, якому амаль столькі ж год, колькі і мне, я да гэтых пор карыстаюся, праз малітвы прашу ў Бога здароўя маім дзецям і ўнукам, як вучылі мяне бацькі…

…Нягледзячы на свой пажылы ўзрост, Бярнарда Іосіфаўна дагледжана, бо не забываюць яе дзеці, унукі і праўнукі, а яшчэ тры разы на тыдзень прыязджае аўталаўка. Ды і сама, як кажа, мае рукі: трымае невялікую жыўнасць на падворку - курэй, сабаку, ката - а як толькі сыходзіць зіма, выходзіць у агарод. Бо разумеее, што без зямлі цяжка: яна спакон веку з'яўляецца карміцелькай - асновай усіх асноў.

* * *

Глыбей за "польскія часы" памяць Бярнарды Іосіфаўны не сягае. Але кожнаму адукаванаму лідзяніну вядома, што ў Заполлі некалі жыў славуты вучоны Ігнат Дамейка, а гісторыя таго Заполля цягне вельмі глыбока ў стагоддзі.

Пасля гутаркі з Бярнардай Іосіфаўнай прыйшоў час наведаць само Заполле, дзе захаваўся фундамент панскага дома і домік эканома.

Не ў самым лепшым стане знаходзіцца той фундамент. Аб яго жахлівым стане аўтар матэрыялу напісаў у "Лідскай газеце" ў № 97 (12505) за 28 жніўня 2014 года "Запольская зямелька з сядзібай Дамейкі, або Аб тым, у якім стане захоўваецца маёнтак чылійскага вучонага".

Гэты матэрыял быў напісаны пасля ровараправбегу з вучнямі Крупаўскай школы гуртка "Літаратурнае краязнаўства Лідчыны" пры ДУА "ЛРЦТ і КНМ". Аўтар зазначыў, што год пяць назад, калі ён сюды



***З вучнямі Крупаўскай сярэдняй школы. 2014 г.***

наведваўся, знайсці фундамент не выклікала праблем. А на гэты раз яны ўзніклі. З дапамогай жыхара з суседняй хат, яны ледзве знайшлі той гістарычны падмурак. Праз адзічэлыя кусты, калючы зараснік і пякучую крапіву яны выйшлі на месца былой сядзібы. Аб тым, што тут некалькі год назад быў наведзены парадак (высечаны хмызнякі, прыбрана смецце) нічога не гаварыла. Жахлівая карціна прывяла да разгубленасці: паўсюль пароcлыя дрэвы сваімі каранямі разбуралі мур.

У матэрыяле аўтар задаваў рытарычнае пытанне: як гэта можа быць, каб месца, на якім стаяў дом, у якім жыў хоць бы і некалькі год сусветна вядомы вучоны, знаходзілася ў занядбалым стане?





***Зараснікі на былой сядзібе Дамейкі. 2014 г.***





***Дом, у якім жылі кіраўнікі Заполля (ранейшы і сучасныя выгляды)***

Толькі ў 2017 годзе на сядзібе быў наведзены адносны парадак. Але ці надоўга? Год-два і зноў забуяюць кусты і дрэвы. І так будзе бясконца, бо перспектыў аднаўлення сядзібы пакуль не бачыцца. Наваколле бязлюдзее, і тут не да музея.

Прыступкі ганка панскага дома вядуць ці то ўверх, ці то ўніз, каму як хочацца. Мы паспрабуем спусціцца па іх углыб гісторыі Заполля, трошкі глыбей за жывыя ўспаміны Бярнарды Іосіфаўны.

## Частка II
## Сведкі тых часоў далёкіх,
## *або*
## Чарговыя разгадкі пра былы панскі маёнтак у Заполлі

Заполляў у нас двое: былы фальварак і вёска.

Вёска Заполле, пра якую пойдзе далейшая гаворка, знаходзіцца на тэрыторыі Дзітвянскага сельскага савета. Як тлумачыць тапаніміка, што Заполле - гэта назва-арыенцір, ці прасцей - паселішча за палямі. У кнізе - гістарычна-дакументальнай хронiцы "Памяць: Ліда і Лідскі раён" пазначаецца, што ад горада яна адстаіць на 8 км на паўднёвы захад і столькі ж ад лідскай чыгуначнай станцыі. На пачатку XX стагоддзя вёска ўваходзіла ў тэрыторыю Лідскай воласці Лідскага павета, у той час налічвалася 195 жыхароў, 229 дзесяцін зямлі. У 1900 годзе была адкрыта школа царкоўнай граматы. З сакавіка 1921-га па верасень 1939-га года гэтыя абшары ўжо з'яўляюцца землямі Лідскай гміны Лідскага павета Наваградскага ваяводства, уваходзяць у склад Польшчы. Згодна са звесткамі польскага перапісу ў Заполлі налічвалася 38 жылых дамоў, 222 жыхары, знаходзіўся аднаіменны фальварак, 3 жылыя пабудовы, 29 жыхароў. На сённяшні час налічваецца 65 дамоў, з іх толькі 25 жылыя, а пражывае 39 чалавек (1 - школьнік, 23 - працаздольныя, 15 - пенсіянераў).

У былым фальварку Заполле некалькі жылых дамоў і згаданыя ўжо руіны.




***Дарожны паказальнік вёскі Заполле***

Пра паходжанне назвы Заполле піша колішні ўладальнік маёнтка Сукурчы Вітольд Пілецкі ў свааёй паэме "Сукурчы".

У Наваградскай зямлі над рэчкай Лідзейкай,
Што плыве ля замка Гедыміна,
Раскінуўся дамоў вясёлаю сямейкай
Ліда-горад з цёплым іменем дзяўчыны.

Ад Ліды на захад кіруючы стала,
Покуль Дзітвы не дасягнеш плыні,
Перад Крупкаю - рэчкай, што плыне памалу,
З цяжкасцю згледзець двор можна стары,
Што тоіцца ў зараслях з даўняй пары.

Тут Сукурчы ляжаць з іхнім светлым мінулым,
У памяці люду даўно патанулым.
Сукурчы з-за земляў так шчодрых пшаніцай
Яблыкам тут залатым называлі,
І соснамі бору маглі пахваліцца,
Што ад двара аж да Ліды стаялі.

З-за "мяцежнасці" ў часе былога паўстання
Ў Сукурчаў маскоўцы частку лесу забралі
І ў дзяржаўнае іх уладанне
На вечныя поры ўсё перадалі.

Раней, як уладанняў было болей вельмі,
Паміж сям'ёю падзялілі землі,
Сукурчы брату аднаму аддалі,
Другому двор за полем збудавалі
І таму Заполлем без выдумкі назвалі.

Шчэ колісь вёска пры самых Сукурчах ліпела,
Што назву Дамейкі па дзедзічах мела.
А потым, каб лепш гаспадарку весці,
Рашылі за лес недалёкі яе перанесці.
Сядзіба Сукурчы з вёскай Дамейкі,
Як і Заполле з вёскай Рупейкі,
З рыштункам і рабочаю сілай
Жылі ў гармоніі і згодзе мілай.
Давалі прыклад ладу і павагі,
Як рабочай сілай, гэтак і развагай,
Заўсёды па суседску памагалі
І людзям добра ў сэрцы западалі
Ды доўга ў памяці людской трывалі...

*(Пераклад з польскай Станіслава Судніка.)*

Адсюль можна зрабіць выснову, што двор Заполле "малодшы" за двор Сукурчы і што менавіта адносна Сукурчаў Заполле было "за полем".

### Загадка панскай сядзібы як і самога прозвішча "Дамейка / Данейка"

- Казалі, што раней, яшчэ да будаўніцтва панскага палаца, была іншая пабудова. Яе называлі афіцыня, - гаворыць адзін з сённяшніх жыхароў фальварка Заполле Франц Круглы. - У той час гэтымі землямі валадарыў нейкі малады, яшчэ халасцяк, пан. У кожную суботу ён збіраў у гэтым будынку вяскоўцаў,

якія сыходзіліся з вялікіх вёсак - Хрулёў і Рапеек. Тут народ весяліўся, танцаваў. А пан у гэты час заляцаўся да маладых прыгажунь. Але ж аднойчы гэтую афіцыню хтосьці падпаліў. Дарэчы, яна была большых памераў за будучы панскі палац. А будаваўся ён яшчэ гадоў з трыццаць да майго нараджэння, у канцы XIX стагоддзя. Як мне казалі бацькі, гэты палац вырас, дзякуючы запольскім мужчынам па прозвішчах Кулеш, Касы, Ляўшук. Будоўля ішла пад кіраўніцтвам пані Шалевіч-Кваткоўскай (якая і жыла затым у гэтым доме). Дык якая гэта была праца! Ставілі палац сапраўдныя майстры! Сядзіба была двухпавярховай. З другога паверха, дзе былі два вялікія пакоі, на ніз вяла лесвіца. Вельмі шмат збіралася ў сценах палаца заможных людзей. Хтосьці казаў, што і сваякі Дамейкі наведваліся. Бо яшчэ раней, менавіта на гэтым месцы стаяў другі дом - у ім жыў Ігнацый Дамейка. Дарэчы, у свой час у нас называлі таго вучонага Данейкам, нават і мой тата так казаў.

А, ці ж быў такі Данейка? Разабрацца з гэтым прозвішчам, дапамог старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея Валерый Слівкін:

*"Каля 1540 года Заполле належыла Яленскаму герба "Корчак", а з 1550 года - Юршу Пятровічу. У 1690 годзе ў Заполлі жылі Адам Данейка (1 дым), Юзаф Залескі (1 дым), Петранэла Заблоцкая-Залеская (1 дым), Юры Круповіч (1 дым), удава Давіда Круповіча (1 дым) і Іона Парэмбская - Даўгяла (5 дымоў)."*



**Герб Корчак**

Згадвае Заполле і яго ўладальнікаў і Міхал Шымялевіч у "Нататках да манаграфіі Жалудка" ("Лідскі летапісец" № 1 (77), 2017 г.) "*... Казімір Францкевіч Радзімінскі, сын Міхала і ўнук Юрыя, "найперш, - як паведамляе Нясецкі - цівун вякснянскі, стараста крэўскі, потым падскарбі надворны літоўскі, стараста лідскі, з сойму 1690 г. камісар кароннага скарбу, быў спачатку падкаморым лідскім у 1674 г.; з жонкай сваёй Ганнай Нарушэвіч, дачкой падскарбія надворнага літоўскага, фундаваў айцоў кармелітаў у добрах сваіх дзедзічных жалудоцкіх, што дазволіла канстытуцыя 1685 г.; тры разы прэзідыяваў маршалкам у трыбунале літоўскім, г. зн. у 1682, 1688 і 1693". Быў гэта пан моцны, бо валодаў Жалудком, Ішчалнай, Нявішай, Галавічполем,* ***Заполлем*** *пад Лідай, дваром у Лідзе і іншымі добрамі. Пайшоў з гэтага свету бяздзетным, а перад смерцю 22 жніўня 1694 г. падпісаў у Жалудку доўгі тастамант, арыгінал якога я маю ў руках...*

*... У* ***Заполлі*** *пад Лідай, у двары пана Казіміра Францкевіча Радзімінскага, падкаморага лідскага, жыло некалькі бежанцаў, выкінутых сюды ваеннай бурай з Белай Русі - Ян і Кацярына Паўпяцянка, муж і жонка Запольскія, а таксама Павел і Мікалай Янавічы Паўпяты, браты той апошняй, якія называлі сябе блізкімі крэўнымі памерлага мсціслаўскага войскага. Яны выступілі з акцыяй супраць кармялітаў, сцвярджаючы, што тастамант памерлага Паўпяты ні меней, ні болей як быў падроблены тымі ж кармялітамі. Пачаўся гучны на той час працэс. Дапытаны сведкі тастаманту: пан Дуброўскі, чэснік і пісар гродскі віленскі, а таксама пан Данілевіч, падстолі ашмянскі, пацвердзілі, што, едучы трактам цераз Ішчалну на сойм у Варшаву, былі запрошаны да хворага Паўпяты і тут на чыстых аркушах паперы, падпісаных тым жа Паўпятой, пакінулі і свае подпісы, а прыціснуты прысягай Марцін Квінта прызнаў, што і тастамант, і фундуш, і лісты на прызнанне былі на тых жа чыстых з подпісамі толькі аркушах сфабрыкаваны ўжо пасля смерці войскага 6 жніўня 1671 г. тымі самымі аа. кармялітамі з удзелам яго, Квінты. Пасля чатырох трыбунальскіх дэкрэтаў спрэчка была канчаткова развязана аж у 1678 г. на карысць крэўных Паўпяты, усе запісы яго прызнаны за няважныя, Ішчална прызнана ўласнасцю Запольскіх і Паўпятаў, а віленскія кармяліты прыгавораны да ўплаты тым жа спадкаемцам 3 000 зл. за вывезеную з Ішчалны рухомасць і таксама да вяртання коштаў працэсу ў суме 4315 зл..."*



**Герб Сас**

Ізноў Валерый Слівкін:

*"Праз 85 гадоў, а дакладна, у 1775 годзе, у ваколіцы Заполле па адным дыме мелі Антоні Круповіч, Казімір Рапушка, Марцін Залескі і Феліцыян Данейка гербу "Сас", якому таксама належала вёска Заполле (13 дымоў), фальварак Пяцюлеўцы (1 дым) і вёска Пяцюлеўцы (4 дымы).*

*У 1784 годзе Феліцыян Данейка ў Заполлі меў ужо двор і карчму пры гасцінцы, вёска таксама пакідалася за ім, а ваколіца - за Круповічам, Рапушкам і Залескім.*

*Феліцыян Данейка (каля 1730-1799) - лоўчы інфлянцкі, дэпутат Галоўнага Літоўскага Трыбунала (1755), лоўчы лідскі (1756), суддзя земскі наваградскі (1765), прэзідэнт Наваградскага зем-*



**Партрэт Тэадора Данейкі невядомага аўтара**

*ства. Судовая практыка прыносіла нядрэнны прыбытак.*

*Двум сваім сынам Іосіфу і Тэадору ён пакінуў даволі значую спадчыну: двор у Наваградку, вёскі Каросна, Цыневічы, Данейкі ў Наваградскім павеце, Пяцюлеўцы, Абрубы і Заполле ў павеце Лідскім.*

*Унук Феліцыяна - Міхаіл Данейка (нарадз. у 1801 г.), выпускнік Віленскага ўніверсітэта, кандыдат філасофіі, быў членам таварыства філарэтаў".*

У вопісе Лідскай парафіі Лідскага дэканату ў 1784 г. (З магістарскай працы Андрэя Рыбака пад кіраўніцтвам прафесара, доктара габілітаванага Юзафа Марошка) *(Лідскі летапісец" № 1 (61), пераклад Леаніда Лаўрэша)* падаюцца населеныя пункты з цікавага для нас абшару:

**"Заполле** (Zapole), двор і вёска васпана Дамейкі, суддзі земскага Наваградскага, на летні захад міля, і карчма на гасцінцы.

**Крупава** (Krupa), двор васпана Нарбута, войскага Лідскага, у кірунку паміж летнім захадам і поўначчу вялікая міля.

**Крупава** (Krupa Wielka i Krupa Mala), касцёл філіяльны Лідскі, паміж касцёлам і вёскамі карчма васпана Нарбута, войскага Лідскага, у кірунку паміж летнім захадам і поўначчу вялікая міля.

**Сукурчы** (Suchurcze), двор і вёска васпана Нарбута, падкаморага Лідскага на летні захад міля".

Гаспадар Заполля мае тут прозвішча Дамейка, але пасада суддзі земскага Наваградскага, гады жыцця гавораць, што гэта той самы Феліцыян Данейка (каля 1730-1799). Г. зн. блытаніна *Данейка/Дамейка* мела месца і ў дакументах гэтага часу.

Ізноў В. Сліўкін:

*"У 1817 г. маёнтак Заполле купіў Ігнацый Казіміравіч Дамейка гербу Дангель.*



***Герб Дангель***

*Пра гэты герб стала вядома з 1792 года. Мяркуецца, што Дамейкі атрымалі яго ў 1798 годзе, калі яны ўдакладнілі сваю прыналежнасць дакументамі перад Віленскай (Wywodnowoj) дэпутацыяй, якая вызначала паходжанне. Ігнат Казіміравіч Дамейка (02.1767 - 1844) з'яўляўся адвакатам Трыбунала ВКЛ, рэгентам асэсарскага суда ў 1794 годзе, ён жа і сакратар Іоахіма Храптовіча, маршалак шляхты Слонімскага павета ў 1817 годзе. Нарадзіўся ў сям'і камісара судовага старасты Менскага ваяводства Казіміра-Адама-Яна-Ануфрыя-Ксаверыя Дамейкі (1725-пасля 1775) і Багумілы Адахоўскай (1743-17.09.1775) з лідскіх Свентаржэцкіх.*

*Вядома, што ў Казіміра і Багумілы было 9 дзяцей: Тадэвуш, Антоній-Іпаліт, Мацвей, Лявон, Марыянна, Іосіф, Дзіанісій, Ігнат, Іаанна. Бацькі памерлі, калі дзеці былі яшчэ малагадовымі. У сваім тастаманце Казімір-Адам прасіў сваякоў Свентаржэцкіх і Быкоўскіх не пакідаць яго дзяцей без дапамогі. А для выканання гэтай просьбы прызначыў двух суддзяў - менскага і старадубскага. Усе дзеці дасягнулі паўнагоддзя, атрымалі адукацыю і пасады, дапамагалі адзін аднаму, абзаваліся маёнткамі і фальваркамі.*

*Пасля ранняй смерці брата Іпаліта, пакінуўшага ўдаву і 5 дзяцей, Ігнацый Казіміравіч стаў апякуном сям'і брата і пастаянна яе падтрымліваў. У 1827 годзе ён перадаў маёнтак Заполле ў кіраванне свайму пляменніку Ігнацыю Іпалітавічу (сыну Антонія-Іпаліта) Дамейку, які пасля трапіў у непрыемнасці (далучыўся да паўстання, войска якога праходзіла праз Ліду пад кіраўніцтвам генерала Дэзыдэры Хлапоўскага) ..."*

**Запольскае жыццё Ігнацыя Дамейкі**

Кожны мінак ці падарожнік, які пракладвае свой шлях праз гэтую вёску (калі ехаць дарогай з аграгарадка Крупава), адразу зверне ўвагу на ўстаноўлены (1 верасня 1995 г. пры фінансавай падтрымцы Міністэрства культуры і мастацтваў Польшчы) абеліск з памятнай дошкай, на якой пазначана, што ў гэтым маёнтку жыў і працаваў вучоны сусветнай славы Ігнацый Дамейка.

Крышку адступіўшыся, хачу сказаць, што



***Абеліск, устаноўлены ў гонар сусветна вядомага вучонага Ігнацыя Дамейкі***




***Табліца на памятным знаку***



***Памятны валун, устаноўлены да 200-годдзя з дня нараджэння І. Дамейкі ля Крупаўскай сярэдняй школы.***

дзякуючы І. Дамейку, вёска Заполле вядома сусветнаму грамадству, пра нас ведаюць у далёкай Чылі. Для Беларусі гэта вялікі гонар. Як сцвярджаюць некаторыя даследчыкі, сюды ён быў сасланы ў канцы студзеня - пачатку лютага 1824 г. пасля царскага суда над сябрамі таемнага таварыства філаматаў. У гэтай палёгцы пасадзейнічалі дзядзькі Тадэвуш, Ігнат і Іосіф. У прыгаворы пазначалася: *"Ігнацыя Дамейку... пажадана пакінуць на месцы цяперашняга знаходжання, аднак, пад пільным наглядам паліцыі, з тым, каб... не прызначаць ні на якую пасаду без дазволу яго царскай высокасці Вялікага князя Канстанціна"*. Тут І. Дамейка займаўся навукай. На сённяшні час у Крупаўскай сярэдняй школе размяшчаецца гістарычна-краязнаўчы музей "Час. Падзеі. Людзі", у якім захоўваюцца кнігі, матэрыялы, дакументы і нават мінералы, што маюць дачыненне да дзейнасці слыннага вучонага.

За пражытыя гады ў Заполлі пад наглядам паліцыі ў дзядзькавым маёнтку (таксама Ігната), у будучага вучонага сабралася даволі багатая бібліятэка: кнігі па фармакалогіі, хіміі, фізіцы, астраноміі на французскай мове (аб гэтым сведчыць рэестр канфіскаваных кніг у 1834 годзе). Доказам служыць і яго дзённік, у якім ён занатаваў некаторыя моманты, праведзеныя ў Заполлі. Але гэта больш датычыцца перапіскі з яго сваякамі і сябрамі, якія добра ведалі яго запольскі адрас. Але ж, нажаль, на сёння ні сядзіба, ні бібліятэка ў ёй не захаваліся. Якая яна была на той час - таксама складана адказаць, бо ніякіх фотавыяваў не дайшло да нас. Тое, што тут адбывалася пад час жыцця Ігнацыя Дамейкі - іншая гісторыя, якая патрабуе таксама глыбокага даследавання.

Сярод запісаў, што засталіся ў дзённікавым нататніку Дамейкі дапамагае ўявіць нам адзін з момантаў - планаваў збудаваць яшчэ адзін дом, аб якім, рыхтуючыся да паўстання, Ігнацый пазначыў: *"Не цешылі мяне зазелянелыя руні, маладая лістота ліпаў, свежанарыхтаваная драўніна на будаўніцтва дома, ржавела шабля, я марнаваў порах і кулі на стралянне ў мішэнь."* *У пісьме Ануфрыю Петрашкевічу за 12.06.1829 год ён піша: "Прайшло пяць тыдняў, калі вярнуўся ў Заполле, знаходжуся ў адзіноце і цікаўлюся новымі кнігамі, якія прыйшлі для мяне з Германіі, а да гэтага не раз быў ахоплены шматлікімі дзяржаўнымі непрыемнасцямі; займаюся лячэннем хворых сялян, і на гэты раз быў ашуканы цырульнікам і абрабаваны; з дрыжаннем, з бояззю пасылаю п'яўкі, візіты, а гарачка не ведае літасці і страшна ў тых краях прагрэсіруе. Займаюся лячэннем хворай жывёлы: ды з гэтым у мяне таксама складанасці".*

Як бачна з некаторых лістоў - дзённікавых запісаў, з перапісак з сябрамі, Ігнат Дамейка займаецца кніжнымі справамі: прадае "Санеты" Адама Міцкевіча, з мясцовым ксяндзом Дз. Халявінскім перакладае з французскай на польскую мову "Каран" (выданне было забаронена касцельнай цэнзурай), перакладае з англійскай мовы ўрыўкі з паэмаў Асіяна, дасылаў невялікія нататкі для "Віленскага календара", выпісвае часопісы на рускай і нямецкай мовах, займаецца навуковай дзейнасцю. Доказам служыць і такая цытата: *"Кожныя два тыдні каля Заполля па дарозе Гародня-Вільня праязджала паштовая карэта, і паштальён гукам ражка клікаў прымаць пошту"*. Акрамя гэтага, тут, у Заполлі, малады вучоны вырошчвае і прадае збожжа, лечыць сялян, робіць садовыя прышчэпы. Дамейка быў мастаком, здольнасць да малявання праглядваецца ў захаваных яго малюнках, на якіх адлюстраваны дом Міцкевічаў у Наваградку і двор у Больценіках.

Аднойчы ён сам аб гэтым прызнаўся ў лісце да А. Петрашкевіча ад 27 траўня 1825 г.: *"Жыццё маё цяпер - як тая вада, што не мае ніякага спаду і, стоячы на месцы, паволі загнівае. Часцей за ўсё замыкаюся ў маім пакоі і чытаю, а ў чытанні шукаю не навукі, а ўцехі; музыка і маляванне часта з'яўля-*



***Дом Міцкевічаў у Наваградку. Малюнак Ігнацыя Дамейкі. 1827 г.***

*юцца адзіным маім збаўленнем".*

Але грымнула лістападаўскае паўстанне.

Успаміны, якія занатаваў сам Ігнацый (пры вяртанні на Радзіму, у Жыбуртоўшчыне, 1884 г.), перадаюць настрой аўтара, яго патрыятычны погляд на жыццё, трывогу за Радзіму: *"Я вярнуўся ў Заполле на змярканні… Якая была гэтая апошняя ноч у Заполлі, то толькі Пану Богу вядома. Хутка ўпарадкаваў гаспадарчыя рэестры і паперы, кніжкі занеслі на гарышча… З усходам сонца коні ўжо былі асядланы, чэлядзь стаяла каля ганка - для развітання. Мне неяк было не па сабе: трэба хутчэй збірацца, але мяне ахапіла невядомая дасюль трывога. Я затрымаўся і вярнуўся ў свой пакой, думаючы, што нешта забыўся, але глянуў на гадзіннік - ужо пара. Іду, і зноў на парозе быццам нехта за крысо мяне прытрымаў. Здалася ў думках мая маці, як бы з папярэджаннем, што нядобра пачынаю, не параіўшыся з Богам, не заклікаўшы Яго на дапамогу. Я вярнуўся ў спальню, зачыніў за сабою дзверы і, укленчыўшы, згаварыў "Ойча наш…" і малітвы, якім мяне навучылі ў дзяцінстве; і прыйшліся мне да душы гэтыя словы: "Пане Божа Усемагутны, у Святой Тройцы адзіны, учыні, каб думкі мае, словы і ўчынкі на служэнне Табе і хвалу Тваю былі скіраваны і ніколі волі Тваёй святой не працівіліся" (Ад таго моманту пяцьдзесят гадоў, аж да сённяшняга дня, была і ёсць для мяне абярэгам гэтая малітва, што дае мне сілы, прамаўляю яе штодня і ў кожнай прыгодзе). Я пацалаваў любімую зямельку і падхапіўся жвава і з жаданнем, прыпяў шаблю, лёгка ўскочыў на свайго Каштана і - з Богам!... Так я развітаўся з Заполлем назаўсёды, апошні раз глянуўшы на прыгожыя зялёныя руні, плён якіх збярэ хтось іншы…"*



**Польскі генерал Дэзыдэры Хлапоўскі**

…Паўстанне на Літве працягвалася не доўгі час. У ліпені 1831 года Ігнацый Дамейка ў складзе 25-га пяхотнага палка перайшоў мяжу Прусіі, дзе быў інтэрніраваны. Каля сотні ўраджэнцаў Лідскага павета прынялі ўдзел у паўстанні, трэцяя частка іх назаўсёды эмігравала ў Францыю.

Невядома як склаўся б далейшы лёс Ігнацыя, калі б не ўзнікла паўстанне 1830-1831 года, у якім ён з ахвотай прыняў удзел за вызваленне Радзімы ад маскоўскага "прылучэння" пад кіраўніцтвам генерала Дэзыдэры Хлапоўскага, то, магчыма, працоўная і творчая дзейнасць Дамейкі працягвалася б яшчэ не адзін год. Але ці гаварылі бы пра яго так, як пра вядомага і слыннага вучонага? Гэта толькі здагадкі…

Усё ж такі ліст, які быў дасланы Адаму Міцкевічу ад 12.01.1854 г. паведамляе: *"Калі б была магчымасць вярнуцца і паслужыць яшчэ, хоць на старасці год, свайму краю, то не ўседзеў бы тут…"* Мара, каб вярнуцца на радзіму не пакінула славутага ўжо на той час вучонага: ён вяртаецца ў Жыбуртоўшчыну: *"А як жа горача забілася маё сэрца, калі, выехаўшы з Дзятлава, убачыў я - праз пяцьдзесят тры гады - знаёмы алешнік, дзве ліпы ў полі, далей двор, сад, узгадаваны рукамі дзядзькі, купку густых ліпавых прысадаў, якія ў 1812 годзе пасадзіў мой апякун, а за імі белы мураваны дом".* Дом у Жыбуртоўшчыне яшчэ захаваўся.

Але як сцвярджаюць сродкі масавай інфрмацыі





**Так выглядала сядзіба ў Жыбуртоўшчыне на пачатку 2000-ых гадоў.**





**Так выглядала сядзіба ў Жыбуртоўшчыне ў 2016 г.**

(газета "Новы час", 04.09.2016 г., матэрыял "Жыбуртоўшчына: гістарычная сядзіба Дамейкаў гіне незваротна!?") *"Гістарычная сядзіба ў Жыбартоўшчыне, што пры самым раённым цэнтры Дзятлава, імкліва разбураецца, вельмі верагодна, што хутка ад яе застануцца толькі падмуркі. З гэтай мясцовасцю звязана асоба філамата, выдатнага навукоўца, нацыянальнага героя Беларусі, Польшчы і Чылі Ігната Дамейкі. Тут у сядзібе роднага дзядзькі прайшло яго дзяцінства. Пазней жа ў сядзібе жыў Леан Дамейка, яго пляменнік, удзельнік паўстання 1863 года. На сцяне ўмуравана таблічка з напісам "Тут у 1884-88 гады жыў вядомы ў свеце вучоны, нацыянальны герой Чылі Ігнат Дамейка". Сядзіба, якой фактычна 200 гадоў (на адным з кутніх камянёў падмурку выбіты старадаўні напіс "1819. R Ignacy DOMEYKO"), зараз знаходзіцца проста ў гаротным, скрайне занядбаным стане. Праблема ў тым, што living гарадзенскае абласное і дзятлаўскае раённае начальства цягам многіх дзесяцігоддзяў так і не парупілася, каб занесці гэты будынак у рэестр тых, якія складаюць нацыянальную архітэктурную, гістарычна-культурную спадчыну і адпаведна ахоўваюцца дзяржавай. Доўгі час у сядзібе месціўся адзін з раённых шпіталяў. Спакваля будынак разбураўся, а ніхто і не думаў яго рамантаваць. Урэшце пару гадоў таму абрынуўся дах, і сядзіба стала зусім непрыдатнай для выкарыстання. Цяпер тэрыторыю сядзібы выкупіў прыватнік, які вядзе на ёй іншае будаўніцтва. Сродкаў жа на аднаўленне старадаўняга будынка, які патрабуе значных капіталаўкладанняў, у яго, канешне, няма. Спробы ж грамадскасці прыцягнуць увагу ўладаў да жахлівага стану гістарычнага будынка пакуль што марныя."*

**Заполле пасля Ігната Дамейкі**

Па рашэнні Гарадзенскай губернскай следчай камісіі ад 08.10.1832 года І. Дамейка быў аднесены да 8-га разраду злачынцаў, што прадугледжвала канфіскацыю маёмасці: маёнтак Жыбуртоўшчына з 186 душамі мужчынскага полу і Заполле з 44 душамі. І нягледзячы на тое, што дзядзька Ігнат прадставіў дакументы аб прыналежнасці яму маёнткаў, камісія не прыпыніла следчую справу.

Дзядзька Ігнат пісаў у адной са скаргаў: *"Пляменнік мой Ігнат на працягу трох гадоў (з 1828 года) пражываў ў фальварку Заполле і ад майго імя быў эканомам гэтых зямель. У маёнтку Заполле засталіся яго кнігі, гардэроб і бялізна, якую перапісаў камандзіраваны Задунайскі з Гарадзенскай казённай палаты"*. У рэестры гэтага чыноўніка было 178 кніг на лацінскай, 80 - на французскай, англійскай, нямецкай і польскай мовах. Кнігі былі накіраваны ў Гародню, іх кошт склаў 41 рубель 95 капеек. Але не ўсе кнігі трапілі ў рэестр. Аб гэтым дзядзька пазней паведаміў Ігнацыю: *"Кнігі твае, складзеныя ў куфар, знаходзяцца ў Заполлі, у амбары, на гарышчы", "пакінутыя ў Заполлі кнігі захоўваюцца ў поўнай цэласці"*. Наконт уласных рэчаў Ігнацыя, то іх заставалася не многа: некалькі кашуляў з хатняга палатна і галандскага вырабу, мундзір, фракі, плашч, чорны кажух з барана, пакрыты суконнай накідкай, капялюш, суконныя шапкі з казырком.

У 1834 годзе ў Ігната Казіміравіча Дамейкі ў Заполлі налічвалася 49 прыгонных сялян.

Праз тры гады, у 1837 годзе, маёнтак Заполле быў куплены ротмістрам Андрэем Квяткоўскім (каля 1780 - каля 1850), у дваранстве зацверджаны ў 1834 годзе. Пазней, пасля яго смерці, маёнтак перайшоў у спадчыну ўдаве Юзэфе Антонаўне Квяткоўскай з роду Шалевіч (1780 г.н., магчыма, ураджэнка Крупава). За маёнткам лічылася 836 дзесяцін зямлі і 105 рэвізскіх душ, а асноўным заняткам з'яўлялася землеробства. У сакавіку 1846 года Юзэфа Квяткоўская перадала Заполле на адзін год у арэнднае карыстанне памешчыкам Гарадзенскага павета Восіпу і Сафіі Браўнам за 800 рублёў срэбрам. У 1857 годзе па дарчым дакуменце ад маці маёнтак перайшоў ва ўласнасць адстаўнога штабс-ротмістра Антона Андрэевіча Квяткоўскага (1821-8.10.1885), звольненага па хваробе з лейб-уланскага Курляндскага палка. У 1863 годзе ў маёнтку жылі Антон Андрэевіч Квяткоўскі, яго маці Юзэфа Антонаўна, а таксама яго жонка Людвіка Казіміраўна з роду Хршчановіч (1839 г. нар.) і дачка Марыя (1860 г.нар.). Маёнтку належалі 882 дзесяціны зямлі і 16 сялянскіх двароў. 8 кастрычніка 1885 года ротмістр памёр і быў пахаваны на могілках у Рапейках, дзе па сённяшні дзень захавалася надмагільная пліта.






***Помнікі на рапейскіх магілах Антонія Квяткоўскага і Казіміра Шалявіча, нейкай Стэфаніі Гарбатоўскай. 2015 г.***

*(Працяг у наступным нумары.)*

***Леанід Лаўрэш***

# Прыход у Орлі

За 2,5 км на паўднёвы захад ад Орлі знаходзіцца селішча XII - XIII ст.

Мястэчка Орля вядома з XVI ст., уладальнікамі яе былі Орлі (ці Горлі), пазней Давойны, Радзівілы, Святаполк-Чацвярцінскія. У 1665 г. быў тут збор евангелікаў-рэфарматаў. У XVIII ст. Орля карысталася Магдэбургскім правам[1].

Першы пісьмовы ўспамін пра Орлю (пад назвай Арлея) як маёнтак, уладанне Ю. Сташэўскага, змяшчаецца ў Літоўскай метрыцы і датуецца 1666 г. У гэты час тут было 70 пляцаў, рынак (забудова - 19 двароў у 4 лініі), 4 вуліцы (Мастоўская, Віленская, ад рынку да ракі Нёман), кальвінісцкі збор, школа, карчма. Пазней Орля перайшла да П. Берасцейскага. Ад часоў свайго заснавання паселішча ўваходзіла ў склад маёнтка Ліпічна Лідскага павета[2]. Маёнтак Ліпічна вядомы па інвентарах 1577 і 1666 гг. З'яўляўся цэнтрам невялікай воласці, у склад якой уваходзілі таксама мястэчка Орля[3]. Маёнтак Ліпічна разам з Орляй таксама належаў да радзівілаўскіх "Нойбургскіх маёнткаў".

Стараннямі гетмана ВКЛ Крыштафа Радзівіла, князя на Біржах і Дубінках, у 1634 г. Орля атрымала права выбіраць войта і лаўнікаў, праводзіць раз на тыдзень кірмаш і іншыя правы, што набліжала яе да мястэчкаў з Магдэбургскім правам. Орля мела свой кальвінскі збор - яе закрануў рэфармацыйны рух, які, аднак, у першай палове XVII ст. згасаў сам па сабе і пад ціскам контррэфармацыі. На пачатку XVII ст. у Орлі ўжо не было свайго пратэстанцкага пастыра, бо амаль не засталося вернікаў. Час ад часу для набажэнства сюды прыязджаў святар з Падляшша.

У 1726 г. па загадзе луцкага епіскапа ў кальвіністаў забралі звон (магчыма за даўгі)[4]. Яшчэ ў канцы XIX ст. на званіцы Арлянскай царквы знаходзіўся звон 1665 г. з надпісам на нямецкай мове. Верагодна, гэта і быў той самы былы пратэстанцкі звон. Але ў народзе хадзіла легенда аб тым, што гэты незвычайны звон быў знойдзены ў Нёмане разам з жонкай святара - тапельніцай[5].

У 1732 г. у Орлі яшчэ меўся кальвінісцкі збор, "Слоўнік геаграфічны" сцвярджае, што ў 1754 г. яго ўжо не было[6], але гэта не так, бо нават у 1784 г. у вопісах рыма-каталіцкіх парафій Лідскага дэканата занатавана: *"Орля, мястэчка Найяснейшага князя ягамосці Радзівіла, ... мае ўніяцкую царкву (ritus graeci), кальвінскі збор і фальварак Бамбізаў"*[7]. Таму, упэўнена можна сцвярджаць, што пратэстанцкі збор дзейнічаў тут амаль што да канца XIX ст.

Уніяцкая парафія заснавана ў 1747 г. - згодна з актам візітацыі 1784 г. у царкоўным архіве захоўваўся фундуш князя Гераніма Радзівіла ад 20 траўня 1747 г., актыкаваны ў Лідскім гродскім судзе ў 1783 г.[8] Верагодна, менавіта пры заснаванні парафіі, фундатар запісаў 4 000 зл. на царкву і паклаў іх пад працэнты ў яўрэйскім кагале Орлі[9].

У 1753 г., пры Арлянскай царкве пачала працаваць школа для дзяцей святароў Лідскага дэканата[10].

На працягу XVIII ст. Орля становіцца ўніяцкім мястэчкам, тутэйшая ўніяцкая парафія ў 1775 г. налічвала 2 488 вернікаў (1 249 мужчын і 1 239 жанчын)[11]. Да канца XIX ст. частка вёсак адышла ад Арлянскай да іншых уніяцкіх парафій, бо ў 1784 г. да царквы ў Орлі было прыпісана 1 238 чалавек[12].

Звесткі аб пабудове ў 1783 г. драўлянай Пакроўскай царквы несапраўдныя[13], бо ў 1784 г. царква ўжо: *" ... старая, патрабуе рамонту. Мае дзве вежы на якіх жалезныя крыжы. Пасярэдзіне купал упаў і малы купал з крыжыкам жалезным таксама"* [14].

У 1792 г.: *"Царква пад тытулам Пратэкцыі Найсвяцейшай Панны Марыі знаходзіцца ў Лідскім павеце і дэканаце ў фундацыі і каляцыі яснавяльмож-*

[1] Соркіна Іна. Мястэчкі Лідскага ўезда ў XIX - пачатку XX ст. // Ліда і Лідчына: да 685-годдзя з дня заснавання горада: матэрыялы рэспуб. навук.-практ. канф., (Ліда, 3 кастр. 2008 г.). Ліда, 2008. С. 71.

[2] Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6 т. Т. 5. Мінск, 1999. С. 357.

[3] Якимович Ю. А. Зодчество Беларуси XVI - середины XVII в. Минск, 1991. С. 239.

[4] Slownik geograficzny krolestwa Polskiego. Warszawa, 1886. T. 7. S. 583.

[5] Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. Отдел II. Вильна, 1893. С. 102.

[6] Slownik geograficzny krolestwa Polskiego. T. 7. S. 583.

[7] Рыбак Андрэй. Вопісы парафій Лідскага дэканату ў 1784 г. Парафія Жалудоцкая (пераклад Лаўрэша Леаніда) // Лідскі Летапісец. 2014. № 2(66). С. 13.

[8] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. Спр. 53. Візіты цэркваў Лідскага і Слонімскага дэканата. 1784 г. А. 121.

[9] Литовские епархиальные ведомасти. 1873. № 5. С. 61.

[10] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907. С. 153.

[11] Slownik geograficzny krolestwa Polskiego. T. 7. S. 583.

[12] ДГАЛ. Ф.634. Воп. 1. А. 120.

[13] Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами генерального штаба. Виленская губерния. СПб., 1861. С. 550.

[14] ДГАЛ. Ф.634. Воп. 1. Спр. 53. А. 119.




***План Орлі***

*ных князёў Радзівілаў. Драўляная, стараннем мясцовага святара і з ласкі калятараў добра адрамантавана, гэта значыць, што ўся, да даху з купалам ўзята ў бэлькі і сцягнута 14 жалезнымі шрубамі"* [15].

Як бачна з акту візітацыі 1784 г., царква мела дзве вежы з купалам і таму, магчыма, стылёва належала да драўлянага барока. Пасля рамонту знешні выгляд змяніўся, царква атрымала адну вежу з купалам. Менавіта так яна паказана на карце Орлі канца XVIII ст. Карта захавала нам выгляд уніяцкай царквы, каля яе бачны пабудовы плябаніі і званіца на могілках. Паводле акту візітацыі 1792 г. *"могілкі агароджаны ляскамі, на могілках крытая гонтай званіца на 4-х слупах, старая"*[16]. Жоўтым колерам на карце абазначаны зямельны ўчастак царквы, пра які ў візітацыі 1792 г. напісана: *"Сядзіба, дзе могілкі, гароды і плябанія - 3 моргі 5 прутоў"* [17].

Цікава, што карта дае нам ўяўленне пра выгляд ратушы мястэчка Орля, якая, як і царква, стаяла на рынкавай плошчы. Таксама на карце абазначаны іншыя хрысціянскія могілкі, верагодна пратэстанцкія але збору каля іх ужо няма.

З візітацыі 1792 г. даведваемся, што 3 кастрычніка 1791 г. згарэла плябанія разам з метрыкамі хрышчэнняў, шлюбаў і пахаванняў, а таксама і рэестрам парафіі[18]. Пасля гэтага святар Войцах Ануфры Маршынскі захварэў, візітатар піша: *"З-за няшчаснага выпадку плябанія ў Орлі дашчэнту згарэла і разам з ёй ўсе дакументы гэтай царквы, якія захоўваліся ў плябаніі. З-за гэтага няшчаснага выпадку сам тутэйшы святар захварэў, саслаб і хварэе да гэтага часу. Як толькі пазбавіцца хваробы, павінен будзе зрабіць копіі ўсіх дакументаў царквы і плябаніі, метрыкі хрышчэнняў, шлюбаў і пахаванняў, а таксама зрабіць спіс парафіі, што яму самому і наступным святарам будзе патрэбна"* [19]. 11 студзеня 1792 г. інстыгатар лідскай камісіі Станіслаў Садоўскі пацвердзіў факт гібелі архіва[20].

З тэксту візітацыі 1792 г. даведваемся пра плябанію: *"Плябанія за кошт скарбу пабудаваная, аднак нешчаслiва згарэла. Зараз з ласкі ВП калятараў залажана новая добрая і ўжо да вокнаў пабудаваная. На яе заканчэнне дрэва ўжо ляжыць, і падобна плябанія будзе хутка пабудавана. Пры ёй ад пажару засталіся: гумно на дзвюх сохах з падвойнымі старымі варотамі з габляваных дошак, драўляны хлеў на дзвюх сохах, крыты саломай, з варотамі з дошак. Да хлява прыбудаваны крыты саломай малы свіран з дзвярыма на жалезных завесах і ўнутраным і навясным замкамі. Плябанія часткова агароджана парканам, а часткова жэрдкамі. Стары шпіталь з дзвюмя пякарнямі праз сені, крыты саломай, у якім дзве бабы і дзед з божай дапамогай жывуць. Гумно, адрына, свіран і стайня пабудаваны коштам папярэднікаў вялебных святароў*

[15] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. А. 7.

[16] Там жа.

[17] Там жа. А. 7 адв.

[18] Там жа. А. 7 адв.

[19] Там жа. А. 8 адв.

[20] Там жа. А. 7 адв.



***Царква ў Орлі. Здымак Балзункевіча***

*Сасіноўскіх, за тое сучасны парах вялебны святар Маршынскі заплаціў ўдаве 70 злотых і атрымаў ад удавы квіток пры сведках"* [21].

Як бачым, нават пасля пажару, небагатая ўніяцкая парафія працягвае выконваць свае спрадвечныя сацыяльныя функцыі - за свой кошт утрымлівае шпіталь, дзе жывуць нямоглыя старыя парафіяне.

Вядома, што ўжо 19.05.1754 г. святаром царквы ў Орлі быў а. Базыль Сасіноўскі[22]. З-за таго, што візітатар піша пра *"папярэднікаў вялебных святароў Сасіноўскіх"* (гл. вышэй), магчыма тут служылі па чарзе бацька з сынам Сасіноўскія.

Святар Маршынскі Войцах-Ануфры не перамог хваробу і памёр 22.07.1793 г.[23]

Пасля смерці Маршынскага з царквы ў Ракавічах пераводзіцца адміністратарам у Орлю а. Ануфры Ясінскі. Да гэтага ён служыў вікарыем у м. Свіслач Менскага павета і ў в. Радамысль Жытомірскага павета, у 1784 г. характарызаваўся як *"крыху паспешлівы"*[24].

З 1795 г. адміністратарам царквы становіцца а. Антон Івацэвіч (1775 г.н.), з 1832 па 25.02.1837 г. ён быў святаром гэтай царквы[25].У 1837 г. а. Пётр Главацкі (1800 г.н.) - вікары царквы ў Орлі[26].

У 1866 г. у межах шырока разгорнутага ў Беларусі па загадзе віленскага генерал-губернатара Мураўёва праваслаўнага культавага будаўніцтва, замест драўлянай царквы ў Орлі пабудавалі новую царкву з бутавага каменю ў рэтраспектыўна-рускім стылі. Гэта помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю. Прысадзістая кампазіцыя храма складаецца з 3-яруснай васьмерыковай званіцы, кароткай і нізкай трапезнай, купаладобнай малітоўнай залы і апсіды. Шатры званіцы і асноўнага аб'ёму завершаны цыбулепадобнымі купалкамі. На фоне паліхромнай бутавай муроўкі сцен кантрастна вылучаюцца атынкаваныя элементы архітэктурнага дэкору: кілепадобныя ліштвы вокнаў-біфорыюмаў, аркатурныя фрызы, вуглавыя руставаныя лапаткі. Унутры малітоўная зала накрыта шатровым скляпеннем на ветразях, апсіда вылучана 2-х ярусным іканастасам[27].

У 1913 г. "Вестник Виленского Св.-Духовского Братства" друкуе спіс цэркваў, пабудаваных праз гене-

[21] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. А. 8.

[22] Лісейчыкаў Дзяніс. Святар у беларускім соцыуме: прасапаграфія ўніяцкага духавенства 1596?1839 гг. Мінск, 2015. С. 471.

[23] Там жа. С. 370.

[24] Там жа. С. 590.

[25] Там жа. С. 266.

[26] Там жа. С. 210.

[27] Кулагін, А. М. Праваслаўныя храмы Беларусі: энцыклапедычны даведнік. Мінск, 2001. С. 150.

рал-губернатара Літвы Мураўёва-вешальніка. Пра царкву ў Орлі напісана: *"Пабудавана і асвечана царква ў мястэчку Орля на 450 чалавек на суму 5 671 р. 45 к."*[28].

У канцы XIX ст. царква мела 56 дзесяцін зямлі (з яе 40 раллі, 12 сенажаці і 4 дзесяціны пад сядзібай). Прыхаджан - 1248 жанчын і 1322 мужчыны[29].

У канцы 1920 - пачатку 1921 г. інструктар Беларускага Нацыянальнага камітэта Андрэй Асташонак напісаў справаздачу пра стан беларускай адукацыі. З яго тэксту вынікае, што беларускія школы працавалі ў Маскалёх, Зачэпічах, Дзям'янаўцах, Орлі і Ліпічне - вёсках Арлянскай гміны[30].

У 1924 г. на Лідчыне шырокую вядомасць атрымала "Справа святара Харлапа". У Фондзе 200 Дзяржаўнага архіва Гарадзенскай вобласці захоўваецца справа на 406-ці старонках аб "Расследаванні фактаў, якія пацвярджаюць прыналежнасць святара Арлянскай царквы Лідскага павета Халапа Васілія Рыгоравіча да бандыцка-дыверсійнай беларускай арганізацыі (пачата 10 кастрычніка 1924 г., закончаная 17 лістапада 1924 г.)" [31].

Справа пачалася пасля таго, як фельчар з Орлі Аляксандр Буча ў жніўні 1924 г. некалькі дзён гасцяваў у сваіх бацькоў у в. Заброеўцы (зараз Ходараўскі сельсавет Лідскага р-на), а потым паехаў шукаць працу ў Варшаву і Замосце (у Варшаве жыў у сваёй цёткі). Праз некалькі тыдняў ён вярнуўся ў Орлю[32]. Але па ваколіцах пайшла пагалоска аб тым, што фельчар збег у Менск і нават піша адтуль лісты сваім знаёмым. Паліцыя распачала справу і выйшла на святара Арлянскай царквы як кіраўніка падрыўной арганізацыі.

З справы даведваемся, што Харлап Васіль Рыгоравіч, узрост 33 гады, праваслаўнага веравызнання, настаяцель царквы ў Орлі, жанаты[33]. З асабістай справы бачна, што а. Васіль нарадзіўся 01.01.1890 г. у м. Койданава Менскага павета. Меў жонка Алену з Яблонскіх. Закончыў настаўніцкую семінарыю ў Хэлме[34].

Уважліва вывучыўшы ўсе 406 старонак справы, я заўважыў, што ўся яна абапіраецца на паказанні Мікалая Савіча, які ў красавіку 1924 г. быў прызначаны дыяканам у Арлянскую парафію, але *"хутка заўважыў, што ў парафіі існуе камуністычная арганізацыя, на чале якой стаіць святар Харлап Васіль"* [35]. Дыякан назваў усіх, потым арыштаваных, "членаў" арганізацыі [36]. У пратаколе допыту дыякана выкладзена абсалютна ўсё, што потым было надрукавана ў "Справаздачы паліцыі" (гл. дадатак).

Паліцэйскія дакладвалі лідскаму старасту, у акруговую ўправу палітычнай паліцыі ў Навагрудку і намесніку пракурора Лідскага павета, пра тое, што ў верасні 1924 г. у Арлянскай гміне была выкрытая *"беларуская бандыцка-дыверсійная арганізацыя"* колькасцю каля 20 асоб на чале якой стаяў праваслаўны святар Харлап Васіль. Грунтуючыся на фантазіях дыякана, святар абвінавачваўся ў тым, што гэта *"арганізацыя існавала ажно з 1918 г., г. зн. з той хвіліны, калі святар Харлап прыбыў з Плісы Дзісненскага павета ў Орлю, адкуль уцёк, бо расшукваўся нямецкімі ўладамі за рабунак маёнткаў і жыхароў Дзісненскага павета падчас бальшавіцкага перавароту. Тады ён быў старшынём кааператыва "Зара" і адначасова кіраўнікам Вайскова-рэвалюцыйнага трыбунала"* [37].

Далейшае расследаванне не пацвердзіла гэтую інфармацыю, а сам святар на допыце паказаў, што пасля высвячэння ў святары і да 1918 г. быў настаяцелем царквы ў мястэчку Пліса Дзісненскага павета. Пад час рэвалюцыі, у часы Керанскага працаваў бухгалтарам у кааператыве "Зара" ў Плісе. Нікога не рабаваў, у 1917 г. купіў каня ў казака. З Плісы выехаў у 1918 г. у Орлю[38].

Дыякан сцвярджаў, што пасля пераезду ў Орлю, Харлап завязаў кантакты з беларускім настаўнікам Янам Драздом і даручыў яму кіраўніцтва арганізацыяй, якая *"мела за мэту, выкарыстоўваючы канфлікт паміж Польшчай і Ковенскай Літвой, падрыхтоўку беларускага насельніцтва да ўзброенага паўстання супраць Польшчы. Арганізацыя пачала збіраць зброю"* [39], якую як быццам хавала ў лясах за Нёманам[40].

Пасля разгрому польскімі ўладамі ў 1922 г. беларускіх партызанскіх аддзелаў "Шэршня" і "Чорта" святар Харлап даручыў членам сваёй арганізацыі забітых і закапаных у лесе партызан перахаваць на могілках. Па забітых партызанах святар Харлап адслужыў службу ў *"царкве як за герояў беларускай справы"*[41].

Пасля арышту беларускага настаўніка і палітыка Івана Дразда, святар як быццам жадаў збройным чынам адбіць яго, але Дрозд сам уцёк з пастарунка і перабраўся ў Менск. Сябры "беларускай арганізацыі" абвінавачваліся ў тым, што падтрымлівалі сувязь з Драздом, што не пацвердзілася падчас следства. "Сябар" арганізацыі Аляксандр Буча паказаў, што *"Дразда*

[28] Вестник Виленского Св.-Духовского Братства 1913. № 5. С. 103.
[29] Извеков Н. Статистическое описание православных приходов Литовской епархии. Вильна, 1893. С. 27.
[30] Ляхоўскі Уладзімір. Беларуская справа падчас польскай акупацыі 1919 - 1920 гг. // Спадчына. 1994. № 6. С. 67.
[31] ДАГВ. Ф. 200. Воп. 2. Спр. 21.
[32] Там жа. А. 280.
[33] Там жа. А. 3.
[34] Там жа. А. 192.
[35] Там жа. А. 94.
[36] Там жа.
[37] Там жа. А. 342.
[38] Там жа. А. 53.
[39] Там жа. А. 342.
[40] Там жа. А. 94.
[41] Там жа. А. 343.

*ведае з дзяцінства, атрымаў ад яго ліст (з Менска), і, падобна, той вучыцца ў інстытуце. Больш з ім кантактаў не меў"* [42].

Таксама а. Васіль абвінавачваўся ў тым, што агітаваў беларусаў не плаціць падаткі, моладзь угаворваў уступаць у дыверсійныя аддзелы, замест службы ў польскім войску з'язджаць у Менск. *"Сагітаваным добраахвотнікам у дыверсійныя аддзелы Харлап без аплаты выдаваў напісаныя па-руску метрыкі і не ўпісваў іх у царкоўныя кнігі"* [43].

Адным з найвялікшых "доказаў" абвінавачвання з'яўляліся долары ЗША, якія святар атрымліваў ад роднага брата як быццам на палітычныя справы. Дыякан цікава падаваў гэты факт: *"Атрымаў з Менска ад свайго брата ў Амерыцы каля 400 долараў"* [44]. Следства ўстанавіла, што а. Васіль *"грошы атрымліваў ад брата з Амерыкі, той даслаў яму адзін раз 50 долараў і яшчэ 8 долараў каштоўнымі пісьмамі па 1 - 2 долары"* [45]. Але, як і належыць, у народзе жыла думка, што *"поп Харлап вельмі багаты, атрымлівае грошы з Амерыкі ад брата"* [46].

Адзінае, што даведаліся следчыя пра брата святара, гэта тое, што ён як быццам лічыўся эсэрам і ў Амерыцы хаваўся ад царскіх улад, *"сам святар таксама быў сябрам гэтай партыі"* [47]. Заўважу, што следства сур'ёзна не паставілася да магчымай прыналежнасці святара да партыі эсэраў, магчыма таму, што ў 1924 г. эсэры былі найвялікшымі ворагамі бальшавікоў.

Яшчэ больш цікавымі былі абвінавачванні святара ў тым, што ён, *"каб больш уздзейнічаць на сялян, ... сам працуе як просты работнік, сябруе з самымі беднымі, а таксама з самымі падазронымі асобамі, з якімі разам выпівае і пры бутэльцы і хмельнай галаве ўбівае ім у галаву камуністычныя ідэі ... А каб быць больш папулярным сярод народа для з'яднання яго ў арганізацыю, у якой яго будуць слухаць, святар Харлап усе царкоўныя абрады праводзіць без аплаты: хрышчэнні, шлюбы, пахаванні, выдачу метрык і пасведчанняў і г. д."* [48]. Каб не алкаголь, дык дыякан надаваў а. Васілю евангельскае, Хрыстовае аблічча, што адукаваныя польскія следчыя павінны былі заўважыць.

Не пацвердзілася інфармацыя дыякана пра тое, што святар *"хавае сала ў алтары, гарэлку за абразамі і адпраўляе набажэнствы на яўрэйскіх недапітках ці самагонцы"* [49].

Адмоўныя паказанні давалі і іншыя члены "беларускай банды".

Сярод абвінавачаных арлянцаў найбольш паважнае стаўленне ў мяне склалася да Аляксандра Бучы[50]. Даючы паказанні, ён нічога не выдумляў, даводзіў толькі факты[51] і ні разу нікога не абгаварыў.

Рыгор Гардзяеўскі (узрост 33 гады), былы псаломшчык, падчас следства селянін, давёў, што чуў, як Харлап казаў маладым людзям, якія збіраліся ў нядзелю каля царквы, каб яны тут не сядзелі, а ішлі ў Расію, там яны знойдуць адпаведную сабе працу, *"тое казаў і мне некалькі разоў ... Поп Харлап даваў метрыкі па-руску ўсім, хто хацеў ехаць у Расію. Ён мае пэўнага чалавека, які можа дапамагчы перайсці мяжу і даваў адрас папа Марозава ў Маладзечне"* [52]. Але святар і сам не хаваў сваіх сувязяў з кантрабандыстамі, у той час палова Заходняй Беларусі жыла з перамытніцтва. Харлап расказаў следству пра сваіх знаёмых, якія хочуць уцячы ў СССР, і якім чынам гэта можна зрабіць. У яго былі вялікія магчымасці дапамагчы ў гэтай справе, ведаў ён і паліцэйскага чыноўніка з Баранавіч, які за 10 долараў перапраўляў цераз мяжу, меў кантакт з моцнай арганізацыяй ў Маладзечне, якая праз Радашковічы арганізоўвала пераход туды - сюды ў Менск і з Менска. І яшчэ шмат што цікавага святара расказаў следству, але, падобна, следства не вельмі зацікавілася гэтай інфармацыяй[53]. Наогул, сітуацыя з перамытніцтвам падавалася вельмі падобнай на тую, якую апісаў Сяргей Пясецкі ў сваіх творах.

Францішак Собаль, рыма-каталік з Жалудка (у 1920-м г. паліцэйскі, падчас следства селянін), паказаў, што ў 1920-м г. *"поп Харлап з-за агітацыі быў пад наглядам паліцыі, ... людзі ў Арлянскай гміне вельмі варожа ставіліся да польскай улады, але ён не ведае, ці гэта было з-за агітацыі Харлапа"* [54].

Шэршань Васіль Паўлавіч, 36 гадоў, селянін: *"У 1921 г. прыехаў з Амерыкі. Ні пра якую арганізацыю не ведае"* [55].

Нешта падобнае казалі і ўсе іншыя "члены беларускай арганізацыі".

24 кастрычніка 1924 г. кіраўнік Лідскай экспазітуры палітычнай паліцыі напісаў у Наваградскую акруговую ўправу палітычнай паліцыі: *"З 17 арышта-*

[42] ДАГВ. Ф. 200. Воп. 2. Спр. 21. А. 4.
[43] Там жа. А. 343.
[44] Там жа. А. 344.
[45] Там жа. А. 3.
[46] Там жа. 34.
[47] Там жа. А. 165.
[48] Там жа. А. 344.
[49] Там жа.
[50] Аляксандр Андрэевіч Буча (1897 г. н.) Нарадзіўся ў в. Агароднікі Жалудоцкай гміны, фельчар медыцыны, закончыў Новачаркаскую фельчарскую школу. На момант арышту быў апрануты ў чорны фрэнч, сінія штаны і боты з халявамі. З следчай справы бачна, што ён сапраўдны беларускі інтэлігент. - Гл. ДАГВ. Ф. 200. Воп. 2. Спр. 21. А. 4.; 196.; 280.
[51] ДАГВ. Ф. 200. Воп. 2. Спр. 21. А. 4.
[52] Там жа. А. 5.
[53] Там жа. А. 282.
[54] Там жа. А. 7.
[55] Там жа. А. 8.

*ваных, следчы суддзя 1-й акругі ў Лідзе звольніў з турмы 11 чалавек і хутка звольніць астатніх, бо няма ніякай паставы да працягвання гэтай справы, бо Савіч, на паказанні якога абапіраецца абвінавачанне, зрабіў гэта з асабістай матэрыяльнай выгады і помсты, і больш у справе нічога няма"* [56]. Тым не менш, у той жа паперы паліцэйскі абяцаў працягваць росшукі.

Аднак не была знойдзена і зброя беларускіх "тэрарыстаў".

Чым усё гэта закончылася - невядома, бо ў справе няма ніякай інфармацыі аб перадачы яе ў суд. Але некалькі пратаколаў допытаў былі перадрукаваны на друкарцы, прычым з іх быў прыбраны шэраг эпізодаў, і таму можна зрабіць выснову, што ўсё ж суд планаваўся. Для фігурантаў справы ўсё гэта магло закончыцца дрэнна, бо ў той час на тэрыторыі Заходняй Беларусі дзейнічаў Ваенна-палявы суд, які мог расстраляць за тое парушэнне, якое ў этнічнай Польшчы каралася некалькімі гадамі турмы.

Менавіта для мяне незразумелым застаецца пытанне, ці быў а. Васіль Харлап беларускім актывістам. З аднаго боку яго сяброўства з актыўнымі беларусамі Іванам Драздом і Аляксандрам Бучам, яго выказванні пра неабходнасць беларускіх школ[57], зафіксаваныя ў следчай справе, кажуць пра тое, што святар ўсведамляў сабе як беларуса. Але, у адрозненні ад Бучы, у якога роднай мовай у асабістай справе пазначана беларуская[58], роднай мовай святар запісаў "мясцовую" [59]. Больш за тое, падчас допытаў ён сказаў следчаму: *"Сам я ёсць расіянін, не прызнаю беларускі народ і не цярплю беларускага языка, гэта язык сялянскі"* [60]. Канешне, святар, з якога стваралі кіраўніка "беларускай банды", мог сказаць гэта і адмыслова. Але пытанне застаецца.

Пасля 1924 г. а. Васіль Харлап знікае з Лідчыны. Але і мары дыякана Мікалая Савіча пра месца Арлянскага святара не спраўдзіліся, і яго далейшы лёс таксама невядомы.

У 1935 - 1940 гг. дыяканам у царкве в. Орля служыў а. Мікалай Дзяруга. У 1940 г. быў прызначаны настаяцелем царквы ў в. Шчара Мастоўскага р-на. На пачатку вайны ў в. Задвор'е Мастоўскага р-на зладзіў малебны дом[61]. У 1943 г. разам са сваім сынам Веніямінам айцец Мікалай быў расстраляны чырвонымі партызанамі. Расстралялі а. Мікалая пасля абвяшчэння ім указу нямецкіх уладаў аб згоне людзей у Германію. Разам з сынам пахаваны ў вёсцы Орля[62].

У 1962 г. храм быў зачынены савецкай уладай, пры гэтым парафіяльны дом перавезены ў в. Яселевічы пад сельскі клуб. Нейкі час царква выкарыстоўвалася як калгаснае збожжасховішча, але аднаго разу зерне сапсавалася, і пасля гэтага храм знаходзіўся ў запусценні.

У 1990 г. пасля шматлікіх просьбаў і лістоў да ўлады было дазволена адкрыць храм для набажэнстваў. Пачаўся збор ахвяраванняў для капітальнага рамонту храма. Намаганнямі вернікаў храм быў адноўлены.

### Справаздача аб прафсаюзным і грамадска-палітычным руху па тэрыторыі Лідскага павета на кастрычнік 1924 г. для лідскага старасты, у акруговую ўправу палітычнай паліцыі ў Наваградку, намесніку пракурора Лідскага павета[63]

У верасні 1924 г. ... была выкрытая беларуская бандыцка-дыверсійная арганізацыя колькасцю каля 20 асоб, на чале якой стаяў праваслаўны святар Харлап Васіль, у Арлянскай гміне. 8 верасня арганізацыя ліквідавана, усе члены арыштаваны і адданыя судовым уладам.

Як вынікае з паказанняў сведкаў, дыякана Мікалая Савіча, які жыве ў Орлі і суседзяў Слаўлюка Баляслава і Качана Антона, былых паліцэйскіх у Орлі, а таксама і ўласнай інфармацыі, гэта арганізацыя існавала ажно з 1918 г., г. зн. з той хвіліны, калі святар Харлап прыбыў з Плісы Дзісненскага павета ў Орлю, адкуль уцёк, бо расшукваўся нямецкімі ўладамі за рабунак маёнткаў і жыхароў Дзісненскага павета падчас бальшавіцкага перавароту. Тады ён быў старшынём каапературатыва "Зара" і адначасова кіраўніком Ваенна-рэвалюцыйнага трыбунала. Пасля свайго прыбыцця ў Орлю Харлап завязаў кантакты з беларускім настаўнікам Янам Драздом і даручыў яму кіраўніцтва арганізацыяй, якая мела за мэту падрыхтоўку мясцовага беларускага насельніцтва да ўзброенага паўстання супраць Польшчы, выкарыстоўваючы канфлікт паміж Польшчай і Ковенскай Літвой ... . Да арганізацыі належалі праваслаўны святар Васіль Харлап, Яўген Пяткевіч (былы агент 2-га аддзелу штаба[64], экспазітура № 1 у Маладзечне), Аляксандр Буча, Рыгор Гардзяеўскі (былы псаломшчык праваслаўнай царквы ў Орлі), Францішак Собаль (былы паліцэйскі), Іосіф Гардзяеўскі, Васіль Шэршань, Арсеній Гузень, Ян Саўрасевіч, Рыгор Ненартовіч, Кірыл Тракель, Сяргей Ненартовіч, Ян Андрушкевіч, Іосіф Шалесны, Шлёма Корань і Міхал Крупіца.

Гэта арганізацыя, лічачы, што справа дойдзе да вайны, пачала збіраць зброю і чакаць зручны момант

[56] ДАГВ. Ф. 200. Воп. 2. Спр. 21. А. 164.

[57] Там жа. А. 165.

[58] Там жа. А. 196.

[59] Там жа. А. 192.

[60] Там жа. А. 53 адв.

[61] Горны Аляксандр. Мартыралог Гродзенскай епархіі (1917-1961). Гродна, 2012. С. 9.

[62] Силова С. В. Крестный путь: белорусская православная церковь в период немецкой оккупации 1941-1944 гг. Минск, 2005. С. 43.

[63] ДАГВ. Ф. 200. Воп. 2. Спр. 21.А. 335. 342-345.

[64] Так званая "двуйка" - другі аддзел Генеральнага штаба польскага войска ў міжваеннае дваццацігоддзе, - выведка.

для збройнага выступу супраць Польшчы з мэтай адабраць землі, прызнаныя Рыжскай дамовай, і далучыць да Савецкай Беларусі.

Падрыўная дзейнасць гэтай арганізацыі, а менавіта яе кіраўніка Яна Дразда не магла быць не заўважана мясцовай паліцыяй, якая арыштавала Дразда і пасадзіла яго ў мясцовы пастарунак паліцыі. Тады святар Харлап, не жадаючы таго, каб Дрозд знаходзіўся ў вязніцы, на тайнай нарадзе падгаварыў членаў арганізацыі ноччу атачыць пастарунак і адбіць арыштаванага. План гэта аказаўся непатрэбны, бо Дрозд скарыстаўся магчымасцю і сам уцёк з-пад арышту. Потым ён праз Ковенскую Літву патрапіў у Менск, дзе заняў паважную пасаду ў ГПУ[65]. Пасля ўцёкаў Дразда арганізацыя распалася, частка членаў пайшла ў СССР, частка засталася на месцы, частка ператварылася ў банду (банды Шэршня і Чорта ліквідаваны ў 1922 г.). Пасля разгрому банды Шэршня (у сутычцы з паліцыяй загінула шмат бандытаў) святар Харлап даручыў іншым членам сваёй арганізацыі целы забітых бандытаў, закапаных у лесе, выкапаць і пахаваць на могілках. Па забітых бандытах святар Харлап адслужыў у царкве як за герояў беларускай справы.

Пасля арышту Дразда і разгрому банд Шэршня і Чорта арганізацыя на нейкі час прыціхла, але не надоўга. Хутка святар Харлап знайшоў сувязь з Драздом у Менску і зноў пачаў, з дапамогай чальцоў арганізацыі, агітаваць сярод беларускага народа, каб яны не плацілі падаткаў, каб не пасылалі сваіх сыноў у польскае войска, а пасылалі іх у Менск, у дыверсійныя аддзелы, мэтай якіх былі бы напады на тэрыторыю Польшчы, пашырэнне незадавальнення і беларускае паўстанне, для якога святар Харлап збіраў зброю, якую хаваў у Ліпічанскай пушчы. Сагітаваным добраахвотнікам у дыверсійныя аддзелы Харлап без аплаты выдаваў напісаныя па-руску метрыкі і не ўпісваў іх у царкоўныя кнігі. А таксама выпісваў пасведчанні аб тым, што ўцекачы не жадаюць служыць у польскім войску і палітычна пераследуюцца польскімі ўладамі.

Святар Харлап падтрымлівае з Драздом у Менску сталы кантакт, высылае да яго кур'ераў з справаздачамі пра развіццё і дзеі арганізацыі.

4 жніўня 1924 г. святар Харлап у якасці кур'ера выслаў да Дразда ў Менск жыхара Орлі Аляксандра Бучу, таксама са справаздачай і для атрымання ўказанняў аб далейшай працы. Святар Харлап, як устаноўлена сведкамі, атрымаў з Менска ад свайго брата ў Амерыцы каля 400 долараў.

Падчасператрусу ў святара Харлапа знойдзены ліст яго жонкі да сваёй сястры, якая жыве ў Менску, у якім яна скардзіцца на свайго мужа, што ён неасцярожны ў справах, што хутка дэканспіруецца і з-за свайго легкадумства можа моцна пацярпець.

Акрамя гэтага ... устаноўлена, што святар Харлап для адводу падазрэння апрануў святарскую вопратку, бо гэта давала яму магчымасць, не выклікаючы падазрэння, праводзіць падрыўную агітацыю сярод вясковага народа, які з царскіх часоў прыязна адносіцца да святароў і быў гатовы выканаць любыя яго пажаданні.

Каб больш уздзейнічаць на сялян, святар Харлап сам працаваў як просты работнік, сябраваў з самымі беднымі, а таксама з самымі падазронымі асобамі, з якімі разам выпіваў і пры бутэльцы і хмельнай галаве ўбіваў ім у галаву камуністычныя ідэі.

Яго характарызуюць паводзіны ў царкве і нагул пагарда да яе, бо ён хавае сала ў алтары, гарэлку за абразамі і адпраўляе набажэнствы на яўрэйскіх недапітках ці самагонцы.

А каб быць больш папулярным сярод народа для з'яднання яго ў арганізацыю, у якой яго будуць слухаць, святар Харлап усе царкоўныя абрады праводзіць без аплаты: хрышчэнні, шлюбы, пахаванні, выдачу метрык і пасведчанняў і г. д.

Усё гэта рабіў толькі для таго, каб аб'яднаць каля сябе цёмную вясковую масу і выкарыстаць яе для сваіх падрыўных мэтаў, а падчас беспарадкаў ці вайны стаць на чале гэтага тлуму кіраўніком і весці яго на змаганне за вызваленне беларускага народа з польскай няволі. Устаноўлена таксама, што святар Харлап не толькі пры бутэльцы, але і заўсёды, калі толькі збіралася некалькі маладых хлопцаў, пачынаў сярод іх агітацыю за выезд у СССР для ўступлення ў дыверсійныя банды ці ў моцную арганізацыю тут, у Арлянскай гміне, якая павінна быць заўсёды гатова да барацьбы на тэрыторыі Польскай рэспублікі.

Згодна з інфармацыяй, атрыманай праз допыты, арганізацыя дзейнічала не толькі ў Арлянскай гміне, але шырока распаўсюджвала дзейнасць на некалькі паветаў. Бо пра ліквідацыю і арышты некалькі яе дзеячаў у той жа дзень ведалі беларускія дзеячы ў іншых гмінах і паветах.

Каб знайсці склады зброі і амуніцыі на месца высланы следчыя і канфідэнты, якія шукаюць іх у ваколічных лясах. Да гэтага часу ўстаноўлена, што гэтыя склады знаходзяцца ў глухіх месцах, але пакуль нічога не знойдзена, нягледзячы на ўсе магчымыя высілкі.

Таксама з пошты бачна, што святар Харлап з 1923 па 1924 г. атрымаў ажно 15 каштоўных лістоў з Амерыкі ад свайго брата а таксама 5 лістоў з Савецкай Расіі, што кажа, што ён быў тут платным камуністычным дзеячам і меў сціслы кантакт з Менскам.

Праводзіцца далейшае расследаванне.

### Склад парафіі ў Орлі ў 1784 г. (фрагмент візітацыі)[66]

Парафія. Мястэчка Орля - 24 дымы; вёска

[65] Беларускі навуковец і грамадскі дзеяч Іван Міхайлавіч Дрозд (1895 - 1938 (?)) пасля пераходу ў БССР вучыўся ў Менску, атрымаў вышэйшую адукацыю, працаваў дацэнтам Горацкага сельскагаспадарчага інстытута. Арыштаваны 04.11.1935 г. у Горках. 27.03.1936 г. асуджаны асобай нарадай пры НКВД за "антысавецкую агітацыю і шпіянаж" да 3 гадоў ссылкі ў Казахстан. У канцы 1930-х г. прыгавораны да 10 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Волжскі канцлагер Яраслаўскай вобласці. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Магілёўскага абласнога суда 02.02.1957 г.

[66] ДГАЛ. Ф.634. Воп. 1. Спр. 53. А. 121.

Дварчаны - 8 дымоў; вёска Галынка - 7 дымоў; вёска Прэціма - 19 дымоў; вёска Доўгая - 20 дымоў; вёска Ліпічанка - 26 дымоў; вёска Ваўчкі - 1 дым; вёска Гузня - 8 дымоў; вёска Шэршні - 8 дымоў; Дзям'янаўцы - 13 дымоў; вёска Карытніца - 3 дымы; вёска Воля - 7 дымоў; вёска Руда - 7 дымоў; вёска Маскалі - 14 дымоў; вёска Шчара - 2 дымы, вёска Шасцілы - 12 дымоў; Стукалы - 13 дымоў; вёска Галубы - 4 дымы; Ярчакі - 4 дымы; вёска Зачэпічы - 12 дымоў; ... разам - 214. Парафіян да споведзі - 428, не да споведзі - 213. Жанчын да споведзі - 413, не да споведзі - 184; разам - 1238.

**Візітацыя 1792 г. Мястэчка Орля**

Царква пад тытулам Пратэкцыі Найсвяцейшай Панны Марыі знаходзіцца ў Лідскім павеце і дэканаце ў фундацыі і каляцыі яснавяльможных князёў Радзівілаў. Драўляная, стараннем мясцовага святара і з ласкі калятараў добра адрамантавана, гэта значыць, што ўся, да даху з купалам ўзята ў бэлькі і сцягнута 14 жалезнымі шрубамі. Да царквы прымыкае сакрыстыя з двумя дзвярыма на жалезных завесах і з зашчапкамі. У сакрыстыі акно белага шкла, прастол з шуфлядамі для захавання арнатаў. На ўваходзе ў бабінец трое дзвярэй на жалезных завесах, з якіх адны дзверы падвойныя на 4-х завесах з навясным замком. Хор агароджаны балясінамі. Столь з дошак. Памосту няма. Лаўкі сталярнай работы. 4 акны белага шкла ў новых драўляных рамах і тры малыя акны. Перад Вялікім алтаром парэнчы з балясінамі. Царскіх варот няма. Могілкі агароджаны ляскамі, на могілках - крытая гонтай званіца на 4-х слупах, старая.

Вялікі алтар драўляны, сталярнай работы, пафарбаваны, на ім уверсе абраз на палатне ўкрыжаванага Пана Езуса. Над дараносіцай абраз Святой Тройцы, намаляваны на палатне з муслінавымі фіранкамі, упрыгожанымі махрамі. Прастол драўляны, на ім пафарбаваная дараносіца сталярнай работы, замкнутая на замок. Даразахавальніца срэбная, унутры пазалочаная, у ёй захоўваюцца Святыя Дары. Антымінс яснавялебнага мітрапаліта Валадкевіча. Тканых ручнікоў - 3. Абрус-пакрывала з набойкі. Заслона алтара палатняная, пафарбаваная. Прыступкі драўляныя. Даўнейшых падсвечнікаў алавяных - 3 пары. Новых - 3 пары. Настольных, драўляных - 3 пары. Крыж алавяны.

Алтар каля Вялікага алтара драўляны з абразом Св. Антонія, намаляваным на палатне. Прастол і прыступкі драўляныя. Ручнікоў тканых - 3. Заслона алтара папяровая. Пакрывала з набойкі, каля балясін драўляная кафедра, над ёй драўляны пафарбаваны амбон.

Бакавы алтар драўляны з абразом Z.P. (Панны Жыровіцкай - ?), намаляваны на палатне, уверсе - Найсвяцейшай Панны, на драўляным прастоле - вялікае і маленькае драўляныя ўкрыжаванні. Падсвечнікаў драўляных - 2 пары. Ручнікоў тканых - 2, пакрывала з набойкі, прыступкі драўляныя.

Другі бакавы алтар сталярнай работы з абразом Найсвяцейшай Панны Жыровіцкай, фіранкі старыя, ружовыя з кітайкі. На прастоле - вялікае і маленькае драўляныя ўкрыжаванні. Падсвечнікаў драўляных - 2 пары. ... Рэлеквіяры - 4, за шклом. Антымінс яснавялебнага мітрапаліта Шаптыцкага. Ручнікоў простых - 2. Прыступка драўляная. Таксама антымінс яснавялебнага Гедэона Гарбацкана, біскупа Пін. і Тур., каад'ютара мітрапаліта.

Алтарык пераносны, з аднаго боку абраз Н.П. Марыі, з другога Св. Тройцы на палатне. Стараннем мясцовага святара абразы аздоблены муслінавымі фіранкамі і 2-мя шнуркамі добрых белых караляў.

Царкоўнае срэбра. Пацір срэбны з дыскасам, усярэдзіне і звонку пазалочаны, важыць 2 грыўні і 2 лоты. Даразахавальніца срэбная, 2 грыўні і 12 лотаў. Дараносіца з лыжачкай, 4 лоты.

Іншае царкоўнае начынне. Ампулак алавяных - 1 пара. Алавяны крыж і алавяная даразахавальніца, важаць 5 фунтаў. Званочкаў алтарных - 6, з кадзільніцай важаць 4 фунты. Адна мерніца шрубаваная, другая патройная. Сігнатурка ў купале - 8 фунтаў. На званіцы вялікі звон - 4 камяні. Тры меншыя па 2 $^{1}/_{2}$ камяні. Балдахін ружовы з кітайкі ў паскі, крыж для працэсіяў з укрыжаваннем. Ручных жалезных трымальнікаў для паходні - 2.

Літургічнае ўбранне. Адно з моцнай тканіны з жоўтым бантаеравым галуном, з усім неабходным. 2-гое з моцнай тканіны, зялёнае з белым каўняром і бантаеравым галуном, з усім неабходным. 3-цяе ламовае ... з жоўтым галуном, з усім неабходным, набытае стараннямі пароха. 4-тае жалобнае з цяжкага шоўку, старое, з белымі галунамі, з усім неабходным. Лацінскі арнат з кітайкі, ружовы ... з стулай і бантаеравым галуном, з усім неабходным. Бурса да хворых адамашкавая, добрая, з усім неабходным, другая гарусная, старая. Адна харугва, гарусная, сіняя з абразом, другая чырвоная, старая, з абразом.

Альба швабская - адна, з карункамі, шырокая, з гумераламі. Паскаў - 3. Святарскіх комжаў з карункамі - 2, адна старая. З кізету - 3. Карпаралаў - 4. Пурыфікатараў - 7.

Кнігі. Службоўнік ін-фоліо, вялікі, стары, выдадзены ў Унеюве, другі малы ін-фоліо віленскі, Васьмігалоснік супральскі, Казанні кіеўскага выдання, Актоіх рукапісны, два супральскія трэбнікі, рускае Евангелле ін-фоліо, Евангелле польскае Каржанеўскага. Метрыкі хрышчэнняў, шлюбаў і пахаванняў, а таксама і рэестр парафіі згарэлі разам з плябаніяй 3 кастрычніка 1791 г. і з гэтай прычыны, а болей з-за хваробы святара-пароха да гэтага часу ... непадлічаны людзі, ад чаго нават Прасвятая Лідская камісія пароха вызваліла, аб чым сведчыць копія ліста ад 11 студзеня 1792 г., напісанага ў Лідзе. Вяльможны ў Богу Мосць Добр. - ... ліст ВМ Пана Дабрадзея пісаны да ракавіцкага святара і Прасвятой Лідскай камісіі, у якім гэта камісія дазволіла імем ВМ Пана Дабрадзея зрабіць у сваёй канцылярыі пасведчанне аб тым, што метрыкі парафіянаў згарэлі, гэтае пасведчанне павінна на наступны дзень быць запісана на Сесіі, а потым вольны ВМ Пан Дабрадзей мусіць прынесці, толькі не турбуйся і будзь здаровы і памятай таго, хто ёсць ВМ Пана Дабр. неадменным слугой, Станіслаў Садоўскі,

інстыгатар Камісіі Лідскага павета.

Зямля. Плябанія мае 2 валокі ў трох кавалках.

Адзін кавалак ва ўрочышчы ..., дзе фальварак.

Другі пачынаецца ад слупка, а заканчваецца каля Барцянскай дарогі, адным бокам мяжуе з зямлёй Юрэйкі, а другім - з зямлёй Урбановіча.

Трэці кавалак у шахаўніцах, на 5 сох. Называецца "Прыдатак", ці "Клін". Пачынаецца ад Дварчанскай сценкі, а заканчваецца каля слупчыка ... . Адным бокам мяжуе з зямлёй Юрэйкі, а другім - Урбановіча. Другі шмат той жа трэцяй змены, мае назву "Засценак", 4 моргі. Пачынаецца ад Дварчанскай сценкі, а заканчваецца каля чашчобы ... . Адным бокам ад зямлі Тураха, а другім да зямлі Урбановіча. Гэты другі ... засценак застаўся ад Хвёдара Садоўскага ..., 4 моргі і 15 прутоў.

Сядзіба, дзе могілкі, гароды і плябанія - 3 моргі 5 прутоў.

Сенажаці. Паміж валокамі каля ракі, 16 вазоў. Увага! Ліпічанскі двор ... ва ўрочышчы Парадушка каля Баяраў Жалудоцкіх забраў сенажаць на 20 вазоў.

Падданыя. Завуць Ян Дрозд. Згодна са старымі дакументамі мае 40 гадоў, жанаты. Мае 2 сыны, першы, Андрэй, мае 2 гады, другі, Сцяпан мае 2 гады. Дачка Канстанцыя мае 5 гадоў. Брат па імені Казімір мае 30 гадоў, жанаты, дачка Анастасія.

Маёмасць. Валоў - 2. Карова з целем - 1. Трохгадовы бык - 1. Свінні - 4. Авечак - 8. Пабудовы: хата з сенцамі, насупраць старая хацінка, крытая саломай. Драўляны свіран, крыты саломай, драўлянае гумно на дзвюх сохах, адрамантаванае. Зямля ў трох кавалках: першы палетак каля вёскі Ліпічанкі, другі ва ўрочышчы Сухаўшчына, трэці пры сядзібе.

Павіннасці. У тыдзень 2 дні мужчынам. Дзень гвалту ад Св. Яна аж да Св. Міхала павінны. Варта адзначыць: фундушом прызначана двух падданых з вёскі Ліпічанкі, але дакумента ў плябаніі няма, і параху трэба прасіць пра гэта ў калятараў.

Дакументы. Фундуш ад Найяснейшага ягамосці князя Радзівіла, харунжага ВКЛ ад 20 траўня 1747 г. Выпіска з гэтага фундуша з ухвалай яснавялебнага мітрапаліта Грабніцкага, накіраваны да Ліпічанскага ЯП для пабудовы плябаніі і пакупкі паціра з дыскасам і дараносіцы, зацверджаны ў 1750 г. ... таксама павінны былі даваць падданых і пакрыць плябанію. Выпіска з гэтага фундуша была акціравана ў Лідскім гродскім судзе ў 1783 г., у ім ёсць абавязак пакрыць царкву, надаць пашу і сенажаць і вярнуць падданых. У лісце, датаваным 1748 г., прысутнічаюць два падданыя Сянкевічы. Візітацыя вялебных святароў Бялькевіча і Рудніцкага ў 1750 і 1761 гг. Паданне вялебнага святара Вашчыловіча, лідскага дэкана, ад 20 ліпеня 1781 г. да вялебнага святара Маршынскага - усе гэтыя дакументы з-за пажару згарэлі ў агні. Засталася візітацыя вялебнага святара Базыля Ануфрыя Марцінеўскага, Цырынскага дэкана і Любчанскага параха ад 28 траўня 1784 г.

Плябанія, за кошт скарбу пабудаваная, аднак нешчаслівa згарэла. Зараз з ласкі ВП калятараў залажана новая, добрая і ўжо да вокнаў пабудаваная. На яе заканчэнне дрэва ўжо ляжыць, і падобна плябанія будзе хутка пабудавана. Пры ёй ад пажару засталіся: гумно на дзвюх сохах з падвойнымі старымі варотамі з габляваных дошак, драўляны хлеў на дзвюх сохах, крыты саломай з варотамі з дошак. Да хлява прыбудаваны крыты саломай малы свіран з дзвярыма на жалезных завесах і ўнутраным і навясным замкамі. Плябанія часткова агароджана парканам, а часткова жэрдкамі. Стары шпіталь з дзвюмя пякарнямі праз сені, крыты саломай, у якім дзве бабы і дзед з божай дапамогай жывуць. Гумно, адрына, свіран і стайня пабудаваны коштам папярэднікаў вялебных святароў Сасіноўскіх, за тое сучасны парах вялебны святар Маршынскі заплаціў ўдаве 70 злотых і атрымаў ад удавы квіток пры сведках.

Парахам гэтай царквы ёсць вялебны святар Война Ануфры Маршынскі, высвечаны яснавялебным каад'ютарам біскупа Уладзімірскага Младоўскім з дазволу яснавялебнага мітрапаліта Валадкевіча ва Уладзіміры ў 1766 г. Прэзентаваны Найяснейшым ягамосцю князем Каралем Радзівілам, віленскім ваяводам 5 чэрвеня 1781 г. Інсталяваны яснавялебным Гедэонам Гарбацкім, біскупам Пінскім і Тураўскім, каад'ютарам мітрапаліта 16 кастрычніка 1783 г.

З-за няшчаснага выпадку плябанія ў Орлі дашчэнту згарэла, і разам з ёй ўсе дакументы гэтай царквы, якія захоўваліся ў плябаніі. З-за гэтага няшчаснага выпадку сам тутэйшы святар захварэў, саслаб і хварэе да гэтага часу. Як толькі пазбавіцца хваробы, павінен будзе зрабіць копіі ўсіх дакументаў царквы і плябаніі, метрыкі хрышчэнняў, шлюбаў і пахаванняў, а таксама зрабіць спіс парафіі, што яму самому і наступным святарам будзе патрэбна.

Не патрабаваць грошай за св. сакраманты і асабліва пасля споведзі на Вялікдзень, каб пазбегнуць брыдкага блюзнерства і адмовы некаторых ад сакраманту. Гэтага граху, нават пры нерэгулярных даходах, пры сціпласці і памяркоўнасці, трэба засцерагацца згодна з Сінодам Замойскім ... загадваем ...

Асобы, якія без адпаведнага дазволу перайшлі ў рымскі абрад, ... павіны быць вернуты ва ўласны абрад, а пра тых, хто не паслухаецца, дакладваць ва ўласную кансісторыю.

Пункты, альбо Епіскапскія распараджэнні і (кнігу) "Прыпадкі", каб сам чытаў і выкарыстоўваў ... пад час штомесячных і штоквартальных Канферэнцый пільна чытаў і добра заахвочваў тых, хто не бывае на Канферэнцыях. Каб мясцовым уладам даносіў ... . Каб пільна прытрымліваўся рэгулярнасці ў набажэнствах, чуласць у абыходжанні з даверанымі яму душамі ..., а таксама прыкладнасць, неабходную духоўнаму сану, моцна загадваем і гэтым рэфармацыйным дэкрэтам замацоўваем і даём распараджэнне.

**Парафіяне царквы ў Орлі, 1829 г.**

Заўвага да спісу: самы стары парафіянін - Юзаф Блюднік, 90 г. У Аляксандра Раманчыка - сын Напалеон, 14 г. Гэта значыць, што ў 1815 г. нават у звычайнай сялянскай беларускай сям'і імператар Напалеон карыстаўся вялікай павагай.

**Мястэчка Орля Яснавяльможнага пана графа Тызенгаўза, дзедзіча.**

1. Адам Гузень, 29 г.; Ян, брат Адама, 18 г.; Антон, брат Адама, 10 г.; Тэадор Здановіч, 26 г.; Эльяш, сын Адама, 4 г.; Агаф'я, жонка Адама, 46 г.; Мар'яна, жонка Сымона, 26 г.

2. Павел Шэршань, 45 г.; Пётр Рудзецкі, 24 г.; Пракседа, жонка Паўла, 40 г.; Мар'яна, сястра Пракседы, 28 г.; Антаніна, дачка Паўла, 10 г.; Мар'яна, дачка Паўла, 1 г.

3. Адам Сядларжэўскі, 52 г.; Ігнат, сын Адама, 21 г.; Станіслаў, сын Адама, 19 г.; Ян, сын Адама, 9 г.; Гэлена Міцкевіч, 46 г.; Антаніна, дачка Гэлены, 17 г.; Кацярына, дачка Гелены, 14 г.

4. Ян Шымановіч, 36 г.; Якуб, сын Яна, 16 г.; Якуб, дзядзька Яна, 61 г.; Сцяпан Селявончык, 38 г.; Гжэгаш, сын Сцяпана, 4 г.; Ян, сын Сцяпана, 1 г.; Мар'яна, жонка Яна, 38 г.; Анна, жонка Сцяпана, 26 г.; Разалія Новік, удава, 32 г.; Тэкля, дачка Разаліі, 14 г.

5. Якуб Свянціцкі, 40 г.; Ян, сын Якуба, 15 г.; Сымон, сын Якуба, 1 г.; Анастасія, жонка Якуба, 36 г.; Леанора, дачка Якуба, 12 г.; Мар'яна, дачка Якуба, 6 г.

6. Ян Шэршань, 31 г.; Пётр, сын Яна, 15 г.; Ян, сын Яна, 9 г.; Мар'яна, жонка Яна, 43 г.; Тэафіля Лапун, 22 г.;

7. Юзаф Шуплінскі, 50 г.; Андрэй, сын Юзафа, 26 г.; Ян, сын Андрэя, 2 г.; Кацярына, жонка Юзафа, 41 г.; Даміціка, жонка Андрэя, 20 г.; Анна, дачка Юзафа, 11 г.; Петранела, дачка Юзафа, 9 г.; Альжбета, дачка Юзафа, 7 г.

8. Андрэй Масціцкі, 30 г.; Базыль, сын Андрэя, 8 г.; Антон, сын Андрэя, 6 г.; Ян, сын Андрэя, 3 г.; Мар'яна, жонка Андрэя, 28 г.

9. Феліцыян Шалесны, 41 г.; Сымон, брат Феліцыяна, 20 г.; Ян, сын Феліцыяна, 3 г.; Вікторыя, жонка Феліцыяна. 32 г.; Еўдакія, маці Феліцыяна, 53 г.; Анна, сястра Феліцыяна, 30 г.; Тэадора Бароўская, сястра Феліцыяна, 36 г.

10. Стэфан Тракель, 43 г.; Базыль Жамойда, зяць Стэфана, 20 г.; Таццяна, жонка Стэфана, 50 г.; Мар'яна, жонка Базыля, 19 г.; Альжбета, пляменніца Стэфана, 9 г.; Анна, дачка Стэфана, 3 г.;

11. Юзаф Лідкоўскі, 55 г.; сымон, сын Юзафа, 19 г.; Агата, жонка Юзафа, 50 г.; Агата, дачка Юзафа, 20 г.; Юстына, дачка Юзафа, 16 г.

12. Філіп Стэльмашэўскі, 23 г.; Тамаш, швагер Філіпа, 13 г.; Юзаф Гардзееўскі, 22 г.; Казімір, сын Філіпа, 1 г.; Мар'яна Гардзееўская, удава, 37 г.; Пелагея, жонка Філіпа, 22 г.; Тэадора, дачка Мар'яны, 16 г.; Сафія, дачка Мар'яны, 9 г.; Агаф'я, дачка Мар'яны, 3 г.; ... пляменніца Мар'яны, 21 г.

13. Міхал Касач, 26 г.; Ежы, брат Міхала, 19 г.; Ян, сын Міхала, 5 г.; Антон, сын Міхала, 1 г.; Канстанцыя, маці Міхала, 52 г.; Анна, жонка Міхала, 26 г.; Канстанцыя, сястра Міхала, 31 г.; Мар'яна, дачка Канстанцыі, 2 г.

14. Юзаф Ненартовіч, 42 г.; Андрэй, сын Юзафа, 15 г.; Юзаф, сын Юзафа,1 г.; Крысціна, жонка Юзафа, 40 г.; Пракседа, дачка Юзафа,17 г.; Мар'яна, дачка Юзафа, 10 г.; Магдалена, дачка Юзафа, 4 г.;

15. Адам Дрозд, 53 г.; Ян Селяшчук, 24 г.; Міхал Тракель, 53 г.; Юстына, дачка Міхала, 29 г.

16. Мікалай Тракель, 57 г.; Ігнат, сын Мікалая, 8 г.; Якуб, сын Мікалая, 3 г.; Тарэза, жонка Мікалая, 26 г.; Мар'яна, дачка Мікалая, 14 г.; Тэадора, дачка Мікалая, 9 г.

17. Лукаш Муляр, 67 г.; Францішак Новік, 32 г.; Анастасія, жонка Лукаша, 47 г.; Антаніна, жонка Францішка, 28 г.; Вікторыя, дачка Францішка, 7 г.

18. Андрэй Рудзевіч, 46 г.; Тэадор, сын Андрэя, 18 г.; Антон, сын Андрэя, 13 г.; Ануфрый, сын Андрэя, 8 г.; Анна, жонка Андрэя, 45 г.; Юльяна Урбановіч, 21 г.

19. Сымон Даніловіч, 43 г.; Антон, сын Сымона, 1 г.; Анна, цешча Сымона, 57 г.; Барбара, жонка Сымона, 30 г.; Тэкля, дачка Сымона, 6 г.; Мар'яна, сястра Барбары, 22 г.; Юзэфа, дачка Мар'яны, 6 г.

20. Габрыэль Мулярчык, 37 г.; Ян, сын Габрыэля, 15 г.; Базыль, сын Мар'яны, 6 г.; Сымон Станкевіч, 62 г.; Альжбета, жонка Габрыэля, 34 г.; Мар'яна Мулярчык, удава, 33 г.; Юзэфа, дачка Мар'яны, 9 г.;

21. Якуб Майса, 30 г.; Ігнат, сын Якуба, 7 г.; Ян, сын Якуба, 2 г.; Тарэза, жонка Якуба, 26 г.; Альжбета, сястра Якуба, 19 г.; Мар'яна, дачка Якуба, 1 г.

22. Трахім Міскевіч, 26 г.; Бенядзікт Будрэвіч, 57 г.; Базыль, брат Трахіма, 20 г.; Юзаф, унук Бенядзікта, 5 г.; Ян, унук Бенядзікта, 3 г.; Канстанцыя, жонка Трахіма, 32 г.; Мар'яна, дачка Канстанцыі, 8 г.; Людавіка, маці Трахіма, 51 г.

23. Пётр Шуплюк, 33 г.; Ян сын Пятра, 2 г.; Адам Губарэвіч, 69 г.; Анна, жонка Пятра, 27 г.; Агата, дачка Пятра, 14 г.

24. Юзаф Зыткевіч, 39 г.; Сымон, сын Юзафа, 8 г.; Пракседа, жонка Юзафа, 37 г.; Анна, дачка Юзафа, 15 г.; Феліцыя, дачка Юзафа, 15 г.; Канстанцыя, сястра Пракседы, 30 г.

25. Мікалай Савашынскі, 39 г.; Фелікс, сын Мікалая, 8 г.

26. Мікалай Шэршань, 43 г.; Павел, сын Мікалая, 15 г.; Пётр, сын Мікалая, 9 г.; Анна, жонка Мікалая, Антаніна, дачка Мікалая, 16 г.

27. Пётр Андрушкевіч, 49 г.; Ян, сын Пятра, 29 г.; Базыль, сын Пятра, 17 г.; Гжэгаш, 5 г.; Мар'яна, жонка Пятра, 45 г.; Петранеля, 27 г.; Тэадора, дачка Пятра, 14 г.; Мар'яна, дачка Яна, 1 г.

**Вёска Крупец Яснавяльможнага пана графа Рудольфа Тызенгаўза, дзедзіча.**

1. Амяльян Крупіца, 43 г.; Базыль Біндзюк, 15 г.; Гелена, жонка Амяльяна, 39 г.; Анастасія, маці Амяльяна, 81 г.; Анна, дачка Амяльяна, 13 Анастасія, маці Амяльяна, 81 г.; Кацярына, дачка Амяльяна, 11 г.; Тэадора, дачка Амяльяна, 9 г.

2. Стэфан Крупіца, 29 г.; Тэадор, брат Стэфана, 26 г.; Марцэля Крупец, удава, 54 г.; Альжбета, жонка Стэфана, 27 г.; Юльяна, сястра Стэфана, 27 г.; Юльяна, сястра Стэфана, 17 г.; Мар'яна, дачка Стэфана, 2 г.; Анна, жонка Тэадора, 18 г.

3. Гжэгаш Крупіца, 51 г.; Кандрат, сын Гжэгаша, 27 г.; Андрэй, сын Гжэгаша, 19 г.; Сымон, сын Гжэгаша, 7 г.; Апалонія, жонка Гжэгаша, 47 г.; Мар'яна, жонка Кандрата, 21 г.; Мар'яна, дачка Гжэгаша, 17 г.; Тэадора, дачка Гжэгаша, 14 г.; Тэкля, дачка Гжэгаша, 9 г.; Пракседа, дачка Кандрата, 9 г.

4. Трахім Крупіца, 29 г.; Раман, брат Трахіма, 24 г.; Антон, брат Трахіма, 16 г.; Эльяш, брат Трахіма, 9 г.; Вікторыя Крупіца, удава, 54 г.; Мар'яна, сястра Трахіма, 14 г.; Мар'яна, жонка Трахіма, 26 г.; Мар'яна, жонка Рамана, 22 г.; Анастасія, жачка Рамана, 2 г.

5. Стэфан Крупіца, 65 г.; Базыль, сын Стэфана, 42 г.; Ян, сын Базыля, 9 г.; Мар'яна, жонка Базыля, 39 г.; Альжбета, дачка Базыля, 6 г.

6. Юзаф Крупіца, 65 г.; Ежы, сын Юзафа, 24 г.; Леан, сын Юзафа, 8 г.; Еўпрасія, жонка Юзафа, 62 г.; Анна, жонка Ежы, 22 г.

7. Себасцян Крупіца, 26 г.; Агрыпа Крупіца, удава, 49 г.; Мар'яна, жонка Себасцяна, 25 г.; Тэкля, сястра Себасцяна, 13 г.; Тэадора, сястра Себасцяна, 10 г.; Мар'яна, дачка Себасцяна, 2 г.

8. Гжэгаш Крупіца, 41 г.; Стэфан, сын Гжэгаша, 12 г.; Міхал, брат Гжэгаша, 29 г.; Данель, сын Гжэгаша, 9 г.; Малгажата, жонка Гжэгаша, 33 г.; Разалія, жонка Міхала, 27 г.

9. Гжэгаш Крупіца, 25 г.; Данель, швагер Гжэгаша, 11 г.; Агата Мармыш, удава, 49 г.; Пракседа, жонка Гжэгаша, 20 г.; Мар'яна, швагерка Гжэгаша, 15 г.; Мар'яна, цётка

Гжэгаша, 41 г.;

10. Леан Крупіца, 56 г.; Балтрамей, сын Леана, 27 г.; Гжэгаш, сын Леана, 20 г.; Мар'яна, жонка Леана, 51 г.; Мар'яна, жонка Балтрамея, 29 г.; Агата, дачка Леана, 18 г.; Тэкля, дачка Леана, 16 г.; Таццяна, дачка Леана, 9 г.; Юстына, дачка Балтрамея, 4 г.

**Вёска Маскалі Яснавяльможнага пана графа Рудольфа Тызенгаўза, дзедзіча.**

1. Аляксандр Якімовіч, 37 г.; Тэадор, брат Аляксандра, 22 г.; Ігнат, сын Аляксандра, 13 г.; Андрэй, сын Аляксандра, 9 г.; Дзмітрый, сын Аляксандра, 5 г.; Дзмітрый, сын Тэадора, 1 г.; Крысціна, маці Аляксандра, 60 г.; Анастасія, жонка Аляксандра, 32 г.; Тэадора, жонка Тэадора, 20 г.; Мар'яна, дачка Аляксандра, 7 г.

2. Ян Мармыш, 49 г.; Аляксандр, сын Яна, 14 г.; Базыль, сын Яна, 12 г.; Барбара, жонка Яна, 40 г.; Магдалена, дачка Яна, 10 г.; Дамініка, дачка Яна, 6 г.

3. Тэадор Якімовіч, 56 г.; Гжэгаш, сын Тэадора, 29 г.; Марцін, сын Тэадора, 14 г.; Ігнат, сын Тэадора, 7 г.; Андрэй, сын Гжэгаша, 8 г.; Базыль, сын Гжэгаша, 5 г.; Анна, жонка Тэадора, 49 г.; Еўдакія, жонка Гжэгаша, 28 г.; Мар'яна, дачка Тэадора, 18 г.; Еўпрасіня, дачка Тэадора, 15 г.; Пракседа, дачка Гжэгаша, 7 г.; Мар'яна, дачка Гжэгаша, 14 г.

4. Антон Якімовіч, 69 г.; Марцін, сын Антона, 21 г.; Тэадор, сын Антона, 18 г.; Дамінік, сын Антона, 9 г.; Магдалена, жонка Антона, 58 г.; Тэадора, дачка Антона, 19 г.

5. Леан Якімовіч, 26 г.; Стэфан, брат Леана, 20 г.; Мацей, брат Леана, 16 г.; Мікалай, брат Леана, 7 г.; Пракседа, маці Леана, 46 г.; Пракседа, сястра Леана, 9 г.

6. Ануфрый Якімовіч, 39 г.; Павел пляменнік Ануфрыя, 24 г.; Міхал, сын Ануфрыя, 9 г.; Барбара, жонка Ануфрыя, 23 г.; Анна, сястра Ануфрыя, 44 г.

7. Аляксандр Гейкал (?), 67 г.; Францішак, сын Аляксандра, 40 г.; Ян, сын Францішка, 5 г.; Базыль, сын Францішка, 5 г.; Юльяна, жонка Аляксандра, 69 г.; Ексня, жонка Францішка, 36 г.; Мар'яна, дачка Аляксандра, 23 г.

8. Гжэгаш Буклага, 72 г.; Міхал, сын Гжэгаша, 42 г.; Ян, брат Гжэгаша, 42 г.; Стэфан, сын Яна, 18 г.; Анна, жонка Міхала, 29 г.; Юстына, жонка Яна, 32 г.; Мар'яна, жонка Стэфана, 18 г.; Пракседа, дачка Міхала, 12 г.; Анна, дачка Яна, 8 г.; Аксіня, дачка Яна, 2 г.; Крысціна Палячкевіч, 50 г.

9. Пётр Буклага, 50 г.; Тэадор, брат Пятра, 65 г.; Марцін, сын Пятра, 8 г.; Міхал, сын Пятра, 5 г.; Мар'яна, дачка Пятра, 19 г.; Пракседа, дачка Пятра, 14 г.; Антаніна, дачка Пятра, 11 г.

10. Эльяш Буклага, 37 г.; Міхал Мармыш, 16 г.; Пракседа, жонка Эльяша, 28 г.; Еўдакіня, сястра Эльяша, 23 г.; Юзэфа, дачка Эльяша, 7 г.

11. Андрэй Мармыш, 61 г.; Кандрат, сын Андрэя, 29 г.; Стэфан, сын Андрэя, 26 г.; Андрэй, сын Андрэя, 22 г.; Магдалена, жонка Андрэя, 55 г.; Анна, дачка Андрэя, 8 г.; Апалонія, жонка Стэфана, 22 г.; Тэадора, жонка Кандрата, 21 г.

12. Леан Мармыш, 54 г.; Юзаф, сын Леана, 29 г.; Андрэй, сын Леана, 11 г.; Сымон, сын Леана, 6 г.; Крысціна, жонка Леана, 49 г.; Апалонія, дачка Леана, 12 г.

13. Тэадор Мармыш, 29 г.; Тадэвуш, 29 г.; Тадэвуш, брат Тэадора, 23 г.; Юзаф, сын Тэадора, 9 г.; Пракседа, жонка Тэадора, 27 г.; Мар'яна, маці Тэадора, 53 г.; Гэлена, жонка Тадэвуша, 21 г.

14. Мікалай Мармыш, 44 г.; Мікалай, сын Мікалая, 17 г.; Анна, жонка Мікалая, 34 г.; Кацярына, дачка Мікалая, 20 г.; Мар'яна, дачка Мікалая, 8 г.

15. Язафат Мармыш, 47 г.; Гжэгаш, сын Язафата, 21 г.; Станіслаў, сын Язафата, 18 г.; Тамаш, сын Язафата, 19 г.; Агата, жонка Язафата, 39 г.; Юльяна, дачка Язафата, 7 г.; Мар'яна, жонка Гжэгаша, 18 г.;

16. Мікалай Мармыш, 57 г.; Яўхім, сын Мікалая, 23 г.; Ян, сын Мікалая, 16 г.; Кандрат, брат Мікалая, 48 г.; Базыль, сын Марціна Мармыша, 16 г.; Мікалай, сын Марціна, 7 г.; Анастасія, жонка Мікалая, 45 г.; Мар'яна, удава Мармыша, 41 г.; Анна, жонка Кандрата, 32 г.; Тэрэза, дачка Мар'яны, 9 г.; Пракседа, дачка Мар'яны, 6 г.; Анастасія, дачка Мікалая, 16 г.; Еўпраксіня, дачка Мікалая, 6 г.; Мар'яна, дачка Кандрата, 7 г.; Юльяна, жонка Яўхіма, 18 г.

**Вёска Шасцілы Яснавяльможнага пана графа Рудольфа Тызенгаўза, дзедзіча.**

1. Ян Міцкевіч, 70 г.; Адам, сын Яна, 27 г.; Юзаф, сын Адама, 6 г.; Пётр, сын Адама, 4 г.; Ян, сын Адама, 8 г.; Францішка, жонка Яна, 65 г.; Анна, жонка Адама, 33 г.; Францішка, дачка Яна, 19 г.; Ева, цёшча Яна, 87 г.; Барбара, швагерка Яна, 43 г.

2. Міхал Гарбачэўскі, 35 г.; Ян, сын Міхала, 7 г.; Гжэгаш, сын Альжбеты, 16 г.; Тарас Міцкевіч, 29 г.; Ян, сын Тараса, 1 г.; Даруся, жонка Міхала, 31 г.; Альжбета Карпук, удава, 47 г.; Тэкля, жонка Тараса, 27 г.; Анна, дачка Тараса, 2 г.

3. Пётр Гарбацэвіч, 54 г.; Мікалай, сын Пятра, 21 г.; Якуб, брат Пятра, 41 г.; Юзаф, сын Якуба, 3 г.;Марцін, сын Якуба, 10 г.; Ян, сын Якуба; Еўдакія, жонка Пятра, 51 г.; Мар'яна, маці Пятра, 41 г.; Гелена, жонка Якуба, 39 г.; Тэадора, сястра Пятра, 51 г.; Еўдакія, дачка Пятра, 12 г.; Мар'яна, дачка Пятра, 19 г.; Еўдакія, сястра Пятра, 45 г.; Леанора, дачка Якуба.

4. Філіп Крупіца, 54 г.; Ян, брат Філіпа, 41 г.; Данель, сын Яна, 20 г.; Аляксандр, сын Яна, 12 г.; Ян, сын Філіпа, 5 г.; Гжэгаш, сын Яна, 8 г.

5. Тэадор Ганчарук, 40 г.; Леан, сын Сцяпана Ганчарука, 21 г.; Сымон, сын Сцяпана, 15 г.; Ян, сын Тэадора, 10 г.; Ігнат, сын Тэадора, 1 г.; Агата, жонка Тэадора, 33 г.; Анна, дачка Сцяпана, 23 г.; Францішка, дачка Сцяпана, 15 г.; Тэкля, дачка Тэадора, 14 г.;

6. Адам Ганчарук, 35 г.; Марка, брат Адама, 31 г.; Базыль, сын Марка, 9 г.; Лукаш, сын Адама, 9 г.; Антаніна, жонка Адама, 33 г.; Юльяна, жонка Марка, 29 г.; Еўдакія ..., 17 г.; Мар'яна, дачка Адама, 13 г.; Мар'яна, дачка Марка, 13 г.; Анна, дачка Марка, 6 г.

7. Максім Замойда, 51 г.; Трахім Макей, 24 г.; Матрона, жонка Максіма, 48 г.; Анна, дачка Максіма, 19 г.; Таццяна Парфяновіч, 59 г.; Мар'яна, дачка Таццяны, 16 г.; Анна, дачка Максіма, 17 г.; Еўпраксіня Макей, удава, 53 г.; Пракседа, жонка Трахіма, 19 г.; Малгажата, дачка Трахіма, 2 г.; Мар'яна, дачка Максіма, 13 г.

8. Якуб Карпук, 61 г.; Мікалай, сын Якуба, 21 г.; Марка, сын Якуба, 17 г.; Ян, брат Якуба, 45 г.; Базыль, сын Яна, 6 г.; Тамаш, сын Яна, 9 г.; Юзаф, сын Якуба, 13 г.; Стэфан, сын Якуба, 10 г.; Анна, жонка Якуба, 45 г.; Мар'яна, жонка Яна, 40 г.; Крысціна, жонка Мікалая, 20 г.

9. Сымон Замойда, 19 г.; Самуэль, брат Сымона, 17 г.; Марцін, дзядзька Сымона, 44 г.; Ян, сын Марціна, 1 г.; Мікалай, сын Сымона, 1 г.; Мар'яна Замойда, удава, 42 г.; Зоф'я, жонка Марціна, 34 г.; Наталюся, сястра Сымона, 5 г.; Мар'яна, сястра Сымона, 8 г.; Пелагія, жонка Сымона, 20 г.

10. Стэфан Карпук, 77 г.; Якуб, сын Стэфана, 54 г.; Міхал, сын Якуба, 14 г.; Тэадор, сын Стэфана, 40 г.; Гжэгаш, сын Якуба, 17 г.; Тэкля, жонка Стэфана, 75 г.; Юстына, жонка Якуба, 50 г.; Гелена, жонка Тэадора, 21 г.; Пракседа, дачка Якуба, 10 г.; Анна, дачка Якуба, 3 г.

11. Ян Карпук, 45 г.; Бенядзікт, брат Яна, 31 г.; Марцін, сын Яна, 19 г.; Антон, сын Бенядзікта, 4 г.; Магдалена, жонка Яна, 40 г.; Альжбета, жонка Бенядзікта, 29 г.; Пелагея, маці Яна, 63 г.; Наталюся, дачка Яна, 18 г.; Гэлена, дачка Яна, 10 г.

12. Тарас Жамойда, 54 г.; Тэадор, брат Тараса, 48 г.; Ісідор, сын Тараса, 18 г.; Юзаф, сын Тараса, 14 г.; Разалія,

жонка Тараса, 27 г.; Анастасія, жонка Тэадора, 35 г.; Мар'яна, дачка Тэадора, 14 г.; Анна, дачка Тараса, 9 г.; Таццяна, дачка Тэадора, 7 г.

13. Станіслаў Крупіца, 30 г.; Тэадор, сын Станіслава, 8 г.; Ян Замойда, швагер, 21 г.; Павел, сын Станіслава, 4 г.; Францішка, цёшча Станіслава, 59 г.; Мар'яна, жонка Станіслава, 28 г.

14. Андрэй Міцкевіч, 51 г.; Сымон Адамкевіч, 20 г.; Пётр, сын Андрэя, 13 г.; Францішка, дачка Андрэя, 16 г.; Марыя, жонка брата Андрэя, 57 г.; Пракседа, дачка Андрэя, 9 г.

15. Вінцэнт Міцкевіч, 31 г.; Пракоп, сын Вінцэнта, 4 г.; Барабара, жонка Вінцэнта, 30 г.; Анна, сястра Вінцэнта, 20 г.; Анастасія, дачка Вінцэнта, 8 г.

16. Павел Крупіца, 35 г.; Юзаф, сын Сымона Крупіцы, 9 г.; Якуб, сын Паўла, 15 г.; Бенядзікт Міцкевіч, 56 г.; Мар'яна, маці Паўла, 61 г.; Анна, жонка Паўла, 33 г.; Еўдакія Крупіца, удава, 29 г.; Клара, дачка Сымона Крупіцы, 19 г.

17. Стэфан Рышкевіч, 56 г.; Трахім, сын Стэфана, 28 г.; ,Юзаф, сын Стэфана, 21 г.; Анаф'я, жонка Стэфана, 49 г.; Аксіня, жонка Трахіма, 27 г.; Кацярына, жонка Юзафа, 18 г.; Гэлена, дачка Стэфана, 11 г.; Зоф'я Маскаль, 18 г.

**Вёска Стукалы Яснавяльможнага пана графа Рудольфа Тызенгаўза, дзедзіча.**

1. Стэфан Паляшэвіч, 32 г.; Пётр, сын Стэфана, 9 г.; Стэфан, сын Стэфана, 6 г.; Анастасія, жонка Стэфана, 30 г.; Анна, дачка Стэфана, 4 г.; Мар'яна, сястра Стэфана, 18 г.

2. Антон Парфяновіч, 62 г.; Юзаф, сын Антона, 31 г.; Максім, сын Антона, 24 г.; Дзям'ян, сын Антона, 16 г.; Мар'яна, жонка Антона, 52 г.; Тэрэза, жонка Юзафа, 27 г.; Кацярына, жонка Максіма, 20 г.; Анастасія, дачка Антона, 18 г.; Пелагея, дачка Антона, 10 г.

3. Міхал Парфяновіч, 44 г.; Ігнат, сын Міхала, 16 г.; Стэфан, сын Міхала, 9 г.; Магдалена, жонка Міхала, 41 г.; Барбара, дачка Міхала, 11 г.; Таццяна, цёшча Міхала, 60 г.

4. Тамаш Парфяновіч, 56 г.; Ян, сын Тамаша, 5 г.; Стэфан, сын Тамаша, 29 г.; Адам, сын Тамаша, 19 г.; Павел, сын Стэфана, 2 г.; Гжэгаш, сын Адама; Агата, жонка Тамаша, 41 г.; Кацярына, дачка Тамаша, 9 г.; Крысціна, жонка Стэфана, 20 г.; Агаф'я, жонка Адама, 25 г.; Пракседа, дачка Тамаша, 7 г.; Альжбета, дачка Тамаша, 3 г.

5. Стэфан Сухоцкі, 69 г.; Юзаф Паляшэвіч, 47 г.; Павел, сын Стэфана, 33 г.; Марцін, сын Юзафа, 19 г.; Дамінік, сын Юзафа, 16 г.; Гжэгаш, сын Юзафа, 13 г.; Тэадор, сын Паўла, 4 г.; Тэадора, жонка Стэфана, 59 г.; Пракседа, жонка Юзафа, 41 г.; Канстанцыя, жонка Паўла, 29 г.; Анна, дачка Юзафа, 11 г.; Пракседа, дачка Паўла, 6 г.; Анна, дачка Паўла, 1 г.

6. Мікалай Панасевіч, 57 г.; Аляксандр, сын Мікалая, 33 г.; Ігнат, сын Мікалая, 9 г.; Сцяпан, сын Аляксандра, 7 г.; Мар'яна, жонка Мікалая, 53 г.; Пракседа, жонка Аляксандра, 29 г.; Апалонія, дачка Мікалая, 17 г.; Мар'яна, дачка Мікалая, 6 г.; Магдалена, дачка Аляксандра, 4 г.; Мар'яна, дачка Аляксандра, 2 г.

7. Гіеранім Паляшэвіч, 71 г.; Мікалай, сын Гіераніма, 25 г.; Гжэгаш, сын Гіераніма, 20 г.; Мар'яна, жонка Гіераніма, 61г.; Анастасія, жонка Мікалая, 21 г.

8. Пётр Дэйкала, 62 г.; Антон, сын Пятра, 33 г.; Ян, сын Антона, 3 г.; Мар'яна, жонка Пятра, 39 г.; Анна, жонка Антона, 31 г.; Юльяна, дачка Пятра, 9 г.; Юзэфа, дачка Пятра, 2 г.; Кацярана Чучуда, 21 г.; Анастасія, дачка Антона, 6 г.; Мар'яна, дачка Антона, 3 г.

9. Пракоп Юхоцкі, 81 г.; Міхал, сын Пракопа, 51 г.; Тамаш, сын Пракопа, 21 г.; Ян, сын Міхала, 9 г.; Марка, сын Міхала, 7, Ігнат, сын Тамаша, 1 г.; Анастасія, жонка Пракопа, 71 г.; Магдалена, жонка Міхала, 41 г.; Анна, жонка Тамаша, 21 г.; Анна, дачка Міхала, 21 г.;

10. Павел Басалыга, 61 г.; Гжэгаш Парфяновіч, 12 г.; Феліцыяна, жонка Паўла, 57 г.; Анна, дачка Паўла, 31 г.

11. Дамінік Басалыга, 41 г.; Максім, брат Дамініка, 33 г.; Адам, сын Максіма, 14 г.; Гіеранім, сын Дамініка, 5 г.; Якім, сын Максіма, 5 г.; Петранела, жонка Дамініка, 40 г.; Пракседа, жонка Максіма, 29 г.; Зоф'я, дачка Максіма, 4 г.; Петранела, дачка Дамініка, 6 г.; Кацярына, дачка Максіма, 2 г.

12. Мікалай Парфяновіч, 42 г.; Андрэй, сын Мікалая, 4 г.; Давід Сухоцкі, зяць, 21 г.; Еўдакія, жонка Мікалая, 30 г.; Антаніна, жонка Давіда, 26 г.; Петранела, дачка Мікалая, 10 г.; Пракседа, дачка Мікалая, 8 г.

13. Андрэй Саўчук, 32 г.; Тэадор, брат Андрэя, 24 г.; Міхал, брат Андрэя, 17 г.; Сымон, сын Андрэя, 10 г.; Стэфан, брат Андрэя, 15 г.; Ян, сын Андрэя; Еўдакія, жонка Андрэя, 28 г.; Мар'яна, дачка Андрэя, 10 г.; Пракседа, дачка Андрэя, 4 г.; Гэлена, дачка Андрэя, 2 г.

14. Стэфан Парфяновіч, 61 г.; Сымон, сын Стэфана, 27 г.; Пётр Парфяновіч, 25 г.; Кандрат, сын Стэфана, 12 г.; Гжэгаш, сын Тэадора, 6 г.; Анастасія, жонка Стэфана, 52 г.; Аляксандра, дачка Стэфана, 21 г.; Юстына, дачка Стэфана, 15 г.; Кацярына, дачка Тэадора, 4 г.; Францішка, дачка Тэадора, 9 г.; Мар'яна, дачка Тэадора Парфяновіча, 2 г.

15. Леон Саўчук, 60 г.; Гжэгаш, сын Леона, 27 г.; Антон, сын Леона, 11 г.; Ян, сын Гжэгаша, 3 г.; Еўфрасіня, жонка Леона, 57 г.; Анеля, жонка Гжэгаша, 25 г.; Кацярына, дачка Леона, 9 г.; Агаф'я, дачка Гжэгаша, 1 г.

16. Давід Гардзяеўскі, 60 г.; Ян, сын Давіда, 19 г.; Леон, сын Давіда, 15 г.; Андрэй, сын Давіда, 1 г.; Гжэгаш, сын Давіда, 1 г.; Пракседа, жонка Давіда, 51 г.; Кацярына Гардзяеўская, удава, 29 г.; Анна, дачка Давіда, 10 г.; Анастасія, дачка Кацярыны, 11 г.; Анеля, дачка Кацярыны, 9 г.; Тэкля, жонка Яна, 19 г.

17. Самсон Парфяновіч, 44 г.; Андрэй, брат Самсона, 32 г.; Юзаф, сын Самсона, 9 г.; Ігнат, сын Андрэя, 8 г.; Сымон Чучуда, зяць Яна, 22 г.; Юзаф, сын Сымона, 1 г.; Мар'яна, жонка Самсона, 39 г.; Тарэза Парфяновіч, удава, 72 г.; Еўфрасіня, жонка Андрэя, 29 г.; Кацярына, жонка Сымона, 19 г.; Пракседа, дачка Самсона, 11 г.; Кацярына, дачка Самсона, 1 г.;

18. Павел Гардзяеўскі, 41 г.; Базыль, сын Паўла, 19 г.; Філіп, брат Паўла, 31 г.; Ісідор, брат Паўла, 24 г.; Якуб, сын Паўла, 7 г.; Ян, сын Філіпа, 3 г.; Гжэгаш, сын Паўла, 2 г.; Пелагея, жонка Паўла, 39 г.; Анна, дачка Паўла, 14 г.; Разалія, жонка Філіпа, 27 г.; Анастасія, дачка Паўла, 12 г.; Кацярына, дачка Паўла, 3 г.; Анна, дачка Філіпа, 1 г.

19. Марцін Сухоцкі, 39 г.; Тэадор, брат Марціна, 29 г.; Давід, брат Марціна, 19 г.; Марка Карпук, пляменнік, 15 г.; Агата, жонка Марціна, 33 г.; Мар'яна, жонка Тэадора, 29 г.; Аляксандра, сястра Марціна, 17 г.; Анна, дачка Марціна, 14 г.; Аксіня, маці Марціна, 59 г.; Анастасія, дачка Тэадора, 6 г.

20. Мікалай Саўчук, 31 г.; Сымон, сын Мікалая, 9 г.; Тэадор, сын Мікалая, 6 г.; Ігнат, сын Мікалая, 1 г.; Юльяна, жонка Мікалая, 29 г.; Мар'яна, дачка Мікалая, 3 г.

21. Аляксандр Панасевіч, 67 г.; Кандрат, сын Аляксандра, 33 г.; Ян, сын Аляксандра, 31 г.; Андрэй, сын Кандрата, 9 г.; Ян, сын Яна, 5 г.; Тэадор, сын Кандрата, 14 г.; Мар'яна, жонка Аляксандра, 64 г.; Пракседа, жонка Кандрата, 36 г.; Таццяна, жонка Яна, 25 г.; Анастасія, дачка Кандрата, 13 г.; Мар'яна, дачка Яна, 9 г.

22. Тэадор Кароль, 9 г.; Ежы, брат Тэадора, 7 г.; Антон, брат Тэадора; Мар'яна, маці Тэадора, ўдава, 48 г.;

23. Ян Парфяновіч, 57 г.; Базыль, сын Яна, 29 г.; Ян, сын Яна, 25 г.; Ян, сын Базыля, 1г.; Анна, жонка Яна, 53 г.; Юльяна, жонка Базыля, 28 г.; Анна, жонка Яна, 23 г.; Агаф'я, дачка Яна, 9 г.; Анастасія, дачка Яна, 6 г.

**Вёска Голубы Яснавяльможнага пана графа Рудольфа Тызенгаўза, дзедзіча.**

1. Гжэгаш Бявуцкі, 71 г.; Гжэгаш, сын Гжэгаша, 35 г.; Стэфан, сын Гжэгаша, 22 г.; Ян, сын Гжэгаша, 16 г.; Ігнат, унук Гжэгаша, 8 г.; Анастасія, жонка Гжэгаша, 46 г.; Анастасія, прыёмная дачка Гжэгаша, 16 г.; Анастасія, дачка Гжэгаша, 9 г.; Мар'яна, дачка Гжэгаша, 7 г.

2. Гжэгаш Будзіловіч, 47 г.; Вінцэнт, сын Гжэгаша, 17 г.; Андрэй, сын Гжэгаша, 8 г.; Агаф'я, жонка Гжэгаша, 45 г.

3. Сымон Някрэвіч, 57 г.; Ігнат, сын Сымона, 35 г.; Яўхім, сын Сымона, 20 г.; Ігнат, сын Ігната, 1 г.; Анна, жонка Сымона, 49 г.; Анна, жонка Ігната, 33 г.; Канстанцыя, дачка Сымона, 27 г.; Антаніна, дачка Сымона, 14 г.; Анна, дачка Ігната, 3 г.

4. Тэадор Саўчук, 24 г.; мужчыны лацінскага абраду; Анастасія, жонка Гядрэвіча, 42 г.; Мар'яна, дачка Гжэгаша Гядрэвіча, 15 г.; Еўпрасіня, жонка Даменіка Гядрэвіча, 61 г.; Мар'яна, жонка Андрэя Гядрэвіча, 59 г.; Анастасія, жонка Базыля Гядрэвіча, 35 г.; Антаніна, дачка Базыля Гядрэвіча, 9 г.; Антаніна, дачка Гжэгаша, 8 г.; Разалія, ... 19 г.; Тэкля, жонка Тэадора, 20 г.

5. Стэфан Шаркоўскі, 29 г.; Ігнат, брат Стэфана, 19 г.; Тамаш, брат Стэфана, 15 г.; Тэадора, жонка Стэфана, 20 г.

6. Дамінік Савашынскі, 29 г.; Міхал, брат Даменіка, 26 г.; Анна, сястра Даменіка, 24 г.; Леанора, сястра Даменіка, 21 г.; Анастасія, сястра Даменіка, 9 г.; Марцэля, сястра Даменіка, 6 г.

7. Ян Буйніцкі, 59 г.; Дамінік, сын Яна, 31 г.; Ян, сын Яна, 9 г.; Ігнат, сын Даменіка, 4 г.; Гжэгаш, сын Даменіка, 1 г.; Ежы Будзяловіч; Анеля, жонка Даменіка, 29 г.; Кацярына, дачка Даменіка, 9 г.; Анна, дачка Даменіка, 3 г.

8. Ян Майса, 49 г.; Юзаф, сын Яна, 24 г.; Сымон Майса, 22 г.; Агата, жонка Яна, 45 г.; Кацярына, пляменніца Яна, 29 г.; Агата Майса, удава, 56 г.; Мар'яна Мармыш ... 39 г.; Альжбета, дачка Мар'яны, 19 г.; Крысціна ... 39 г.; Гэлена Паўлоўская, 26 г.; Пракседа Шэршань, 19 г.; Альжбета, дачка Яна Рышкевіча, 18 г.; Анна, дачка Яна Рышкевіча, 15 г.; Караліна, дачка Яна, 12 г.

**Вёска Ярчакі Яснавяльможнага пана графа Рудольфа Тызенгаўза, дзедзіча.**

1. Павел Майса, 74 г.; Ян, сын Паўла, 43 г.; Эльяш, сын Паўла, 29 г.; Андрэй, сын Яна, 4 г.; Ян, сын Эльяша, 2 г.; Антаніна, дачка Яна, 15 г.; Анна, жонка Эльяша, 22 г.

2. Антон Крупіца, 45 г.; Ян, сын Антона, 9 г.; Вінцэнт Будзіловіч, 26 г.; Эльяш, сын Вінцэнт, 3 г.; Мар'яна Валяркевіч, 45 г.; Альжбета, дачка Мар'яны, 19 г.; Анна, жонка ..., 19 г.

3. Тадэвуш Крупіца, 39 г.; Вінцэнт, брат Тадэвуша, 30 г.; Міхал, брат Тадэвуша, 27 г.; Юзаф, сын Тадэвуша, 19 г.; Юзаф, брат Тадэвуша, 21 г.; Юзаф,сын Міхала, 2 г.; жанчыны рымскага абраду.

4. Пётр Альшэўскі, 63 г.; Міхал, сын Пятра, 29 г.; Ян, сын Міхала, 6 г.; Анеля, жонка Міхала, 21 г.; Канстанцыя Бяроўская, 81 г.; Мар'яна, дачка Канстанцыі, 5 г.; Антаніна, дачка Пятра, 27 г.; Мар'яна, дачка Пятра, 19 г.; Мар'яна Някровіч, удава, 27 г.; Агата Марымыш, 31 г.; Мар'яна, дачка Агаты, 4 г.

**Вёска Дзям'янаўцы Яснавяльможнага пана графа Рудольфа Тызенгаўза, дзедзіча.**

1. Амельян Малышка, 41 г.; Раман Крупіца, 29 г.; Разалія, жонка Амельяна, 30 г.; Петранела, жонка Рамана, 21 г.

2. Бенядзікт Шымановіч, 45 г.; Базыль, брат Бенядзікта, 41 г.; Стэфан, сын Бенядзікта, 16 г.; Сымон, сын Базыля, 3 г.; Крысціна, маці Бенядзікта, 89 г.; Анна, жонка Бенядзікта, 39 г.; Тэадора, дачка Бенядзікта, 14 г.; Магдалена, дачка Бенядзікта, 8 г.; Антаніна, жонка Базыля, 31 г.; Анна, дачка Базыля, 9 г.; Мар'яна, дачка Базыля, 4 г.

3. Базыль Крупіца, 57 г.; Юзаф, сын Базыля, 29 г.; Сымон, сын Базыля, 16 г.; Пракоп, сын Базыля, 9 г.; Міхал, сын Базыля, 3 г.; Мар'яна, жонка Базыля, 45 г.; Анастасія, маці Базыля, 70 г.; Антаніна, дачка Базыля, 19 г.; Тэкля, дачка Базыля, 39 г.; Мар'яна, дачка Базыля, 12 г.

4. Юзаф Сухоцкі, 52 г.; Сымон, сын Юзафа, 19 г.; Міхал, сын Юзафа, 10 г.; Антон, сын Юзафа, 7 г.; Ян Гарачка, зяць Юзафа, 46 г.; Сымон, сын Яна, 6 г.; Тэадора, жонка Юзафа, 43 г.; Мар'яна, маці Юзафа, 89 г.; Рэгіна, жонка Яна, 29 г.

5. Ян Пашкевіч, 34 г.; Якуб Яловіч, 39 г.; Мар'яна, жонка Яна, 27 г.; Магдалена, жонка Якуба, 33 г.; Гэлена, дачка Якуба, 4 г.

6. Раман Зайнчкоўскі, 42 г.; Ануфрый, сын Рамана, 14 г.; Аляксандр, сын Рамана, 8 г.; Міхал Малышка, 28 г.; Анастасія, жонка Рамана, 39 г.; Альжбета, дачка Рамана, 19 г.; Рэгіна, дачка Рамана, 8 г.; Мар'яна, дачка Рамана, 12 г.

7. Ян Касько, 51 г.; Аляксандр, сын Яна, 17 г.; Ануфрый, брат Яна, 39 г.; Адам, сын Ануфрыя, 9 г.; Мацей, сын Яна, 6 г.; Рэгіна, жонка Яна, 49 г.; Еўдакія, дачка Яна, 19 г.; Магдалена, дачка Яна, 15 г.; Анна, дачка Яна, 8 г.; Мар'яна, дачка Яна, 9 г.; Анна, жонка Ануфрыя, 29 г.; Анна, дачка Ануфрыя, 3 г.

8. Стэфан Шымановіч, 30 г.; Мацей, сын Стэфана, 35 г.; Антон, сын Стэфана, 24 г.; Агата, жонка Стэфана, 77 г.; Анастасія, жонка Мацея, 33 г.; Анна Шымановіч, 27 г.

9. Максім Казак, 36 г.; Ян, брат Максіма, 31 г.; Гжэгаш Сухоцкі, зяць, 31 г.; Максім, брат Яна, 5 г.; Юстына, жонка Максіма, 54 г.; Агата, жонка Яна, 29 г.; Анна, жонка Гжэгаша, 28 г.; Гелена, дачка Максіма, 17 г.; Анастасія, дачка Гжэгаша, 11 г.; Магдалена, дачка Гжэгаша, 4 г.

10. Бенядзікт Філідовіч, 35 г.; Антон, швагер Бенядзікта, 19 г.; Адам, сын Бенядзікта, 16 г.; Леанора, жонка Бенядзікта, 38 г.

11. Дамінік Кічак, 51 г.; Тэадор, сын Даменіка, 27 г.; Тамаш, сын Даменіка, 17 г.; Ядвіга, жонка Даменіка, 45 г.; Барбара, жонка Тэадора, 26 г.; Анеля, дачка Даменіка, 19 г.

12. Павел Пацына, 81 г.; Бенядзікт, сын Анастасіі, 19 г.; Ян, сын Анастасіі, 17 г.; Анастасія ... 41 г.; Пелагея, дачка Анастасіі, 8 г.; Агата, дачка Анастасіі, 6 г.

13. Ян Васько, 30 г.; Себасцян, брат Яна, Анастасія, маці Яна, 45 г.; Францішка, сястра Яна, 18 г.

14. Якуб Орсік, 54 г.; Сымон, брат Якуба, 39 г.; Леон, сын Якуба, 16 г.; Стэфан Крупіца, пасынак, 24 г.; Еўдакія, жонка Якуба, 42 г.; Кацярына, жонка Сымона, 39 г.; Паўліна, дачка Якуба, 39 г.

15. Якуб Марук, 41 г.; Ян, сын Якуба, 14 г.; Ежы Шымановіч, швагер, 31 г.; Мацей Шымановіч, брат Ежы, 25 г.; Сымон, сын Ежы, 2 г.; Тэадор, сын Юзафа, 2 г.; Крысціна, цешча Юзафа, 69 г.; Францішка, жонка Юзафа, 39 г.; Магдалена, жонка Ежы, 25 г.; Анна, дачка Юзафа, 19 г.; Анастасія, дачка Юзафа; Зоф'я, дачка Ежы.

16. Ян Малышка, 46 г.; Юзаф, сын Яна, 16 г.; Гжэгаш, сын Яна, 8 г.; Вінцэнт, сын Яна, 5 г.; Станіслаў, сын Яна, 1 г.; Антон Базун, служка, 23 г.; Кацярына, жонка Яна, 45 г.; Аляксандра, маці Яна, 71 г.; Леанора, дачка Яна, 3 г.

17. Сымон Марук, 51 г.; Ян Будзялевіч, 20 г.; Станіслаў Абрамовіч, 51 г.; Казімір, брат Станіслава, 59 г.; Тэадора, жонка Сымона, 41 г.; Тацццяна, жонка Яна, 20 г.; Агата, маці Тацццяны, 56 г.; Агата, жонка Станіслава, 47 г.; Мар'яна, жонка Казіміра, 59 г.

18. Бенядзікт Красачка, 45 г.; Юзаф, сын Бенядзікта, 25 г.; Міхал Красачка, 24 г.; Андрэй, брат Міхала, 21 г.; Антаніна, дачка Бенядзікта, 9 г.

19. Міхал Красачка, 25 г.; Караль, брат Міхала, 21 г.; Анна, удава Красачкі.

20. Міхал Глускі, 45 г.; Ян, брат Міхала, 52 г.; Антон,

брат Міхала, 30 г.; Станіслаў, сын Яна, 17 г.; Вінцэнт, сын Яна, 8 г.; Вінцэнт, сын Антона, 5 г.; Гелена, жонка Яна, 57 г.; Марыля, жонка Антона, 36 г.; Кацярына, дачка Антона, 8 г.

**Вёска Шэршні Яснавяльможнага пана графа Рудольфа Тызенгаўза, дзедзіча.**

1. Юзаф Васько, 59 г.; Стэфан, сын Юзафа, 31 г.; Гжэгаш, сын Юзафа, 9 г.; Данель, сын Юзафа, 6 г.; Апалонія, жонка Юзафа, 41 г.; Кацярына, жонка Стэфана, 20 г.

2. Сымон Філідовіч, 51 г.; Данель, сын Сымона, 16 г.; Юзаф, сын Сымона, 11 г.; Амельян Філідовіч, 41 г.; Тэадора Філідовіч, удава, 63 г.; Агаф'я, жонка Амельяна, 31 г.; Анастасія, дачка Амельяна, 13 г.; Агаф'я, дачка Амельяна, 10 г.; Людавіка, жонка Сымона, 45 г.

3. Адам Васько, 74 г.; Эльяш, сын Адама, 31 г.; Ядвіга, жонка Адама, 59 г.; Юльяна, дачка Адама, 21 г.; Пелагея, дачка Адама, 13 г.; Мар'яна, жонка Эльяша, 41 г.

4. Антон Васько, 54 г.; Тэадор, пляменнік Антона, 33 г.; Барталамей, пляменнік, 15 г.; Міхал, сын Антона, 2 г.;

5. Андрэй Васько, 89 г.; Павел,сын Андрэя, 43 г.; Пётр, сын Паўла, 13 г.; Тарэза, жонка Андрэя, 79 г.; Дарота, жонка Паўла, 43 г.; Юзэфа, дачка Паўла, 19 г.; Тарэса, дачка Паўла,16 г.; Тэадора, дачка Паўла, 9 г.; Альжбета, дачка Паўла, 6 г.

6. Юзаф Васько, 59 г.; Тэадор, сын Юзафа, 17 г.; Максім, сын Пракопа Васько, 15 г.; Магдалена, жонка Юзафа, 31 г.; Магдалена, дачка Пракопа Васько, 12 г.; Анна, дачка Юзафа, 8 г.; Пракседа, дачка Юзафа, 4 г.; Тэадора, дачка Пракопа Васько.

7. Павел Савашынскі, 66 г.; Ян, сын Паўла, 31 г.; Францішак, сын Паўла, 21 г.; Зоф'я, жонка Паўла, 50 г.; Мар'яна, жонка Яна, 30 г.; Ева, дачка Паўла, 10 г.; Агаф'я, дачка Паўла, 8 г.; Кацярына, дачка Яна, 4 г.

8. Стэфан Савашынскі, 56 г.; Захар, сын Стэфана, 17 г.; Павел, брат Стэфана, 54 г.; Ігнат, сын Паўла, 18 г.; Аляксандр, сын Паўла, 14 г.; Анастасія, жонка Стэфана, 43 г.; Еўдакія, жонка Паўла, 39 г.; Юстына, жонка Ігната, 16 г.; Дамініка, дачка Паўла, 9 г.; Пелагея, дачка Стэфана, 8 г.

**Вёска Гузні Яснавяльможнага пана графа Рудольфа Тызенгаўза, дзедзіча.**

1. Лукаш Гузень, 24 г.; Ігнат, брат Лукаша, 35 г.; Ян, сын Ігната, 1 г.; Анна, жонка Ігната, 27 г.; Анна Гардзей, удава, 40 г.

2. Антон Шымановіч, 33 г.; Ян, сын Антона, 1 г.; Лаўрэн, сын Стэфана Гузня, 20 г.; Марцін, сын Францішка Пацыны, 18 г.; Ян, сын Еўдакіі, 1 г.; Таццяна, жонка Антона, 29 г.; Еўдакія Кулікоўская, рэкрутоўка, 30 г.; Разалія, дачка Еўдакіі, 3 г.; Мар'яна, дачка Антона, 2 г.; Юзэфа, жонка Лаўрэна, 20 г.

3. Пётр Шымановіч, 59 г.; Антон, сын Пятра, 27 г.; Данель, сын Пятра, 21 г.; Ян, сын Пятра, 17 г.; Паўліна, жонка Антона, 26 г.; Еўпрасіня, жонка Данеля, 15 г.; Анастасія, дачка Пятра, 15 г.; Пракседа, дачка Пятра, 12 г.

4. Ян Шымановіч, 51 г.; Барталамей, сын Яна, 21 г.; Ян, сын Яна, 19 г.; Ядвіга, жонка Яна, 46 г.

5. Захар Шымановіч, 45 г.; Мікалай, сын Захара, 17 г.; Юзаф, сын Захара, 9 г.; Сымон, сын Захара, 9 г.; Анна, жонка Захара, 41 г.; Таццяна ..., рэкрутоўка, 25 г.

6. Сымон Гузень, 15 г.; Раман, сын Сымона, 29 г.; Базыль Ярмантовіч, 19 г.; Ян, брат Базыля, 15 г.; Канстанцыя, жонка Рамана, 61 г.; Наталюся Ярмантовіч, 42 г.; Анна, дачка Сымона, 16 г.; Анна, жонка Рамана, 21 г.; Разалія, дачка Наталлі, 3 г.

7. Тэадор Рымша, 39 г.; Стэфан, дзядзька Тэадора, 49 г.; Ежы, сын Яна Рымшы, 17 г.; Стэфан, сын Яна, 19 г.; Марыя Рымша, удава, 33 г.; Петранела, дачка Яна, 19 г.; Анна, жонка Стэфана, 49 г.; Дамініка, дачка Стэфана, 7 г.; Альжбета, дачка Тэадора, 4 г.

8. Гжэгаш Гузень, 51 г.; Казімір, сын Гжэгаша, 25 г.; Бенядзікт, брат Гжэгаша, 75 г.; Ян, сын Бенядзікта, 15 г.; Стэфан, дзядзька Гжэгаша, 61 г.; Гжэгаш, сын Яна Рымшы, 17 г.; Феліцыян, сын Яна, 9 г.; Еўфрасіня, жонка Бенядзікта, 45 г.; Агата, дачка Гжэгаша, 21 г.; Пракседа, дачка Гжэгаша, 9 г.; Анастасія, дачка Гжэгаша, 4 г.; Анастасія, дачка Яна Рымшы, 2 г.

**Вёска Руда Яснавяльможнага пана графа Рудольфа Тызенгаўза, дзедзіча.**

1. Базыль Будзіловіч, 45 г.; Вінцэнт, сын Базыля, 19 г.; Юзаф Місевіч, швагер, 29 г.; Гжэгаш, сын Юзафа, 9 г.; Юзаф, сын Юзафа, 6 г.; Крысціна, жонка Базыля, 31 г.; Апалонія, дачка Базыля, 9 г.; Пракседа, Парфяновіч, 36 г.

2. Ян Місевіч, 42 г.; Юзаф, сын Яна, 17 г.; Стэфан, сын Яна, 13 г.; Стэфан, брат Яна, 39 г.; Андрэй, сын Стэфана, 9 г.; Вінцэнт, сын Яна, 7 г.; Кацярына, жонка Яна, 40 г.; Вікторыя, жонка Стэфана, 33 г.; Анастасія, дачка Яна, 15 г.; Пелагея, дачка Стэфана, 5 г.

3. Антон Місевіч, 25 г.; Юзаф, брат Антона, 23 г.; Вінцэнт, сын Антона, 2 г.; Ян, сын Антона, 1 г.; Багуслава, жонка Антона, 25 г.; Агаф'я, сястра Антона, 18 г.

4. Тадэвуш Белуш, 25 г.; Антон, брат Тадэвуша, 21 г.; Андрэй, брат Тадэвуша, 23 г.; Стэфан, брат Тадэвуша, 9 г.; Ян, брат Тадэвуша, 12 г.; Анна, маці Тадэвуша, 49 г.; Феліцыя, сястра Тадэвуша, 15 г.; Тэкля, жонка Тадэвуша, 18 г.

5. Андрэй Місевіч, 51 г.; Андрэй, сын Андрэя, 19 г.; Ян, брат Андрэя, 45 г.; Ян, сын Яна, 12 г.; Андрэй, брат Андрэя, 35 г.; Мацей, сын Яна, 10 г.; Гжэгаш, сын Андрэя, 2 г.; Ігнат, сын Яна, 3 г.; Казіміра, жонка Андрэя, 45 г.; Агаф'я, жонка Яна, 40 г.; Кацярына, дачка Яна, 10 г.; Вікторыя Вялічка, удава, 40 г.; Франюша, дачка Яна, 6 г.; Петранела, дачка Андрэя, 8 г.; Анна, жонка Андрэя, 24 г.

6. Сымон Шэршань, 41 г.; Мацей, брат Сымона, 23 г.; Павел, сын Сымона, 19 г.; Мікалай, сын Сымона, 16 г.; Тэадор, сын Сымона, 13 г.; Антон, сын Сымона, 12 г.; Ян, сын Сымона, 10 г.; Анастасія Шэршань, удава, 51 г.; Анна, жонка Сымона, 33 г.; Наталюся, жонка Якуба Шэршня, 31 г.; Антаніна, дачка Наталлі, 12 г.; Кацярына, дачка Сымона, 8 г.; Петранела, дачка Наталлі, 6 г.; Мар'яна, дачка Сымона, 4 г.; Антаніна, дачка, Сымона, 2 г.

7. Ян Галубоўскі, 42 г.; Вінцэнт, сын Яна, 8 г.; Марцін, сын Яна, 3 г.; Магдалена, жонка Яна, 40 г.; Мар'яна, дачка Яна, 1 г.

8. Андрэй Гядрэвіч, 56 г.; Павел, сын Андрэя, 16 г.; Міхал, сын Пятра, 6 г.; Антон, сын Стэфана Гузеня, 16 г.; Еўдакія, жонка Андрэя, 47 г.; Юльяна, жонка Паўла, 31 г.; Пелагея, ..., Андрэя, 57 г.; Мар'яна, дачка Гжэгаша, 1 г.

9. Стэфан Гядрэвіч, 34 г.; Стэфан, брат Андрэя, 33 г.; Мар'яна Гядрэвіч, удава, 71 г.; Пракседа, жонка Мацея, 35 г.; Кацярына, жонка Стэфана, 29 г.; Антаніна, дачка Мацея, 12 г.; Францішка, дачка Мацея, 4 г.; Анна, дачка Стэфана, 8 г.; Мар'яна, дачка Стэфана, 3 г.

**Вёска Зачэпічы Яснавяльможнага пана графа Рудольфа Тызенгаўза, дзедзіча.**

1. Антон Крупіца, 31 г.; Базыль, дзядзька Антона, 63 г.; Андрэй, брат Антона, 24 г.; Казімір, брат Антона, 20 г.; Вінцэнт, брат Антона, 15 г.; Тэкля, жонка Антона, 27 г.; Мар'яна, сястра Антона, 13 г.; Юзэфа, сястра Антона, 10 г.; Канстанцыя, дачка Антона, 4 г.; Еўдакія, жонка Казіміра, 19 г.; Агата, маці Антона, 62 г.

2. Ян Шымановіч, 49 г.; Базыль Якумовіч, швагер, 32 г.; Ян, сын Яна, 4 г.; Ігнат, сын Базыля, 2 г.; Гэлена, жонка Яна, 23 г.; Пракседа, дачка Яна, 16 г.; Мар'яна, дачка Яна, 14 г.; Мар'яна, жонка Базыля, 27 г.; Анна, дачка Яна, 7 г.

3. Пётр Дзятчук, 27 г.; Ян, сын Андрэя Крупіцы, 12

г.; Ян Замойда, служка, 13 г.; Еўдакія, жонка Пятра, 22 г.; Анеля, дачка Андрэя, 21 г.; Канстанцыя, дачка Андрэя, 16 г.; Анастасія, дачка Пятра, 3 г.

4. Гжэгаш Крупіца, 47 г.; Гжэгаш, сын Гжэгаша, 19 г.; Бенядзікт, сын Гжэгаша, 13 г.; Павел, сын Гжэгаша, 4 г.; Леанора, жонка Гжэгаша, 35 г.; Марцеля, дачка Гжэгаша, 16 г.; Леанора, дачка Гжэгаша, 10 г.

5. Мацей, Карэцкі, 56 г.; Мацей, сын Мацея, 15 г.; Дарота, жонка Мацея, 45 г.; Леанора, 20 г.; Пракседа, дачка Мацея, 17 г.; Марцеля, дачка Мацея, 3 г.; Канстанцыя, дачка Мацея, 3 г.

6. Дзмітрый Селявончык, 47 г.; Тамаш Ласось, 39 г.; Тамаш, сын Дзмітрыя, 9 г.; Максім, сын Тамаша, 2 г.; Анастасія, жонка Дзмітрыя, 49 г.; Анна, дачка Дзмітрыя, 15 г.; Мар'яна, жонка Тамаша, 33 г.; Тэадора, дачка Тамаша, 4 г.; Анна Абрамовіч, удава, 49 г.; Тэадора, дачка Анны, 20 г.; Таццяна, дачка Дзмітрыя, 12 г.

7. Ануфрый Селявончык, 47 г.; Тэадор, брат Антона, 27 г.; Канстанцыя, жонка Ануфрыя, 41 г.; Наталюся, дачка Ануфрыя, 10 г.; Пракседа, жонка Тэадора, 24 г.

8. Леон Рымша, 54 г.; Ян, сын Леона, 31 г.; Гжэгаш, сын Юзафа Рымшы, 3 г.; Анна, жонка Яна Рымшы, 29 г.; Мар'яна, дачка Яна, 9 г.; Анна, дачка Яна, 2 г.

9. Тэадор Селявончык, 22 г.; Ануфрый, брат Тэадора, 15 г.; Ян, брат Тэадора, 12 г.; Павел, брат Тэадора, 8 г.; Пелагея, жонка Тэадора, 24 г.; Пракседа, сястра Тэадора, 25 г.

10. Габрыэль Анчулевіч, 47 г.; Андрэй, брат Габрыэля, 51 г.; Ян, сын Андрэя, 8 г.; Дзмітрый, сын Габрыэля, 6 г.; Анастасія, жонка Габрыэля, 43 г.; Анна, жонка Андрэя, 44 г.; Тэрэза, дачка Габрыэля, 15 г.; Анна, дачка Габрыэля, 13 г.; Анастасія, дачка Габрыэля, 4 г.; Пракседа, пляменніца Габрыэля, 18 г.; Антніна, дачка Андрэя, 5 г.

11. Пётр Рымша, 69 г.; Лукаш, сын Пятра, 27 г.; Вікторыя, жонка Пятра, 59 г.; Тэкля, дачка Пятра, 19 г.

12. Андрэй Орсік, 41 г.; Міхал, сын Андрэя, 15 г.; Ян, сын Андрэя, 9 г.; Ян Халецкі, 49 г.; Ян Орсік, пляменнік, 9 г.; Ежы Тракель, 49 г.; Дзмітрый ..., 36 г.; Анна, жонка Андрэя, 40 г.; Канстанцыя, дачка Андрэя, 7 г.; Тэадора Тамашэвіч, 39 г.; Леаонора, жонка Яна, 38 г.; Юзэфа, дачка Яна, 7 г.; Мар'яна, дачка Тэадоры, 9 г.; Мар'яна жонка Дзмітрыя, 35 г.; Франюшка, дачка Дзмітрыя, 8 г.

**Вёска Дварчаны Яснавяльможнага пана графа Рудольфа Тызенгаўза, дзедзіча.**

1. Міхал Монька, 51 г.; Ануфрый Мацяш, 36 г.; Мацей, сын Ануфрыя, 15 г.; Андрэй, брат Міхала, 10 г. Анна, жонка Ануфрыя, 39 г.; Еўдакія, жонка Міхала, 41 г.; Мар'яна, дачка Ануфрыя, 2 г.

2. Вінцэнт Вайцяшук, 29 г.; Данель Вайцешык, 46 г.; Агата, жонка Вінцэнта, 24 г.; Юльяна, жонка Данеля, 39 г.

3. Ян Пракаповіч, 41 г.; Пётр Шэршань, 19 г.; Анна, жонка Яна, 41 г.; Анна, дачка Яна, 9 г.

4. Ежы Пракаповіч, 42 г.; Барталамей, сын Ежы, 9 г.; Міхал, пляменнік Ежы, 12 г.; Аксіня Пракаповіч, удава, 51 г.; Мар'яна, жонка Ежы, 37 г.; Гэлена, дачка Ежы, 4 г.; Пракседа, падчарыца Ежы, 12 г.

5. Андрэй Шэршань, 37 г.; Базыль, брат Андрэя, 27 г.; Сымон, брат Андрэя, 20 г.; Тэадора, жонка Базыля, 31 г.; Анастасія, дачка Базыля, 4 г.; Тэкля, жонка Андрэя, 21 г.

6. Андрэй Пракаповіч, 41 г.; Андрэй, сын Андрэя, 8 г.; Вікторыя, жонка Андрэя, 46 г.; Анна, жонка Эльяша Шэршня, 35 г.

7. Сымон Вайцяшук, 39 г.; Ян, сын Сымона, 14 г.; Лукаш, сын Сымона, 12 г.; Якуб, сын Сымона, 10 г.; Францішак, брат Сымона, 31 г.; Мацей, сын Сымона, 2 г.; Апалонія, жонка Сымона, 35 г.; Анастасія, дачка Сымона, 7 г.; Пракседа, дачка Сымона, 7 г.

8. Антон Шэршань, 42 г.; Тэадор, сын Анастасіі, 18 г.; Гжэгаш, сын Антона, 10 г.; Андрэй, брат Антона, 39 г.; Гжэгаш, сын Андрэя, 8 г.; Ян, сын Андрэя, 11 г.; Пётр, сын Андрэя, 2 г.; Зоф'я, жонка Андрэя, 29 г.; Пракседа, дачка Антона, 15 г.

9. Адам Вайцяшук, 37 г.; Разалія, жонка Адама, 39 г.; Антаніна, дачка Адама, 15 г.; Юстына, пляменніца Адама, 19 г.

10. Стэфан Шэршань, 37 г.; Ігнат, сын Стэфана, 9 г.; Базыль, сын Стэфана, 2 г.; Тэадор, пляменнік Стэфана, 16 г.; Мар'яна, жонка Стэфана, 31 г.; Мар'яна, дачка Стэфана, 4 г.

11. Ян Шыдлоўскі, 61 г.; Ежы, сын Яна, 24 г.; Юзаф, сын Яна, 33 г.; Тэадор, сын Юзафа, 8 г.; Мар'яна, жонка Ежы, 27 г.; Тэкля, дачка Ежы, 2 г.

**Вёска Галынка Яснавяльможнага пана графа Рудольфа Тызенгаўза, дзедзіча.**

1. Пётр Будзіловіч, 34 г.; Юзаф, брат Пятра, 27 г.; Сымон, брат Пятра, 19 г.; Базыль, сын Пятра, 4 г.; Юліца, жонка Пятра, 35 г.; Дамініка, дачка Пятра, 12 г.; Ядвіга Пятрашка, 50 г.

2. Міхал Будзіловіч, 19 г.; Павел Міцкевіч, 26 г.; Юзэфа, жонка Паўла, 22 г.

3. Тадэвуш Шумскі, 31 г.; Антон Урбановіч, 38 г.; Пётр, сын Антона, 9 г.

4. Стэфан Шыдлоўскі, 19 г.; Тадэвуш, брат Стэфана, 10 г.; Ян, дзядзька Стэфана, 41 г.; Міхал, сын Яна, 21 г.; Мацей, сын Яна, 19 г.; Канстанцыя Шыдлоўская, удава, 48 г.; Анна, сястра Стэфана, 16 г.; Анастасія, сястра Стэфана, 13 г.; Альжбета, дачка Сідаровіча, 6 г.; Люцыя, дачка Сідаровіча, 4 г.

5. Міхал Будзіловіч, 49 г.; Сымон, сын Міхала, 20 г.; Якуб, сын Міхала, 8 г.; Мікалай, пляменнік Міхала, 6 г.; Зоф'я, жонка Міхала, 38 г.; Антаніна, дачка Міхала, 15 г.; Мар'яна, дачка Міхала, 10 г.; Марыля, дачка Тэадора Будзіловіча, 9 г.

6. Клеменс Будзіловіч, 46 г.; Сымон, сын Клеменса, 16 г.; Базыль, сын Клеменса, 8 г.; Ян, брат Клеменса, 32 г.; Юзэфа, жонка Клеменса, 39 г.; Анеля Жылінская, 25 г.

7. Тэадор Новік, 23 г.; Антон, брат Тэадора, 19 г.; Войцах, брат Тэадора, 13 г.; Мар'яна, маці Тэадора, 49 г.; Петранела, сястра Тэадора.

**Вёска Прэціма Яснавяльможнага пана графа Рудольфа Тызенгаўза, дзедзіча.**

1. Ян Місевіч, 61 г.; Юзаф, сын Яна, 35 г.; Францішак Шыдлоўскі, 41 г.; Тадэвуш, сын Францішка, 12 г.; Кацярына, жонка Яна, 56 г.; Юзэфа, жонка Юзафа, 30 г.; Юзэфа, дачка Юзафа, 8 г.; Петранела, дачка Юзафа, 5 г.; Анна, дачка Юзафа, 3 г.; Мар'яна, дачка Юзафа, 1 г.

2. Казімір Прускі, 33 г.; Ян, брат Казіміра, 39 г.; Ян, сын Казіміра, 5 г.; Вінцэнт, сын Казіміра, 1 г.

3. Якуб Рышкевіч, 43 г.; Ян, сын Якуба, 20 г.; Анна, жонка Якуба, 41 г.; Петранела, дачка Якуба, 17 г.; Кацярына, дачка Якуба, 13 г.; Пракседа, маці Якуба, 63 г.; Альжбета, дачка Якуба, 3 г.

4. Мікалай Місевіч, 51 г.; Міхал, сын Мікалая, 25 г.; Ян, сын Мікалая, 21 г.; Юзаф, сын Мікалая, 16 г.; Станіслаў, сын Мікалая, 13 г.; Ігнат, сын Мікалая, 1 г.; Анна, жонка Мікалая, 45 г.; Мар'яна, дачка Мікалая, 8 г.; Пракседа Пруская, 41 г.; Мар'яна, дачка Пракседы, 6 г.

5. Антон Селявончык, 34 г.; Якуб, сын Антаніны, 5 г.; Якуб Шалесны, 35 г.; Еўфрасіня, жонка Антона, 30 г.; Бенядзікта, дачка Антона, 7 г.; Леанора, дачка Антона, 5 г.

6. Андрэй Дрозд, 41 г.; Ян, брат Андрэя, 33 г.; Вікторыя, жонка Андрэя, 39 г.

7. Габрыэль Муляр, 35 г.; Ян, сын Магдалены, 1 г.; Мар'яна, жонка Габрыэля, 33 г.; Таццяна, дачка Габрыэля, 13 г.; Антаніна, дачка Габрыэля, 9 г.; Канстанцыя, цётка Габрыэля, 51 г.; Магдалена, сястра Габрыэля, 39 г.

8. Кандрат Дрозд, 39 г.; Сымон, брат Кандрата, 28 г.; Якуб, сын Кандрата, 16 г.; Антон, сын Кандрата, 10 г.; Анна, жонка Сымона, 26 г.

9. Леон Курачка, 38 г.; Ігнат, брат Леона, 25 г.; Пётр, сын Леона, 9 г.; Зоф'я, жонка Леона, 32 г.; Юзэфа, дачка Леона, 11 г.; Анеля, дачка Леона, 6 г.; Аксіня, жонка Ігната, 21 г.

10. Пётр Дрозд, 33 г.; Міхал, брат Пятра, 19 г.; Антон, сын Пятра, 8 г.; Анастасія, жонка Пятра, 30 г.; Крысціна, маці Пятра, 34 г.; Мар'яна, дачка Пятра, 6 г.; Анна, дачка Пятра, 2 г.

11. Антон Курачка, 41 г.; Ян, сын Антона, 13 г.; Андрэй, сын Антона, 8 г.; Мацей, брат Антона, 23 г.; Міхал, сын Антона, 4 г.; Апалонія, жонка Антона, 37 г.

12. Ян Санюкевіч, 39 г.; Базыль, сын Яна, 19 г.; Ян Галубоўскі, 29 г.; Мар'яна Гузень, удава, 53 г.; Вікторыя, дачка Яна, 9 г.; Юзэфа, дачка Яна, 6 г.; Юстына, жонка Базыля, 22 г.

13. Лукаш Галубоўскі, 49 г.; Сымон, сын Лукаша, 19 г.; Ян Галубоўскі, 29 г.; Ян, сын Яна, 3 г.; Анастасія, жонка Лукаша, 45 г.; Анна, дачка Лукаша, 8 г.; Аксіня, жонка Яна, 36 г.; Кацярына, дачка Лукаша, 2 г.

14. Антон Сарыпкоўскі, 36 г.; Мікалай, сын Антона, 9 г.; Ігнат, сын Антона, 3 г.; Гжэгаш, пляменнік,7 г.; Мар'яна, жонка Антона, 32 г.; Разалія, дачка Антона, 15 г.; Барбара, швагерка Антона, 28 г.; Петранела, дачка Антона, 1 г.; Антаніна Шымановіч, 37 г.; Мар'яна Мулярчык, 21 г.; Петранела Шымановіч, 9 г.

15. Дамінік Галубовіч, 41 г.; Ян, брат Дамініка, 36 г.; Марцін Курачка, 28 г.; Тамаш, сын Яна, 7 г.; Ян, сын Марціна, 6 г.; Агата, жонка Дамініка, 37 г.; Анна, жонка Яна, 39 г.; Апалонія, дачка Яна, 9 г.; Мар'яна, дачка Яна, 9 г.; Агата, дачка Дамініка, 5 г.

16. Якуб Чарняк, 61 г.; Сцяпан, сын Якуба, 28 г.; Ян, сын Якуба, 16 г.; Леон, сын Якуба, 14 г.; Кацярына, жонка Якуба, 51 г.; Мар'яна, дачка Якуба, 12 г.; Анастасія, дачка Якуба, 16 г.; Кацярына, жонка Стэфана, 23 г.; Тэадора ..., 12 г.

17. Ян Будзіловіч, 39 г.; Мікалай, сын Яна, 13 г.; Гжэгаш, сын Яна, 6 г.; Леанора, дачка Яна, 18 г.; Анеля, дачка Яна, 15 г.

18. Базыль Біндзюк, 59 г.; Лукаш, сын Базыля, 21 г.; Ян, сын Базыля, 21 г.; Ян, сын Базыля, 7 г.; Леанора, дачка Яна, 18 г.; Анеля, дачка Базыля, 14 г.; Петранела, дачка Базыля, 15 г.

19. Эльяш Шалесны, 47 г.; Якуб, сын Эльяша, 21 г.; Мікалай, сын Эльяша, 12 г.; Юзаф, сын Эльяша, 4 г.; Гэлена, жонка Эльяша, 40 г.; Зоф'я, жонка Якуба, 26 г.; Мар'яна, дачка Эльяша, 10 г.; Анна ..., 24 г.; Гэлена, дачка Эльяша, 6 г.; Мар'яна, дачка Анны, 2 г.

20. Базыль Вашчкевіч, 35 г.; Стэфан, брат Базыля, 31 г.; Сымон, сын Базыля, 3 г.; Анастасія Ненартовіч, 39 г.; Вікторыя, жонка Базыля, 29 г.; Аляксандра, маці Ненартовіч, 67 г.; Анастасія Гядрэвіч, 31 г.; Анна, дачка Анастасіі, 10 г.; Анеля, дачка Анастасіі, 4 г.

**Вёска Доўгая Яснавяльможнага пана графа Рудольфа Тызенгаўза, дзедзіча.**

1. Тамаш Зубель, 67 г.; Тамаш, сын Тамаша, 27 г.; Мацей, сын Тамаша, 23 г.; Якуб, сын Тамаша, 17 г.; Ігнат Здановіч, 27 г.; Тэадор Лашынскі, 20 г.; Сымон, сын Ігната, 12 г.; Мар'яна, дачка Тамаша, 20 г.;

2. Пётр Зубель, 53 г.; Стэфан, сын Пятра, 13 г.; Юзаф, сын Пятра, 9 г.; Ян, сын Пятра, 35 г.; Сымон, пляменнік Пятра, 19 г.; Антон Шэршань, 25 г.; Павел, сын Яна, 4 г.; Вікторыя, жонка Пятра, 41 г.; Мар'яна, жонка Яна, 32 г.; Петранела, дачка Яна, 10 г.; Анна, дачка Яна, 8 г.; Альжбета, дачка Пятра, 2 г.

3. Гжэгаш Чарняк, 67 г.; Андрэй, сын Гжэгаша, 27 г.; Эльяш Дрозд, зяць Гжэгаша, 39 г.; Ян, сын Андрэя, 1 г.; Андрэй, сын Эльяша, 2 г.; Анна, жонка Эльяша, 31 г.; Вікторыя, дачка Эльяша, 6 г.; Мар'яна, дачка Эльяша, 4 г.; Барбара, дачка Андрэя, 5 г.; Агата, дачка Гжэгаша, 14 г.

4. Геранім Чарняк, 25 г.; Мікалай, брат Гераніма, 22 г.; Тамаш Зубель, 21 г.; Ян Зубель, 19 г.; Мікалай Якубовіч, цесць, 50 г.; Караліна, жонка Гераніма, 25 г.; Антаніна, сястра Гераніма, 16 г.; Антаніна Зубель, 23 г.; Анна, дачка Антаніны, 1 г.; Ева, жонка Мікалая, 47 г.

5. Якуб Шэршань, 31 г.; Андрэй, брат Якуба, 24 г.; Дзмітрый, сын Якуба, 4 г.; Мацей, бацька Якуба, 67 г.; Мар'яна, жонка Якуба, 29 г; Вікторыя, дачка Якуба, 6 г.; Дамініка, дачка Якуба, 3 г.

6. Гжэгаш Быхавец, 43 г.; Гіляр, сын Гжэгаша, 9 г.; Андрэй Такарэўскі, 57 г.; Базыль Зубель, 43 г.; Анна, пляменніца Анджэя, 13 г.

7. Гжэгаш Дрозд, 43 г.; Ігнат, сын Гжэгаша, 8 г.; Гіляр, сын Гжэгаша, 5 г.; Ян, сын Гжэгаша, 2 г.; Кацярына, жонка Гжэгаша, 37 г.; Мар'яна, дачка Гжэгаша, 17 г.; Анна, маці Кацяраны, 70 г.; Анна Якубовіч, 32 г.; Мар'яна, дачка Гжэгаша, 8 г.

8. Францішак Галубовіч, 29 г.; Гжэгаш Шэршань, 20 г.; Аляксандр, пляменнік Францішка, 18 г.; Базыль, пляменнік Францішка, 7 г.; Фелікс, сын Францішка, 2 г.; Дарота, Галубовіч, удава, 32 г.; Петранела, пляменніца Францішка, 12 г.; Францішка, жонка Гжэгаша, 18 г.; Анна, дачка Францішка, 8 г.; Францішка Зубель, 32 г.; Дамініка, дачка Францішка, 1 г.

9. Сымон Чарняк, 67 г.; Юзаф Блюднік, цесць, 90 г.; Гжэгаш, брат Юзафа, 38 г.; Гжэгаш, сын Юзафа, 10 г.; Тамаш, сын Гжэгаша, 4 г.; Вінцэнт, сын Юзафа, 3 г.; Міхал, сын Гжэгаша, 2 г.; Кацярына, жонка Сымона, 61 г.; Анна, жонка Юзафа, 32 г.; Агаф'я, жонка Гжэгаша, 35 г.; Юзэфа, дачка Гжэгаша, 6 г.

10. Андрэй Зубель, 43 г.; Аляксандр Рышкевіч, 32 г.; Ян , сын Аляксандра, 3 г.; Анна, жонка Андрэя, 39 г.; Юзэфа, дачка Андрэя, 11 г.; Разалія Блюднік, удава, 56 г.; Феліцыяна, жонка Аляксандра, 25 г.; Крысціна, дачка Разаліі, 21 г.; Еўфрасіня, дачка Разаліі, 17 г.; Анна, дачка Андрэя, 1 г.; Анастасія Талочка, удава, 51 г.

11. Францішак Злаба, 47 г.; Вінцэнт, брат, Францішка, 38 г.; Міхал, сын Вінцэнта, 6 г.; Ігнат, сын Вінцэнта, 3 г.; Феліцыяна, жонка Францішка, 33 г.; Кацярына, жонка Вінцэнта, 33 г.; Кацярына Пятроўская, 37 г.; Анна, дачка Вінцэнта, 1 г.

12. Міхал Чарняк, 20 г.; Базыль Галубовіч, 18 г.; Мар'яна Галубовіч, удава, 57 г.; Мар'яна, жонка Міхала, 20 г.

13. Марцін Шэршань, 29 г.; Петранела, 23 г.; Тэкля Масевіч, 50 г.; Францішка, дачка Марціна, 1 г.

**Вёска Ліпічанка Яснавяльможнага пана графа Рудольфа Тызенгаўза, дзедзіча.**

1. Станіслаў Раманчык, 51 г.; Антон, сын Станіслава, 21 г.; Станіслаў, сын Станіслава, 19 г.

2. Барталамей Санюкевіч, 67 г.; Антон, сын Барталамея, 29 г.; Адам, сын Барталамея, 25 г.; Сымон, сын Антона, 8 г.; Андрэй, сын Адама, 1 г.; Мікалай,сын Антона, 1 г.; Анна, жонка Адама, 27 г.

3. Базыль Масталовіч, 38 г.; Тамаш Янюкевіч ..., 9 г.; Анна Янюкевіч, удава, 50 г.; Кацярына, жонка Базыля, 35 г.; Анна, дачка Анны, 9 г.

4. Гжэгаш Гузень, 56 г.; Ян, сын Гжэгаша, 17 г.; Леон, сын Гжэгаша, 15 г.; Юзаф, сын Гжэгаша, 11 г.; Юзаф ..., 40 г.; Якуб, унук Гжэгаша, 2 г.; Петранела, дачка Гжэгаша, 24 г.; Кацярына, дачка Гжэгаша, 14 г.; Ева Раманчык, 24 г.; Мар'яна, дачка Евы, 3 г.

5. Антон Санюкевіч, 33 г.; Ігнат, брат Антона, 24 г.; Тамаш, сын Антона, 8 г.; Ян, сын Ігната, 2 г.; Францішка,

жонка Антона, 33 г.; Анна, дачка Антона, 6 г.; Агата Янюкевіч, удава, 38 г.

6. Максім Санюкевіч, 37 г.; Сымон Тракель, 21 г.; Гэлена, дачка Максіма, 11 г.; Анастасія, дачка Максіма, 7 г.; Юльяна Санюкевіч, удава, 22 г.

7. Якуб Тракель, 47 г.; Сымон, сын Якуба, 16 г.; Эльяш, сын Якуба, 2 г.; Анастасія, жонка Якуба, 39 г.; Вікторыя, дачка Якуба, 9 г.; Даміліка Санюкевіч, 21 г.; Багуміла, дачка Якуба, 4 г.

8. Мацей Замойда, 52 г.; Пётр Раманчык, 32 г.; Андрэй, сын Пятра, 2 г.; Тэадора, жонка Пятра, 19 г.; Леанора, дачка Міхала, 24 г.; Анна, дачка Мацея, 21 г.; Тэкля, дачка Пятра, 5 г.; Мар'яна, дачка Пятра, 1 г.

9. Ян Раманчук, 35 г.; Ігнат, сын Яна, 8 г.; Анна, жонка Яна, 33 г.; Тэкля ..., удава, 56 г.; Агаф'я Красачка, 29 г.; Анна, дачка Яна, 5 г.; Альжбета, дачка Анаф'і, 1 г.

10. Тамаш Чарняк, 40 г.; Сымон, сын Тамаша, 6 г.; Антон, зяць Чарняка, 29 г.; Анастасія, жонка Тамаша, 36 г.; Вікторыя, дачка Тамаша, 17 г.; Мар'яна, дачка Тамаша, 14 г.

11. Раман Шэршань, 35 г.; Сымон, сын Рамана, 6 г.; Тэадор Шэршань, дзядзька, Рамана, 54 г.; Разалія, жонка Рамана, 30 г.; Анна, дачка Рамана, 9 г.; Юзэфа, сястра Рамана, 19 г.

12. Юзаф Дзевачка, 39 г.; Ян, брат Юзафа, 43 г.; Юзаф, сын Юзафа, 6 г.; Агата Дзевачка, удава, 52 г.

13. Ян Санюкевіч, 36 г.; Антон, сын Яна, 5 г.; Ігнат, сын Яна, 3 г.; Анна, жонка Яна, 36 г.; Альжбета Шэршань, 19 г.; Францішка ... 7 г.

14. Вінцэнт Замойда, 37 г.; Сымон, брат Антона, 24 г.; Міхал, сын Вінцэнта, 1 г.; Тэадора, жонка Вінцэнта, 28 г.; Агаф'я, маці Вінцэнта, 61 г.; Анна, жонка Сымона, 29 г.

15. Міхал Дзятчук, 24 г.; Антон, сын Міхала, 1 г.; Тэадора Дзятчук, удава, 51 г.; Францішка, сястра Міхала, 15 г.; Тэадора Васкель, 18 г.

16. Якуб Санюкевіч, 35 г.; Стэфан Ярмантовіч, пасынак, 12 г.; Данель Багдзель, 30 г.; Крысціна, жонка Якуба, 32 г.; Мар'яна,сястра Стэфана, 23 г.; Анна, сястра, Стэфана, 9 г.

17. Базыль Дзевачка, 29 г.; Мікалай, брат Базыля, 12 г.; Ануфрый, брат Базыля, 2 г.; Разалія Дзевачка, 35 г.; Юзэфа, жонка Базыля, 20 г.

18. Павел Якушкевіч, 42 г.; Якуб, сын Паўла, 11 г.; Ян, сын Паўла, 6 г.; Ян, пляменнік Паўла, 3 г.; Багуслава, жонка Паўла, 33 г.; Тэрэза, дачка Паўла, 14 г.; Тэрэза, сястра Паўла, 42 г.; Мар'яна, дачка Паўла, 2 г.

19. Дзмітрый Санюкевіч, 42 г.; Франушак, сын Дзмітрыя, 12 г.; Пётр, брат Дзмітрыя, 32 г.; Міхал, сын Пятра, 6 г.; Анеля, жонка Дзмітрыя, 31 г.; Ружана, дачка Дзмітрыя, 10 г.; Тэадора, жонка Пятра, 27 г.; Франушка, дачка Пятра, 2 г.

20. Ян Санюкевіч, 26 г.; Антон Раманчык, брат, 24 г.; Тэадор, сын Яна, 2 г.; Агата, жонка Яна, 24 г.; Кацярына Муляр, 47 г.; Анеля Сухоцкая, ..., 30 г.

21. Францішак Рабіна, 45 г.; Вінцэнт, брат Францішка, 33 г.; Гжэгаш, сын Вінцэнта, 8 г.; Міхал, сын Вінцэнта, 2 г.; Агаф'я, жонка Францішка, 33 г.; Антаніна, жонка Вінцэнта, 30 г.

22. Аляксандр Раманчык, 41 г.; Напалеон, сын Аляксандра, 14 г.

23. Антон Дзятчук, 46 г.; Антон, сын Антона, 20 г.; Міхал Ярмаловіч, 14 г.; Тамаш, сын Антона, 2 г.; Анна, жонка Антона, 36 г.; Антаніна, дачка Антона, 9 г.; Тэрэза, жонка Антона, 19 г.; Феліцыяна Ярмаловіч, 47 г.

24. Стэфан Дзятчук, 25 г.; Мікалай, брат Стэфана, 21 г.; Якуб, брат Стэфана, 17 г.; Ян, брат Стэфана, 9 г.; Юзаф, брат Стэфана, 6 г.; Мар'яна, маці Стэфана, 49 г.; Кацярана, жонка Стэфана, 22 г.

25. Паўтор папярэдняй сям'і.

26. Стэфан Дзятчук, 63 г.; Ян, сын Стэфана, 19 г.; Бенядзікт, сын Стэфана, 6 г.; Аляксандра, жонка Стэфана, 45 г.; Кацярына, дачка Стэфана, 20 г.; Мар'яна, дачка Стэфана, 9 г.; Даміліка, дачка Стэфана, 12 г.

27. Пётр Дзятчук, 37 г.; Андрэй, брат Пятра, 51 г.; Ян, сын Пятра, 20 г.; Вінцэнт, сын Андрэя, 25 г.; Казімір, сын Андрэя, 12 г.; Стэфан, сын Вінцэнты, 1 г.; Канстанцыя, жонка Пятра, 54 г.; Анна, жонка Вінцэнта, 23 г.

**З Ваўчкоў васпані Еткі, дзедзічкі.**

1. Тэадор Корда, 44 г.; Антон, сын Тэадора, 17 г.; Марцін, сын Тэадора, 13 г.; Мар'яна, жонка Тэадора, 39 г.; Бенядзікта, дачка Тэадора, 11 г.; Крысціна Сямашка, 27 г.; Мар'яна, дачка Крысціны, 2 г.; Анастасія Сямашка, 36 г.

| Вёскі | Дымы | Да камуніі | | Не да камуніі | | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | мужчын | жанчын | мужчын | жанчын | |
| Мястэчка Орля | 27 | 60 | 29 | 66 | 18 | 173 |
| Вёска Крупец | 10 | 23 | 5 | 33 | 9 | 70 |
| Вёска Маскалі | 16 | 48 | 16 | 46 | 14 | 124 |
| Вёска Шасцілы | 17 | 54 | 20 | 68 | 10 | 152 |
| Вёска Стукалы | 23 | 68 | 33 | 73 | 33 | 207 |
| Вёска Дзям'янаўцы | 20 | 62 | 16 | 54 | 17 | 149 |
| Вёска Шэршні | 8 | 25 | 3 | 27 | 11 | 66 |
| Вёска Гузні | 8 | 28 | 7 | 21 | 8 | 64 |
| Вёска Руда | 8 | 28 | 7 | 21 | 8 | 64 |
| Вёска Зачэпічы | 12 | 34 | 11 | 41 | 14 | 100 |
| Вёска Галубы | 8 | 20 | 6 | 29 | 9 | 64 |
| Вёска Ярчакі | 4 | 12 | 6 | 11 | 2 | 31 |
| Вёска Дварчаны | 11 | 30 | 7 | 21 | 7 | 65 |
| Вёска Галынка | 7 | 20 | 5 | 13 | 3 | 41 |
| Вёска Прэціма | 20 | 52 | 9 | 51 | 25 | 147 |
| Вёска Доўгая | 13 | 41 | 17 | 38 | 15 | 111 |
| Вёска Ліпічанка | 26 | 60 | 31 | 57 | 117 | 165 |
| Ваўчкі | 1 | 3 | - | 4 | 2 | 9 |
| Разам | 240 | 679 | 243 | 680 | 227 | 1826 |

31 жніўня 1829 г. ... гэты інвентар парафіі ... склаў канонік брэсцкі грэка-каталіцкай царквы, лідскі дэкан, арлянскі парах ... Ян Канеўскі.

# Славойкі на Лідчыне

Гэты артыкул пра "далікатную" тэму.

Дзе-нідзе ў Заходняй Беларусі да нашага часу драўляны туалет-шпакоўню завуць "славойкай". Канструктыўна нічога не змянілася. Славойка - невялікая будка, якая асобна стаіць над выграбной ямай з памостам, у дошках якога выразана дзірка. Дзверы славойкі замыкаюцца знутры, таксама звычайна знутры маецца цвік, на якім вешаюцца газеты ці часопісы, яны маюць двайное прызначэнне. У дзвярах ці над імі, звычайна выразаецца акенца ў форме сэрца ці знака бубновай масці. Гэтая канструкцыя свайму паўсюднаму распаўсюджанню абавязана польскаму міністру ўнутраных спраў і апошняму перадваеннаму прэм'ер-міністру, генералу, доктару медыцыны, паплечніку Пілсудскага Феліцыяну Славой-Складкоўскаму.

Неўзабаве пасля перавароту 1926 г. Пілсудскі прызначыў Славой-Складкоўскага міністрам унутраных спраў, раней ён ўзначальваў санітарную службу польскай арміі. Надаючы велізарнае значэнне гігіене, новы міністр распачаў энергічныя дзеянні, каб палепшыць санітарны стан у дзяржаве. Былі выдадзены прадпісанні, якія абавязвалі мясцовыя органы дзяржаўнай адміністрацыі і тэрытарыяльнага самакіравання ў сціслыя тэрміны забяспечыць чысціню на вуліцах, рынках і ў прыватных дварах, арганізаваць падмятанне вуліц, іх упарадкаванне і азеляненне, забяспечыць наяўнасць у кожным прыватным уладанні туалетаў і накрытых урнаў.

Тэма славоек знайшла сваё адлюстраванне ў літаратуры, гісторыі і шматлікіх успамінах. “Польскія калоніі пачынаюцца за Рамбертовам (усходняя частка Варшавы)”, - казаў міністр замежных спраў Юзаф Бек. Ён меў на ўвазе, што Польшча пасля 1920 г. - край небагаты і, асабліва на ўсходзе, цывілізацыйна заняддбаны. Сімвалам гэтага былі дрэнныя дарогі, а таксама паўсюдны бруд і нізкі ўзровень гігіены.

Апаненты міністра горка іранізавалі, напрыклад пасля Другой сусветнай вайны хадзіў жарт пра адзінага сапраўднага палітыка ў былым урадзе - прэм'ера Славой-Складоўскага. “Ён загадаў фарбаваць платы і ставіць на падворках клазеты, бо ведаў, што ў Польшчы нічога лепшага зрабіць немагчыма”, - пісаў пісьменнік і эсэіст Казімір Брандыс. А палітычны праціўнік Славой-Складкоўскага, рэдактар віленскай газеты "Слова" Цат-Мацкевіч, які за часы прэм'ерства Складкоўскага нават патрапіў у Картуз-Бярозу, пісаў: *"Калі ўся Еўропа будавала бомбасховішчы, Складкоўскі свідраваў дзіркі ў платах, дамагаючыся, каб уся Польшча мела платы з дроту ці каб сяляне бялілі свае хаты ... Складкоўскі меў размах, дынамічнасць і раскрыўся ў справах, да якіх дарос - перад усім у справах клазетаў і іншых санітарных рэчаў. Яго рэформы ў гэтай справе былі да такой ступені свавольныя і гэтак энергічна праводзіліся ..., што яго назвалі клазетным Пятром Вялікім"*.

Пакінем зласлівасць палітычным апанентам. Генерал Славой-Складкоўскі насамрэч быў энтузіястам гігіены і добра разумеў фатальны ўзровень санітарыі ў краі, дзе большасць насельніцтва свае патрэбы лацвіла "за гумном", і таму змагаўся з гэтым, чым мог - дзяржаўнымі ўказамі і асабістым кантролем. Пасля перавароту 1926 г. стаў міністрам унутраных спраў і выдаў першае распараджэнне, якое прымушала насельніцтва да элементарнай гігіены: *"У туалетах неабходна часта мыць памосты і падлогі ... трэба іх добра ўтрымліваць, і яны не павінны атручваць паветра навокал"*, - пісаў міністр унутраных спраў ваяводам у лютым 1927 г. У 1928 г. з яго ініцыятыве выдадзена распараджэнне прэзідэнта, якое абавязала мець туалет у кожнай асобнай сядзібе як у горадзе, так і на вёсцы.

Генерал-доктар, як звалі міністра, добра разумеў, што паперы не прымусяць да гігіены і таму высылаў у ваяводствы інспекцыі, і сам ахвотна браў у іх удзел. У сваіх мемуарах, напісаных пасля Другой сусветнай вайны, пісаў, як у пагодны майскі вечар вярнуўся з старастам павета з інспекцыі: *"Стараста падышоў да селяніна і пасля некалькіх хвілін іх размовы я пачуў:*

*- Ехаў з самой Варшавы, каб пабачыць мой туалет?*

*Потым зноў пачуўся шэпт, і пасля гэтага гаспадар пайшоў у хату, адкуль вярнуўся з кухонным ліхтаром і павёў нас вільготнай сцежкай да славойкі. Перад яе дзвярмі аддаў ліхтар старасту, выняў з світкі малаток з долатам і пачаў адбіваць забітыя цвікамі дзверы туалета. Калі мы выказалі свае здзіўленне, спакойна адказаў, што дзецям у школе ўбілі ў галаву глупства, і яны не жадаюць хадзіць "за гумно", а жадаюць толькі ў туалет. А туалет для камісіі павінен быць чыстым. Таму забіў цвікамі і зараз спакойны... Калі мы ад'яджалі, былі чутны ўдары малатка - гаспадар зноў забіваў дзверы"*.

Генерал у мемуарах дэманстраваў пачуццё гумару і не крыўдзіўся на выкарыстанне свайго імя, а нават і сам такія туалеты называў славойкамі. Пісаў таксама: *"Адзін багаты селянін зачыніў туалет і трымаў у ім каўбасы і шынкі. Бывалі выпадкі, калі сяляне ставілі свае славойкі ў рад уздоўж вясковай вуліцы, бо казалі, што нейкі міністр іх патрабуе, калі ездзіць па дарогах. Такі гарадскі ў полі ср... не сядзе!"*

Знакаміты пісьменнік Мельхіёр Ваньковіч у сваёй слыннай кнізе "Дзе-нідзе" (Tedy i owedy) заўважаў: *"Славой-Складкоўскі быў бічам божым для старастаў, з якімі бязлітасна ваяваў за пунктуальны прыход на працу, пабелку парканаў і чыстату славоек"*. Ваньковіч, далей: *"Прыціснутыя зверху, ваяводы руплівa кантралявалі справу туалетаў. Калісьці быў з віленскім ваяводам Бацянскім на інспекцыі (ён не прызнаваў беларусаў і лічыў іх за звычайных палякаў, такіх, напрыклад, як кашубаў). У кожнай гміне мы беглі адразу аглядаць славойкі"*.

Міністр унутраных спраў, генерал Славой-Складкоўскі з рэвізіяй санітарнага стану горада прыяз-

джаў таксама і ў Ліду. 17 кастрычніка 1928 г. яго сустракалі лідскі стараста Багаткоўскі і наваградскі ваявода Рачкевіч, але нейкіх падрабязнасцяў прэса не паведамляла, магчыма, лідскія славойкі задаволілі строгага міністра. Я знайшоў ўспаміны пра лідскую славойку былога жыхара Ліды Яна Станіслаўскага, маці якога была з заможнага роду лідскіх Вісмантаў. Апісваючы дзядоўскую сядзібу, дзе жыла яго сям'я (недалёка ад старых каталіцкіх могілак, па вуліцы Гражыны, а раней - на Вісмантах), ён так апісаў сваю славойку: *"За домам, на неабходнай адлегласці стаяў добра выбелены вапнай белы дамок. Зваўся ён "славойкай" ад прозвішча прэм'ера Славоя-Складкоўскага. Ён паўсюдна, у тым ліку і ў занядбанай вёсцы, увёў абавязак пабудовы туалетаў, пабелкі платоў і іншых санітарных абавязкаў. Сучаснікі гэта ацанілі. Хвала яму за гэта. Наш адмысловы дамок рэгулярна абнаўляўся, ушчыльняўся, чысціўся і без націску ўладаў. Такія ж добрыя туалеты былі і па ўсёй Лідзе, але меліся і выключэнні".*

Знакаміты пісьменнік Мельхіёр Ваньковіч ў кнізе "Дзе-нідзе" заўважаў: *"Як там ні было, але славойкі палепшылі сітуацыю ... У паважных маёнтках, я, ідучы ў славойку, атрымліваў ад гаспадароў ліхтарню, парасон, галёшы і бізун, каб чым было мне адбівацца ад сабак."*

Славойкі праславілі генерала, але былі толькі часткай ягонай дзейнасці. Ён выдаў распараджэнне аб санітарным стане падворкаў, гатэляў, гасцінцаў, а таксама пляжаў. У другой палове 1930-х гг. як прэм'ер выдаў загады аб пачатку праектавання і будаўніцтва каналізацыі ў гарадах і мястэчках, аб санітарным кантролі рынкаў, продажы масла ў крамах выключана са шкляных ёмістасцяў, напоўненых вадой і накрытых чыстай тканінай. Але з-за Другой сусветнай вайны большасць з гэтых пачынанняў засталася на паперы. Загадваў таксама фарбаваць платы, брамы і фасады дамоў, пры тым - у адзіны, узгоднены колер. Загадваў разбіраць брыдкія пабудовы, здымаць платы-пляцёнкі з лазы і ставіць платы з дарагой металёвай сеткі. А таксама брукаваць на падворках дарожкі, і я яшчэ памятаю ў нашых вёсках такія ўнутраныя брукаванкі.

Часта нават не хапала фарбы ці вапны. Віленскі пісьменнік Юзаф Мацкевіч пісаў пра злоўжыванні войтаў-асаднікаў у нарысе "Войты пана Мальскага": *"... будуецца ў нас школа - і заўжды для будоўлі патрэбна вапна. Але ў мінулым годзе слынны акольнічы пана прэм'ера* (Славой-Складкоўскага - *Л.Л.*) *загадаў прымусова бяліць хаты, туалеты і платы. Для пабелкі патрэбна вапна. Адкуль яе ўзяць, калі раптоўна цэлы край неабходна пабяліць і вышмараваць. Кошты ідуць уверх, яўрэі пачынаюць спекуляваць, а можа нават ужо і не маюць тавару? Што значыць не мець тавару?! Цэлы вагон вапны прыходзіць на чыгуначную станцыю Нёман для школы. Я ўжо добра не памятаю, ці той яўрэй меў прозвішча Зляцоўскі, ці нейкае іншае. У любым выпадку ... вапна была ноччу прададзена яўрэям для перапродажу сялянам - бяліць платы і туалеты".*

Выдаў генерал пастанову і пра санітарыю ў гатэльнай справе. Тэхнічны і культурны прагрэс даваў



***Класічная беларуская славойка***

магчымасць уладкоўваць там гігіенічныя месцы пасучаснаму. Верагодна, адзін з першых унітазаў у Лідзе быў усталяваны ў "Пецярбургскім гатэлі" Ісака Глаўбермана, вуліца Каменская, 6. Пра гэты цуд сантэхнікі пісалі розныя аўтары.

Мельхіёр Ваньковіч ў кнізе "Дзе-нідзе" занатаваў: *"... у Лідзе пані Глаўберман, уладальніца гатэля "Пецярбургскі", уладаваўшы клазет са злівам вады на кухні, лопалася ад гонару. Яна горача ўгаворвала мяне скарыстацца ім. Калі сказаў, што не жадаю, яна аргументавала свой націск: "Хай пан толькі паспрабуе. Пан В. з Пэцяшы таксама не хацеў, а як паспрабаваў, дык адразу захацеў". Для Ліды гэта быў люкс і камфорт. У гатэлі стала жылі лётчыкі, і пані Глаўберман перад святамі без цырымоній забірала ў маладых афіцэраў грошы, тлумачачы, што "ўсяроўна прап'юць ...".* "Ахвярай" пані Глаўберман быў таксама і лідскі абшарнік Андрэй Раствароўскі, ён пісаў: *"І яшчэ, для камплекту, пра "Пецярбургскі" гатэль ці "Пецярбургскую цёцю". Вельмі чысты гатэлік, дзе volens nolens прыходзілася пад час з'ездаў, баляў ці іншых аказій рэзерваваць сябе пакой. Уладальніца, пані Глаўберман - дзедзічка гатэля, паходзіла са старой лідскай сям'і Цыдзяровіч, выйшла замуж за добра малодшага за сябе яўрэя з Пінска Глаўбермана. Ён выконваў абавязкі пакаёвага, парцье, пасыльнага і выкідалы. Неяк, пані Глаўберман устанавіла новы клазет са спускам вады, і таму заахвочвала ўсіх пастаяльцаў карыстацца ім, каб ацаніць выгоды. Казала: "Што значыць не патрэбна? Пану Ваньковічу таксама было не патрэбна, але як сеў, дык гадзіну сядзеў!"".*

Звычайныя славойкі мелі старыя школы горада, напрыклад № 5 каля замка. І толькі новыя школы, пачынаючы з № 1 і 2 (гэта зараз школа № 1) атрымалі сучаснае сантэхнічнае абсталяванне. А пры канцы 1930-х гг. у Лідзе пачалося будаўніцтва каналізацыі.

***Леанід Лаўрэш.***

# Тарбут-школа ў Лідзе

Я больш за 15 гадоў хацеў даведацца, якому будынку належала дзіўная сцяна (падобная на барочную), што стаяла ў цэнтры горада і да якой быў прылеплены сціплы будынак 1950-х гг. У 2001 г. першай лічбавай камерай, якая патрапіла мне ў рукі, зрабіў здымак гэтай сцяны, з тых часоў яна не змянілася, толькі сцяну разам з будынкам адрамантавалі і пафарбавалі ў іншы колер. А да рамонту заходні край сцяны знізу не меў тынку, і была добра бачна цэгла, адну цагліну я нават выняў і патрымаў у руках. Гэты была вялікапамерная гладкая цэгла даўжынёй прыкладна 30 см. На жаль я не зрабіў абмеру цаглігны.



***Яўрэйскія гандляры***

І толькі нядаўна, пад час аналізу пабудоў старога цэнтра горада пры стварэнні 3D мадэлі, гэтую загадку праясніў мой добры знаёмы Віталь Бурак, за што аўтар выказвае яму шчырую падзяку. На гэтым месцы, па вуліцы Садовай з 1920-х гг. знаходзілася лідская Тарбут-школа другой ступені. Тарбут (яўр. - культура) - яўрэйская свецкая асветніцка-культурная арганізацыя, пад эгідай якой у перыяд паміж дзвюмя сусветнымі войнамі была створана сетка свецкіх адукацыйных устаноў на іўрыце.

Яўрэйская свецкая Тарбут-школа ў горадзе стала выконвала ролю культурнага цэнтра. У канцы кастрычніка 1931 года ў *"яўрэйскай школе "Тарбут" па вуліцы Садовай лектарам з Вільні быў зачытаны рэферат на тэму гісторыі сіянізму за апошнія 50 гадоў. Падчас дыскусіі абмяркоўваліся яўрэйска-арабскія стасункі ў Палесціне і справы каланізацыі. Прысутнічалі 60 чалавек - у большасці яўрэйская моладзь з сіяніцкіх арганізацый"*. 26 ліпеня 1932 года ў зале Тарбут-школы (вуліца Садовая, 11) адбыўся сход навуковага яўрэйскага таварыства горада Ліды. Была абрана новая ўправа таварыства ў складзе: Гірша Палячака, Абрама Гурвіча, Адольфа Левінсона, Гірша Альпяровіча і Ільі Зайгера і рэвізійная камісія. У 1933 годзе заснаваны гістарычны камітэт, які збіраў матэрыялы па гісторыі лідскіх яўрэяў для выдання манаграфіі, аднак гэтая праца не была выканана да канца.



***Халодная сінагога ў Менску, 1928 г.***

Па адрасе: Садовая, 11 знаходзіўся пляц вядомай і разгалінаванай лідскай сям'і Ілютовічаў. Якаў Ілютовіч пісаў: *"Мой бацька Ерамія Ілютовіч па сваёй маці належаў да сям'і Пупко - "Ханчыкаў", ад імя заснавальніка сям'і, чыё імя было Хана. Усе Ханчыкі мелі вялікую вагу ў справах кагалу. З-за свайго радаводу мой бацька нават змог выслізнуць ад каман-*



***Сцяна лідскага яўрэйскага малельнага дома***

*ды лаўцоў рэкрутаў, якія павінны былі выхапіць яўрэйскіх дзяцей у салдаты на 25 гадоў. Гэта такая гісторыя: "Калі мой бацька быў яшчэ толькі маленькім хлопчыкам, ён зімовым вечарам выйшаў з ешывы, дзе вучыўся. Раптоўна камандаў лаўцоў, якая толькі што ўвайшла ў горад акружыла яго. Мясцовы паліцэйскі, які прымаў удзел у лоўлі, асвятліў яго твар ліхтаром, і сказаў: "Адпусціце яго. Ён адзін з Ханчыкаў".*

Сам Якаў Ілютовіч быў адным з заснавальнікаў руху сіяністаў у Лідзе. Самі сіяністы лічылі, што самае галоўнае яны зрабілі ў сферы адукацыі - іхнім ідэалам была поўная яўрэйская школа. Піянерамі яўрэйскай школы ў Лідзе былі малады студэнт Матаціс Рубін, сын Руба-Хана Рубіна, і пазней - яго будучая жонка Нота, да замуства - Рабіновіч. Яны першымі адкрылі клас на іўрыце. У іх не было грошай на арэнду памяшкання, і яны з адабрэння папячыцеляў сінагогі вучылі ў пакоі для абслугоўчага персаналу пры малельным доме канторы пахаванняў. З гэтага вырасла школа на іўрыце, якая вучыла да 6-га класа па праграме гімназіі. Далей павышаць узровень адукацыі не дазволілі фінансавыя абмежаванні, бо асноўныя высілкі засяроджваліся на ўмацаванні становішча класаў Народнай школы для непісьменных.

Такім чынам, можна з адноснай упэўненасцю сказаць, што ў Лідзе захавалася сцяна малельнага дома пры канторы пахаванняў Ілютовічаў. Гэтая сцяна былой сінагогі - адзінае, што засталося ад пабудоў старога цэнтра горада. Дырэктарам Тарбут-школы быў Ханан Ілютовіч. Яе наведвала 500 вучняў, у канцы 1930-х стары будынак стаў замалы, і яўрэйская грамада пачала будаваць трохпавярховую новую Тарбут-школу ў іншым раёне горада, гэты гмах захаваўся да нашага часу.

Сцяна малельнага дома мае рысы характэрныя для яўрэйскіх сінагог Беларусі. Асабліва яна нагадвае так званую "халодную" сінагогу ў Менску, якая з'явілася ў XVII ст. "Халодная" сінагога на былой вуліцы Школьнай - невялікі па аб'ёму будынак, доўгі час яна з'яўлялася адной з самых старых мураваных пабудоў у горадзе. Некаторыя даследнікі лічаць, што спачатку гэта была капліца Петрапаўлаўскага манастыра. Аднак да XIX ст. бажніца належала яўрэйскай грамадзе. У 1965-1966 гг. пад час разбурэння гістарычнай забудовы вуліцы Нямігі будынак сінагогі быў знішчаны.

Цікава, што вуліца Садовая ў Лідзе, па якой знаходзілася Тарбут-школа, з'явілася толькі пасля вялікага пажару 1891 г., яна была прарэзана ад галоўнай Сінагогі да вуліцы Каменскай. На ўсім участку дзе яна ішла, раней быў вялікі фруктовы сад, які належаў фармацэўту Юстыну Шымкевічу. За плотам з невялікіх драўляных пралётаў, стаяла аптэка фармацэўта і яго дом. Пасля пажару фармацэўт страціў сад і прадаў свой участак для забудовы яўрэям. У 1899 г. Шымкевіч атрымаў 35 рублёў за зямлю якая адчужалася ў яго для правядзення Садовай вуліцы. А пасля пажару 1941 г. вуліца знікла.

Для нашага горада гэты адзіны парэштак "затануўшай Атландыты" яўрэйскага свету мае культурнае значэнне, і трэба думаць пра ахову яго дзяржавай.

***Леанід Лаўрэш*** .

Янка Жамойцін

# З перажитага

(Працяг. Пачатак у пяпярэдніх нумарах.)

**Трывожны канец нямецкай акупацыі**

У чэрвені рыхтаваўся 2-гі Усебеларускі кангрэс у Менску. З Наваградка выбралася на Кангрэс нешта каля 30-ці з лішнім асоб, у тым ліку некалькі з кіраўніцтва СБМ. Было гэта даволі хвалюючае здарэнне. 27 чэрвеня 1944 г. будынак тэатра пад аховай афіцэраў і жаўнераў Беларускай краёвай абароны запоўніўся дэлегатамі - больш тысячы асоб. Нямала было моладзі ў юнацкіх мундзірах. У пэўным моманце падышоў да мяне мужчына гадоў каля 40, зусім незнаёмы, і, назваўшы мяне па прозвішчы, заявіў коратка: калі змест рэферата мінецца з прынцыпам вольнасці краіны - выходзім з залы. Зважайце вось на тую групу - паказаў на правае крыло побач выхаду. Я не адазваўся, помнячы перасцярогу сябры В. Коласа аб магчымай правакацыі і ў сувязі з гэтым пасольства незнаёмага захаваў я да ўласнага ведама. Ад пачатку рэферата Калубовіча слухаў пільна, аднак, сачыў тое правае крыло залы, тым больш, што аргументацыя, чаму Беларусь павінна парваць з савецкаю Масквою (асноўны касцяк рэферата), была дастаткова вядомая. Рэферат паказаўся выважаным, ніякага "вернападданніцкага" акцэнту ў ім не аказалася, і ўсё прайшло спакойна. Эйфарыю выклікаў пасля змест дэкларацыі, навязваючай да дэкларацыі незалежнасці ад 25 сакавіка 1918 г. Дэлегаты зразумелі і прынялі тую фармулёўку дэкларацыі як прадаўжэнне незалежнасці, аб'яўленай 25 сакавіка 1918 г. Незалежна ад таго, як хто ацаніў сцверджанне, што кангрэс з'яўляецца паўнапраўным і найвышэйшым прадстаўніцтвам беларускага народа, а Беларуская Цэнтральная Рада законным прадстаўніком, ніхто не выказаў іншага становішча і ніхто не супрацівіўся прыняццю рэзалюцыі, што зрэшты і не мела ў гэтых абставінах сэнсу.

Чутны ўжо ў Менску грукат франтавых гарматаў нікім не ўспрымаўся абыякава. У адных разбуджаў надзею, у іншых трывогу, але ў кожным турботу пра будучыню.

У Наваградак вярнуліся мы са сп. Гутарам і Людкай Гутар таварным цягнікам 30 чэрвеня.

У сувязі з заканчэннем школьнага года большасць моладзі паразыходзілася з горада ў вёскі. Асталіся толькі жыхары Наваградка і сёл, якім пагражалі партызаны, у асноўным з Карэліцкага раёна.

Наваградак быццам акупаваны казакамі, якія наводзілі жах на людзей. Гараджане, а асабліва сем'і жаўнераў, чакалі вяртання "рагулёўцаў" з якойсь вайсковай акцыі на Глыбоччыне. Эскадрон тым часам разросся галоўным чынам колькасцю добраахвотнікаў-семінарыстаў і ператварыўся ў дывізіён Беларускай краёвай абароны. Горад прывітаў сваіх жаўнераў 4 ліпеня.

Нам з Міцем Горбачам удалося склікаць юнацтва колькасцю каля адной грамады і аб'явіць хаця б сімвалічна перапынак дзейнасці СБМ у Наваградку. Не зважаючы на атмасферу неспакою ў горадзе, моладзь не праяўляла ніякіх турбот і захоўвалася, як і на папярэдніх спатканнях. Уфармаваная калона адспявала "Беларусь, наша Маці-Краіна". Я аб'явіў спыненне дзейнасці акруговай арганізацыі Саюза беларускай моладзі ў Наваградку і пераняў пад сваю апеку сцяг акруговай арганізацыі СБМ. Падсумаваўшы ў некалькіх сказах дасягненні СБМ, я выказаў перакананне, што прыйдзе час адраджэння краіны, у тым ліку і руху моладзі, а эпілогам яго будзе несумненна вольная Беларусь.

На развітальны кліч "Жыве Беларусь!" вырваўся быццам з грудзей грамады з неймаверна пераканаўчай сілаю адказ: "Жыве!". Уражанне ад гэтага апошняга развітальнага клічу ўрэзалася ў душу, думаю, не толькі маю, што сталася стымулам думак і пачуццяў ды дзе-якіх пачынанняў у розных жыццёвых сітуацыях.

Летні спякотны дзень схіляўся да змяркання, і ў так позні час у неспакойным горадзе прыйшлося хутка разысціся.

На другі дзень мы спаткаліся з Міцем Горбачам, каб абмеркаваць альтэрнатыву: эвакуявацца на захад ці застацца ў краіне. Матывацыяй, выказанай мною было: указанне кіраўнічага штаба СБМ кадрам арганізацыі выехаць у Нямеччыну і прадаўжаць працу з моладдзю ў лагерах прымусовай працы. Шэф-праваднік Міхась Ганько атрымаў на гэтае дзеянне СБМ згоду, а ўмовы, сцверджаныя ўжо раней адведзінамі некаторых лагераў, аказаліся жалю годнымі.

Другім матывам была спадзяваная жорсткая расправа бальшавікоў з кожнай праявай нацыянальнай дзейнасці, аб чым сведчылі практыкі 30-х гадоў.

Міця меў адзін бясспрэчны матыў: жыццё лічыцца толькі на Бацькаўшчыне. Становішчам гэтым напомніў мне ён мае асабістыя перажыванні, балючую настальгію, якую прыйшлося перажыць выехаўшы з Бацькаўшчыны ў варшаўскі інтэрнат на гімназічныя "навукі" ў 1936 г. Я разумеў калегу, якому не прыйшлося праўдападобна ніколі пакідаць Наваградак, як толькі на курсы кіраўнікоў СБМ у Альбярціне. Ён вырашыў застацца, а я, развітаўшыся з сябрам, апынуўся перад цяжкім жыццёвым рашэннем.

**Эвакуацыя**

З усходняй Наваградчыны цягнуўся ўжо абоз фурманак з сем'ямі на захад. Стаў варушыцца і сам Наваградак. Я да бацькоў выслаў свайго брата - вучня семінарыі Андрэя, які жыў у сям'і былога пасла Аляксандра Стагановіча пад апекай, адданай усёю душою дзецям, у тым ліку і Андрэю, спадарыні Марыі Стагановіч. Яны з цэлай сям'ёю таксама выехалі. (Мне давялося выпадкова спаткацца з імі дзесь у Нямеччыне і ў драматычных варунках дапамагчы ім пагрузіцца ў перапоўнены цягнік. У 1988 г. адведаў я сям'ю Стагановi-

чаў у ЗША, пасля чаго ў хуткім часе памёр спадар Аляксандр. Маткаю апекаваўся сын Лёва; памерла яна ў 1995 г. Андрэй - мой брат - выбраў місію святара. Высланы з Беларусі ў Расею, у горад Клетню, а пасля Клінцы, заўзята адбудоўваў і будаваў цэрквы. Яму ламалі святыні, абкрадалі, палілі, пагражалі, а ён упарта будаваў да канца сваіх дзён. Памёр 11 траўня 1995 г.)

4 ліпеня 1944 г. вярнуліся ў Наваградак чаканыя "рагулеўцы". Веснавыя навабранцы - наймалодшыя хлопцы - паразбягаліся дамоў. У казармах застаўся касцяк дывізіёна, у тым ліку мае школьныя сябры. Большасць з іх вырашыла эвакуявацца. Я дагаварыўся на сумеснае падарожжа, калі не販 станнуць на перашкодзе вайсковыя справы.

Хлопцы чакалі загаду. Непакой нарастаў сярод ваякаў, а з ім дэзарыентацыя і нерашучасць, што рабіць?

Ноччу 6 ліпеня дамагаліся яны камандзіра Барыса Рагулі, які явіўся і звольніў з абавязку службы тых, хто вырашыць застацца. З групаю, якая вырашыла прадаўжаць ваяцкую справу і эвакуявацца, дамовіўся на спатканне ў падарожжы на захад у акрэсленых пунктах і часе, даверыўшы кіраўніцтва эвакуацыяй камусь з малодшых афіцэраў. Пазней былы афіцэр дывізіёна Мікола Рулінскі напіша: *"Ноччу я паехаў маторам да Барыса (...) ды сказаў, што хлопцы хочуць пагутарыць. Прыехаў, пагутарылі - Хто хоча: туды ці сюды (...) Назаўтра "Татраю" Барыс, Люда, Рагуля Міхась і пасол - выехалі"*. Кастусь Мярляк у сваіх успамінах шчыра прызнаецца, што ноччу 6 ліпеня, вырваны загадам Б. Рагулі ад нарачонай, у якой начаваў, паспеў захапіць з казармаў шафёра грузавіка, які ладаваў дабро, каб ехаць дамоў. Загадаў хлопцу падрыхтаваць да падарожжа самаход і паехаў з ім па сваё прыватнае дабро, а пасля па знаёмых, з якімі вяртаўся на захад тым жа самаходам. Далей К. Мярляк піша, што 9 ліпеня пад вечар у Гародні спаткаліся яны, з Б. Рагулям і пяццю разведчыкамі на конях, "*якія незалежна паявіліся ў Гародні. Зараз жа на месцы было ўзгоднена, што эскадрон міне Гародню і накіруецца на Ломжу, а камандзір з інтэндантам* (К. Мерляком) *і падарожнікамі накіруюцца на Беласток. Пасля нарады разведчыкі вярнуліся ў эскадрон. Гэты факт адлучыў камандзіра і інтэнданта ад наваградскага эскадрона кавалерыі назаўсёды*". Мікола Грэбень расказвае, што па дарозе ў заходнім напрамку ад Гародні сустрэў "рагулеўцаў" Мацука і Васіля Канюха, якія, высланыя ў разведку, пасвілі сваіх коней у аўсяным палетку, чакаючы камандзіра з інтэндантам і апразізацыяй на ўмоўленае спатканне. Ці адбылося тое спатканне, К. Мярляк не ўспамінае.

На досвітку 7 ліпеня 1944 г. я застаў наваградскія казармы быццам вымеценыя: хлопцаў - ні душы. Хто выехаў ноччу, хто падаўся ў вядомым сабе напрамку, каб шукаць прыпынку на месцы. Казакі, зарыентаваўшыся ў сітуацыі беларускага эскадрона, зрабавалі большасць табара і верхавых коней. Якімі сродкамі транспарту падаліся хлопцы на захад - цяжка сказаць.

Пакінутыя свайму лёсу, маладыя недасведчаныя хлопцы, якія па іх уласным выбары мелі быць элітай беларускага войска, канчалі ў найлепшым выпадку драматычна. Многія з іх адцярпелі мукі ў Гулагу, іншыя паплаціліся жыццём. Апусцелы Наваградак прыйшлося і мне ў ліпеньскую раніцу пакінуць назаўсёды. Забраўшы невялікую валізку з архівам СБМ, штандарам і самымі неабходнымі рэчамі на багажнік свайго самаката, падаўся я ў напрамку Ліды. Дарога гусцела з кожным кіламетрам ад фурманак і вайсковага транспарту. Валізачка мая ёўзалася па багажніку самаката, быццам намагаючыся вызваліцца з той таўкатні пыльнага падарожжа і замінала перамяшчацца з неабходнай хуткасцю. Ліду прыйшлося прайсці пяшком. Пасля начной бамбардзіроўкі кругом дымелі недагашаныя пажарышчы; з дзеравяных хатак паасталіся трэскі. Па вуліцах пабітыя коні, людзі і паломаныя вазы з маёмасцю. Мая спроба найсці Алега Лапіцкага - акруговага кіраўніка СБМ у Лідзе, на жаль, была беспаспяховай. Ад самога горада, выбраўшыся з яго ў напрамку Гародні, бежанцы штораз былі спіханыя з шашы вайсковым транспартам, і рабілася ўсё цясней і цясней. Цераз мост на Дзітве, толькі што так-сяк напраўлены пасля пашкоджання бомбаю, афіцэр прапускаў перад усім вайсковыя фарміраванні. Людзі ў спякоце таўпіліся, як авечкі, перад тым ігольным вухам, каб як-небудзь перабрацца на заходні бок рэчкі. Я са сваім самакатам уціснуўся на мост без асаблівага клопату. Праехаўшы наступныя 12 кіламетраў, пры хутары каля дарогі пабачыў я на адпачынку сям'ю з Наваградка (прозвішча не памятаю). Тры кіламетры ад таго месца на паўднёвы ўсход - мая вёска Клімавічы з цэлаю сям'ёю. Багаж мой наваградчане згадзіліся ўзяць на фурманку, умовіўшыся, што аддадуць яго прадстаўніку СБМ у Нямеччыне, калі нам не ўдасца сустрэцца ў далейшым падарожжы. Сам я падаўся да бацькоў развітацца. Мінаючы вёскі Змітраўцы, Сямашкі, Губейкі аж да Клімавіч не спаткаў на вуліцах жывога духа. Дома ўся сям'я чамусьці згуртавалася ў гумне, што каля аселіцы, за якою балота аддзелена ад поплава альховым гаем - "купнікам". За ім уся клімавіцкая жывёла, перад усім коні, якія былі пад найбольшай пагрозай рабунку. Я, хоць быў дастаткова змораны, стараўся ўтрымаць настрой бадзёрасці, каб запабегчы развітальным лямантам. Адведзіны не трывалі доўга, але не абышлося без абеду і чаркі "крупніку" (веснавога мёду на спірце), што дадало мне крыху энергіі. Мама ўвіхалася моўчкі, рыхтуючы пачастунак. Час ад часу кіравала на мяне свой позірк поўны трывожнага жалю і неспакою. На яе твары, па натуры спакойным і лагодным, паявіліся глыбокія рысы цярпення, але з вуснаў, заціснутых у якойсь дзіўнай пранізлівай грымасе, не выдабылася ані адно слова. Я зразумеў, што хіба мама адна разумела мяне ясна ў тым моманце і адчувала мае праўдзівы псіхічны настрой і становішча, у якім я апынуўся, што будзіла жах у яе сэрцы.

Развітанне трывала коратка. Мама, бласлаўляючы мяне на дарогу, сказала амаль шэптам: "Буду маліцца за твой паварот і веру, што ён збудзецца". Тым часам дзесь з глыбіні яе грудзей вырваўся ледзь чутны стогн, быццам рэха ахапіўшага ўсю яе гора. З вачэй пакаціліся слёзы, а вусны зноў упарта замоўклі. Уражанне ад гэтага развітання аказалася самым цяжкім грузам не толькі на найбліжэйшае падарожжа. Сеўшы на свой самакат, я рашыў не азірацца і, націскаючы з усяе сілы на педалі, стараўся асягнуць фізічную стому, што мела заглушыць несціхаючае балючае перажы-

ванне.

Ад'ехаўшы 2 кіламетры ад роднай хаты, на чыгуначным пераездзе, што на акраіне вёскі Сямашкі, спаткаў я нечакана двух наваградскіх школьных сяброў у вайсковай вопратцы - Захара Кавэліча з яго малодшым братам (імя не памятаю) з рагулевага дывізіёна. Спатканне гэта, за які кіламетр ад гарадзенскай шашы, здзівіла іх не менш, чым мяне. Абодва былі запуджаныя і бездапаможныя. Не маючы коней, адбіліся ад адступаючай сваёй групы, што мабыць ад'ехала дзесь далей у напрамку Гародні, бо як сцвярджалі, шаша ўжо апусцела і, праўдападобна, прыблізілася франтавая паласа. Не маглі вырашыць, куды дзецца. Я таксама не меў ніякай рады для сяброў у такой сітуацыі апрача таго, што паказаў сяло, дзе жылі мае бацькі, а сам вырашыў прадаўжыць сваё падарожжа на захад. Хлопцы, як пасля аказалася, вырашылі, праўдападобна, не траціць часу і пераапрануўшыся ў сялянскую вопратку, узялі курс на Наваградак. У 1953 г. у Карлагу ад Віктара Хоміча я даведаўся, што Кавэлічы напароліся ў лесе за Нёманам на вайсковую, праўдападобна, савецкую партызанскую частку, якая расстраляла іх на аснове аднаго толькі сцверджання, што былі ў бялізне з вайсковымі прызнакамі.

Гарадзенская шаша фактычна аказалася пустою і адзінокаму "цыклісту" ніхто не замінаў прадаўжаць свой курс. Неўзабаве паказалася сярод зелені стужка рэчкі Лебяды, якая прывабна дыхнула свежым подыхам паветра. Цяжка было адмовіць папаўнення згубленай з потам вільгаці. Прыйшлося хутка спусціцца з моста, насалодзіцца крыштальна чыстай вадзіцай, быццам жыватворным эліксірам, і далей, у дарогу. За мною засталося ўжо Мажэйкава, вёскі Шпількі і Кіралі, дзе трэба было пераадолець узвышанасць, што каля смалярні ў лесе. Тут ужо адазвалася стомленасць. Падышоўшы пад горку, прыйшлося далей "педаляваць", аж да поўнай знямогі, што неўзабаве і наступіла. Сканаў цяжкі трывожны дзень, а наваколле ўсё яшчэ заставалася пустым. Выбраўшы побач шашы гусцейшы хмызняк, адвязаў я з рамы самаката скрутак, што называўся плашчом, з якога зрабіў пасцель, і, прывязаўшы нагу да кола маёй машыны, вокамгненна, быццам зачараваны цудадзейнымі мелодыямі Арфея, адключыўся ад рэчаіснасці. Дрыжыкі паўзучага па кустах халоднага досвітку сігналізавалі надыход новага дня. Прабуджэнне было тым больш прыкрае, што з краіны забыцця раптоўна паставіла яно мяне перад кашмарнай рэчаіснасцю. На разважанні, аднак, не было часу. "Усцерабіўся", быццам пад прымусам, на свой самакат, трэба было прадаўжаць падарожжа.

Пасля гадзіны вандравання пачуўся гул матора з усходу. Неўзабаве на гарызонце паявіўся грузавы самаход, толькі невядома чый. Спроба затрымаць разагнаную машыну, на жаль, не прынесла поспеху, і над наваколлем зноў запанавала трывожная цішыня. Пасля пяці-шасці гадзін язды пачаў я даганяць фурманкі і, чым далей, тым станавілася іх штораз больш. У рэшце рэшт паявіліся перад вачыма і мае наваградчане з валізкаю, якія ўжо згубілі надзею на спатканне. Гаспадар фурманкі звярнуў увагу на некалькіх хлопцаў у СБМаўскай форме, што падарожнічалі таксама фурманкаю і мелі дырэктывы ехаць у напрамку Ломжы на зборны пункт у якімсь фальварку над Нарвай, дзесь непадалёку Візны. Абоз цягнуўся вяла, дык людзі мелі магчымасць знаёміцца, радзіцца, умаўляцца. На месцы прыпынку мы не былі першымі. Распрэжаныя фурманкі, папутаныя на поплаве коні, рыхтуючыя або спажываючыя страву людзі, стваралі ўражанне грамаднага пікніка. Сабралася немалая група сяброў СБМ - пераважна кадры сярэдняга кіраўніцтва, што чакалі спадзяванага прадстаўніка кіраўнічага штаба Саюза, з якім кадры СБМ мелі накіравацца ў вядомы ўжо лагер у аўстрыйскіх Альпах, што каля мястэчка Шпіталь. У такіх абставінах сяброўскія сувязі завязваюцца хутка.

Спатканыя хлопцы, азнаёмленыя з сітуацыяй, пакарміўшы прышэльцаў, запрапанавалі начлег у якойсь клуні, пасля адпачынку на паветры. Раскошнае купанне ў рэчцы, увальненне ад дарожнага пылу сябе і вопраткі, якая пасля мыцця хутка абсушылася нагрэтым сонейкам павевам ветру - усё гэта разам разрадзіла ранейшае напружанне. На змену яму прыйшла магутная стома, над якой запанаваў збаўчы сон. Цяжка цяпер сказаць, як доўга ён уладаў свядомасцю падарожнікаў, утопленых у духмяным сене клуні. Падсвядомае адчуванне голаду і духата ад летніх сонечных праменняў наступнага ўжо дня, як па загаду, паднялі начлежнікаў. Мае наваградскія суседзі таксама ачунялі і падбадзёрваліся аб'яўленай ім мэтай падарожжа.

Апоўдні я выбраўся ў суправаджэнні трох спатканых сяброў у блізкае сяло абмяняць самакат на прадукты харчавання. Выбралі найпрыгажэйшую хату ў вёсцы, што мела сведчыць аб заможнасці гаспадара. Пачатковая насцярожанасць селяніна да незнаёмай яму нашай эсбээмаўскай уніформы ўступіла ветлівасці, калі пачуў наша прывітанне на польскай мове. Прытым змылілі яго праўдападобна і нашы бела-чырвона-белыя павязкі на рукавах, у якіх бачыў перад усім жаданыя ім белы і чырвоны колеры. Запрасіў нас прысесці на лаўцы каля хаты і павёў асцярожную гутарку аб нічым, пазбягаючы якіх-колечы пытанняў. Нашу прапанову абмяняць самакат на прадукты харчавання прыняў, абдзяліўшы нас шчодра, і на дадатак загадаў дочкам прыгатовіць яечню, што замяніла нам абед. Цэлая сям'я запрасіла паўтарыць адведзіны, палічыўшы нас праўдападобна "сваімі", у чужой вопратцы дзеля маскіроўкі, але са "свойскімі" сімваламі. Адведзіны не паўтарыліся, і "ідылія" над Нарваю таксама скончылася на наступны дзень. Грамадка моладзі, каля 15 асоб, грузавіком адвезеная на чыгунку, пагрузілася ў цягнік. Падарожжа ў Аўстрыю то чыгункаю, то грузавікамі заняло двое сутак. Альпы выклікалі нечакана цудоўнае ўражанне, тым больш, што для большасці з нас было гэта першае сутыкненне з горамі. Мінуўшы чысценькае мястэчка Шпіталь, неўзабаве ў даліне Мальта паказаўся на чырвонай мачце бела-чырвона-белы сцяг, прывітаны воплескамі пасажыраў грузавіка. Якаясь дзяўчына заінтанавала, а за ёю цэлая грамада падхапіла дружна песню "Беларусь, наша Маці-Краіна". На наша прывітанне з баракаў невялічкага лагера высыпаліся, як пчолы, усе, хто жыў, і загудзела як каля вулея. Сардэчныя прывітанні ўсіх з усімі, лавіна пытанняў і хаатычных інфармацыяў. Пагудзела сабе так грамада нешта з паўгадзіны, ажно адказны за парадак юнак у форме звязовага прыпыніў гоман і заняўся пасяленнем новапрыбыўшых.

Лагер меў характар зборнага пункта кадраў СБМ, пачаўшы ад грамадовых, канчаючы на праваднікаx. Парадак дня - тыпова скаўцкі - пачатак ад падняцця сцяга на мачту, заканчэнне - апушчэннем сцяга. Кожная цырымонія суправаджалася патрыятычнаю песняй "Беларусь, наша Маці-Краіна", "Пагоня" ці "У гушчарах" і інш. Адмысловай праграмы заняткаў (апрача парадкавых) не было, што давала магчымасць турыстычным выхадам у горы. Незалежна ад эйфарычнага ўздыму, выкліканага момантамі прывітання папаўняючых грамаду сяброў, наогул у атмасферы лагера адчуваўся настрой настальгіі і трывогі перад невядомым будучым.

Наступны этап падарожжа ў канцы ліпеня 1944 г. з Мальты ў Берлін прыбліжаў сяброў СБМ да прадаўжэння іх працы ў новых нялёгкіх абставінах.

**Праца ў лагерах Нямеччыны**

У Шпандаў-Вэст на акраінах Берліна лагер моладзі згуртаваў значную колькасць функцыянераў СБМ. Кіраўнік лагера штандаровы Дзмітры Стэльмах, даючы волю сваім вайсковым упадабанням былога капітана, знаходзіў задавальненне са сваімі падуладнымі ў вайсковай муштры, што выдатна памагала ўтрымаць лад і дысцыпліну. Ніхто, на добрую справу, не ведаў, што яго чакае ў найбліжэйшым часе. Шэфправаднік Міхась Ганько тым часам праўдападобна "таргаваўся" ў Остміністэрыюм, стараючыся асягнуць магчыма найбольшы ўплыў кіраўніцтва СБМ на апеку над моладдзю, вывезеную на прымусовую працу ў Нямеччыну, ды ахапіць гэтай апекай, магчыма, усю беларускую моладзь, усе дзеці, сітуацыя якіх была незайздросная. У другой палове жніўня пачаліся камандзіроўкі ў працоўныя лагеры. У першую чаргу кіравалі дзяўчат у лагеры з дзяцьмі ў Саксонію, дзе неабходная была цёплая матчыная апека над няшчаснымі. Хлапчукі ў тых жа лагерах атрымалі апеку кіраўнікоў СБМ.

СБМ стараўся агарнуць усю беларускую моладзь у Нямеччыне і зрабіць усё магчымае для аблягчэння яе лёсу ды духовага збліжэння да ўсяго, што роднае: да мовы, культуры, пазнання гісторыі і геаграфіі краіны.

Я атрымаў прызначэнне ў горад Кёльн, дзе ў тэхнічнай арганізацыі АТ (Арганізацыя Тодт) знаходзілася больш сарака беларускіх хлопцаў, як дапаможная сіла нямецкім і галандскім гарнякам. Лагер, хаця быў у зоне безупынных альянцкіх налётаў, аднак размешчаны на акраіне горада ў старой напалеонаўскай цвердзі, быў у нейкай ступені бяспечны. Начальнік лагера прыняў мяне, мякка кажучы, без энтузіязму, але гарнякі, як пазней аказалася, усе без выключэння праціўнікі гітлерызму, праявілі выразную зычлівасць і падказвалі, дзе чаго дабівацца для хлопцаў.

Першае, што ўдалося, гэта атрыманне "выхадной" вопраткі апрача рабочых камбінезонаў і зраўнанне ў харчаванні з гарнякамі ў супольнай кухні. Удача тая прыдбала і мне карысці ў сэнсе аўтарытэту ў падапечных 16-20-гадовых хлопцаў. Праца цэлай экіпы была ненармаваная і небяспечная. Заданнем яе было ратаванне людзей, засыпаных грузам збамбардаваных дамоў у рэгіёне, і выдабыванне пабітых. Налёты на Кёльн, Ахен, Мёнхенгладбах і іншыя акалічныя мясцовасці паўтараліся безупынна. Нашай задачай была акцыя, якая пачыналася падчас бамбардзіроўкі і працягвалася аж да ачьппчэння вызначанага ўчастка. Праца адбывалася пад пагрозай безупыннай небяспекі ад бамбардзіроўкі, завалу руін, у якіх праходзіла праца, пакалечання людзей ці трупаў у развалінах будынкаў, абвінавачання ў сабатажы і т.п. Паводле прынятых прынцыпаў можна было з'есці прадукты, знойдзеныя ў падвалах, але толькі на месцы. Вынас чаго-небудзь з месца акцыі пагражаў смерцю, што адносілася і да немцаў, і да чужаземных работнікаў. Аднойчы на паліцыю быў складзены данос, што два нашы хлопцы з Гродзеншчыны Ясюк і Стась (прозвішчаў не помню) падарылі дзяўчатам кожны па адным пярсцёнку. Хлопцаў арыштавалі пад закідам, што пярсцёнкі вынеслі з месца акцыі. Праўдападобна, так і было, але трэба было ратаваць "кавалераў". Нашы запэўненні паліцэйскім, што яны мелі гэта з дому, толькі раздражнілі гестапаўцаў. Кіраўніком нашай брыгады быў вельмі людскі немец, які ненавідзеў гітлераўскі рэжым. На нашу вельмі гарачую просьбу пайшоў у гестапа яшчэ з двума гарнякамі і якімсь цудам адваяваў хлопцаў. Ад удзячнасці за інтэрвенцыю я перастаў яму надаядаць намаганнем унармаваць час працы, што ў тых абставінах было і так немагчымым. Бывала, што адпачынак трымаў і пару дзён. Тады можна было распараджацца часам і выкарыстоўваць яго на свае заняткі. Узгадаваўчую працу прыйшлося пачынаць з нуля. Большасць хлопцаў паслугоўвалася роднай, беларускай мовай, але нацыянальная свядомасць амаль што адсутнічала. Разрознівалі яны два палітычныя полюсы: варожы - гэта Гітлер і процілеглы - гэта саветы з амерыканцамі, што супраць Гітлера. Гутарка пра якуюсь там незалежнасць была б для іх пустым гукам, але родныя песні спявалі ахвотна і між іншымі толькі што пазнаныя патрыятычнага характеру. З прыемнасцю слухалі літаратурныя апавяданні, цешыліся вершамі. Такім чынам вельмі паслядоўна і асцярожна можна было даходзіць да паважнейшых гутарак. Лепш аднак хлопцы гарнуліся да песняў у маршы, напрыклад, "У гушчарах", каб паказаць нямецкім супрацоўнікам, што і мы не гусі.

Позняй восенню 1944 г. перавезлі нас у пасёлак Лёйн над ракой Лян Вэцлярскага павета і групу хлопцаў закватаравалі ў якімсь клубе, іншых - у сялян. У тым часе Гітлер вырашыў пахаваць безупынна бамбардаваныя фабрыкі ў вырубаныя ў скалах тунелі. Нашай задачай стала падрыхтоўка месца на фабрыкі пад скаламі. Гарнякі ўзрывалі скалы ўнутры гор, а нашы хлопцы ладавалі друз на вагончыкі, якія выцягваліся на паверхню электрычнымі агрэгатамі. Усе аднак былі перакананыя, што гэта Сізіфава праца і начальства не падганяла падуладных, а нават па просьбе сялян звальняла хлопцаў да пільных сельскагаспадарчых прац, да якіх яны ахвотна гарнуліся. У пасёлку было нямала жыхароў навакольных мястэчак, якія паўцякалі ад паветраных налётаў. Тыя пераважна спрыялі гітлерызму і не аказвалі нам сімпатыі. Сяляне наадварот - вайна ім вельмі надакучыла і яны яўна наракалі на нацыстаў, што ўцягнулі Нямеччыну ў тую авантуру. Рабочы дзень нашых групаў трываў да 10 гадзін, але хлопцы вярталіся няўтомленыя, бо разам са сваімі нямецкімі спецыялістамі, некантраляваныя, не спяшаліся. На заняткі аднак не заставалася часу ў восеньскія кароткія дні. Галоўнай турботай было зберагаць пара-

дак і сяброўскія адносіны ў калектыве. Там, аднак, таксама не адбывалася без інцыдэнтаў. Хлопцы ўнадзіліся ў сабраныя на панадворку солтыса яблыкі, нарыхтаваныя на выцісканне соку. Выкідалі такую колькасць агрызкаў, што нехта звярнуў увагу і заявіў паліцэйскаму. Той паставіў закід, што я дапусціў да крадзяжу. Я абяцаў выясніць закід і папрасіў паліцэйскага, каб той стрымаўся з разглядам справы. Звярнуўся я да жанчыны, што была адказнай за гаспадарчыя справы пасялковай управы ды часта наведвала майго гаспадара Франца Габэрлінга. Папрасіў я, каб яна пагутарыла з солтысам і паліцэйскім і заявіла, што дазволіла хлопцам набраць тых яблыкаў. Яна запэўніла мяне, што ўсё залагодзіць і зрабіла так, што цэлая наша грамада атрымала яшчэ афіцыйна даволі фруктаў. З сям'ёю Франца Габэрлінга я хутка зсяброваўся. Ён, як і іншыя сяляне, быў гарачым апазіцыянерам і любіў пагутарыць, хаця яго мясцовы дыялект вельмі розніўся ад літаратурнай мовы і цяжка было яго зразумець. Каб было смяшней, па яго просьбе я навучаў дома іх адаптаваную 9-гадовую дачушку - апрача арыфметыкі і геаграфіі - нямецкай мове, бо яна, выхаваная на дыялекце, не разумела "гохдойч". Умовы жыцця ў Лёйне цэлай нашай групы былі ніштаватыя і не вымагалі з майго боку стараннеяў аб паляпшэнні, але і не стваралі магчымасцей заняткаў з хлопцамі. Тым часам у лістах ад сяброў з рабочых лагераў наплывалі весткі аб драматычных змаганнях за паляпшэнне бытавых абставін дзяцей і моладзі ды за дазвол і час на навучанне. Гэта ўсё выклікала ўва мне сіндром неспаўнення асноўнага абавязку, і я пачаў дабівацца накіравання ў большае лагернае асяроддзе.

У студзені 1945 г. выклікалі мяне ў цэнтр падрыхтоўкі кадраў у Драйсіг Акер, як аказалася, на з'езд кіраўнічых кадраў СБМ. Не ўпэўнены ў сваім вяртанні ў Лёйн, я забраў з сабою ўсё неабходнае, а частку свайго "дабра" - штандар і архіў Наваградскай акругі СБМ - пакінуў на перахаванне сям'і Габэрлінг. Вярнуцца ў Лёйн мне не давялося. Надарыўшаяся пасля дваццаці гадоў магчымасць пошукаў штандара і архіва не прынесла чаканага выніку. Па маёй просьбе заняўся гэтым сп. Юры Попка, жыхар заходняй Нямеччыны, калекцыянер беларускіх памятак і дакументаў. У лісце да мяне напісаў, што ані тае хаты, ані сям'і Габэрлінг у перабудаваным Лёйне не знайшоў.

Вышэйшае і сярэдняе кіраўніцтва СБМ на спатканні ў Драйсіг Акер на пераломе студзеня і лютага 1945 г. не хавала свайго абурэння непрыхільнасцю лагерных адміністратараў да нашых апекуноў моладзі і дзяцей, да іх намаганняў палепшання бытавых умоў. У кулуарах вяліся гутаркі на тэму надыходзячай перамогі альянтаў і магчымасці наладжання кантактаў на той момант. Ніхто, аднак, не мог прадбачыць канкрэтнага сцэнарыя для паасобных асяродкаў.

Тут, у гутарцы з маімі сябрамі, пачынальнікамі арганізацыі выявілася, што дарога іх у СБМ была падобная да маёй. Інспіраваная аніматарамі незалежнасці і гэтага накірунку. З Драйсіг Акер я атрымаў, згодна з пажаданнем, накіраванне ў рабочы лагер пры фабрыцы Юнкерса ў Дэсаў. Падарожжа прадбачвалася цераз Берлін. Нехта з прысутных, даведаўшыся пра маё прызначэнне, папрасіў перадаць прыяцелю невялічкую пасылку, праўдападобна з прадуктамі харчавання. Была нейк палова лютага 1945 г. Даехаўшы да Александэрпляц у цэнтры Берліна, загудзела раптам паветраная трывога, людзі навалам падаліся на станцыю метро, на магчыма найніжэйшы паверх пад зямлёю. Неўзабаве пачуўся гул цяжкіх самалётаў, а за ім з заходняга напрамку даходзіў грукат ад разрыву бомбаў. Узрывы пасля некалькіх хвілін на момант спыніліся, каб паўтарыцца што раз бліжэй і гучней, ажно аглушальныя трэскі і подмухі затрывожылі тую людскую масу, што, быццам анямелая, чакала на рашэнне лёсу: застацца праз хвіліну змятымі і засыпанымі ў той масавай магіле ці выйсці на прастор пасля чаканай адмены трывогі. Грукат панёсся далей на ўсход ад цэнтра, а пасля пачуўся збаўчы працяглы гудок - канец налёту. Людзі раптам загаманілі і спакойна падаліся на паверхню. Горад выглядаў, быццам толькі што пакінутае поле цяжкога бою - навокал пажары і развалiны. Вуліцы пазасыпаныя друзам, што перад гадзінаю быў яшчэ будынкамі. Раптам на тым могільніку горада паявіліся санітары, пажарнікі, на скрыжаваннях вуліц паліцэйскія інфарматары. Дзякуючы той беспрыкладнай арганізацыі мне ўдалося выканаць даручэнне і, дабраўшыся да вакзала, прадаўжаць падарожжа. Было вядома, што ў Дэсаў і ваколіцах знаходзілася каля паўтары тысячы беларускіх дзяцей і падлеткаў ды адчуваецца недахоп апекі над імі. Кіраўнічыя кадры СБМ, у тым ліку былыя намесніцы галоўнай кіраўнічкі Вера Катковіч з сястрою Анеляй, дамагаліся дазволу на школьнае навучанне дзяцей і перажывалі вялікія цяжкасці. Кіраўніцтва лагера прымусова выселіла Анелю. У натоўпе людзей прыйшлося яе ўтрымоўваць нелегальна, а яна і так прадаўжала сваю місію маткавання дзецям, навучання мовы і асноўных прадметаў пачатковай школы ў групах. Памагалі ёй у гэтым іншыя сяброўкі і сябры. Гэта была сапраўды ахвярная праца. Дзяўчаты з кіраўнічага актыву апекаваліся перад усім дзяцьмі, стараліся аказаць ім як найбольш сэрца і ласкі, замяніць у якойсь ступені матак. Кіраўнікі апекаваліся асабліва старэйшымі хлопцамі, праводзілі з імі заняткі і змагаліся за паляпшэнне бытавых варункаў. Маткаванне дзецям ды высілак кіраўнічых кадраў СБМ паступова матэрыялізаваўся ў пераменах умоў жыцця на лепшае. Унармаваўся час працы, дзеці сталі задбаныя, чыстыя, нядрэнна апранутыя, сарганізаваныя, перасталі быць безабароннай і безыменнай масай. Створана ім эмацыянальная лучнасць з культураю, з якой іх вырвалі, паспяховае навучанне, гутаркі на розныя тэмы і ўсведамленне пачуцця пашаны да роднай мовы, перакананне ў забеспячэнні ім абароны - усё гэта разам перамагло іх страх і безнадзейнасць, якія іх апанавалі на пачатку. Праца дзяцей у фабрыцы, што пры лагеры, была ў фізічным сэнсе лёгкая, але вымагала дакладнасці. Прадметам прадукцыі былі дробныя элементы для самалётаў. Поспехі падлеткаў у выкананні іх задання былі добрым аргументам за палягчэнне рэжыму і заспакаенне нашых дамаганняў бытавога характару, між імі і ўнармавання часу працы. Харчаванне ў агульналагернай кухні было разлічана толькі на вегетацыю. Скупыя порцыі няякаснага хлеба, час ад часу крыху бурачнага мармеладу, сурагат кавы, суп з бручкі на абед і якаясь худзенькая "гэмюза" (агародніна) заспакойвала пачуццё голаду на кароткі час і не стварала ўмоў для развіцця маладых арганізмаў. У такіх варунках падалася мне жалю годным заканчэнне спажывання ежы дружным воклічам у групах "Мы

смачна наеліся!" Цынічнае практыкаванне гэтых паводзін выясніў кіраўнік аддзела хлопцаў Шозда (імя не памятаю). Гэта быў спосаб на атрыманне дадатковай ежы ад кіраўніка кухні, які той дзіцячы вокліч лічыў сабе асалодай за лаянку, якую выслухоўваў ад рабочых, пазганяных з розных краін да прымусовай працы.

Можна падумаць, што адносіны юнацтва да працы і паводзіны ў сталовай - гэта тыповыя для беларусаў метады прыстасавання. У тых абставінах, аднак, цяжка было б шукаць іншага спосабу на пражыццё. Старэйшыя хлопцы пад апекай аднаго з кіраўнікоў штодзённа пад якойсь выдуманай прычынай (то для хворых, то для іншай змены і т.п.) прыносілі ў барак цэбар ці два супу, бярэмя буханкаў хлеба, кацёл тае няшчаснае "гэмюзы" ці вядзерца мармеладу. Не абышлося без непаразуменняў. Нехта з лагернага нагляду звярнуў увагу на частыя вандраванні з тымі цэбрамі супу і пагражаў кіраўніку кухні пакараннем. Прыйшлося шукаць выхаду з сітуацыі. Тут зноў задзейнічалі вынікі працы. Кіраўнікі рабочых цэхаў, наогул, прыхільныя дзецям, нейк ахвотна прынялі да ведама, што поспехі іх саміх залежаць ад турбот, каб іх падапечныя не цярпелі безупыннага голаду. Дзякуючы іх супольным з нашымі старанням, дадатковае харчаванне нейк залегалізавалася, а нават папоўнілася.

**Выгнанне з горада Дэсаў**

Прыбліжаўся канец вайны. Пашкоджаныя бомбамі фабрыкі пачалі працаваць з перабоямі. Штораз больш часу прыйшлося праводзіць у лагерных бункерах. Нейк у канцы першай дэкады красавіка, раніцай сонечнага веснавога дня цэлы лагер чужаземных рабочых, уключна з нашым аддзелам, акружылі жандары. Афіцэры ў лагерных аддзелах цераз мегафоны аб'явілі загад падрыхтавацца ўсім да выхаду з горада пад канвоем жандармерыі. За непадпарадкаванне загаду пагражала пакаранне расстрэлам. Можна было забраць з сабою пледы, пасцельную бялізну і неабходную вопратку ды які-колечы посуд для харчавання, колькі хто зможа несці. Каля поўдня сфармавалася калона ў некалькі кіламетраў, якая ў чарапашым тэмпе рушыла на ўсход. Мы рупліва стараліся ўтрымаць цэласць асяроддзя моладзі і дзяцей, забавязалі старэйшых апекавацца слабейшымі ды меншымі і так без панікі прадаўжалі сваё падарожжа ў невядомае. Раптам на небе паказалася некалькі знішчальных лёгкіх самалётаў з чырвонымі зоркамі на крылах. Калона спакойна пасоўвалася, аж адна ці дзве машыны завярнулі і пасеялі па калоне з кулямётаў. Людзі паразбягаліся з дарогі, іншыя пападалі, яшчэ іншых палажылі кулі "геройскіх" лётчыкаў, што выканалі яшчэ адзін круг над перапуджаным натоўпам гнаных людзей, спраўдзілі вынікі дакананага дзеля гульні злачынства і адляцелі. Мы пералічылі ў групах дзяцей і моладзь і пераканаліся, што ніхто з нашых не згінуў. Аднаго хлопчыка паранілі, але абышлося без бальніцы і пры дапамозе іншых, перавязаўшы рану, падаўся ён у далейшую дарогу з групай.

Пад вечар непадалёк гарадка Цэрбст сярод лесу калона затрымалася і неўзабаве наш канвой адлучыўся, пакінуўшы людзей уласнаму іх лёсу. Вясна, на шчасце, абдарыла выгнанцаў пагодлівым цёплым надвор'ем. У лесе мужчыны перанялі ініцыятыву ў здабыванні ежы падходамі на вясковыя капцы з бульбаю за лесам ці пошукамі іншых крыніц, дзе можна пажывіцца. Атакі на капцы з бульбаю былі даволі рызыкоўнай акцыяй, і рэалізацыя іх адбывалася падчас паветраных налётаў, калі вяскоўцы сядзелі ў сваіх падвалах, або пад прыкрыццём ночы. У вандраваннях па лесе нечакана трапілі мы з малою групаю хлопцаў на збудаванні вайсковай бальніцы, каля якіх прагульваліся дзве дзяўчыны ў белых халатах. Падышоўшы да іх, я даведаўся, што гэта фламандкі з Бельгіі, якія працуюць у бальніцы. Хлопцы, што былі са мною, пабачыўшы нашу ветлівую гутарку, таксама падышлі. Дзяўчаты, даведаўшыся пра нашу сітуацыю, рашылі памагчы прадуктамі харчавання. На пачатак прынеслі вядро рысавай кашы і ўмовіліся на наступнае спатканне.

Пераначаваўшы ў лесе, юнакі заняліся капаннем траншэяў, якія берaглі ад кулямётнага абстрэлу з самалётаў, а начамі - ад холаду і расы. Памаглі ім у гэтай працы жаўнеры, якія, акапаўшыся на акраіне лесу, чакалі праціўніка. Фламандкі нашы аказаліся вельмі руплівымі, але іх дапамога для нашай, большай за дзвесце чалавек групы падапечных мела сімвалічнае значэнне. Тым часам з кожным днём голад дапякаў што раз больш. Намаганне помачы ад вёскі не прынясло чаканага выніку. У лесе апрача нас качавала пару тысяч людзей. Чутныя з усходу водгукі фронту не прыбліжаліся, затое самалёты дакучалі бесперапынна. Суседства паўгалоднага войска таксама не аблягчала нашую сітуацыю. Магчымасці здабывання прадуктаў харчавання дзецям фактычна вычарпаліся, а сілы паступова чэзлі. Параіўшыся, дайшлі мы да вываду, што няма іншай магчымасці, як толькі дамагацца дазволу вяртання ў лагер. Шанец на гэта быў малаправдападобны з увагі на пагрозу пакарання смерцю кожнага, хто асмеліцца вярнуцца, а па-другое, вяртанне цераз франтавую зону было рызыкоўнае. У такой сітуацыі кіраўнікі вырашылі кінуць між сабою лёсік, каму прыпадзе тая місія. Лёс выканання задання выпаў на мяне. Хлопцы, праўдападобна, ад жаўнераў вычаравалі камбінезон і каску пажарніка, як маскіроўку, што мела запабегчы затрыманню мяне франтавымі войскамі. Дарога аказалася спакойнаю, быццам перад бураю, і да граніцы горада Дэсаў удалося дабрацца без асаблівых перашкод, але, мінуўшы мост на рацэ Эльбе, пачаўся артылерыйскі абстрэл акраін, і мост быў зараз разбіты, што паставіла пад пагрозу магчымасць майго вяртання да групы.

У лагеры было ўжо крыху людзей, якія хаваліся па розных закамарках, няпэўных сваёй долі. Зона артылерыйскага абстрэлу прыбліжалася, і людзі пачалі сходзіцца ў бамбасховішча. Ноччу над лагерам паявіліся самалёты і скінулі некалькі бомб на фабрыку, але дасталося і лагеру. У пашкоджаным бамбасховішчы некалькіх асоб параніла асколкамі. Раніцай цераз лагер пачалі прабягаць нямецкія жаўнеры, а неўзабаве з’явіліся танкі з белымі зоркамі, з-за якіх высыпаліся чорныя ваякі і з аўтаматычнай зброі пачалі абстрэльваць усю тэрыторыю, па якой вольна крочылі, быццам сейбіты смяротнага насення. Супраціву ніхто ім не аказваў, а яны, шпацыруючы хісткім крокам, пасоўваліся ў горад.

*(Працяг у наступным нумары.)*

Ежы Путрамант

# ПАЎВЕКУ

## Вайна*

(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)

### Жыццё ў кустах

Раптам лес скончыўся. Уехалі ў край непадобны да нічога, што бачыў і перад тым, і потым. Край без вёсак. Ну, гэта здараецца. Але і без лесу. Што яшчэ дзіўней, без апрацаваных палёў.

Пры сакавіцкім адступленні немцы спалілі ўсё, што засталося пасля моцных бітваў 41 года. На месцах вёсак тут і там тырчалі коміны, часцей кучы цэглы, найчасцей зараслі крапівы. Лясы высечаны, засталіся нейкія альхова-яловыя кусцікі, загайнікі бярозак, розныя такія рэчы. Замест палёў, замест руні ці хоць бы ржышча - бязмерныя зараслі пустазелля.

Мы жылі ў кусціках. Кожная іх кучка хавала ў сабе артэфакты спецыфічнай культуры 41-43 гадоў: зямлянкі. Стаялі тут нямецкія часткі, мы маглі пазнаць іх па іх клопату пра парадак і "ўтульнасць": альтанкі з бярозавых жэрдак. Некаторыя з зямлянак былі старыя, ператварыліся ў ямы з лужынай усярэдзіне і нават з калоніямі жабак. Іншыя ўдалося неяк давесці да ўжытку.

Толькі ў нас, у аддзеле асветы дывізіі, не было каму капаць. Было нас пару афіцэраў, пару пісараў, машыністка-сакратарка і вельмі маленькі артыстычны гурт. Не тэатр. Тэатр Першай дывізіі, пад кіраўніцтвам Вальдэна, стаў тэтрам корпуса і застаўся ў Сельцах. З намі была нейкая афіцэрша-дэкламатарка, нейкі разказчык анекдотаў, гітарыст, спявачка, здаецца...

Было ўжо холадна, раніцы поўныя расы, амаль іней. Без зямлянак мы былі прыгавораны да нашых студэбекераў. Было іх два. Натуральны падзел: у адным мужчыны, у другім жанчыны. Так вырашылі.

Аж тут ўбягае да мяне сакратарка-машыністка, жонка вядомага публіцыста, здавалася б, Бог ведае якая перадавая. Крычыць:

- Што, я разам з той акторкай? Ніколі!

Пераказваю гэтую дэталь, бо мае знамянальнае гістарычна-звычаёвае значэнне. Як далёка сягае шляхецкі склад розуму ў гэтым маім любімым народзе. Ад буржуазіі, да дробнага мяшчанства, да інтэлегенцыі (здавалася б), яшчэ далей...

Дывізія жыла ў кустах у чаканні сігналу выхаду. Адбываліся яшчэ нейкія вучэнні, але ўласна ўсё было падпарадкавана адной думцы: калі.

Не маючы вельмі канкрэтных задач я хадзіў па ўсёй дывізіі. Было ўсё і блізкае, і экзатычнае. Пагоркі з алешынкамі нагадвалі мне хвілямі Новую Вілейку. Але гэтыя зямлянкі, абрыўкі гітлераўскіх газет, нейкія каскі...

Вечарамі з кустоў то тут, то там бухалі спевы "Роты" - чарговая частка ішла спаць. Часам пасля "Роты" спявалі яшчэ "Усе нашыя дзённыя справы". Але было гэтага менш, чым у Сельцах.

У дзень бляклае неба прашывала бурчэнне нямецкіх разведвальных самалётаў. Ішлі так высока, што былі відны толькі белыя хвасты спаленых газаў. Начамі здараліся налёты - галоўным чынам на блізкія станцыі. Немцы чакалі тут удару і мацалі месцы магчымай высадкі войска. Нам удалося схавацца ад іхняй авіяцыі.

Усё рыхтавалася да таго скачка. Мне марылася, што той удар адчыніць дарогу, калі не да самай Варшавы - то прынамсі да Вільні. Але нецярплівасць мая была досыць моцна падманутая.

Я хадзіў з гутаркамі на тэму сітуацыі на фронце ў аддзелы. Дарожных указальнікаў не было, трэба было памятаць усе павароты сцежак, пні, зламаныя бярозкі. Аднаго дня захацеў мяне паслухаць санітарны батальён. Прыслалі па мяне аўтамабіль, прынялі вельмі сардэчна. Сустракаў Штахельскага ў дывізіі, быў, як звыкла, вельмі мілы, але толькі цяпер маглі нагаварыцца.

Пасля афіцыйнай часткі застаўся ў іх яшчэ на вячэру. Выпіў кілішак, упаў у добры настрой, пачаў апавядаць. Аж тут Штахельскі:

- Чакай, браце, чаго ж ты такі чырвоны? Дайце яму тэрмометр.

Аказалася 38 гр. з многімі рыскамі. Адразу мяне паклалі ў санітарную палатку. Канешне, калі даведаўся пра гарачку, адразу пачуўся хворым. Але і так па сённяшні дзень памятаю раскошнае пачуццё судакранання цела з чыстай пасцельнай бялізнай.

Быў гэта грып (праз пару дзён прайшоў). Але адначасова пачаў адчуваць цяжкасці з глытаннем. Лекары выявілі дзіўнае здранцвенне шыі. Зрабілі кансіліум. З іхніх размоваў я зразумеў, што справа досыць сур'ёзная. Сказалі: флягмона. Гэта такі ўнутраны нарыў, які можа... Тут станавіліся павярхоўнымі.

Быў ужо канец верасня, калі вырашылі эвакуяваць мяне ў Маскву. Якраз туды ехаў Штахельскі. Паехалі ўтраіх з шафёрам у кабіне яго грузавіка.

Перад Масквой шафёр маўкліва звяртае нашую

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка паводле **Jerzy Putrament. "POL WIEKU. Wojna."** (Том 2 тэтралогіі), Czytelnik, Warszawa, 1962.

ўвагу на шашу. Яе левы бок, які вядзе з Масквы, цямнейшы. Гэты правы святлейшы.

Простая і бязлітасная выснова: з Масквы едзе нашмат болей, чым у яе вяртаецца з гэтай вайны...

Размясцілі мяне ў дасканалым шпіталі. Пагражала мне прыкрая аперацыя. Тым часам рабілі прасвет шыі. І пасля некалькіх сеансаў нарыў сам зліквідаваўся.

Драбяза. Але ў гэты час якраз адбылося Леніна...

**Вязьма, Смаленск**

Першыя весткі пра бітву дайшлі да мяне, калі рыхтаваўся да абеду. Распавядалі шмат прыгожых эпізодаў. Неясны быў толькі аперацыйны эфект усёй бітвы. У канцы верасня чаканае наступленне на Смаленск сталася фактам.. Немцы досыць хутка адсту-палі на захад, але Смаленскіх варот не аддалі, і якраз недзе там, для ўзлому, як здаецца, іхняй галоўнай абароннай пазіцыі кінулі і нашую дывізію ў складзе 33-й савецкай арміі.

Не ясна было адно: пасля трох дзён баёў дывізію адвялі ў тыл, наступленне затрымалі. Ехаў нецярплівы, зайздросны і поўны апасення: як буду сябе адчуваць адносна тых нядаўніх сябрукоў, якія ў гэты час прайшлі пробу агнём. Ці вытрымаю іх натуральнае і заслужанае пачуццё вышэйшасці нада мной?

Цягнік даехаў да Вязьмы. Велізарная вузлавая станцыя - і ні аднаго будынка, усё пабурана. Іду ў горад і дзівуюся, як далёка ад вакзала і адно пустазелле. Аж бачу, што праз кожныя некалькі крокаў пустазелле буйнейшае. Прыглядаюся: у кожнай кучы рэшткі коміна. Увесь час іду праз горад, ад якога засталася толькі крапіва...

У цэнтры невялікая плошча. Тут некалькі недабітых камянічак і падзяўбаная цэркаўка. Чакаю доўга, пакуль мяне возьме якая-небудзь "палутарка". Едзем аўтастрадай Масква-Менск. Дадам наперад, што Леан Пастарнак назваў свой верш "Варшаўская шаша". Гэта зусім не тое. "Варшаўская шаша" - гэта такі стары тракт, які выходзіць з Масквы хутчэй на поўдзень і бяжыць каля Калугі, а потым аж недзе на Слуцк. Ні адзін з нашых аддзелаў там не крочыў.

Язда каркаломная. Смаленшчына тут - гэта плоская, знішчаная зямля, праз кожныя некалькі кіламетраў папраразана глыбокімі рвамі. Віадукі і масты былі, канешне, узарваныя, трэба было з'язджаць уніз па каркаломных абрывах, па раз'езджаных лужынах, выбоінах і па ўсім, што найгоршае. Наш аўтамабіль не меў ані святла, ані тармазоў. Таму, праз кожныя некалькі кіламетраў чарговая паўгадзінная трагедыя.

Потым прыйшоў халодны вечар. Мы ўехалі на на тэрыторыю, дзе нельга было з'язджаць з шашы, бо паўсюль маглі быць міны. Было холадна, абяцаўся прымаразак. Шафёр і пару пасажыраў разлажылі невялікі агенчык з нямецкіх, вельмі старанна зробленых скрынак пад міны. Мусілі чакаць, пакуль нам прывязуць бензін з нейкай палявой базы.

Мы сядзелі над маленькім агенчыкам, хістаючыся ад санлівасці. Недзе вельмі высока, павольна і нудна паенкваў самалёт. Калі першы раз падляцеў, перапужаліся і чым хутчэй засыпалі зямлёй распаленыя вуглі. Але мароз адразу да нас падабраўся, і мы зноў раздзьмухалі агонь. Самалёт зноў падляцеў. Быў вельмі высока, здаваўся бяспечным. Пераглянуліся паміж сабой.

- Наш! - вырашылі.

Неяк праляцеў. Калі з'явіўся ў трэці раз, мы ўжо не звярталі на яго ўвагі. Толькі я, змучаны санлівасцю, устаў і, ляніва пацягваючыся, пайшоў да нейкай зямлянкі тут жа пры шашы, якую заўважыў яшчэ раней. Ішоў і думаў: замініравана ці не?

Раптам з нуднага енк самалёта стаў гучны і злосны, перайшоў у выццё. Пікіруе! - зразумеў я і сам спікіраваў у зямлянку. Ужо, ускакваючы ў яе, убачыў, з тры цёмна-чырвоныя, плоскія выбухі тут жа пры зямлі, можа за трыццаць метраў ад зямлянкі і чорныя чубы мёрзлай зямлі...

У зямлянцы было сена! Закруціўся з галавой і нагамі ў коц, улез у тое сена. Спаў шыкоўна, хоць пад раніцу прыйшлі да мяне сны пра вяртанне, пра тое, што ў вяртанні можа быці нямілае, што вяртання ўласна няма ніколі, бо заўсёды вяртаешся да нечага іншага. Словам, гэта былі сны пра пакінутую ў Львове Ірэну...

Нягледзячы на гэта прачнуўся бадзёры і адпачыўшы. Было холадна. Зямля была сцята шэранем такім густым, што здаваўся снегам. Нашыя шафёры рыхтавалі сабе снеданне. Распалілі вогнішча са старой пакрышкі: полымя яскрава чырвонае, адразу над ім дым чорны, як сажа, попел аранжава-жоўты. Гэтыя колеры былі такія яскравыя, што памятаю яшчэ сёння, а праз іх і той ранак, і тыя сны.

Яшчэ некалькі яраў, і грузавік мяне высадзіў: быў Смаленск. Я ішоў праз горад пеша. Гэта быў страшны горад: не разбураны, як Вязьма, а спалены дашчэнту. У цэнтры горада ішоў з паўгадзіны паміж камяніцамі, з акон першых паверхаў якіх выглядала выбуялая крапіва. Гэта быў першы вялікі горад, які я аглядаў у тым макабрычным стане. Толькі адзін досыць вялікі гмах быў цэлы. Стаяў каля яго пост, які мне сказаў перайсці на другі бок. Калі быў на другім канцы горада, ляжаўшага ў катлавіне, таму добра бачнага, убачыў высокі слуп дыму, і адразу да мяне дайшоў глухі гук. Вяртаючыся праз Смаленск не заўважыў ужо і тога адзінага не спаленага... Напэўна быў замінаваны.

**Пасля бітвы**

Радаснае пачуццё: першы жаўнер у рагатыўцы! Як у дзяцінай забаве ў "цёпла-холадна"! Потым што раз іх болей. Потым першы знаёмы...

Дарэчы, мае апасенні не спраўдзіліся. Прыехаў да іншых людзей. Былі вельмі мілыя. Апавядалі шмат пра бітву. Ні слоўцам не згадвалі мне маю непрысутнасць. Але пачуваўся пры іх малым, недаспелым, несапраўдным.

Сказалі мне аглядаць часткі і збіраць звесткі пра

прадстаўленых для заахвочвання. Такім чынам за пару дзён я наслухаўся кучы апісанняў бітвы, не ўмеючы спалучыць іх у адно. Найбольш маляўнічыя з тых эпізодаў надрукаваў у "Вольнай Польшчы".

З тых раз'ездаў памятаю адну драбніцу. Вечар. У зямлянцы пры стале маладзенькі тэлефаніст паўтарае што хвіліну: "Каса" слухае, "Каса" слухае...".

Мой суразмоўца закончыў і звяртаецца да хлопца, ужо не памятаю дакладна:

- Віткоўскі!

Хлопец маўчыць, заснуў. Крычу на яго:

- Віткоўскі! Віткоўскі!

Крычу:

- Янак!

Хлопец спіць.

- Падказваю: "Крыкніце "Каса".

І адразу:

- "Каса" слухае.

Дывізія стаяла на першым кавалачку вызваленай Беларусі. Перад тым, як я туды трапіў, быў у мястэчку Краснае, дзе стаіць помнік бітвы 1812 года. Тут зямля лёгка пагоркаватая, з рэдкімі гайкамі, журботная, вёскі не спаленыя, але бедныя, паміж пагоркамі - балотца, дарогі страшныя. Вечарамі перад намі расцвітаў частакол ракет: нямецкія перадавыя пазіцыі. Часцей бачыў іх як водбліскі ў аблоках, але часам трапляў у частку, высунутую бліжэй, там тыя ракеты расцвіталі як невысокія агнявыя знакі пытальнікаў.

Фронт тут затрымаўся ажно да чэрвеня наступнага года. Смаленскай брамы на гэты раз не ўдалося адчыніць.

Падчас хваробы я напісаў верш "Карабін". Ведаў ужо пра бітву, у маім перакананні адпавядаў ён краявідам і духоўнаму стану нашых людзей. Сон у прыдарожнай зямлянцы не быў выпадковы, мусіў пра тое самае разважаць і раней, пішучы перш за ўсё: "Пра блізкіх не пытай, пакуль іх не спаткаў. З таго, што палюбіў, няма нічога..."

Краявід згаджаўся: "Зямля з імглы вынырвае, голая і рудаватая, за далёкім пагоркам пабуркваюць цяжкія гарматы". Станы душэўныя ...

Занёс верш у дывізійную газетку. Адкінулі яго: залішне песімістычны. Гэта быў уласна той новы стыль, які што раз часцей замяняў метады першых дзён дывізіі, метады называння рэчаў па імені і неабмінання цяжкасцяў. Гэты новы быў ужо "рэпрэзентацыйны", ужо аперaваў паняццем "Што пра нас падумаюць". Ненавідзеў і ненавіджу такія адносіны да таго, чым мы ёсць, за што змагаемся. Нажаль, як жа часта гэтая нянавісць аказваецца бяздарнай.

Верш надрукавалі толькі ў "Новых гарызонтах".

Нейк не мог знайсці сабе месца ў дывізіі. Тое, што людзі перажылі за тры дні, стварыла дыстанцыю паміж намі залішне вялікую.

Шмат знаёмых загінула. Як пісаў, з дваццаць маіх выхаванцаў са школы падхарунжых. Пазінскі і Смалей, з першага танкавага палка. Вусаты Люсек страціў малодшага брата ў вельмі цяжкіх акалічнасцях. На дванаццаць тысяч чалавек адзін аказаўся здраднікам. У ходзе бітвы перайшоў да немцаў і пачаў выклікаць па адным жаўнеры са свайго аддзялення. Тыя, не ведаючы, з кім маюць справу, прабягалі праз кусты, трапляючы ў рукі немцаў. Брат Люська, калі ўбачыў, што робіцца, паспрабаваў бараніцца. Яго забілі.

Многа, вельмі многа аказалася нашмат лепшых, чым думалі пра іх. Тыя, з якіх жартавалі, што няздары, балбатуны, інтэлектуалісты, раптам у агні пачуліся іншымі людзьмі. Патрафілі дзейнічаць, кіраваць іншымі, а хоць бы самімі сабой.

Канешне было вельмі шмат балагану. Па-за натуральным, вынікаючым з самой сутнасці бітвы, многае было вынікам недахому досведу і неразбярыхі ў адказнасці.

Напрыклад, было так з кіраўніцтвам. Быў ужо корпус, але ў бітве брала ўдзел толькі першая дывізія. Цяжка, аднак, было чакаць, каб камандзір корпуса на той першай бітве не прысутнічаў. Але яго прысутнасць зацяняла кампетэнцыю камандзіра дзывізіі. Той у сваю чаргу пайшоў у адзін з палкоў, свайго намесніка пасылаючы ў другі, а начальніка штаба - у трэці. У выніку ніхто з камандзіраў палкоў не меў абсалютнага пачуцця, за што адказвае...

Так, канешне, здаецца мне асабіста. Ніхто з іх не гаварыў мне гэтага...

Як я ўжо казаў, найбольшым поспехам была перамога маральная. За пару месяцаў з такога цяжкага элементу зрабіць адданую, загартаваную палітычную сілу - гэта быў вычын не слабы!

Але пасля бітвы пачалася псіхалагічная рэакцыя, натуральная, хоць і не заўсёды пажаданая.

Я мала ведаю пра "тэзісіс нумар адзін", эпізод, але вельмі цікавы, які сведчыць пра пэўныя законы эвалюцыі вайсковага асяроддзя, не падлеглага належнаму палітычнаму кантролю. Пасля бітвы нарадзілася, менавіта, вельмі дзіўная канцэпцыя будучай, вызваленай Польшчы, як краю без ніякай яўнай партыі і пра наяўнасць спецыфічнага грунту падбору кадраў дзяржаўнай адміністрацыі перадусім з касцюшкаўцаў...

Шчасліва, пасля першых некалькіх дзён існавання "тэзіс" узялі ў галаву і вельмі рашуча. Перамагла канцэпцыя, вядомая нам праз наступныя васемнаццаць гадоў.

Другі бок настрояў пасля бітвы выглядае з гісторыі, якую распавяду паводле Люська, у яго літаратурнай апрацоўцы.

Адзін з палкоў цяжка прайшоў бітву. Панёс вялікія страты, перажыў стрэс. Як вядома, ёсць тры станы жаўнерскай душы. Калі жаўнер спявае, гэта добра. Калі жаўнер кляне, гэта кепска, але не найгорш. Найгорш, калі жаўнер маўчыць.

У гэтым палку жаўнер маўчаў. Думалі, што б тут зрабіць, як яго гумор паправіць. Спыніліся на традыцыйным спосабе, праславянскім.

Ішло Божае Нараджэнне. Пастараліся пра лепшы харч, здабылі гарэлкі. Два дні тым спосабам працавалі, аж на трэці в.а. камандзіра, начальнік штаба, савецкі паляк, аказаўся залітым ушчэнт.

Усё яму ў галаве перакруцілася: сонца сталінскай канстытуцыі і “Усе нашыя штодзённыя справы”, Божае Нараджэнне і Вялікдзень, Першае і Трэцяе Мая, усё.

У тым стане духу сабраў полк на збор. Стаў перад двухшэрагавым шыхтам і агучыў такую прамову:

- Жаўнеры! Мы сабраліся тут, каб ушанаваць памяць нашага любімага Езуса Хрыстуса. Вялікая гэта страта для нас, палякаў, але мы, касцюшкаўцы, усё вынесем. Памяць пра яго занясём у Польшчу. Вольны, дэмакратычны і ад нікога незалежны Езус Хрыстус няхай жыве!

Што больш дзіўнае, жаўнеры крыкнулі:

- Няхай жыве! Няхай жыве! Няхай жыве!

**Другі танкавы полк**

Дыстанцыя паміж мной і імі, тымі пасля бітвы, не знікала. Акрамя таго я кепска пачуваў сябе ў працы тыпу шабной. Дастаткова, каб недзе каля лістапада я папрасіў перавесці мяне ў якраз новапаўсталую частку, у другі танкавы полк.

Задаволілі маю просьбу. Думаю, што часткова з погляду на паводзіны майго “Чапаева” з першага палка. Аказаўся не толькі п’яніцам, але і балаганшчыкам. Кінуў танкі ў атаку без належнага вывучэння тэрыторыі. Смалей і іншыя згінулі ў танках, якія ўгразлі ў балоце і былі немцамі расстраляныя з гарматаў.

Пасылаючы мяне ў другі полк, давалі мне частковую сатысфакцыю за тую, травеньскую несправядлівасць.

Не памятаю нічога з дарогі на Маскву і да Беломута. Але на месцы адчуў сябе іначай, тое, на што падсвядома разлічваў, на аднаўленне вясенніх настроеў, расчаравала мяне цалкам.

Па-першае прырода. Была цяжкая, позьняя восень. Сяльцо аказалася кучай абы-як раскіданых, чорных ад дажджу драўляных хатак. Толькі сосны трымаліся выдатна, спускаючы яскрава-зялёныя галіны, страсаючы цяжкія, улеўныя кроплі на праязджаўшыя грузавікі.

Але не толькі прырода. Другі полк ужо не быў першым. Разам з ім фармавалася цэлая брыгада - г.зн. яе камандаванне. У тым я быў панам на ўласным сметніку. Тут жа побач быў мой герархічны начальнік, які меў незлічоную колькасць аказій, каб кантраляваць маю працу паў.-вых. Так ужо мы называліся пасля бітвы, ва ўзнагароду за бітву...

Мой “стыль” працы быў просты, дамарослы, без прэтэнзіі. Ён палягаў у як найхутчэйшым, найлепшым знаёмстве з людзьмі, у размовах, ухіленні дробных асабістых прблем, тлумачэнні, адкуль бяруцца праблемы большыя.

Яго стыль быў ужо дзяржаўны, палягаў на дзеяннях, якія можна падаць у справаздачнасць. Таму - колькі лекцый? Колькі і якія пытанні? Колькі мерапрыемстваў? Меў яшчэ свайго коніка: насценныя газеткі. Не хапала яму, каб рабілі палкавую. Хацеў, каб кожная рота, а калі я іранічна кінуў: можа і плутон, адказаў, не маргнуўшы вокам:

- А чаму не?

Трымаўся, як той інтэлігент з “Залатога цяляці”: а можа і ёсць у тым нейкая сярмяжная праўда? Можа і ёсць непазбежнасць чыноўніцкіх элементаў у палітычнай працы, толькі хутка яна пераступіць перыяд асабістай знаёмасці з людзьмі? Зусім дакладна, Без справаздачнасці не абыйсціся. Мабыць, аднак, нават на вышэйшых узроўнях метад індывідуалізавання палітычнай працы мажлівы. Справаздачнасць сама па сабе ёсць і патрэбная, і непазбежная. Яе жудасць пачынаецца тады, калі становіцца маторам дзейнасці, а не яе паходняй.

Таксама і ў палку было неяк іначай. Камандзір не меў нават прозвішча на -скі. Прыціснуты да сцяны, гаварыў з усмешкай, што маці меў польку з Вільні.

Быў гэта малады яшчэ, невысокі, прыстойны бландын. Канешне, знаёмства з палком я пачаў з яго. Апавядаў мне пра першыя свае два гады вайны. Я апісаў ці хутчэй згадаў іх недзе яшчэ.

Пару малюнкаў таго жыцця засталося мне ў памяці. 41 год. Увесь яго танкавы батальён гіне недзе пад Смаленскам. Праз пару тыдняў прабіваецца з акружэння. Трапляе ў Маскву ў канцы кастрычніка. Даюць яму два танкі з музея танкавага ўзбраення, здабытыя бадай што ў Врангеля! З імі меў бараніць пераправу цераз нейкую рэчку каля Кліна.

Лета 42-га. Няўдачнае контрнаступленне пад Ржэвам. Бесперапынныя дажджы, рудая гліна. Усе танкі страціў. Блукае сам адзін над берагам глыбокай ракі, брыдзе па калена ў гразі, не можа трапіць да сваіх.

Восень 42-га. Атакуе над Донам. Мае батальён цяжкіх танкаў з агнямётамі. Мяцеліца. Нічога не відаць. Ноччу арыентуецца на пылаючыя казацкія хутары. Праз два дні застаўся ў яго адзін танк...

І так далей. Псіхалагічныя дэтэрміністы сцвярджаюць, што сталёвы характар гэта ўсё вытрымае без шкоды, яшчэ загартуецца. Думаю, што жыццё мае велізарны ўплыў на станаўленне характару, і значная частка людзей становіцца такой, а не іншай, дзякуючы атачэнню.

“Мой” стаў інакшым. Быў несумненна героем, заглядваў у вочы вайне, здзейсніў вялікія рэчы. Але не бясплатна! Мусіў за гэта атрымаць нейкія псіхічныя асаблівасці і цяпер не мог не ўтрымацца ў нейкай такой норме без унутраных сродкаў.

Гэта значыць, па-просту піў. Зрэшты, не толькі. Меў тую нязносную манеру трактавання палка, як “сваёй” уласнасці. Палка - значыць, перад усім, службаў тылу. Казаў, каб нешта было. І было. Нічога вялікага, пару банак кансерваў, хлеб, цукар, тлушч. Ужо гарэлка станавілася праблемай: трэба было яе здабываць злева, а то і збоку. Найгорш, што гэты прыклад зверху забойча дзейнічаў на ўсё “грона” штабное і “тылавое”. Інтэндант браў, колькі хацеў, для сябе. Усе пісары і загадчыкі складоў і так далей...

Я глядзеў на гэта досыць бяссільна. Было мне цяжка захоўваць прынцыпіяльнасць адносна таго франтавіка. На пачатку я абмежаваўся прынцыпіяльнасцю адносна сябе самога: толькі тое, што мне

належыць, ніякіх “блатаў”...

Нават гэта было не такім простым. Гэтыя з блізкага атачэння маёра глядзелі на мяне падазрона. Мая адмова карыстацца markdown падачкамі трактавалася там крытыка камандзіра палка, стараліся раздзьмухаць у ім падазрэнне, што на яго пачынаю...

З другога боку ніжэйшыя афіцэры і шарагоўцы досыць хутка зарыентаваліся, што я не належу да той пачкі. Дзякуючы таму, я даведаўся пра шмат прыкрых і брудных дробязяў. Галоўныя на дзве тэмы: яда і піццё, а таксама дзяўчаты...

Я ўжо не меў сіл атакаваць наўпрост. Дзейнічаў паволі, размаўляў з пакрыўджанымі, шукаў мацнейшых у падраздзяленнях, каб, на іх апіраючыся, ізаляваць начальнікаў. Ба, але таго запалу з першага палка ўжо не мог у сабе знайсці.

Я жыў у асобным доміку: камандзір палка прывёз сабе жонку. Было гэта страшнае стварэнне: маладая, прыгожая, але таксама спапялёная жарам вялікай бітвы, у якой брала ўдзел са сваім будучым мужам. Таксама піла - і толькі тады была нейкай такой нармальнай. На цвяроза была абрыдлівай істэрычкай, жаданняў, думак і рэакцыі якой ніколі нельга было прадбачыць. Усе зрэшты былі дробязныя і недарэчныя.

Ну вось, жыў асобна. Быў гэта домік з фанеры, два метры на паўтара. Ішоў снег, пачаліся марозы. Меў жалезную печку. Калі палілася, у доміку было жудасна горача. Так, але толькі ад пояса ўверх. Ногі і тады мерзлі. Калі гасла, мерзла ўсё. Называўся той домік “хатка пустэльніка”, бязбожна парадзіруючы Міцкевіча:

Бачыш мышы заляцанкі,
чуеш жоўты гул ад печы.
Для каханка і каханкі
досыць хаткі ў той пустэчы.

Камандзірам брыгады быў нехта невымерна маляўнічы: генерал (тады яшчэ палкоўнік) Мерыцан. Не ведаю добра, як ён апынуўся ў Саюзе, мабыць у 1915 годзе. Паходзіў з Лодзі і выдатна размаўляў папольску. Моцны, уладны, але і людскі разам з тым. І ён апавядаў розныя ваенныя эпізоды, з якіх адзін, вельмі неймаверны я перанёс у “Верасень”.

Таксама быў 41 год. Што за год! Мерыцан голым пераплывае рэчку Волхаў, цягнучы магільны крыж, на якім ляжыць п’яны камандзір толькі што цалкам разбітай дывізіі. Кяневіч недзе ў тых жа краях прадзіраецца праз лясы па нямецкіх тылах з групай жаўнераў і са сваім камандзірам дывізіі, які толькі што звар’яцеў...

Мерцан, аднак, лепей вытрымаў, чым мой камандзір палка. Піў, але трымаўся. Таксама меў жонку, вялізную, вельмі прыстойную ўкраінку, але і яна вяла сябе іначай, чым тая малая істэрычка.

Пару эпізодаў. Мы атрымалі танкі. Едзем на палігон. Мерыцан і камандзір палка кажуць мне страляць па цэлі. Гэта не так страшна. Шукаю ў візіры шчыт, цягну за нейкую ручку. Тузанне. Далёка вясёлы, чырвоны агеньчык.

Танкі моцна нагадваюць звяроў. Асабліва, калі кіроўца падымае бранявое прыкрыццё над акенцам. Зусім, як алавяныя павекі са страшнай гогалеўскай аповесці “Вій”. Або, калі чалавек стаіць перад танкам і рухамі рук кіруе яго паваротамі: як прыручаным цыркавым зверам...

Страляюць весела, звонка. Іх цяжар і нашая бездапаможнасць ва ўсёй паўнаце бачыцца пры пагрузцы на чыгуначныя платформы: бэлькі трэскаюцца, як запалкі, выццё матора, фантаны снегу...

Былі нейкія вучэнні. Пачатак зімы. Сядаю на матацыкл. Якраз падае раскошны, далікатны, пушысты, павольны снег. Матацыкл рушыць - і праз хвілю тыя сняжынкі пачынаюць секчы твар, як розгі...

У пачатку снежня прыйшла змрочная вестка: памёр Лямпэ. Не было яго ў дывізіі, пару разоў толькі яе адведваў. Але яго роля ва ўсёй справе была надзвычай вялікая, надзвычай відавочная...

Паслалі нас пару дзясяткаў на грузавіках. Невялікі цёмны пакой. Гараць свечкі. Лямпэ ляжыць у труне “як жывы”, з тымі сваімі вялізнымі чорнымі брывямі і лёгкім, іранічным скрываннем губ.

У ганаровай варце што раз змяняюцца ўсё новыя чацвёркі. Яго старэйшыя партыйныя таварышы: сівыя, у акулярах, прыгорбленыя. Потым чацвёрка артылерыстаў-падпаручнікаў, адзін у аднаго, як лялькі, высокія, шчуплыя, прыстойныя. Адзін з іх называецца дзіўна: Пёра. Праз пару гадоў знайду другога з тым жа прозвішчам аж у Парыжы, будзе там мэрам аднаго з чырвоных раёнаў, ці не XX-га.

Стаю ў адной чацвёрцы з Берлінгам. Ён задумлівы, калі заканчваецца наша варта, мушу яго падштурхнуць...

Вялікая страта для ўсёй Справы. Выходзім адтуль прыгнечаныя. Не ведаю, што было непасрэдным стрэсам, які разбіў гэтае сэрца...

Новы год. Полк закончыў паскоранае, ваеннае фармаванне і вучобу. У любую хвілю ўся другая дывізія мае рушыць на фронт. Таму гэты Новы год сустракаем выключна горача.

Сустракаем яго ў Мерыцана. Тут мой маёр і мой палітычны начальнік. Вельмі моцна ў галовы ўдарае моцны спірт, змешаны з кропляй вады, які пахне бензінам. “Мой” недзе знікае. Вяртаецца праз хвіліну, адчыняе дзверы і рычыць магутным голасам:

- Ревела буря, гром гремел...

Абрывае, забыў далейшы працяг гэтай папулярнай песні пра Ярмака. Кляне, выходзіць. Праз секунду зноў адчыняе дзверы, заскаквае з мінай чалавека, які знайшоў згубу, яшчэ гучней рычыць:

- Ревела буря, гром гремел...

І зноў на гэтым месцы забывае астатняе.

Паўтараецца гэта так часта, што перастаём на яго звяртаць увагу. Далейшая ўрачыстасць пазначана тымі яго адрывістымі рыкамі, як факстрот - ударамі бубна.

Буду шчырым, я не аказаўся лешым. Пасля пару бляшаных кубкаў напою упаў у выдатны настрой і раптам узлез на стол, пачаў танцаваць не бачаны дагэтуль канкан...

*(Працяг у наступным нумары.)*

# ЛІДСКАЯ СКАРЫНІЯНА

## Уводзіны

Успрыняцце выдатных дзеячаў мінулага змяшчае ў сабе яўны парадокс: чым далей яны ад нашага часу, тым мацней усведамляецца іх значнасць у гісторыі грамадскага жыцця і духоўнай культуры народа.

Да такіх асоб-феноменаў найперш можна аднесці Францішка Скарыну - выдаўца і перакладчыка, тэолага і філосафа, лекара і батаніка, юрыста і прадпрымальніка .

Набліжэнне 500-годдзя беларускага кнігадрукавання актуалізавала скарынаўскую тэму. Такое адбывалася ў нашай гісторыі некалькі разоў: у сярэдзіне 20-х гадоў (калі гадавіна Кастрычніцкай рэвалюцыі святкавалася ў межах юбілею кнігадрукавання), у 1967 годзе (калі адзначалася 450-годдзе выхаду Псалтыра Скарыны), у канцы 80-х і ў пачатку 90-х (калі праводзіліся шматлікія мерапрыемствы і друкаваліся навукова-папулярныя працы па скарыназнаўстве з нагоды 500-гадовага юбілею першадрукара). Нягледзячы на перыяд амаль 20-гадовага зацішша, для нашага грамадства скарынаўская тэма застаецца важнай.

Сёлетні юбілей - выдатная нагода для глыбокага асэнсавання значнасці і важнасці духоўнага подзвігу Францішка Скарыны, вобраз якога заўсёды быў прыцягальным для літаратараў, неабыякавых да беларускай гісторыі і культуры. Ён і сёння застаецца той геніяльнай асобай, якую мы дарэшты так і не спазналі.

Дадзеная тэма ў праекцыі на паэтычную творчасць рэгіянальных аўтараў раней не вывучалася, што падкрэслівае яе навізну і даследчы характар працы. Аб'ектам даследавання сталі творы паэтаў Лідчыны, прысвечаныя Ф. Скарыну.

Практычнае прымяненне дадзенай працы магчымае ў якасці дыдактычнага матэрыялу на пазакласных мерапрыемствах па літаратуры і краязнаўстве, факультатыўных занятках па літаратуры. Яна можа зацікавіць тых, хто вывучае творчасць паэтаў Лідчыны. Мяркуецца, што вынікам работы стане складанне невялікага зборніка вершаў, прысвечаных Скарыну, аўтарамі якіх з'яўляюцца паэты Лідчыны.

## РАЗДЗЕЛ 1.
## ПАЭТЫЧНАЯ СКАРЫНІЯНА

### 1.1. Ф. Скарына ў паэтычных творах

Асоба і дзейнасць Ф. Скарыны трапляе ў цэнтр увагі беларускай літаратурнай і культурнай грамадскасці ў 1910-1920-я гг.

Паэтычная Скарыніяна ў айчынным прыгожым пісьменстве бярэ свой пачатак з вершаў М. Багдановіча "Летапісец", "Перапісчык", "Кніга", "Безнадзейнасць", у якіх пададзена рэалістычнае, гістарычна-праўдзівае і рамантычна-ўзнёслае адлюстраванне вобразу Ф. Скарыны і яго эпохі. У апошнім са згаданых вершаў, які па праву лічыцца шэдэўрам гістарычна-філасофскай лірыкі, "боль безнадзейнасці" закранае душу доктара Скарыны, бо ён апярэдзіў сваю эпоху, ад якой чакаў актыўнага сустрэчнага руху да сваёй асветніцкай дзейнасці.

Верш у прозе "Францішак Скарына" ("Беларусь", 1919, № 21) З. Бядулі адлюстроўвае "рамантычную канцэпцыю гісторыі, у святле якой вобраз Скарыны бачыўся сімвалам самаахвярнага служэння дэмакратычнай інтэлігенцыі свайму народу" [4, с. 12].

У паэзіі ранняга "Маладняка", уяўленне пра якую можна атрымаць, звярнуўшыся да верша А. Дудара "Полацк" і паэмы "Дзвіна" А. Александровіча, скарынаўская тэма характарызуецца кантрасным супастаўленнем "змрочнага мінулага Беларусі з яе светла-сонечнай явай паслякастрычніцкага перыяду…, вывядзеннем сацыяльна-культурных пераўтварэнняў БССР з літаратурна-асветніцкай традыцыі Ф. Скарыны" [4, с. 13].

У 1920-я гг. асабліва яркім у скарынаўскай тэматыцы быў заходнебеларускі друк. На думку крытыка-земляка І. Багдановіч, "гэта адбывалася таму, што Заходняя Беларусь не была закранутая саветызацыяй з яе атэістычнай скіраванасцю" [1, с. 66]. Пра слушнасць такога меркавання сведчыць такі факт: каталіцкі святар-беларус Казімір Сваяк адгукнуўся на 400-годдзе беларускага кнігадрукавання, прымеркаванага да выдання "Апостала" ў Вільні, вершам "Памяці Ф. Скарыны, слаўнага доктара з Полацка", які быў надрукаваны ў газеце "Крыніца" 25 сакавіка 1925 года. У сваім творы, напісаным у форме свабоднага верша, паэт лічыць справу Скарыны асветніцкай, патрыятычнай і называе першадрукара пасланнікам Бога, які "тайніцу падаў Пісьма святога Простаму народу./ Бацькаўшчыны мілай / Настаўнікам ён быў" [8, с. 127].

Да светлага вобразу Скарыны ў былой Заходняй Беларусі звярталіся таксама М. Танк і В. Таўлай.

У гады Вялікай Айчыннай вайны "адрадзілася характэрная для сучаснай беларускай паэзіі канцэпцыя адзінства традыцый Скарыны з прыгажосцю Радзімы, нязломнасцю яе народаў у барацьбе з ворагам" [4, с. 17].

Высокім мастацкім узроўнем вызначаліся вершы мастакоў слова ў паэзіі 50-80-х гадоў. Да вобразу Ф. Скарыны звярталіся ў той час такія слынныя паэты, як Л. Геніюш, П. Броўка, М. Танк, У. Караткевіч, В. Вітка, А. Клышка, С. Панізнік, Я. Сіпакоў, Н. Гілевіч, Г. Бураўкін, Р. Барадулін, Д. Бічэль, С. Грахоўскі, С. Шушкевіч, М. Арочка, К. Цвірка, В. Іпатава, А. Марціновіч, А. Зэкаў, У. Мазго, а таксама менш вядомыя А. Іверс, А. Канапелька, М. Трафімчук, М. Федзюковіч, А. Шпыркоў і іншыя беларускія майстры слова, якія ў сваіх творах падкрэслівалі скарынаўскія традыцыі служэння Радзіме, абуджалі ў чытача гістарычную

памяць і нацыянальную годнасць.

Усведамленне няспыннасці культурнай традыцыі, адкрыццё каштоўнасці духоўнага подзвігу папярэднікаў і паслядоўнікаў выдатнага асветніка, павага да сучасных палачан, спалучэнне мастацкай выдумкі і вядомых фактаў біяграфіі - тыя адметныя асаблівасці, якімі характарызуюцца творы згаданых аўтараў. У іх паэты сілай паэтычнай інтуіцыі і таленту ствараюць вобраз Скарыны як вучонага-батаніка (С. Шушкевіч "Скарына ў Празе") [6, с. 173], друкара-асветніка (Н. Гілевіч "Мара Скарыны") [6, с. 64], лекара чалавечых душ (А. Бачыла, паэма "Хмары над бухтай") [6, с. 50], адданага патрыёта (Г. Бураўкін, раздзел "Скарына" з паэмы "Ленін думае пра Беларусь") [6, с. 54].

Творы вышэйназваных аўтараў трапілі ў літаратурна-мастацкае выданне "Народу своему услугуючи…", выдадзенае ў 1990 годзе. У зборніку сабраны пад адну вокладку творы ўсіх трох родаў літаратуры, аднак колькасна ў ім пераважаюць лірычныя творы 39 аўтараў.

Безумоўна, у апошнія дзесяцігоддзі паэтычная Скарыніяна ўзбагацілася новымі творамі сучасных паэтаў розных пакаленняў, аднак назавём прозвішчы толькі тых, чые вершы мы адшукалі ў зборніках, перыядычных выданнях ці на старонках сайтаў: А. Пісьмянкоў, Л. Рублеўская, В. Шніп, В. Вабішэвіч, А. Салавей, Ю. Пацюпа, Зніч.

Такім чынам, зрабіўшы кароткі экскурс у айчынную паэтычную Скарыніяну, можна зрабіць выснову, што Франішак Скарына даў такі імпульс развіццю асветы, што і праз стагоддзі творчыя беларусы не могуць застацца абыякавымі да яго асобы і дзейнасці: за больш, чым стагадовы перыяд амаль паўсотні паэтаў прысвяцілі яму свае творы.

**1.2. Паэтычная Скарыніяна Лідчыны**

*Ты доўга блукаў па стагоддзях і свеце,*
*Пакуль не спыніўся на Лідскай зямлі,*
*Дзе кнігі Твае, наймілейшыя дзеці,*
*У душах удзячных прызнанне знайшлі.*

**С. Суднік.**

Мастакі слова Лідчыны - творчыя асобы, якіх яднае найперш любоў да Радзімы, яе гісторыі, павага да тых, хто аддана слугаваў народу. Зварот паэтаў Лідчыны да скарынаўскай тэмы, на нашу думку, якраз і абумоўлены жаданнем праз вершаваныя радкі выказаць удзячнасць выдатнаму сыну беларускага народа за друкаваную кнігу на роднай мове, за адданасць і мужнасць у абранай справе.

Сярод тых, хто прысвяціў свае творы нашаму суайчынніку, можна назваць прадстаўнікоў розных пакаленняў: старэйшага (Данута Бічэль, Алеся Бурак, Станіслаў Суднік, Пётр Макарэвіч, Міхась Мельнік, Іосіф Масян, Ларыса Канчэўская, Ірэна Сліўко), маладога (Вераніка Мікулка, Яраслаў і Васіліса Пазнуховы). Яраслаў і Васіліса Пазнуховы - члены Літаратурна-музычнай студыі "Пегас" ЛРЦТДіМ, кіраўніком якой з'яўляецца Васіліса Міхайлаўна.

З ліку вышэйназваных аўтараў варта вылучыць Дануту Бічэль, вядомую беларускую паэтэсу, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Купалы, якая нарадзілася на Лідчыне. Яе паэтычная культура - узровень самых высокіх узораў паэзіі. Як адзначае даследчыца творчасці паэтэсы А. Петрушкевіч, "глыбокім патрыятызмам прасякнута "гістарычная лірыка" паэткі, якой заўсёды была ўласціва цікавасць да мінулага свайго Краю. Яе лірычная гераіня, чалавек свайго часу, адчувае сувязь з даўнімі эпохамі, неаспрэчнае дачыненне да таго, што знаходзіцца па-за яе асабістым жыццёвым досведам… Натхняльнікамі абуджэння нацыянальнай годнасці, народнага духу выступаюць у творчасці Дануты Бічэль вобразы гістарычных асобаў: Ефрасінні Полацкай, Францішка Скарыны, Васіля Вашчылы, Кастуся Каліноўскага, Францішка Багушэвіча і інш. [7, с. 68].

Варта адзначыць, што аўтар аднаго з рускамоўных вершаў, напісаных зусім нядаўна, 07.01.2017 г., - Бараздзіна Ірына Сямёнаўна, былая настаўніца пачатковых класаў нашай школы, ветэран педагагічнай працы.

Практычна ўсе згаданыя паэты з'яўляюцца сябрамі літаратурнага аб'яднання "Суквецце", якое сёння дзейнічае пры рэдакцыі "Лідскай газеты" пад кіраўніцтвам нашага земляка Алеся Хітруна (да 2012 года кіраўніком з'яўляўся лідскі паэт Міхась Мельнік). Таму 4 вершы, у якіх прадстаўлены вобраз Ф. Скарыны, былі знойдзены намі на старонках "Лідскай газеты" за 2013 год, калі праводзіўся паэтычны конкурс, прымеркаваны да 690-годдзя з дня заснавання горада Ліды, і за 2014 год.

Многія творы, якія публікаваліся ў розны час на старонках "Лідскай газеты", былі ўключаны пазней у зборнікі вершаў "Мой горад - мой гонар", "Мой любы горад Ліда", "Шануйце роднае слова". Менавіта ў гэтых літаратурных крыніцах мы адшукалі большасць вершаў (16 твораў з 30-ці).

Астатнія, акрамя аднаго рукапіснага твора, пабачылі свет у іншых выданнях.

**Табліца 1. Літаратурныя крыніцы паэтычнай Скарыніяны Лідчыны**

| Літаратурная крыніца | Год выдання (дата публікацыі ў газеце; дата напісання верша) | Аўтар | Назва верша |
|---|---|---|---|
| Зборнік "Мой горад - мой гонар" | 2013 | А. Бурак<br>А. Бурак | Помнік Скарыну<br>Скарына з намі |

| | | | |
|---|---|---|---|
| | | А. Бурак<br>М. Мельнік<br>І. Сліўко | Любы горад<br>Прысвячэнне Лідзе<br>Святыні горада |
| Зборнік "Мой любы горад Ліда" | 2008 | Д. Бічэль<br>З. Гіль<br>І. Гушчынскі<br>П. Макарэвіч<br>І. Масян | Францішак Скарына ў Лідзе<br>Ліда - любоў мая<br>Князёўна - Ліда<br>На скрыжалях і вуліцах Ліды<br>Мая сталіца |
| Зборнік "Шануйце роднае слова" | 2008 | Д. Бічэль<br>Ю. Карэйва<br>П. Макарэвіч<br>П. Макарэвіч<br>Я. Пазнухоў<br>В. Пазнухова | Словам Скарыны<br>Мне Мова - Божым Словам<br>Беларусу<br>Уставай, суайчыннік<br>Мы ганарымся<br>Мілагучны гукі родных песень |
| Зборнік "Мой Грунвальд" | 15.05.1988<br>1999 | С. Суднік | Пагоня за мову |
| "Лідская газета" | 24.07.1993<br>13.04.2013<br>14.09.2014<br>04.09.2014 | А. Гембицкий<br>П. Макарэвіч<br>Л. Канчэўская<br>А. Стадуб | Первопечатнику Скарине<br>Наш горад праменны<br>Юрась<br>Не скарылі |
| Літаратурна-мастацкі часопіс "Ад Лідскіх муроў" | № 4, 2001<br>№ 7, 2010-2011<br>№ 8, 20012-2015<br>№ 6, 2003 | І. Масян<br>І. Масян<br>І. Масян<br>В. Мікулка | Першадрукар<br>Францішак Скарына<br>Трыялет<br>Легенда |
| Лідскія скрыжалі | 2008 | С. Суднік<br><br>С. Суднік | Перад помнікам Скарыну ў Лідзе<br>Друкары |
| Зборнік "А на Палессі" | 1990 | Д. Бічэль | Спатканне ў Полацку |
| Зборнік "Даўняе сонца" | 1987 | Д. Бічэль | Рыска |
| Артыкул "Этапы жыццёвых дарог змагара" | 2014<br>07.06.1941 | В. Таўлай | Аб маіх вершах |
| Аўтарскі рукапіс | 07.01.2017 | И. Бороздина | Франциск Скорина |

Самы ранні верш нашага даследавання датуецца 07.06.1941 года, а самы позні - 07.01.2017 года, што сведчыць пра запатрабаванасць вобраза Ф. Скарыны ў рэгіянальнай беларускай паэзіі на працягу значнага адрэзку часу.

Прааналізаваўшы змест усіх трыццаці вершаў, мы заўважылі, што іх можна падзяляліць на дзве групы:

1) вершы пра Скарыну:

1. Данута Бічэль - "Словам Скарыны";
2. Данута Бічэль - "Францішак Скарына ў Лідзе";
3. Данута Бічэль - "Спатканне ў Полацку";
4. Ирына Бараздзіна - "Франциск Скорина";
5. Алеся Бурак - "Помнік Скарыну";
6. Алеся Бурак - "Скарына з намі";
7. Алесь Гямбіцкі - "Первопечатнику Скорине";
8. Ларыса Канчэўская - "Юрась";
9. Іосіф Масян - "Першадрукар" (варыянт "Францішак Скарына");
10. Іосіф Масян - "Трыялет";
11. Станіслаў Суднік - "Перад помнікам Скарыну ў Лідзе".

2) вершы з рэміністэнцыяй скарынаўскай тэмы:

1. Д. Бічэль - "Рыскі";
2. Алеся Бурак - "Любы горад";
3. Зоя Гіль - "Ліда - любоў мая";

4. Іван Гушчынскі - "Князёўна - Ліда (ці Я - лучнік твой!)";
5. Юры Карэйва - "Мне мова - Божым Словам" (урывак з верша);
6. Пятро Макарэвіч - "Беларусу";
7. Пятро Макарэвіч - "Уставай, суайчыннік, з каленяў";
8. Пятро Макарэвіч - "На скрыжалях і вуліцах Ліды";
9. Пятро Макарэвіч - "Наш горад праменны";
10. Іосіф Масян - "Мая сталіца";
11. Міхась Мельнік - "Прысвячэнне Лідзе";
12. Вераніка Мікулка - "Легенда";
13. Васіліса Пазнухова - "Мілагучны гукі родных песень";
14. Яраслаў Пазнухоў - "Мы ганарымся";
15. Ірэна Сліўко - "Святыні горада";
16. Алесь Стадуб - "Не скарылі";
17. Станіслаў Суднік - "Пагоня за мову";
18. Станіслаў Суднік - "Друкары";
19. В. Таўлай - "Аб маіх вершах".

Прааналізаўшы літаратурны матэрыял, мы можам зрабіць выснову: цікавасць і неабыякавасць лідскіх паэтаў розных пакаленняў да асобы выдатнага палачаніна на працягу сямі дзесяцігоддзяў сведчыць пра іх глыбокі патрыятызм. Вершаваныя творы "абуджаюць" чытача, паказваюць, што словы і справы Скарыны для нас, нашчадкаў, - прыклад духоўнасці, вернасці, бескарыслівасці.

## РАЗДЗЕЛ 2. ІНТЭРПРЭТАЦЫЯ ВОБРАЗУ СКАРЫНЫ Ў ВЕРШАХ ПАЭТАЎ ЛІДЧЫНЫ

### 2.1. Асаблівасць асэнсавання вобразу Ф. Скарыны: агульныя заканамернасці і тэндэнцыі

У пантэоне беларускіх нацыянальных дзеячаў Францішак Скарына займае адно з вядучых месцаў, што абумовіла асаблівую ўвагу мастакоў слова да яго асобы.

У творах паэтаў Лідчыны вобраз асветніка-гуманіста асэнсоўваецца глыбока і шматгранна. Агульны настрой вершаў пра Ф. Скарыну ў пераважнай большасці ўрачыста-ўзнёслы (И. Бороздина "Франциск Скорина", А. Бурак "Помнік Скарыну", "Скарына з намі", І. Масян "Трыялет", "Францішак Скарына", С. Суднік "Перад помнікам Скарыну ў Лідзе", Л. Канчэўская "Юрась"), часам з адценнем трывогі за будучае скарынаўскай кнігі (Д. Бічэль "Словам Скарыны" , "Спатканне ў Полацку"). Гэта падкрэслівае і своеасаблівая будова вершаў: чатыры вершы з адзінаццаці, прысвечаных Скарыну (И. Бороздина "Франциск Скорина", А. Бурак "Скарына з намі", А. Гембицкий "Первопечатнику Скорине", І. Масян "Трыялет"), напісаны ямбам, што надае гучанню запаволеную разважлівасць і ў той самы час урачыстасць.

З нізкі вершаў вылучаецца сваім нязмушаным, нават жартаўлівым тонам і адметнай трактоўкай вобразу Скарыны твор Д. Бічэль "Францішак Скарына ў Лідзе"[1], у якім "Ліда, чароўная і маладая,/Лёгкай дзяўчынкай усё падрастае", а хлопец талковы, Францішак Скарына, з якім, можа, "у свет вольны выйдзе , "спыняецца ў Лідзе./Як бы спыняецца Сонца ў Зеніце".

Змест значнай часткі вершаў - гэта роздум паэтаў над значэннем для беларусаў, а значыць, і для кожнага з нас гістарычнай памяці, без якой народ не можа паўнавартасна жыць. У многіх вершах, прысвечаных Скарыну, адчуваецца глыбокае шанаванне першадрукара як патрыёта, які скіроўваў усе свае намаганні для ўзвышэння, адукацыі і развіцця сваіх сучаснікаў. Таму важная характарыстыка вобразу Ф. Скарыны - не толькі яго ўласнае імкненне да святла, але і жаданне прынесці асвету свайму народу: даць магчымасць кожнаму беларусу трымаць у руках кнігу на роднай мове. Аўтары сцвярджаюць гэтую думку паэтычнымі радкамі:

Стремился к свету и познаньям,
Потомкам в дар оставил знанья.
*(И. Бороздина, "Франциск Скорина").*

Удзячны нашчадкі за службу Радзіме,
За кнігі разумныя, што друкаваў
На матчынай мове даступнай, адзінай,
Што бачыць народ свой шчаслівым жадаў.
*(А. Бурак, "Помнік Скарыну")*[2].

Ён кніжкі найкарысныя
Для нас надрукаваў.
І словамі агністымі
Дагматы крыжаваў.
*(А. Бурак, "Скарына з намі")*[3].

Божа Слова бачыць ён,
Ды й на роднай мове!
*(Л. Канчэўская, "Юрась")*[4].

Сэрца гукаюць родныя словы.
Францішак Скарына іх друкаваў…
*(Яраслаў Пазнухоў "Мы ганарымся")*[5].

Ты доўга блукаў па стагоддзях і свеце,
Пакуль не спыніўся на Лідскай зямлі,
Дзе кнігі Твае, наймілейшыя дзеці,
У душах удзячных прызнанне знайшлі.
*(С. Суднік, "Перад помнікам Скарыну ў Лідзе")*[6].

Матыў непарыўнасці Скарынавых традыцый з сучаснымі духоўнымі скарбамі характэрны для многіх вершаў паэтаў-лірыкаў Лідчыны.

Прыкладам можа служыць верш Д. Бічэль "Рыскі"[7]. Паэтэса стварае вобраз роднага краю, які для яе як "гаючы бальзам", як песня зязюлек і жанчын, як

| | |
|---|---|
| Працяг традыцый кнігадрукавання | С. Суднік, "Друкары" |
| Абуджэнне свядомасці і гордасці беларусаў | П. Макарэвіч, "Беларусу"<br>Я. Пазнухоў, "Мы ганарымся" |
| Мацаванне веры | А. Бурак, "Любы горад"<br>З. Гіль, "Ліда - любоў мая" |
| Веліч скарынаўскага подзвігу і гонар за першадрукара | И. Бороздина, "Франциск Скорина" |
| Родная Полаччына | І. Масян "Першадрукар" (варыянт "Францішак Скарына") |
| Сустрэча са Скарынам у Полацку | Д. Бічэль, "Спатканне ў Полацку" |
| Родны край | Д. Бічэль, "Рыскі" |

паветра, што "саткалі жаўранкаў крылцы". Лірычны пачатак твора гучыць як экспазіцыя да скарынаўскай тэмы:

*Тваё палотны-гасцінцы ў расе заранiца купала.*
*Сувой раскруціў на святло навукі лекар Скарына.*

Адзінства роднай зямлі і яе гісторыі падаецца ў вершы праз асацыятыўны вобраз дарог, "згорнутых", як сувой палатна. Ён сімвалізуе і далёкія шляхі-дарогі беларускага асветніка, і духоўныя каштоўнасці народа, і скрутак белай паперы ў руках першадрукара. Скарына, а пазней і Купала не дапусцілі, каб родны край аблогам пыліўся на "гарышчы Зямлі", яны "ўвасабляюць працай творчыя ўзлёты ў гісторыі народа" [4, с. 17].

Вызначаючы адметнасці вершаў-прысвячэнняў, нельга не звярнуць увагі на разнастайнасць іх тэматыкі ў межах агульнай тэмы - "Францыск Скарына".

Мы зрабілі спробу вызначыць тэматычныя ракурсы вершаў, праз якія паэты падаюць вобраз выдатнага беларуса.

**Табліца 2. Тэматычныя ракурсы вершаў**

| **Тэматыка твораў-прысвячэнняў** | **Вершы** |
|---|---|
| Помнік Ф. Скарыну ў Лідзе | А. Бурак, "Скарына з намі"<br>А. Бурак, "Помнік Скарыну"<br>І. Масян, "Трыялет"<br>С. Суднік, "Перад помнікам Скарыну ў Лідзе" |
| Згадка пра помнік Скарыну як дарагое, святое для гараджан месца | А. Бурак, "Любыгорад"<br>З. Гіль, "Ліда-любоў мая"<br>А. Гембицкий "Первопечат нику Скорине"<br>П. Макарэвіч, "На скрыжалях і вуліцах Ліды"<br>П. Макарэвіч, " Наш горад праменны"<br>І. Масян, "Мая сталіца"<br>В. Мікулка, "Легенда"<br>І. Сліўко, "Святыні горада" |
| Шляхі Скарыны праз Ліду | М. Мельнік "Прысвячэнне Лідзе"<br>І. Гушчынскі, "Князёўна - Ліда (ці Я - лучнік твой!)" |
| Родная мова, беларускае слова | Д. Бічэль, "Словам Скарыны"<br>С. Суднік, "Пагоня за мову"<br>А. Стадуб, "Не скарылі"<br>В. Пазнухова, "Мілагучны гукі родных песень"<br>Л. Канчэўская, "Юрась"<br>П. Макарэвіч, "Уставай, суайчыннік, з каленяў"<br>Ю. Карэйва, "Мне мова - Божым Словам" (урывак з верша) |

Вобраз Скарыны ўспрымаецца зрокава і жыва ў многім дзякуючы помніку, устанавіць які прапанавала Лідская гарадская рада Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны ў канцы 1989 года. Талент скульптара Валяр'яна Янушкевіча, сродкі гараджан і падтрымка міністэрства фінансаў Беларусі дапамаглі рэалізаваць задуму. Помнік знакамітаму беларусу, што стаў другім у краіне (першы ўстаноўлены ў Полацку ў 1974 годзе), быў урачыста адкрыты ў нашым горадзе амаль чвэрць стагоддзя таму - 25 ліпеня 1993 года.

Камернасць характару скульптуры дазволіла Янушкевічу дамагчыся "судакранання з гледачом": вялікі беларус нібыта ўвесь час знаходзіцца ў зносінах з гараджанамі. Гэта адчуванне перададзена і ў вершаваных радках:

Стаіш тут у Лідзе, і дзякаваць Богу,
А міма штодзень сотні, тысячы йдуць.
У вочы Твае заглядаюцца людзі,
І кожны, хто зможа Твой погляд адчуць,
Тут жа згадае, што ён - не прыблуда,
Што ён - беларус, і што тут - Беларусь.

*(С. Суднік, "Перад помнікам Скарыну ў Лідзе").*

Вось ён, Францішак Скарына, велічны, спакойны, з надзеяй і спадзяваннем у вачах, пазірае на нас і нібы гаворыць: "Бярыце і чытайце" [5,с.14]. Разгорнутая кніга ў руцэ першадрукара - тое звяно, якое з'яднала нашае стагоддзе са скарынаўскім. Менавіта праз "кніжкі найкарысныя", што "для нас надрукаваў", "Скарына шчыра з намі /Гутарку вядзе". (А. Бурак, "Скарына з намі"). Гэта шчырасць выклікае такое зразумелае жаданне лірычнай гераіні верша А. Бурак "Любы горад" [8] знайсці душэўны спакой ля помніка Скарыну:

Сустрэнуся з Скарынаваю постаццю
І да яе душою прытулюся.

У значнай колькасці вершаў (12-ці з 30-ці) падаецца ў тэматычнай звязцы вобраз Скарыны і помнік у яго гонар, падкрэсліваецца настойлівасць і працавітасць, творчая смеласць і духоўная сіла нашага слыннага суайчынніка, які самааддана працаваў над перакладам і выданнем шматлікіх кніг на роднай мове. Гэта, а таксама згаданы ў вершах М. Мельніка і І. Гушчынскага верагодны факт, што Ф. Скарына ехаў вучыцца з Полацка ў Кракаў і вяртаўся з Прагі і Кракава ў Вільню праз Ліду (т. зв. "Каралеўскі тракт"), дазваляе зрабіць выснову: Скарына ў пэўнай ступені - сімвал нашага горада, яго духоўны арыенцір, які лучыць лідзян, абуджае іх свядомасць і гордасць як беларусаў.

Тэма роднай мовы арганічна паяднана з вобразам Скарыны. Глыбокі сэнс, як мы мяркуем, мае тое, што "як вартавы славянскай мовы, / Стаіць Скарына ля касцёла". Паўторы згаданых вершаваных радкоў "Трыялета" [9] І. Масяна завастраюць увагу чытачоў на вобразным параўнанні Скарыны з вартавым. Яго найпершай любоўю была мова роднага краю, да якой ён стараўся наблізіць мову перакладаў Бібліі. Слушна заўважае на гэты конт Н. Гілевіч: "Калі такую складаную і зместам, і жанрава, і стылёва кнігу, як Біблія, ён узяўся агучыць жывою моваю сваіх бацькоў - дык якую ж высокую думку пра гэту мову трэба было мець, якія цудоўныя магчымасці і ўласцівасці бачыць!" [2, с.104]. Таму аўтары звяртаюцца да вобраза Скарыны як да сына "тутэйшых і песень, і слоў" (С. Суднік, "Перад помнікам Скарыну ў Лідзе"), як да абаронцы мовы, які "…сумеў засланіць сабой сам / годнасць роднага слова без гучных авацый, / што ў прадмове да кніг друкаваных сказаў" (Д. Бічэль, "Словам Скарыны"[10]), як да натхняльніка абуджэння нацыянальнай годнасці:

Уставай, суайчыннік, зкаленяў! Не трусь!
Годзе нам свет смяшыць і гібець як папала.
Беларускае слова - жыве! І - жыве Беларусь!
Ёсць Скарына у нас, Багдановіч, Купала.
*( П. Макарэвіч "Уставай, суайчыннік, з каленяў")*[11].

Праз эмацыянальнае ўздзеянне на чытача паэты Д. Бічэль, А. Бурак, П. Макарэвіч, С. Суднік, А. Стадуб, Ю. Карэйва сваімі вершамі сцвярджаюць: сёння дух Скарыны з яго запаветамі патрэбны нам болей, як калі, каб лячыць нашыя раны, якія мы за непавагу да роднага слова самі сабе нанеслі.

Пра асноўныя вехі жыцця Ф. Скарыны, яго дзейнасць і значэнне ў лёсе народа, па нашым назіранні, красамоўна сведчаць словы-характарыстыкі і параўнанні, якія знаходзім у вершах паэтаў Лідчыны.

**Табліца 3. Словы-характарыстыкі ў вершах, прысвечаных Скарыну**

| Вехі жыцця, значэнне дзейнасці | Словы-характарыстыкі і параўнанні | Вершы |
|---|---|---|
| Асветніцтва, друкарская справа | Первопечатник | И. Бороздина, "Франциск Скорина" |
| | Асветнік і вучоны, філосаф і друкар | А. Бурак "Скарына з намі" |
| | Асветнік, друкар | А. Бурак "Помнік Скарыну" |
| | Асветнік святы з друкароў | П. Макарэвіч " Наш горад праменны" |
| | Ён першы, славуты, славянскі друкар. | І. Сліўко "Святыні горада" |
| Духоўны абярог народа | Скарыны постаць гордая<br>Стаіць як абярог. | А. Бурак "Скарына з намі" |
| | І позірк Скарыны, і дух Гедыміна<br>Нам веру мацуюць да лепшых часоў. | З. Гіль "Ліда - любоў мая" |
| | І Ты для народа духоўнага хлеба<br>Прынёс той акрайчык на мове яго. | С. Суднік "Перад помнікам Скарыну ў Лідзе" |
| | Усім лёсам ён злучыў<br>Нашу мову з верай. | Л. Канчэўская "Юрась" |
| | Як вартавы славянскай мовы | І. Масян "Трыялет" |
| | Яны ад Цябе, як ад бацькі парога,<br>Дрыготкую памяць пра вечнасць нясуць. | С. Суднік "Перад помнікам Скарыну ў Лідзе" |

| | | |
|---|---|---|
| Слаўны сын роднай зямлі | слаўны з Полацка сын | А. Бурак "Помнік Скарыну" |
| | Многа ў мяне ёсць сыноў,<br>Ды з першых - Францішак Скарына! | І. Масян "Першадрукар" |
| | Быў сынам тутэйшых і песень, і слоў. | С. Суднік "Перад помнікам Скарыну ў Лідзе" |
| | І гонар, і слава ўсёй роднай краіны | І. Сліўко "Святыні горада" |
| | Са славай заручоны<br>Слоў мудрых уладар | А. Бурак "Скарына з намі" |
| Вернасць высокім ідэалам, пасланніцтва | Прыклад чыстай любові, якой не скарылі, даў Скарына | Д. Бічэль "Словам Скарыны" |
| | Апостал і геній народу свайго | С. Суднік "Перад помнікам Скарыну ў Лідзе" |
| | За волю, пісьменнасць руплівы змагар. | І. Сліўко "Святыні горада" |
| Характарыстычная ацэнка | хлопец талковы | Д. Бічэль "Францішак Скарына ў Лідзе" |
| | З хлопца сціплага таго<br>Навуковец стане. | Л. Канчэўская "Юрась" |

Такім чынам, з вершаў паэтаў Лідчыны паўстае перад намі ў пэўнай ступені традыцыйны, але ад гэтага не менш велічны вобраз Скарыны, адданага роднай зямлі сына, які памножыў яе славу ў свеце і, нягледзячы на драматызм і выпрабаванні лёсу, застаўся верным высокім ідэалам. Разам з тым, асэнсаванне вобразу майстрамі-землякамі мае пэўныя адметнасці: выдатны беларус у іх творах - найперш асветнік, які на працягу стагоддзяў з'яўляецца для нас духоўным арыенцірам і абярогам. Гэта магутная па сіле духу асоба, увасобленая ў бронзе, стала сімвалам нашага горада, яго святыняй.

Агульны імператыў вершаў-прысвячэнняў, на нашу думку, вельмі дакладна перадаюць словы Н. Гілевіча пра выдатнага палачаніна: "Благаслаўлёнае імя Скарыны сёння з тымі, хто клапоціцца пра адраджэнне душы чалавечай, хто дбае пра вялікую будучыню народа... Будзем жа дастойнымі ў сваіх словах і справах яго памяці, яго спадчыны, яго запаветаў!" [2, с.108].

### 2.2. Паэтычныя сродкі выразнасці, іх роля ў стварэнні вобразу Ф. Скарыны

Сярод асоб, якія яднаюць мінулае з сучаснасцю, магутна ўзвышаецца Скарына. Менавіта ён, па прызнанні У. Караткевіча, сярод "тых, самых-самых першых, што зрабілі лепшых дзяцей чалавецтва такімі, якія яны ёсць сёння і якімі яны будуць давеку, пакуль ёсць пад небам Сусвету Чалавек" [3, с.176]. Словы вядомага пісьменніка яшчэ раз падкрэсліваюць выключнасць, элітарнасць гуманіста, да вобраза якога не перастаюць звяртацца творчыя людзі. Якім бачаць знанага ва ўсім славянскім свеце беларуса нашы паэты? Што дапамагае аўтарам стварыць яго вобраз яркім, запамінальным і ў той жа час блізкім і кранальным?

Асобнай увагі варты арсенал вобразных сродкаў, сістэмы тропаў, з дапамогай якога паэты ствараюць вобраз Скарыны. Сярод тропаў, рухавікоў паэтычнага вобраза, можна найперш назваць эпітэты і параўнанні - простыя тропы. Эпітэты акцэнтуюць увагу чытача на велічы асобы Скарыны і святасці яго справы: прыклад чыстай любові, Скарынаву кнігу святую, светлыя думкі Францыска Скарыны, і словамі агністымі /Дагматы крыжаваў, ад слоў святых яго, юны Скарына, І адразу ж / Паўстане вачам, слаўны, Ён -/ Скарына…, вечныя крокі Скарыны,

На варце магутная постаць Скарыны.
Ён першы, славуты, славянскі друкар.

Скарыну паэты параўноўваюць з *несмяротнай душой* - гэта падкрэслівае памяць беларусаў пра генія нацыі, з *абярогам* - засцярога ад бяспамяцтва, як *"ад бацькі парога"* - удзячнасць нашчадкаў, сыноў першадрукара, за здзейснены духоўны подзвіг, *"вартавы славянскай мовы"* - Скарына, які валодаў многімі еўрапейскімі мовамі, любіў, цаніў і ўмеў карыстацца родным словам, што з'яўляецца прыкладам для нас у адносінах да беларускай мовы.

Параўнанне *"Раптам Скарына спыняецца ў Лідзе./Як бы спыняецца Сонца ў Зеніце"* падкрэслівае выключную важнасць асветніцкай справы на землях

тагачаснай Беларусі.

Варта адзначыць, што паэты яркімі штрыхамі малююць вобраз Скарыны і з дапамогай складаных тропаў, з якіх найбольш ужывальнымі з'яўляюцца метафары. Яны, па словах навукоўцы А. Яскевіч, "упадабляюць вобразнай маланцы, што выкрасаецца пры збліжэнні паняццяў, абуджаючы ў нас шматлікія вобразныя асацыяцыі" [9, с.182]. Метафары ў многіх вершах узмацняюцца эпітэтамі:

Прыклад *чыстай* любові,
якой не скарылі, даў Скарына...
(Д. Бічэль, "Словам Скарыны")

Дарагая пралеска смалістых бароў!
Закахаўся ў цябе ў скверы *юны* Скарына.
(П. Макарэвіч, " На скрыжалях і вуліцах Ліды"[12])

Сэрца гукаюць *родныя* словы.
Францішак Скарына іх друкаваў
(Яраслаў Пазнухоў, "Мы ганарымся"[13])

І Ты для народа *духоўнага* хлеба
Прынёс той акрайчык на мове яго.
(С. Суднік, "Перад помнікам Скарыну ў Лідзе").

Уладарылі ў Полацку *светлыя* думкі
Францыска Скарыны, святой Ефрасінні
(А. Бурак, "Помнік Скарыну"[14])

Не пашаны ён збіраў
Ў краі тым далёкім,
А раменьчык завязаў
На чале *высокім*.
(Л. Канчэўская, "Юрась").

Увасабленню аўтарскай задумы, раскрыццю ідэі твораў падпарадкаваны і літаратурны сінтаксіс вершаў. Паэты выпрацоўваюць у чытачоў гістарызм мыслення праз выкарыстанне рытарычных фігур - мастацкага звароту (**Франциск! Первопечатник! Скорина!**/ Тобой гордится Беларусь моя) і рытарычных пытанняў (Колькі ж можна губляць, каб людзьмі называцца?)

Ці помняць руіны
***Вечныя*** крокі Скарыны,
Ці чуюць яны скрозь свой сон?

Яны выклікаюць актыўны рух думкі чытача: згадзіцца ці не згадзіцца з аўтарскім сцвярджэннем, прызнаць ці не прызнаць сябе часткай соцыуму, якая так мяркуе.

Такая стылістычная фігура, як інверсія

І *словамі агністымі* / Дагматы крыжаваў, Са *славай заручоны* / Слоў *мудрых* уладар, Скарынаву кнігу *святую*, Ад слоў *святых* яго),

уносіць у паэтычныя радкі напружанасць, уздым, надае экспрэсіўнасць выказванню.

Выкарыстаныя ў вершы І. Масяна "Першадрукар"[15] (**Скрозь церні няўмольнага часу / Праўвецца мінулае зноў** / У сённяшні дзень. І адразу ж / Паўстане вачам, слаўны, Ён - / Скарына…) і ў вершы С. Судніка "Перад помнікам Скарыну ў Лідзе" (Ты **праўды адвечныя ў словаў карункі / Аздобіў - і Слова па свеце пайшло**) пераносы драматызуюць маўленне.

Такім чынам, прааналізаваўшы выкарыстаныя паэтамі ў вершах пра Скарыну паэтычныя сродкі выразнасці, мы прыйшлі да высновы, што аўтары актыўна звяртаюцца да эпітэтаў, параўнанняў і метафар, узмоцненых эпітэтамі, якія дапамагаюць ім стварыць па-мастацку яркі, запамінальны, адметны вобраз асветніка.

**Заключэнне**

Наша работа - толькі невялічкі кавалачак айсберга пад назвай "Францыск Скарыны", які мы паспрабавалі адкрыць для сябе, звярнуўшыся да творчасці паэтаў Лідчыны. У іх творах мы ўбачылі развагі пра мінулае і сучаснае жыццё нашага горада і яго жыхароў, занепакоенасць станам роднай мовы і асуджэнне нацыянальнага нігілізму, а таксама спробу вызначыць кірунак у духоўным развіцці грамадства праз асэнсаванне вобраза асветніка.

Вершаваныя творы "абудзілі" нас як чытачоў і даследчыкаў, паказаўшы, што словы і справы Скарыны для нас, нашчадкаў, - прыклад духоўнасці, вернасці, бескарыслівасці. У выніку даследавання намі былі зроблены наступныя высновы:

1. Асоба Францыска Скарыны стала настолькі прыцягальнай для прадстаўнікоў прыгожага пісьменства, што за больш чым стагадовы перыяд амаль паўсотні паэтаў прысвяцілі Скарыну свае творы;

2. Вершы паэтаў Лідчыны (30 вершаў), прадстаўленыя ў розных літаратурных крыніцах, можна падзяляліць на дзве групы:

а) вершы пра Скарыну;

б) вершы з рэмiністэнцыяй скарынаўскай тэмы.

Цікавасць і неабыякавасць лідскіх паэтаў розных пакаленняў да асобы выдатнага палачаніна на працягу сямі дзесяцігоддзяў сведчыць пра іх глыбокі патрыятызм.

3. З вершаў паэтаў Лідчыны паўстае перад намі ў пэўнай ступені традыцыйны, але ад гэтага не менш велічны вобраз Скарыны. Яго інтэрпрэтацыя майстрамі-землякамі мае свае адметнасці: выдатны беларус у іх творах - найперш асветнік, які на працягу стагоддзяў з'яўляецца для нас духоўным арыенцірам і абярогам. Гэта магутная па сіле духу асоба, увасобленая ў бронзе, стала сімвалам нашага горада, яго святыняй.

4. Паэты ў вершах пра Скарыну актыўна звяртаюцца да эпітэтаў, параўнанняў і метафар, узмоцненых эпітэтамі, каб стварыць па-мастацку яркі, запамінальны, адметны вобраз асветніка.

Спадзяёмся, што наша работа зацікавіць тых, хто вывучае творчасць паэтаў Лідчыны. Яна можа выкарыстоўвацца ў якасці дыдактычнага матэрыялу на пазакласных мерапрыемствах па літаратуры і краязнаўстве. А складзены намі зборнік вершаў, мяркуем, дасць магчымасць аматарам паэзіі адшукаць адказ на пытанне: чым і чаму цікавы нам сёння Скарына?

**Спіс выкарыстаных крыніц**

1. Багдановіч, І. Залатая горка: вершы, пераклады, артыкулы./ Багдановіч, І// Мінск: Кнігазбор, 2016 г., - 400 с.

2. Гілевіч, Н. Выбар: публіцыстыка, выступленні, інтэрв'ю. /Гілевіч, Н. // Мінск: Беларусь, 1993 г., -248 с.

3. Караткевіч, У. Збор твораў: у 8 т. Т. 8. Кн. 2. З жыццяпісу, нарысы, эсэ, публіцыстыка, постаці, крытычныя творы. Інтэрв'ю, летапіс жыцця і творчасці / Караткевіч, У.// Мінск: Маст. літ., 1991 г., - 495 с.

4. Конан,У.Ф. Скарына ў мастацкай літаратуры /Конан, У. // Мінск, 1990г., - С.11-19.

5. Мельнік, М. Ліда - горад Скарыны: да 10-годдзя ўстаноўкі ў Лідзе помніка Францішку Скарыну /Мельнік, М. //Лідскі Летапісец, 2003 г., № 3-4 (№ 23-24), - С.14-18.

6. "Народу свайму ўслугуючы…": творы беларускіх аўтараў, прысвечаныя Ф. Скарыну: зборнік. /Уклад. Яфімава, М.Б., Мінск, 1990 г., -184 с.

7. Петрушкевіч, А. Літаратурная Гарадзеншчына ў постацях і лёсах: дапам. / Петрушкевіч А.М. // Гродна: ГрДУ, 2010 г., -103 с.

8. Сваяк, К. Выбраныя творы./ Сваяк, К.// уклад., прадм. камент. Ірыны Багдановіч. Мінск: Кнігазбор, 2010 г., - 472 с.

9. Яскевіч, А.А. Абранне Вечнасці. Універсалізм традыцці і гістарызм сучаснасці / Яскевіч, А.А. // навук. рэд. і аўт. паслясл. І.Я. Квін., Мінск: Маст. літ., 1999 г., - 319 с.

* * *

1. Ад Лідскіх муроў: літ.-маст. час. / выдав. Суднік, С. // 2015 г., - № 8.

2. Ад Лідскіх муроў: літ.-маст. час. / выдав. Суднік, С. // 2012 г., - № 7.

3. Ад Лідскіх муроў: літ.-маст. час. / выдав. Суднік, С. // 2003 г., - № 6.

4. Ад Лідскіх муроў: літ.-маст. час. / выдав. Суднік, С. // 2001 г., - № 4.

5. Бічэль-Загнетава, Д. А на Палессі: вершы і балады / Бічэль-Загнетава, Д.// Мінск: Маст.літ., 1990 г.,- 158 с.

6. Бічэль-Загнетава, Д. Даўняе сонца: лірыка./ Бічэль-Загнетава, Д.//Мінск: Маст. літ., 1987 г., -398 с.

7. Мой горад - мой гонар: зборнік вершаў лідскіх аўтараў. / Уклад. Серафіновіч, К.А.// Ліда.: Лід. друкарня, 2013 г., - 68 с.

8. Мой любы горад Ліда: зборнік вершаў. / Уклад. Зенюкевіч,Т., рэд. Белуш, І., маст. Судар, А., фота Пешахонава, І. // Ліда, 2008 г., - 48 с.: іл.

9. Суднік, С. Лідскія скрыжалі. / Суднік, С.// Ліда, 2008 г.,- 92 с.

10. Шануйце роднае слова! Анталогія твораў лідскіх літаратараў пра беларускую мову. / Уклад. і рэд. Мельнік, М. // Ліда, 2008 г., - 96 с.

11. Бурак, А. Скарына з намі: верш. / Бурак, А. // "Лідская газета", 22.08.2013 г, № 94, - С. 5.

12. Бурак, А. Любы горад: верш. /Бурак, А // "Лідская газета", 12.09.2013 г., № 103, - С. 15.

13. Гембицкий, А. Первопечатнику Скорине: стихи. /Гембицкий, А. // "Лидская газета", 24.07.1993 г., № 56, - С. 3.

14. Канчэўская, Л. Юрась: верш. /Канчэўская, Л.//"Лідская газета", 04.09.2014 г., № 100, - С.7.

15. Макарэвіч, П. Наш горад праменны: верш. /Макарэвіч, П. // "Лідская газета", 13.04.2013 г., № 41, - С. 4.

16. Мельнік, М. Прысвячэнне Лідзе: верш. / Мельнік, М. // "Лідская газета", 05.07. 2013 г., № 73-74, - С. 7.

17. Стадуб, А. Не скарылі: верш. /Стадуб, А. // "Лідская газета", 04.09.2014 г., № 100, - С.7.

18. http://pawet.net/library/v_literature/: Дата доступу: 25.02.2017 г.

***Дадатак 1***

## Табліца 4. Паэтычныя сродкі выразнасці ў вершах пра Ф. Скарыну

| Паэтычныя сродкі выразнасці ў вершах пра Ф. Скарыну | | |
|---|---|---|
| **Аўтар, твор** | **Мастацкія тропы і сродкі сінтаксічнай выразнасці** | **Прыклад** |
| Данута Бічэль “Словам Скарыны” | Рытарычнае пытанне | Колькі ж можна губляць, каб людзьмі называцца? |
| | Метафары, эпітэт | Вось Скарына сумеў **засланіць** сабой сам **годнасць роднага слова** без гучных авацый<br><br>**Прыклад *чыстай* любові, якой не скарылі, даў Скарына...** |
| | Метафара, *параўнанне* | У шаснаццатым веку Францішак Скарына ***несмяротнай душой*** **узвышае наш люд**. |

| | | |
|---|---|---|
| | Метафара, гіпербала | у праслаўленым Полацку, **мовай Скарыны ўваскрошаны з праху**, спаткаемся зноў... |
| Данута Бічэль “Францішак Скарына ў Лідзе” | Параўнанне | **Як бы спыняецца Сонца ў Зеніце.** |
| | Метафары | **Невідочнае заўтра і ўчора**<br>**бессмяроцце Скарыны яднае.**<br><br>…што **Скарынаву кнігу святую**<br>**запіхнулі між тоўшчы вякоў.** |
| Данута Бічэль “Спатканне” | Увасабленне | ***Гутарку вядзе.***<br><br>**хацелася шчыра**<br>**да Скарыны душой прытуліцца...** |
| Ирина Бородина “Франциск Скорина” | Метафары, параўнанне, сінестазія | С небес проложен был явленный путь,<br>Ты знал: **с тропы подаренной уже не повернуть**.<br><br>Волною время, **как корабль бежит**,<br>**А знаний океан синеет и бурлит.** |
| | Мастацкі зварот | **Франциск! Первопечатник! Скорина!**<br>Тобой гордится Беларусь моя. |
| Алеся Бурак “Помнік Скарыну” | Метафары | Ля храма **ўзышоў на падмурак Скарына** -<br>Асветнік, друкар, слаўны з Полацка сын. |
| | Адухаўленне, *эпітэт* | **Уладарылі** ў Полацку ***светлыя*** **думкі**<br>Францыска Скарыны, святой Ефрасінні, |
| Алеся Бурак “Скарына з намі” | Параўнанне | Скарыны постаць гордая<br>Стаіць як **абярог**. |
| | Метафары,інверсія | Асветнік і вучоны,<br>Філосаф і друкар,<br>***Са славай заручоны***<br>***Слоў мудрых*** *уладар.*<br>**І *словамі агністымі***<br>**Дагматы крыжаваў.**<br>**Скарына *шчыра з намі*** |
| Алеся Бурак “Любы горад” | Метафара | **Сустрэнуся з Скарынаваю постаццю**<br>**І да яе душою прытулюся.** |
| Зоя Гіль “Ліда-любоў мая” | Метафара | **І позірк Скарыны, і дух Гедыміна**<br>**Нам веру мацуюць да лепшых часоў.** |
| Юры Карэйва “Мне Мова - Божым Словам” | Эпітэт | Мне Словы - ад Скарыны,<br>Ад слоў **святых** яго. |
| Пётр Макарэвіч “На скрыжалях і вуліцах Ліды” | Метафара, эпітэт | Дарагая пралеска смалістых бароў!<br>**Закахаўся ў цябе**<br>**ў скверы юны Скарына.** |
| Ларыса Канчэўская “Юрась” | Метафары | І ад тых сівых дымоў<br>Ў Полацку зімовым<br>Да краін чужых **дайшоў**<br>**Ў сэрцы з гэтым Словам.** |

| | | |
|---|---|---|
| | | **Не пашаны ён збіраў**<br>Ў краі тым далёкім,<br>**А раменьчык завязаў**<br>**На чале высокім.**<br><br>Усім **лёсам ён злучыў**<br>**Нашу мову з верай.** |
| Іосіф Масян<br>"Першадрукар" | Метафара, эпітэт | Праз пыл летапісных лістоў,<br>**Скрозь церні няўмольнага часу**<br>**Прарвецца мінулае зноў**<br>**У сённяшні дзень**. І адразу ж<br>Паўстане вачам, ***слаўны***, Ён -<br>Скарына… |
| | Рытарычнае пытанне, эпітэт | **Ці помняць руіны**<br>***Вечныя*** крокі Скарыны,<br>**Ці чуюць яны скрозь свой сон?** |
| | Увасабленне | **Гучыць мілы голас Радзімы:**<br>Многа ў мяне ёсць сыноў,<br>Ды з першых - Францішак Скарына! |
| Іосіф Масян<br>"Трыялет" | Параўнанне | **Як вартавы славянскай мовы**,<br>Стаіць Скарына ля касцёла. |
| Іосіф Масян<br>"Францішак Скарына" | Увасабленне | А ў далёкіх вандроўках **у сны**<br>**Вобраз маці ляцеў** з суцяшэннем. |
| | Метафара | **Шмат ёсць крокаў на слаўных шляхах,**<br>Ды найпершы - Францішка Скарыны. |
| Іосіф Масян<br>**"Мая сталіца"** | Метафара | **Там аура Міцкевіча, Таўлая**<br>**Вітае над Скарынам ля касцёла...** |
| Яраслаў Пазнухоў<br>"Мы ганарымся" | Метафара, эпітэт | **Сэрца *гукаюць* родныя словы.**<br>Францішак Скарына іх друкаваў, |
| Ірэна Сліўко<br>"Святыні горада" | Эпітэт | На варце **магутная** постаць Скарыны.<br>Ён першы, **славуты**, славянскі друкар. |
| Станіслаў Суднік<br>"Перад помнікам Скарыну ўЛідзе" | Метафара | Ты доўга **блукаў па стагоддзях і свеце,**<br>Пакуль не спыніўся на Лідскай зямлі.<br><br>Ты доўга **хадзіў за мяжой і за часам**,<br>Апостал і геній народу свайго.<br><br>**Ты**, быўшы народжаным гэтай зямлёю,<br>**Быў сынам тутэйшых і песень, і слоў**.<br><br>Ты **праўды адвечныя ў словаў карункі**<br>**Аздобіў - і Слова па свеце пайшло.**<br><br>І **Ты для народа духоўнага хлеба**<br>**Прынёс той акрайчык на мове яго.** |
| | Параўнанне | Дзе кнігі Твае, **наймілейшыя дзеці**,<br>У душах удзячных прызнанне знайшлі.<br><br>Яны ад Цябе, **як ад бацькі парога**,<br>Дрыготкую памяць пра вечнасць нясуць. |

*Дадатак 2*

# Зборнік вершаў "Паэтычная Скарыніяна Лідчыны"

*Данута Бічэль*

## Словам Скарыны

Ад маленства за працу берымося старанна,
каб закрэсліць да нас непавагі прысуд!
У шаснаццатым веку Францішак Скарына
несмяротнай душой узвышае наш люд.

Колькі ж можна губляць, каб людзьмі называцца?
Вось Скарына сумеў засланіць сабой сам
годнасць роднага слова без гучных авацый,
што ў прадмове да кніг друкаваных сказаў.

Ці ж з блакады вякоў не здалеюць унукі
між братоў яго Кнігу ў вечнасць пусціць!
Патрымаемся, узяўшыся моцна за рукі
на высокіх пляцоўках і ў вёсках пустых,

працавітыя, смелыя, моцныя духам!
На віхуры сядайце, за руль, за стырно.
І не страшны ніякія нам завірухі.
Наша роднае слова далёка чутно.

Прыклад чыстай любові, якой не скарылі,
даў Скарына...
Праз пяць мімалётных вякоў
у праслаўленым Полацку, мовай Скарыны
уваскрошаны з праху, спаткаемся зноў...

## Францішак Скарына ў Лідзе

Ліда, чароўная і маладая,
Лёгкай дзяўчынкай усё падрастае.
Трэба ж і хлопца талковага Лідзе.
Можа, у Еўропу, у свет вольны выйдзе.

Гэта ж вандруе Францішак Скарына.
Бачыць: даліна, тут - Ліда - дзяўчына.
Раптам Скарына спыняецца ў Лідзе.
Як бы спыняецца Сонца ў Зеніце.

## Спатканне

Мы на пляцы спаткаліся.
Крыху
пастаялі - ніякага следу.
Ён паехаў у Прагу па кнігу.
Я назад у Гародню паеду.

У краіне, дзе слова, што порах,
між напорыстых думак адна я.
Невідочнае заўтра і ўчора
бессмяроцце Скарыны яднае.

Супраць здзірства сабой пратэстую.
Супраць невукаў-ваяўнікоў,
што Скарынаву кнігу святую
запіхнулі між тоўшчы вякоў.

Але думак не скончыўся вырай...
Ў беларускай найпершай сталіцы
мне, смяротнай, хацелася шчыра
да Скарыны душой прытуліцца...

Памаўчаць ля Францішка Скарыны
у высокім, у месячным німбе
перад часам яго нескароным,
перад месяцам ясным на небе.

## Рыска

Край, перапоўнены
прысмакам працы і ласкі, -
пералескі, суніцы,
калючы ядловец і мох -
выпіў бы прагны нагбом,
як гаючы бальзам, каб мог...
Цябе на жалейцы
зайгралі хлопцы-падпаскі.
Спелі ў прытоенай песні
зязюлі, жанчыны...
Тваё паветра саткалі
жаўранкаў крылцы.
Доўгаю дзюбаю бусел
На дзёрне-скарынцы
выклепаў лялечныя пагоркі, лагчыны.
Твае палотны-гасцінцы
ў расе заранiца купала.
Сувой раскруціў на святло
навукі
лекар Скарына.
Можа, аблогам пыліўся б
на гарышчы Зямлі, як старызна,
каб не ўдыхнуў душу
чараўнік тутэйшы Янка Купала.

*Ирина Бороздина*

## Франциск Скорина

С небес проложен был явленный путь,
Ты знал: с тропы подаренной уже не повернуть.
Волною время, как корабль бежит,
А знаний океан синеет и бурлит.
Стремился к свету и познаньям,
Потомкам в дар оставил знанья.
Франциск! Первопечатник! Скорина!
Тобой гордится Беларусь моя.

***Алеся Бурак***

## Помнік Скарыну

Гадоў ужо дваццаць прайшло з той пары,
А помніцца дзень нам святочны адзін:
Ля храма ўзышоў на падмурак Скарына -
Асветнік, друкар, слаўны з Полацка сын.

Ад Полацка нашай дзяржавы пачатак -
Старэйшае княства на роднай зямлі.
Зазнала яно многа бітваў крывавых...
Прынізіць жа славу яго не змаглі.

Уладарылі ў Полацку светлыя думкі
Францыска Скарыны, святой Ефрасінні,
Абое жадалі, каб дзеці і ўнукі
Вучыліся ў школе, Айчыну любілі.

Друкарскую справу Скарына асвоіў,
І простаму люду на мове на роднай
Ён "Біблію" выдаў, падручнік настольны,
І кнігі з разважлівай думкай народнай.

Удзячны нашчадкі за службу Радзіме,
За кнігі разумныя, што друкаваў
На матчынай мове даступнай, адзінай,
Што бачыць народ свой шчаслівым жадаў.

Высокай дзяржаўнаю ўзнагародай
Сягоння з'яўляецца ордэн Скарыны,
Яго носяць з гонарам самыя годныя
Людзі замежжа і нашай краіны.

## Скарына з намі

У самым цэнтры горада,
Ля важных дзвюх дарог,
Скарыны постаць гордая
Стаіць як абярог.

Асветнік і вучоны,
Філосаф і друкар,
Са славай заручоны
Слоў мудрых уладар.

Ён кніжкі найкарысныя
Для нас надрукаваў.
І словамі агністымі
Дагматы крыжаваў.

Ён раіць нам: Радзіму
Не кідаць у бядзе,
Вучыцца, сваё імя
Не ганьбіць анідзе.

І спасцігаць навукі,
Каб быць адукаваным,
Каб да старэйшых унукі
Аднесліся з пашанай.

Асветлены агнямі
І сонейкам удзень,
Скарына шчыра з намі
Гутарку вядзе.

## Любы горад

Нідзе няма мясціны прыгажэйшай,
Чым горад, што з юнацтва любы мне.
І замак, апавіты найдабрэйшай
Рачулкай, што да Нёмана імкне.

Шкада, каменні гаварыць не могуць,
Яны б паведалі гісторыю вякоў,
Як дарагіх гасцей чакала покуць,
Як мужна ваявалі з чужаком.

Я пастаю ля брамкі ў задуменні,
Затым ля сцен аднаўленых прайду,
І адганю тужлівых думак цені,
Калі да возера ля крэпасці прыйду.

А над крыштальнаю азёрнаю вадою
Ўзляцела ў неба белых птушак стая,
Як быццам сваёй мовай незямною
Мне раяць зазірнуць у дом Таўлая,

Паколькі там бываю частай госцяю,
Я да другой славутасці звярнуся -
Сустрэнуся з Скарынаваю постаццю
І да яе душою прытулюся.

Гаючы дождж сустрэну ў дзень спякотны,
Прыветна ўсміхнуся вокнам Ліды,
Ад сэрца пажадаю ўсіх дабротаў
Я родным, непаўторным краявідам.

***Алесь Гембицкий***

## Первопечатнику Скорине

Первопечатнику Скорине
По истечению годов:
Столетий через пять и ныне
Достойный памятник готов.

На запад взгляд свой устремил он,
Где знания добыл себе…
Страниц учебных миллионы
Учащимся печатают теперь.

Совсем не меньше нынче, может,
Сегодня больше школьник знает.
Тот, кто гранит науки гложет
И Богу время уделяет.

Печатным словом вразумляют
Один другого нынче люди.
Передают - что сами знают…
Так долго-долго ещё будет.

Кто изобрёл станок печатный,
Того восславим мы сегодня.
Продолжат путь уже начатый
Все те, кто книгу любит очень.

*Зоя Гіль*

## Ліда - любоў мая

Схілюся нізка
Над роднай калыскай,
Мой горад радзімы, мая ты любоў.
Усмешкай матулі з пяшчотай атуліш
Заранкай вясёлай асветленасць слоў.

Знаёмыя твары,
Шчаслівыя мары
І мур старажытны - загадка вякоў.
На сэрцы ўрачыста,
Твая прамяністасць,
Нібыта каханне, ты, Ліда, любоў!

І позірк Скарыны,
І дух Гедыміна
Нам веру мацуюць да лепшых часоў.
Успыхваюць кветкі -
Надзейныя сведкі,
Як памяць жывыя святых курганоў.

Лідчанкі, лідчане,
Вам наша вітанне
І шчырасць жаданняў для ўсіх землякоў.
Трывалай хадою,
Чароўнай красою
У светлае заўтра ўдалых шляхоў!

*Іван Гушчынскі*

## Князёўна - Ліда
**(ці Я - лучнік твой!)**

З даўніны, як здалёку, рэкі
Ў заўтра, як у мора, усе цякуць.
А горад мой над ціхаю Лідзейкай
Вякі дзявоцкім іменем завуць.

Князёўна - Ліда ў гулкія стагоддзі
Каханаму імя шапнула ледзь -
З любоўю вернасць рэхам звонкім ходзяць,
Каб праз вякі ў сэрцах не старэць.

Я да сцяны замшэлай прытулюся,
Як лучнік твой, як латнік баявы,
І можа, учую звон сталёвых гусляў
Ці горкі ўздых няўцешнае ўдавы?

З высокай вежы галаву ўскіну,
А сэрца затрапеча, нібы сцяг,
Бо пройдзе побач з Полацка Скарына,
На Кракаўскі скіруе тракт.

У шыбіне аўтобуса наранку
Я кожны дзень навей усё пазнаю
Красуню Ліду, Ліду-партызанку,
Руплівую сучасніцу сваю.

Здабыткамі ў працы і ў песні
Мы ганарыцца і дзяліцца будзем,
Пакуль у сабе часоў замову месцім:
Мялеюць рэкі - не мялеюць людзі.

На цёплым ці халодным моры,
У тайзе ці недзе сярод скал,
Як добра, што чакае горад,
Прытулак песняў, мар і нашых спраў.

*Ларыса Канчэўская*

## Юрась

Пеўню рана шчэ спяваць…
Цёплы дух з авіна…
Каля студні пастаяць
Выйшаў сын Скарынаў.

Варухнецца сонны птах -
Храп трасе ўсю хату.
Расплюскаўся Млечны Шлях
У зорах-заранятах.

Чуе хлопец, нібы звон,
Спадары-панове!
Божа Слова бачыць ён,
Ды й на роднай мове!

І ад тых сівых дымоў
У Полацку зімовым
Да краін чужых дайшоў
У сэрцы з гэтым Словам.

З хлопца сціплага таго
Навуковец стане,
І дзівіліся з яго
Ведаў італьяне.

Не пашаны ён збіраў
У краі тым далёкім,
А раменьчык завязаў
На чале высокім.

І пачаў перш друкаваць
Не свае трактаты -
Закон Божы, каб чытаць
У беларускай хаце.

Справу, што для нас зрабіў,
Толькі Богу змерыць!
Усім лёсам ён злучыў
Нашу мову з верай.

***Юры Карэйва***

## Мне Мова - Божым Словам
### (урывак з верша)

Мне Мова - Божым Словам,
Мне слова мовы - Бог.
І нам ад духа злога
Яго наш Бог збярог.

Мне Словы - ад Скарыны,
Ад слоў святых яго,
Каб злыдні не скарылі,
Не спламяніў агонь.

***Пятро Макарэвіч***

## Беларусу

Няўжо табе ява не згоркла?
З-за ласкі няпрошанай шэльмы
Над роднай спрадвеку старонкай
Хамее чужая гаворка,
Душу васільковую шчэміць.

Нашчадак Скарынаў, Гусоўскіх,
А лёс твой амаль што жабрацкі.
Дык выплюнь ураз тэлесоскі
Службістаў - нягоднікаў хвацкіх,
У карак гані падгалоскаў!

Нас лічаць яны за балванаў,
Як быдлу, ткуць шоры і путы.
Твой тузін гадоў змарнаваны,
Твой тузін гадоў змардаваны,
На "пяць" выдае хеўра чмутаў...

Змахні павуцінне піяру,
І знікне, і згіне брыда.
Даволі ўжо бзікаў пачвары.
Хай жывіць народныя мары
І слова, і справы ўладар.

## Уставай, суайчыннік, з каленяў

Я на зломе вякоў і на зломе эпох
Бачу: ідалы ўміг рассыпаюцца прахам,
А рэжымам закляты, бы чартапалох,
П'едэстал пасмяротна бярэ адным махам.
Ды пілуе найлепшых дзяржаўны тартак.
У фаворы Дзям'ян, у выгнанні - Шаляпін.
Колькі ж слаўных сыноў і дачок нашых так
Па-вар'яцку загубім, загадзім, прашляпім?!
Як да ганьбы такой дакаціўся народ?!
Славу нацыі, імя сусветнае - БЫКАЎ -
Слініць, топча паклёпамі скошаны рот
На кісельным экране са свістам і гікам?!
Уставай, суайчыннік, з каленяў! Не трусь!
Годзе нам свет смяшыць і гібець як папала.
Беларускае слова - жыве! І - жыве Беларусь!
Ёсць Скарына у нас, Багдановіч, Купала.

## На скрыжалях і вуліцах Ліды

Дарагая пралеска смалістых бароў!
Закахаўся ў цябе ў скверы юны Скарына.
І з плеяды сусветна вядомых майстроў
Лік Міцкевіча лашчыць цябе салаўіны.

Узвышае, натхняе, гартуе цябе
Легендарных сыноў і дачок імя вуліц:
Каліноўскі нязломна гучыць і цяпер.
Наш Купала нябесны штодня к сэрцу туліць.

А з герояў Вялікай Айчыннай вайны -
Наказных і Качан, і Гастэла з Сасноўскім.
Ўвекавечаны Лідай сардэчна яны
На гранітных скрыжалях і памятных дошках...

Моц і сіла ў плячах, і агонь у вачах:
Колькі й сёння ў цябе залатых самародкаў!
Назвай плошчаў, праспектаў яны загучаць -
Творцы новага часу з твайго асяродку.

## Наш горад праменны

Наш горад праменны, як сонца,
Жаноцкі і тварам сваім.
Да нас едуць госці бясконца
З далёкіх і блізкіх краін.

Вітае гасцей сам Скарына -
Асветнік святы з друкароў.
Аграпрамысловы наш рынак
З паўсвету прымае купцоў.

Спрадвеку нясём мы, лідчане,
Крыніцу жыцця - Серп і Сноп.
І сімвалам горада стане
Камбайн нашых лідскіх сыноў!

***Іосіф Масян***

## Першадрукар

Праз пыл летапісных лістоў,
Скрозь церні няўмольнага часу
Праравецца мінулае зноў
У сённяшні дзень. І адразу ж
Паўстане вачам, слаўны, Ён - Скарына…
Ці помняць руіны

Вечныя крокі Скарыны,
Ці чуюць яны скрозь свой сон?-
З аздобленых друку радкоў
Гучыць мілы голас Радзімы:
Многа ў мяне ёсць сыноў,
Ды з першых - Францішак Скарына!

## Трыялет

Як вартавы славянскай мовы,
Стаіць Скарына ля касцёла
Ды аглядае свет наўкола -
Як вартавы славянскай мовы.
А побач - ад музычнай школы
Нясуцца ўвысь рамансаў словы…
Як вартавы славянскай мовы,
Стаіць Скарына ля касцёла.

## Францішак Скарына

Праз пыл летапісных лістоў,
Скрозь церні няўмольнага часу
Прарвецца мінулае зноў
У сённяшні дзень, і адразу ж
Паўстане вачам слаўны Полацк,
Дзе, пэўна, шчэ помняць руіны
Рагнеды заранкавы голас
І крокі Францішка Скарыны.

Тут ля срэбных струменяў Дзвіны
Першы крок ён зрабіў з нараджэння,
А ў далёкіх вандроўках у сны
Вобраз маці ляцеў з суцяшэннем.
І ў аздобленых друкам радках
Загучаў мілы голас Радзімы...
Шмат ёсць крокаў на слаўных шляхах,
Ды найпершы - Францішка Скарыны.

## Мая сталіца

Пад ціхую сімфонію вятрыска
Спіць Ліда моцна, як дзіця;
І толькі над дамоў калыскай
Зоркі так загадкава мігцяць...

Калі ж раскіне сонейка ўранні
Золата праменняў па балконах -
Мой горад пачынае апрананне,
І крочыш ты па вуліцах знаёмых.

Там аура Міцкевіча, Таўлая
Вітае над Скарынам ля касцёла...
А музыку з-пад клавішаў раяля
Разносяць светлакрылыя анёлы.

Дазволь жа мне радочкам прычасціцца
Да таямніцаў вечнасці тваёй:
Ты - жыцця майго сталіца
І палова памяці маёй!

***Міхась Мельнік***

## Прысвячэнне Лідзе

Табе, горад Ліда, шэсцьсот дзевяноста!
А гэта адметная дата...
Жыла ты заўсёды нялёгка, няпроста,
Зведала войнаў багата.

Князь Гедымін узвёў дзіўны замак,
Каб ганарыліся слаўным мінулым,
Наканаваў нам да волі напрамак,
Каб пра наш горад у свеце пачулі.

Вяла барацьбу ты з татарскім нашэсцем,
З тэўтонаўскімі крыжакамі
І шведаў граміла, змагалася з немцам
І з прышлых французаў палкамі.

Мужна з фашыстамі ты ваявала -
Давала адпор сакрушальны...
Перамагла ўсе нягоды, навалы,
Стала на шлях уладарны.

Вялікі Скарына пакінуў свой след,
Як ехаў праз Ліду ў Кракаў;
Адам Міцкевіч - наш слынны паэт -
Пасеяў нямала тут знакаў.

Янка Купала бываў тут таксама,
Як выбіраўся ў дэпутаты...
Шмат каго яшчэ Ліда звязала
Лёсам навечна і славай крылатай.

Любімая Ліда, мяне ты натхняеш,
Прываблiваеш прыгажосцю,
З прыстойнай гасціннасцю ўсіх сустракаеш,
Песнямі цешыш і весялосцю.

І мы, лідзяне, заўжды не забудзем
Здзяйсненні продкаў далёкіх і блізкіх,
За іх светлы розум, за талент і мудрасць
З падзякай схіляем галовы нізка.

***Вераніка Мікулка***

## Легенда

Я вельмі паважаю горад свой,
Люблю мясціначку, дзе мама калыхала,
І трэба, каб паміж табой і мной
Любоў спрадвечная вякамі не згасала.

Ідзём па горадзе і бачым засень дрэў,
У цэнтры - помнік першадрукару Скарыну,
У зялёным парку розных птушак спеў
І замак, што ўзвялі пры Гедзіміну.

Там рэчка працякае гнуткай змейкай,
Што зараз называецца Лідзейкай.
Была ў князя і любімая дачка,
І зваў яе ён проста - Лідачка.

Князёўна спрытная і лёгкая, як вецер,
Разумніца. Не ведала турбот.
"Ты самая прыгожая на свеце!"-
Так гаварылі князь і ўвесь народ.

Ішлі гады, князёўна пакахала...
Ды не багатага, а хлопца-пастушка,
На стрэчы з ім, як птушка, вылятала,
Спатканні тыя бачыла рака.

Сусед аднойчы ў замак завітаў,
Стары, багаты, у пошуках нявесты,
А бацька-князь раптоўна згоду даў...
Князёўне ж не было, куды падзецца.

Прасіла і маліла: "Тата мілы,
Не аддавай мяне старому,
Бо лепей я сыйду ў магілу,
Чым сканаваць жыццё палонам!"

Але князь-бацька быў няўмольны,
Бо слова моцна ўмеў трымаць,
Магчыма, усё зрабіў бы па-другому,
Каб ведаў, што так будзе гараваць.

Як тая птушка, распрасцёршы крылы,
Не ў сілах пазабыць сваю любоў,
У думках развітаўшыся з любімым,
Дзяўчына з вежы кінулася ў роў.

Забіты горам Гедзімін - той князю,
Раку ля цвердзі даў загад назваць Лідзеяй,
А з тых часоў легенда засталася
Для смутку, слёз, пакут, надзеі...

***Васіліса Пазнухова***

## Да юбілею Сцяцко П. У.

Мілагучны гукі родных песень,
У спякотным сонцы летні гай
І дубы-буслянкі на Палессі -
Гэта ты, мой мілы, ціхі край.

Войнаў-бедаў зведаў ты нямала,
Ды ад ВКЛ, ад Скарыны
Мову нашу родную аддана
Баранілі мужныя сыны.

Вось яны: ў вачах - вякоў бясконцасць,
У руках - пергаміны, мячы...
Не, яшчэ пад ясназорым сонцам
Не сышлі ў няпамяць крывічы!

Сёння, Беларусь, з табой вітаем
Мы таго нашчадка ваяроў,
Хто аддаў душу і сэрца краю,
Хто збярог напеўнасць родных слоў.

Мілагучны гукі песень родных
Зліты ў беларускае крыві...
Хай жыве Твой Сын ў душы народа,
Разам з ім - і ты, мой край, жыві.

***Яраслаў Пазнухоў***

## Мы ганарымся

Сэрца гукаюць родныя словы,
Францішак Скарына іх друкаваў,
Карысталіся імі Купала і Колас,
Цётка, Багрым і Міцкевіч Адам.

Нехта хай кажа, што родная мова
Гучыць вельмі смешна ў нашых вуснах -
Яму адкажу: не пакіну ніколі
Я памяць продкаў, іх гонар і сцяг.

Дарэчы, словы з нашай Радзімы
Кажуць усім, што вольныя мы.
Мы не пакутнікі і ганарымся,
Што нарадзіліся ў Белай Русі!

***Ірэна Сліўко***

## Святыні горада

На варце магутная постаць Скарыны.
Ён - першы, славуты, славянскі друкар.
І гонар, і слава ўсёй роднай краіны,
За волю, пісьменнасць руплівы змагар.

Ля возера домік - ён помнік паэзіі,
Тут жыў і тварыў барацьбіт Валянцін,
Нядоўга пражыў і праславіў пры гэтым
Зямлю Беларусі яе годны сын.

Завецца той домік музеем Таўлая,
Збіраецца ў ім многа творчых людзей,
Асоб знакамітых, якіх у нас нямала,
Тут ладзіцца мноства цікавых падзей.

З рачулачкі вузкай з балотнай травою
Прывабнаю стала Лідзейка ракою.
Калыша на хвалях больш ста лебядзей,
Сюды запрашае дарослых, дзяцей.

Масточкі над рэчкай, як сімвалы шчасця,
На сонейку ярка замочкі зіхцяць:
Сяргей і Таццяна, Мікіта і Насця...
Памогуць каханым у жыцці ўстаяць.

Мара веку збылася - мост ля бальніцы
Прасторныя дзверы свае расчыніў,
Нібы птушкіў вырай, машыны імкнуцца,
"Шчаслівай дарогі", - жадаю ўслед ім.

***Алесь Стадуб***

## Не скарылі

Мова Коласа, Купалы, Чорнага,
Куляшова, Танка і Бачылы,
Труса, Крапівы вучонага
Беларускасці мяне вучыла.

Бацька словам гэтым змалку выхаваў,
Маці ж у дарогу бласлaвіла.
Мова Мележа, Брыля і Быкава
Цвёрдай мужнасці мяне вучыла.

Мова Караткевіча, Лынькова,
Панчанкі, Гілевіча і Броўкі
Чаравала мілагучным словам,
Чалавечнасці давала ўрокі.

З-за яе ні разу не ўпікалі,
Суразмоўцы слых не затыкалі.
Ні на каліва, сябры, не каюся,
Што на іншых мовах заікаюся.

Нашай мовы з даўніны пачатак -
Ад Кірылы Тураўскага ды Скарыны.
Рады я - жывучасці нашчадак,
Што цябе стагоддзі не скарылі.

***Станіслаў Суднік***

## Пагоня за мову

Над зямлёй імчацца коні,
Капытамі лісце рвуць,
Грозных рыцараў Пагоні
На сабе яны нясуць.

Гарады мінаюць, вёскі,
Узрываюць сонны дол
Пра Пагоню пагалоскі
Разлятаюцца вакол,

Будзяць воінаў у хатах
Спаць палацам не даюць,
І хто ў світках, а хто ў латах
Беларусы паўстаюць...

Зноў грыміць, ляціць Пагоня,
Да Пагоні той прыстаць
Клічу, клічу я сягоння:
Хопіць, хлопцы, хопіць спаць!

Ці не бачыце, што мову
Затапталі нашу ў гной,
Дзецям нашым нашых словаў
Ажно сорамна парой.

Беларускай роднай мовы
Ўжо не ведаюць яны
І з акцэнтам мадэрновым
Кажуць імя Скарыны.

Гіне мова, прападае,
На ратунак кліча нас.
Я Пагоню аб'яўляю:
За яе! У сёдлы! Час!

## Перад помнікам Скарыну ў Лідзе

Ты доўга блукаў па стагоддзях і свеце,
Пакуль не спыніўся на Лідскай зямлі,
Дзе кнігі Твае, наймілейшыя дзеці,
У душах удзячных прызнанне знайшлі.

Ты доўга хадзіў за мяжой і за часам,
Апостал і геній народу свайго,
І з думкай сваёй заставаўся сам-насам,
Не могшы дабіцца да сэрца яго.

Пяць соцень гадоў Ты ўжо ведаў пра тое,
Пра што мы сягоння талкуем ізноў,
Ты, быўшы народжаным гэтай зямлёю,
Быў сынам тутэйшых і песень, і слоў.

Ты слова паставіў паперадзе думкі,
Бо ведаў, што "Слова спачатку было",
Ты праўды адвечныя ў словаў карункі
Аздобіў - і Слова па свеце пайшло.

Бо што значыць думка ў халоднай латыні,
Ці ў грэцкай там мове, ці ў іншай якой?
Ды гэта, як фінік, у нашай краіне,
Ўзысці не паспее, як змерзне зімой.

Тут трэба кідаць тое зернейка ў глебу,
Што выстаіць год аж да жніва свайго,
І Ты для народа духоўнага хлеба
Прынёс той акрайчык на мове яго.

І быў Твой народ і багатым, і слаўным,
Вялікім і мудрым народ гэты быў
Датуль, аж пакуль ён увішна і спраўна
Адзіную мову сваю бараніў.

А мову пакінуў, дык мудрасць разводдзем
Сцякла паплавамі ў чужыя краі,
І кожны брахлівы хапуга і злодзей
Зноў дурыць, як можа, нашчадкаў Тваіх.

Стаіш тут у Лідзе, і дзякаваць Богу,
А міма штодзень сотні, тысячы йдуць.
Яны ад Цябе, як ад бацькі парога,
Дрыготкую памяць пра вечнасць нясуць.

У вочы Твае заглядаюцца людзі,
І кожны, хто зможа Твой погляд адчуць,
Тут жа згадае, што ён - не прыблуда,
Што ён - беларус, і што тут - Беларусь.

## Друкары

Яны прыйшлі магутнаю кагортай,
Наступнікі Францішка Скарыны,
Яны з'явіліся не з дальніх портаў
І не з краёў вучонай чужыны,

Яны ўзрасталі тут, на нашых нівах,
Мсціславец Пётр і Федаровіч Ян,
Яны ўсплывалі ў нашых рэк разлівах,
Васіль Цяпінскі, Будны і Карцан.

Яны ўсе розныя і верою, і мовай,
Ды ўсе любімыя для краю, для свайго,
І ціснулі варштаты тое слова,
Што сталася пачаткам усяго.

Іх розныя натхнялі краявіды,
І розны быў ад іхняй працы плён,
Ды толькі ўжо друкуе Ян з-пад Ліды,
Што на Нясвіжы напісаў Сымон.

І тым злучае ён часы і далі,
І думак бегі, і хаду падзей,
І робіць так, каб кнігі паядналі
У нацыю раскіданых людзей.

І хай ляжаць тамы без велькай справы
Па сховішчах праз сотні зім і лет,
Яны ў фундаменце ляжаць дзяржавы,
На іх трымаецца наш беларускі свет.

Таму і слаўныя па нашым краі
Мсціславец Пётр і Федаровіч Ян,
Таму ва ўдзячнай памяці ўсплываюць
Васіль Цяпінскі, Будны і Карцан.

***Валянцін Таўлай***

## Аб маіх вершах

Маякоўскі па-сяброўску радзіў
не збываць адразу верша з рук:
напісаў - замкні яго ў шуфлядзе,
як адлежыцца, - судзі, здавай у друк.

Не забыцца добрае парады,
колькі мог, і пан мне "дапамог",
замыкаючы замест шуфляды
з вершамі - і аўтара ў астрог.

Праўда, іх судзілі, - не затоіш,-
і шпікі, якога ні вазьмі,
кожны прысягнуў на крыж за тое,
што не вершы гэта - дынаміт.

Пракурор праз кодэкса артыкул
углядаўся ў кожны мой радок,
нават пальцам асцярожна тыкаў
і ацэньваў: за радок - гадок.

Адсылаў ізноў ляжаць на нары,
шліфаваць і вершы, і бакі,
і аб друку час ад часу марыць:
жыў на свеце Скарына такі…

Наляжаліся - аж скабы забалелі
вершам, аўтару, народу-чытачу.
Вершы многія ад гэтага ссівелі,
многіх - і зусім не далічу…

Толькі аднаго адкінуць нельга:
шліфаваў радок, як сталь звяна;
ланцугі тады на мне звінелі,
можа й вершы ад таго звіняць.

Аўтар:
**Бальцюкевіч Кацярына Станіславаўна**,
вучаніца 10 "А" класа, СШ № 11 г.Ліды.

Кіраўнік:
**Бяляўская Святлана Леанідаўна**,
настаўнік беларускай мовы і літаратуры,
СШ № 11 г. Ліды.

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*




**У Менску ў выдавецтве “БелВЭБ” выйшла ўнікальнае выданне спадчыны Францішка Скарыны. Выданне складаецца з 20 тамоў, якія ўяўляюць сабой поўны збор 25 кніг, надрукаваных Францішкам Скарынам у Празе ў 1517-1519 гады і ў Вільні ў 1522-1525 гады. Арыгіналы кніг знаходзяцца ў розных частках свету.**
**Наклад кожнага тома 1000 асобнікаў.**

**У Менску ў выдавецтве “Тэхналогія” выйшла кніга Уладзіміра Ляпіна “Ліцвіны ў гвардыі Напалеона”, 336 ст. Наклад 500 асобнікаў.**







**У Варшаве ў выдавецтве “Bellona” ў серыі “Гістарычныя бітвы” выйшла кніга Дарыюша Купіша “Смаленск, 1632 - 1634”, 296 ст.**




**У выдавецтве “Кнігазбор”, г. Менск, выйшла кніга Станіслава Рудовіча і Валерыя Герасімава “Іх звала Беларусь святая”, 84 ст. Наклад 300 асобнікаў.**




**У серыі “Бібліятэка Свабоды” выйшла кніга Сяргея Навумчыка “Дзевяноста другі”, 388 ст.**



**Царква Пакрыва Прасвятой Багародзіцы ў Орлі Шчучынскага раёна. Сучасны выгляд.** *Здымак orthos.org.*